# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(716) ЛІПЕНЬ, 2013

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



7



www.maladost.lim.by

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск

## У НУМАРЫ:



*Вядучая навін канала АНТ Наталля Немагай пасля абедзеннай дойкі. Гэты здымак зроблены летам 2008-га вядомым фатографам Яўгенам Грабкіным для часопіса «Женский журнал». Спецыяльны праект «Не словом единым…» прадстаўляў самых папулярных вядучых тэлеканала АНТ у ролях, ад якіх яны ў сваім жыцці далёкія, — камбайнера і трактарыста, свінаркі і даяркі. Гэта не была звычайная фотасесія. Зоркі тэлебачання трапілі на самую сапраўдную вытворчую практыку і пад кіраўніцтвам сапраўдных работнікаў сельскай гаспадаркі вучыліся жаць хлеб і заворваць поле пад азімыя, карміць парасятак і даіць кароў.*

*Чытайце ў гэтым нумары спецыяльны праект, прысвечаны сучаснай вёсцы.*



Вольга ШЭЛЯГОВІЧ

# Ніякага іншага неба...

***Любоў да вёскі прачнулася ўва мне нядаўна і стала нечаканасцю нумар адзін, бо была яна не з першага погляду (як-ніяк 17 гадоў пражыла ў сельскай мясцовасці), а саспелая, вынашаная пад сэрцам. Да гэтага раптоўнага пачуцця жыццё маё ішло пад сцягам адваротнага імкнення — хацелася знаходзіцца як мага далей ад вёскі. Мяняліся гарады, адрасы, каардынаты... Хтосьці скажа: вах-вах-вах, як так можна — не любіць малую радзіму? Цяпер я ў ліку гэтых «хтосьці» і задаю сабе тое ж пытанне.***

Мая вёска знаходзіцца ў Брэсцкай вобласці, там і цяпер жывуць бацькі і сястра. Я сама асела непадалёк, хоць і ў горадзе. Пасля школы была ўпэўнена, як у факце свайго існавання, што я карабель, якому больш небяспечна ў порце, але не для гэтага ён будаваўся, — і дала дзёру з бацькоўскай хаты. Адкрыла сваю сталічную «Амерыку», нават уладкавалася на працу яшчэ падчас студэнцтва. Вяртацца да каранёў не хацелася, бо кім бы я стала ў вёсцы? Магчыма, шматдзетнай маці, жонкай трактарыста, верагодней за ўсё, па прычыне гуманітарнага складу розуму, настаўніцай у кофце, зашпіленай на ўсе гузікі. Бо якія-небудзь бабулі-«божыя дзьмухаўцы» на лаўцы пад суседскім плотам абавязкова абмеркавалі б. Напэўна, у мяне была б карова, якую даялося б навучыцца даіць, і гектар бульбы, з якой клопат круглы год: як пасадзіць, чым пакрапіць, хто дапаможа капаць і куды збыць. Ой, божа! То агарод у лебядзе, то свіння падрасце, то жніво, то сяўба, то хворая галава... Нееее-ееее, таварышы, гэта казка не для мяне! І толькі размеркаванне, якому на планы амбіцыйнай выпускніцы пляваць з высокай званіцы, спусціла мяне з нябёс на зямлю. На тую самую, тарфяна-балотную. Праўда, не зусім вёска чакала мяне, а маленькі гарадок з рэдакцыяй, дзе праходзяць мае працоўныя будні вось ужо некалькі гадоў. Але што такое раённая газета? Выданне з пераважна вясковай аўдыторыяй, дзе часта пішуць пра подзвіг аграрыяў, друкуюць здымкі перадавікоў і трымаюць чытача ў курсе падзей на палях. А ў поле трэба ехаць. А з аграрыямі трэба гутарыць. У пошуках тэм я акунулася ў жыццё вёскі з галавой. Пра вяскоўцаў напісаны і лепшыя мае тэксты.

У родную вёску моцна пацягнула мяне крыху пазней, можа, з год таму. І чаму — не растлумачыць. Такое пачуццё бывае, калі памірае чалавек, і ты разумееш, што вось гэтая ваша сустрэча — апошняя. У юнацтве здавалася, што дзе б ты ні быў, колькі б часу ні прайшло, а бацькі будуць такімі ж маладымі і сад ля хаты будзе гэтак жа квітнець. Але не. Сёння на радзіме ўсё па-іншаму. Няма пад акном куста шыпшыны, у якім кватараваў салавей, няма гарлачыкаў

і лілей на Агінскім канале. Даўным-даўно аб'ядналі з больш перспектыўным калгас «Радзіма», у якім працаваў бацька, і хутка зачыняць школу, дзе ўсё жыццё выкладала маці. На вяселле старэйшай сястры запрасілі каля дзвюх соцень гасцей. Тры дні гудзелі. Цяпер вяселле ў вёсцы — рэдкасць, тут гадамі не нараджаюцца дзеці. Затое часта патэлефануеш матулі, а яна табе: «У нас чарговае пахаванне. Ну, ты не ведаеш, хто. Была старая, адзінокая...» На цэнтральнай вуліцы пустуе ці не кожная чацвёртая хата, з-за платоў непустых сядзіб паглядаюць маршчыністыя твары гаспадароў. Ёсць людзі і сярэдніх гадоў, ды яны ў меншасці. Дапрацоўваюць да пенсіі, памагаюць дзецям-студэнтам. Моладзь, вядома, надоўга не затрымліваецца. Каля магазіна — выстаўка праспіртаваных мужчын. Бабулі разбіраюць «экспанаты» — дровы пакалоць, траву пакасіць за бутэлечку пладова-ягаднага. Сумная карціна. А нядаўна стала вядома: закрываюць сельвыканкам. А што апошнім часам адчынілі? Царкву, што будавалася на ахвяраванні: старыя напрыканцы зямнога жыцця ўзгадалі пра вечнае. На былым лецішчы Пятра Машэрава ля возера, што ў пяці кіламетрах ад вёскі, разгарнулі турыстычны праект. Толькі простым смяротным шлях «на возера» амаль закрыты, на работу туды, як раней, уладкавацца складана — гэта цяпер чужое.

Калі мая маці маладой дзяўчынай бегала на вясковую танцпляцоўку, у школе вучылася 600 дзяцей. Цяпер — 40. Ніводнае поле не пуставала вакол вёскі. Сёння кінеш вокам — і ў тое не верыцца. З адной вуліцы набіраўся статак кароў. Сёння іх трымаюць адзінкі. Марудная смерць вёскі, даражэнькія, — тэндэнцыя для ўсёй краіны. З таго моманту, як пачынаюць закрывацца на сяле дзіцячыя садкі, школы, магазіны, як пачынае курсіраваць туды аўталаўка, «бібліятэка на колах» — чакай знікнення паселішча з твару зямлі. І гэта не дзіва: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе жыць лепей. Хочацца маладым камфорту, выгод: прабачце, цёплай прыбіральні, гарачай вады, магчымасці рабіць якасныя пакупкі і выбару ва ўсіх сэнсах. Хочацца зарабляць добрыя грошы. А дзе зарабіць у вёсцы? Работы нуль мінус адзін. Вы, канешне, будзеце спрачацца: а як жа аграгарадкі? Як жа «прэзідэнцкія» домікі з выгодамі, як жа перадавыя гаспадаркі? Прыходзілася мне бачыць такія домікі, дзе жывуць сем'і з ярлыком «сацыяльна-небяспечнае становішча»: часта нават у аграгарадках няма годных кандыдатаў на, лічы, дарэмнае жыллё. Можа, не ўсякаму годнаму яно і трэба — руплівы гаспадар не чакае, пакуль прыйдуць і дадуць. Што да гаспадарак, то найбольш тых, дзе няма парадку, чым перадавых. Глабальна ўрбаністычны настрой народа не мяняецца.

Што выратуе вёску? Абмяркоўваю з калегамі, сваякамі — і прыходжу да высновы, што толькі стварэнне новых рабочых месцаў з годнай аплатай працы. Чаму б новае прадпрыемства пабудаваць не ў горадзе, а ў сяле (няхай і там, дзе ёсць чыгунка)? Хай будзе альтэрнатыва: не хоча чалавек працаваць у сельскай гаспадарцы — пойдзе ў прамысловасць. Не закрыцця, а адкрыцця новых гандлёвых аб'ектаў патрабуе сёння вёска, добрых дарог і дадатных змен у паляпшэнні ўмоў працы работнікаў аграпрамысловага комплексу. Прабачце, ні за якія грошы не пайшла б працаваць на ферму — не на тую, што паказваюць важным дэлегацыям, а на звычайную, сярэднестатыстычную. Яшчэ перашкаджае развіццю вёскі нейкі складзены гістарычна вобраз селяніна, як малаадукаванага няўдачніка, дзеравеншчыны: «Бо я мужык, дурны мужык». Далёка не заўсёды так. А вось цяжкая работа на зямлі дарослага чалавека не збянтэжыць. Чым больш сталымі становімся, тым больш хочацца да зямлі і прыроды з загазаванага і шумнага горада.

Цягне мяне ў вёску, цягне ў дзяцінства, дзе калі пагойсаў з сябрамі на роварах і з'еў лусту хлеба з маслам і цукрам — дзень пражыты не дарэмна. Дзе ўсе клопаты ляжаць на бацькоўскіх плячах. Дзе цётка пячэ аладкі ў печы (запякаюцца адразу з двух бакоў), дзе пасля навальніцы п'еш паветра і не можаш напіцца. А лес, які лес! У россыпах чарніц і брусніц, з характэрным пахам багуну.

Усё чакаем іншае долі, усё бадзяемся па свеце... «Як бы ні імкнулася дрэва ў неба, яно ўсё роўна не дасягае яго. Але, магчыма, ніякага іншага неба няма, апроч самога імкнення». Алесь Разанаў. А я падпісваюся.

**СВАЮ ЗНАНУЮ ПРАДСТАЎНІЦУ** Наталлю Ташчыліну віншуе з юбілеем Беларускі саюз музычных дзеячаў. Наталля Іванаўна доўгія гады выкладае ў Рэспубліканскай гімназіі-каледжы пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, з'яўляецца дацэнтам кафедры спецыяльнага фартэпіяна. Сярод яе вядомых выхаванцаў — лаўрэаты міжнародных конкурсаў Іосіф Сяргей, фартэпіянны дуэт Ганна Гетманава і Настасся Пазнякова, стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі Юлія Ермалаева і Андрэй Шычко, уладальнік бронзавага медаля сёлетніх VIII Адкрытых маладзёжных Дэльфійскіх гульняў краін-удзельніц СНД, студэнт 2-га курса акадэміі Андрэй Калаткоў. Вучні Наталлі Ташчылінай нярэдка выступаюць на сцэне сталічнай філармоніі. Ды і ёй самой неаднойчы даводзілася ўдзельнічаць у канцэртах.

**ТАКОГА Ў МІНСКУ ЯШЧЭ НЕ БЫЛО!** Летні фестываль мастацтваў! Новы праект здзейсніла Асацыяцыя маладых беларускіх кампазітараў БСМД (старшыня — Канстанцін Яськоў) сумесна з Мемарыяльным музеем-майстэрняй Заіра Азгура, Беларускай дзяржаўнай акадэміяй музыкі і мінскай ДМШМ № 10 імя Глебава. Уявіце: на рэтра-сеансах «круцяць» нямыя кінастужкі 1920-х гадоў вытворчасці розных краін, а паказы суправаджае жывое выкананне музыкі, спецыяльна напісанай нашымі сучаснікамі. Для непасрэднага знаёмства з імі арганізаваны канцэрты і творчыя сустрэчы. Канстанцін Яськоў, Алена Гуціна, Вольга Падгайская, Віктар Сямашка, гурт «Князь Мышкін», украінскі кампазітар і піяніст Аляксей Шмурак (з аўтарскім праектам «Нязначная музыка») — вось пералік удзельнікаў, але ён няпоўны. Пачалося ўсё 20 чэрвеня, імпрэзы распланаваны амаль да канца ліпеня, а потым перапынак да наступнага лета. Сапраўды, такі фэст можа стаць новай сталічнай традыцыяй.

---




Сайт часопіса **www.maladost.lim.by.** выглядае цяпер па-новаму. Пасля рэдызайну з'явіліся і новыя рубрыкі. Напрыклад, менавіта тут цяпер месціцца праект «Літаратурныя мясціны Беларусі», у аднаўленні якога можа прыняць удзел кожны наведвальнік. Сярод асаблівых «фішак» — забаўляльны праект «МР3-шны Нік Аблом»: вершы пад музыку. Хочаце ацаніць? Калі ласка! Не прапусціце таксама праект «Каляровая «Маладосць»: яго старонкі цяпер можна літаральна гартаць — яны нават шапочуць як сапраўдныя. Акрамя таго, вы на свае вочы можаце ўбачыць, як выглядае рэдакцыя.

***ДА КАНЦА ЛЕТА Ў НЯСВІЖЫ ПРАЦУЕ МАШЫНА ЧАСУ***

***Кожны госць палацавага ансамбля ў Нясвіжы да 31 жніўня можа пераўвасобіцца ў асобу княскай крыві. Прычым, падзея гэта застанецца не толькі ў памяці аматара даўніны, але і на фотаздымку, за які давядзецца аддаць трошкі грошай. Машына часу працуе ва ўнутраным дворыку Нясвіжскага палаца штодня, пачынаючы з паловы на дзясятую раніцы і да паловы на шостую вечара, з перапынкам на абед з 13.00 да 14.00. Дадатковая інфармацыя па нумары +375 1770 20602.***

*Айцец ЯЎСТАФІЙ*
*(ХАЛІМАНКОЎ)*



# *II**

Для таго, каб нам вырасці ў меру Царства Нябеснага, Гасподзь «пакідае душу нашу быць апаленую сонцам, вынесці ўдары халодных і пякучых вятроў, таміцца смагай ці выносіць патокі дажджоў. Але калі мы не выпусцім з рук нашых край Яго рызы, то ўбачым добры вынік»[1].

Адзін з маіх старых сяброў (пісьменнік-драматург) калісьці распавядаў, што яго новая п'еса будзе пачынацца так — выходзіць галоўны герой на сцэну і кажа: «Як цяглiва...», пасля чаго запануе доўгая злавесная паўза. Гэтай паўзай, нібы іржавелай мінай, точыць дагэтуль жыццё бессэнсоўнасць і безвыходнасць...

Існаванне без Бога падобна да такой цяжкапавіслай між бар'ерамі жыцця і смерці паўзы: пастаянны скразняк у душы, накараслівы сівой аскомай галаўны боль, няспынная прага таго, у што ўжо не верыш, — гэтыя бясконцыя чалавечыя разборы-пераборы... Зноў ты зрываешся ў бездань пад зводзячы сутаргай сэрца, застарэлы хіт Doors: «Waiting for the sun»[2]. І што гэта за сонца? Ты чакаеш яго і баішся — а раптам яно прыйдзе, каб забіць цябе? Але... Колькі ж нас — тых, хто занадта прызвычаіўся да думкі, што смерць, мабыць, адзінае збавенне…

І як пасля доўгай зімы з'яўляецца (заўсёды раптоўна!) першае вясновае сонца — такое яркае, такое цёплае і далікатнае!.. Гэтаксама ажывае душа пад промнямі Сонца Праўды, Хрыста. Царства бязвыйсцевай знямогі растае пад гэтымі промнямі, і ты сустракаеш сваю першую вясну — вясну духоўную.

Вельмі хутка праходзіць гэты час «блажэнных мытнікаў», і ты пачынаеш усё больш і больш ператварацца ў «чалавека ўцаркоўленага»: уваходзіш па-гаспадарску ў храм, мучыш навакольных нейкімі багаслоўскімі адкрыццямі, за кубкам гарбаты (за келіхам кагора) меланхалічна разважаеш пра сваю (і, вядома, сваіх блізкіх) нягоднасць: «Ах, вы ведаеце, мы ж такія грэшныя, такія нявартыя!...» І рукі наўзрыд, і вусны ў трубачку, і вочы за вейкамі — лып-лып — у паэтычным экстазе; так чалавек губляе пачуццё рэальнасці і, сам не заўважаючы таго, пачынае зноў круціцца вакол сябе.

---

* *Працяг. Пачатак у № 6 за 2013 г.*

[1] Архімандрыт Сафроній (Сахараў) (1896—1993) — выдатны праваслаўны пісьменнік, багаслоў, аскет.

[2] «У чаканні сонца» (перакл. з англ.) — песня вядомага культавага гурта 1960-х гадоў The Doors.

***Ізноў перада мной паўстае гэтая карціна Страшнага Суда. Там, стоячы ля Прастола Божага, ты нічога не зможаш зрабіць, калі прыйдуць за табой твае гаспадары — страсці, якім ты верна служыў у сваім зямным жыцці: яны накінуць на цябе аркан і павядуць, як жывёлу, на бойню. Ты нічога не зможаш зрабіць...***

Сонца Праўды заходзіць, але адкрываецца перспектыва бясконцага самакапання, нейкі праваслаўны псіхааналіз: «Я вяду духоўнае жыццё... Я самаўдасканальваюся… Іду цярністым шляхам... Я расту, набіраю абароты... Я, я, я...» Так чалавек «ляціць у космас», выходзіць на пэўную арбіту, і, нібы тая замыленая вінілавая кружэлка, пачынае бясконцую валтузню вакол сваёй уласнай асобы. Сустрэча з Богам адбываецца ў глыбінях чалавечага сэрца — сэрца «сакрушэннага і смірэннага»[1], сэрца, якое сапраўды вымагае Бога Жывога. «Даждзь мі, сыне, тваё сэрца»[2], — заклікае Гасподзь. Але што значыць аддаць Богу сваё сэрца? Бо столькі на сэрцы таго, чым прыйдзецца непазбежна ахвяраваць; таго, што адрываеш з крывёю, з мясам… Так, ахвяраваць, таму што Бог прымае чыстае сэрца, а не «краму старажытнасцяў»...

Надыходзіць такі момант (і колькі разоў гэта было!), калі паміж Богам і табой нечакана паўстае якая-небудзь сапраўдная дробязь — адна з незлічоных тваіх прыхільнасцей, «маленькая слабасць», так бы мовіць... І што — ты яе адфутболіш, нібы пустую кансервавую банку, і пойдзеш далей як вольны чалавек, як хрысціянін? Не! Памучыўшыся крыху, здаешся на літасць ворагу. А з часам перастаеш нават і мучыцца, загаворваючы сябе вядомай пошласцю: «Ну што з нас, грэшных, узяць!..», — гэтым самым нібы здымаючы з сябе адказнасць за зроблены грэх і перакладаючы яе на Бога: «Раз Ты не даеш мне сілы, благадаці на тое, каб справіцца з грахоўнай пакутай — дык пры чым тут я, слабая і бяспомачная істота?»

Калі ты кідаеш гэты фальшывы, дзёрзкі папрок Хрысту, д'ябальскі халадок ахоплівае сэрца, і яно слізгае — спрабуе выслізнуць з вобласці сумлення, — гэтак ты штурхаеш сваё сэрца на грэх, сціскаючы яго ў кулак, спрабуючы дамовіцца... Здрада здзяйсняецца заўсёды там — у сэрцы, — і потым ужо выяўляе сябе як следства вонкава.

«Нічога страшнага, фатальнага не здарыцца, калі я яшчэ раз паддамся, саграшу. Не смяротна — заўсёды ёсць магчымасць пайсці на споведзь і "разгрузіць сябе". Нічога страшнага: спачатку спакойна здраджваеш Богу, а потым гэтаксама спакойна ідзеш на споведзь, разыгрываючы з сябе "блуднага сына"».

Часам Гасподзь прыадчыняе (нібы заслону нейкую) твой страшны ўнутраны стан — спахапляешся на некаторы час, збіраешся з духам, даеш сабе чарговае абяцанне пачаць усё з пачатку — «з панядзелка», — і сапраўды, дзень ці два сочыш за сабой, а потым... усё зноў крыва-наўскос. Як адбываецца, што паміж хрысціянінам і Хрыстом губляецца жывая сувязь? Пачынаецца заўсёды з малога, нейкай кроплі граху — кап! — кропля за кропляй, — і як дождж залівае акно, гэтак хутка мутнее ў душы чалавечай вобраз Божы; душа «дзічэе», становіцца дзябёлай, земляной... Чалавек аддае сваю любоў не Богу, а чамусьці іншаму... І губляе ў выніку ўсё. Ізноў скоўвае ўсяго цябе гэтая страшная пустэча, «самнамбулізм штодзённасці»[3].

Вось ты стаіш на Боскай Літургіі: прысутнічаеш… І бывае кране нешта сэрца — яно затрапеча, зашчаміць, і быццам бы



[1] Псалом 50-ы: «се́рдце сокруше́нно и смире́нно Бо́гъ не уничижи́тъ» (слав.).

[2] «Да́ждь ми́, сы́не, твое́ се́рдце» (слав.) Прытч. 23, 26.

[3] Азначэнне французскага хрысціянскага публіцыста Аліўе Клемана.

вынырвае з нейкага туману. Раптам ахопіць мяне жах усведамлення — ад неадпаведнасці таго, што адбываецца цяпер у алтары, а што — у маім сэрцы. Мне становіцца страшна ад таго каласальнага разрыву — бездані! — паміж Божай службай і мною: глухім, сляпым да ўсяго таго, што адбываецца на Літургіі; нячулым балванам, замкнёным у халодным сваім эгаізме. Мяне ахоплівае жах усведамлення сваёй абсалютнай недатычнасці Богу…

Прыйшла думка, што такую ж недатычнасць мае, напэўна, нераскаяны грэшнік на Страшным Судзе: калі стаіць перад Самім Богам і... Яму не належыць — бо нічога агульнага... Усе думкі, пачуцці, усе памкненні былі аддадзены грэшнай зямлі, страсцям… і ў такім стане чалавек сышоў у вечнасць, у такім стане ён прыйшоў на Страшны Суд. Усё жыццё ён аддаў міру, таму цяпер яго гаспадар — «князь міра сего»[1], а не Хрыстос.

Нават у храме мы часта забываемся, перад Кім стаім, да Каго прыйшлі… Пачынаюцца звыклыя размовы, жарты, нейкія плёткі... Так і на Страшным Судзе мы будзем тоўпіцца і марнасловіць у чаканні сваёй гадзіны, не звяртаючы ўвагі, перад Кім стаім, нават зусім не заўважаючы Яго Самога. І потым, калі нас паклічуць, — што скажам мы, ягоныя «слугі», Хрысту? Верагодна, вось гэта: «Госпадзі! Госпадзі! Ці ж не ад Твайго імя мы прарочылі...»[2] І што мы пачуем у адказ ад Госпада?

Ты адчуваеш сябе страшна самотным, страчаным у нейкім неймаверным акіяне — слепнеш і глохнеш ад тугі і безвыходнасці... Дык што ж тады змянілася ў табе з тых часоў, як ты стаў веруючым чалавекам? І, здаецца, губляеш ужо надзею на тое, што зможаш зноў калі-небудзь пачуць у душы жывы — такі блізкі, такі родны! — голас Хрыста.

Ізноў перада мной паўстае гэтая карціна Страшнага Суда. Там, стоячы ля Прастола Божага, ты нічога не зможаш зрабіць, калі прыйдуць за табой твае гаспадары — страсці, якім ты верна служыў у сваім зямным жыцці: яны накінуць на цябе аркан і павядуць, як жывёлу, на бойню. Ты нічога не зможаш зрабіць... Але і Гасподзь — хай гэта прагучыць вельмі дзіўна, вельмі страшна! — Сам Гасподзь нічога не зможа зрабіць для цябе. Таму што ты — ты сам! — зрабіў свой выбар. І гэты выбар — усё тваё нікчэмнае, ухаластую, жыццё.

Што такое пекла? Своеасаблівае этна-шоу з кіпячымі катламі ды патэльнямі?

НЕ.

Пекла, ад, — гэта пакута душы ад бачання ўсё большага аддалення ад яе Ліка Госпада Ісуса Хрыста; Ліка непараўнальна прыгожага, бясконца любячага і... адкінутага табой. Усё тваё жыццё — гэта прыкры плявок у любасны погляд Божы, у бяздонне Боскай Любові...

«Папусціўшы нам цяжкую брань з ворагам і з намі самімі ў нашым падзенні, Гасподзь хоча ўбачыць нас пераможцамі. Калі мы не адступім ад Яго нават у найбольш поўным прыніжэнні нашым ад ворагаў, то Ён абавязкова прыходзіць. Перамагае — Ён, а не мы. Але перамога будзе прыпісаная нам, таму што мы пакутавалі», — успамінаючы гэтыя словы айца Сафронія, я зноў і зноў хапаюся за малітву, хапаю ротам паветра, як выкінутая на бераг рыбіна: «Госпадзе... Ісусе... Хрысце...»

Якім бы я ні быў слабаком, я ведаю, што Ён паспяшаецца, прыйдзе, абавязкова паспее... Сэрца зрываецца, ляціць, і кволае цела падае ў знямозе на халодную падлогу храма. Я крычу праз усю сваю нікчэмнасць, праз усе заслоны граху, які п'е з мяне кроў, нібы павук са сваёй ахвяры, — я крычу, і крык мой хай прыме Гасподзь за апошнюю споведзь: «Так, прыйдзі, Госпадзе Ісусе!»[3]

[1] Гл. Ін. 14, 30: «грядéтъ бо сегó мíра кня́зь, и во мне не и́мать ничесóже» (слав.).

[2] Мф. 7, 22.

[3] Апак. 22, 20.

# Хадзіць у грыбы — нібыта пісаць вершы

*«Добры дзень, сябры! На хвалях канала “Культура” ў праграме “Кухня” з вамі Марыя Дуброўская». Так у 12.15 па аўторках я вітаюся са слухачамі — з тымі, каго не бачу, але ведаю — паміж намі толькі прыёмнік, магнітафон ці тэлефон. Гляджу на чырвоную кнопку «Эфір» і спрабую ўявіць, хто па той бок фм-хваль.*

Часам здаецца, што прызнанні, жарты і надзеі проста вылятаюць у нікуды, не затрымліваючыся знікаюць у бязмежным космасе. Вось чаму захацелася матэрыялізаваць найбольш яскравыя гутаркі на старонках «Маладосці». Не кожны дзень выдаецца магчымасць пачаставаць гарбатай пісьменніка ці прапанаваць кавы літаратурнаму крытыку. А калі творчая эліта разняволіцца і ўвойдзе ў стан філасофствавання, то і пачуць ад яе тое, што наўрад ці даведаешся з інтэрв’ю ці на прэс-канферэнцыі.

Накрывайце на стол! Будзем знаёміцца.

Паэтэса Вольга Гапеева ўладкавалася насупраць з зялёнай гарбатай. На яе шаліку прымасціўся маленькі лямцавы мішка.

**— Трэба дзякаваць лёсу, што ты не пайшла ў харэаграфічнае вычылішча, не стала танцоркай. Цяпер ёсць пісьменніца, перакладчыца, выкладчыца ў Лінгвістычным універсітэце Вольга Гапеева.**

— Ура! (*Оля заразліва смяецца*). Так яшчэ мяне ніхто не прадстаўляў.

**— Не шкадуеш, што пайшла ў літаратуру замест харэаграфічнага вучылішча? Магла б дзе-небудзь танцаваць…**

— Я і ў літаратуру не тое каб пайшла. Хутчэй гэта можна сказаць пра лінгвістыку. Магчыма, я магла бы быць танцоркай і пісаць вершы. Увогуле разважаць, што было б, калі б — вельмі спакуслівая рэч. Мне здаецца, ты як пісьменніца заўсёды маеш чароўны доступ да прадумвання і апісання розных магчымасцей. Гэта адна з прычын, чаму я стала займацца літаратурай. Праўда, мне нядаўна сказалі, што трэба быць бліжэй да рэальнасці.

**— Наша праграма выходзіць у 12.15. Мне падаецца, гэта не вельмі спрыяльны час для дыялогаў «пра жыццё». Для гэтага лепей абіраць вечар. Ты размяркоўваеш свае заняткі ў залежнасці ад часу сутак?**

— Добрае пытанне для знаёмства. Можна пацікавіцца пра ўлюбёны час і даведавацца, блізкі табе чалавек ці не. Пагаджуся, 12 гадзін — час для працы, якая вымагае майстэрства, таму што галава светлая і поўная думак. Перакладамі можна займацца, заняткі праводзіць. Гутарыць пра высокія матэрыі лепей а 18-й, а 19-й, а то і а 21-й, 22-й.

Не вельмі люблю раніцу. У 7-8 гадзін узімку мне не хочацца ніякай камунікацыі. Выходзіш — яшчэ цёмна. Лагічна, каб усё ішло да ночы, а тут святлее. Гэты час лепей праспаць. Прачнуцца дзесьці гадзін у 9-10. Зрабіць сабе каву, сесці за камп’ютар. Галава светлая, можа, нават верш напісацца.

**— А не выпадае заняткі зранку праводзіць?**

— Безумоўна, выпадае. Але зазвычай практычныя. Большасць студэнтаў таксама ж не прачынаюцца ў гэты час. Таму пары на 8 не люблю менавіта з-за адсутнасці камунікацыі.

**— А калі часцей пішаш вершы?**

— Напэўна, увечары. Але радок можа і ўдзень дзе-небудзь прыйсці.

**— Гэта стыхійны працэс: ці трэба сядзець, каб нарадзілася?**

— Стыхійны. Сядзець трэба, калі пішаш прозу. Быў аднойчы выпадак. Я чытала новыя вершы, а пасля ў інтэрнэце ўбачыла: «Писательница Ольга Гапеева читала рассказы про снег и собачку». Божа мой! А я ж усім кажу, што пішу вершы. Я нават крыху засмуцілася. Пра снег быў верш дакладна, з рытмам. Узнікае пытанне: ты як аўтарка мусіш штосьці тлумачыць? Напэўна, павінна быць гатовай да варыянтаў інтэрпрытацый…

**— А ці часта даводзіцца тлумачыць, чаму пішаш без знакаў прыпынку, без рыфмы?**

— Бывае. Кажу, што кепска вучылася ў школе, не ведаю знакаў прыпынку. Што тут яшчэ тлумачыць?! У Брно да мяне падышла жанчына і сказала, што я пішу змрочныя вершы. Нібыта там

усё пра Беларусь, і яна адчувае, як там кепска. А ў Брэсце мужчына сказаў: «У вас такія радасныя, занадта прыгожыя вершы». Вось такія варыянты інтэрпрытацыі.

**— Валярына Кустава казала, што ў яе існуе нейкі ўнутраны падзел: спачатку — паэт, потым — паэтка, зусім кепска — калі паэтэса. Ты называеш сябе паэтам ці паэткай?**

— Я карыстаюся абодвума родамі. Увогуле, магу паразважаць на гэты конт. А даць адназначны адказ — цяжка. Для мяне гэта балючае пытанне. Цяпер пішу пра сябе «паэтка, перакладчыца». У беларускай мове гэтыя словы не нясуць негатыўнага адцення, як у рускай. Увогуле, ці рабіць штосьці з фемінізацыяй, залежыць ад мовы. Ёсць мовы, да якіх больш пасуе нейтралітэт. Як у англійскай кажуць: woman doctor, she cat — жанчына доктар, котка. Для адных моў лепей не ўжываць прыставачнага слова «жанчына» (напрыклад, woman president), таму што атрымліваецца, ёсць прэзідэнт, і гэта апрыёры мужчына. Для іншых моў, наадварот, ужыванне адпаведных слоў, суфіксаў і канструкцый лічыцца найлепшым для жанчыны.

Для мяне слова «паэтка» не нясе негатыўнай канатацыі, але мы павінны імкнуцца разумець адно аднаго і пытацца пра ўласныя разуменні. Мова заўсёды, з аднога боку, сродак зносін, а з іншага — непаразумення. А Валярына ўвогуле называе сябе дзеўка-паэт.

**— Якія якасці павінны быць у чалавека, каб ты з ім дакладна паразумелася і пасябравала?**

— У мяне існуе такі падзел. Ёсць сябры, мужчыны і жанчыны. Гэта першая катэгорыя. Другая — каханкі. Тыя, у каго я магу закахацца. З апошнімі мне шчасціць менш. Аказваецца, я не вельмі разбіраюся ў людзях. Бывае, дастаткова першай размовы, каб ты адчула, тваё ці не. Калі супадае пачуццё гумару, тады разумееш: будзеце так ці інакш сустракацца і, можа, рабіць нейкія праекты разам.

**— Большасць тваіх сяброў з літаратурнага асяроддзя?**

— Дакладна, ці з калялітаратурнага. Гадоў у 16 я пачала знаёміцца з літаратурным колам. Да выступленняў нас актыўна падключалі старэйшыя калегі. Калі ты пісаў, мог прыйсці ў часопіс «Першацвет». Там кожны панядзелак быў гурток. Ці проста заходзіш у рэдакцыю, за сталом сядзіць Алесь Масарэнка. Адчыняеш дзверы, чуецца: «О, Гапеева прыйшла!», ці «Кавалеўскі, што ты нам прынёс?» Я вельмі ўдзячна лёсу, што ў мяне такое было. Ты мог проста пасядзець і паслухаць, калі нічога не напісалася, а калі ёсць штосьці, адразу пакрытыкуюць ці ўхваляць. Нармальны працэс. І ты не варыўся ў сваім саку. Гэта дапамагло ў маім станаўленні як аўтаркі.

**— Некалькі гадоў таму на прэзентацыі кнігі ты чытала верш, дзе быў радок «толькі завушніца ў вусе правым». Ты і дагэтуль носіш адну завушніцу? А ці ёсць яшчэ нейкія адмысловыя звычкі, ад якіх не пазбавішся?**

— Мне здаецца, што я рэтраград. Цяжка звыкаюся з новым. Гатаваць не люблю. Таму аддаю перавагу мужчынам, якія гэта робяць. Грыбы люблю і есці, і збіраць. Вось у ягады хадзіць манатонна, як пісаць прозу. А ў грыбы — нібыта пісаць вершы.

**Кожны госць літаратурнай кухні вымушаны пісаць бурымэ. Вользе трапілася рыфма: рэжа — узбярэжжа, вочы — сочыць.**

*Голас-нож мой ранак рэжа.*
*Я збягу на ўзбярэжжа,*
*Каб той хціві звер, што сочыць,*
*Не глядзеўся б у мае вочы.*

Вырашыла, што забяру сабе першы радок і зраблю з яго верш. Ну, а вам: смачна есці!





*Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ*

# Пра творчыя арыенціры

***Завершана праца над кнігай «Казкі Сіняй Падушкі». Хутка яна выйдзе ў «Выдавецкім доме «Звязда». Як успрымуць новую кнігу юныя чытачы? Ці ўсё я ўгадала ў фармаце зносін з імі? І ўвогуле, думаю пра тое, ці ёсць розніца ў творчых падыходах, калі пішаш з разлікам на тых дзяцей, каму 5—7 гадоў, і адрасуеш свае творы тым, каму 8—12… Так, відаць, ёсць усё ж розніца… Па-першае, літаратура для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў павінна адпавядаць пэўнаму ўзросту і псіхалагічным асаблівасцям менавіта гэтага ўзросту…***

♦ Часта думаю пра праграму пазакласнага чытання, якая адрасавана школьнікам сярэдняга ўзросту. Спіс літаратуры для пазакласнага (дадатковага) чытання ў цэлым мяне задавальняе. Аднак хацелася б пашырыць яго і ўключыць больш твораў сучасных пісьменнікаў (напрыклад, Людмілы Рублеўскай, Андрэя Федарэнкі, Алены Масла і іншых). Трэба адзначыць, што спіс літаратуры для дадатковага чытання падаецца ў праграме як прыкладны. Настаўнікі маюць права выбіраць тыя творы, якія лічаць больш дарэчнымі на пэўных уроках. Так што справа за ініцыятывай і літаратурнай дасведчанасцю педагогаў.

♦ Мяне, здараецца, пытаюць пра творчыя арыенціры. Маўляў, дзе вытокі, у каго вопыт пераймаеце. Што дадаеце да фантазіі. Складана вызначыць аднаго ці некалькіх пісьменнікаў, якія маглі б быць арыенцірам. Не хацелася б пераймаць кагосьці, важна мець адметны стыль. Хаця існуе шэраг аўтараў, творчасць якіх мне падабаецца…

Мая асабістая думка наступная: сучасным дзецям карысна будзе чытаць і Янку Маўра, і Андрэя Федарэнку, і Ягора Конева. Галоўная праблема ў тым, што творы Янкі Маўра ў бібліятэках знайсці прасцей, чым творы Ягора Конева.

♦ Вельмі шмат сёння гавораць пра рэйтынгі. Хваля ацэнак і пераацэнак да Беларусі дакацілася. А лепей у дзяцей папытацца пра іх адзіную лепшую кнігу. Проста прыйсці ў клас ці ў бібліятэцы на сустрэчы гэтак ціхенька папытацца. І можна нават гульню прапанаваць на тэму: «А якую кнігу вы, хлопчыкі і дзяўчынкі, узялі б з сабою ў касмічнае падарожжа?» Я ў касмічнае падарожжа, відаць, узяла б беларускія народныя казкі, у якіх і народны гумар, і «розуму падказка».

♦ Зразумела, што стылістыка дзіцячай літаратуры павінна адпавядаць часу, у якім жывуць юныя чытачы. Нягледзячы на тое, што сучасныя падлеткі добра валодаюць камп'ютарам і ў іхнім асяроддзі пашыраны так званы камп'ютарны слэнг, на жаль, мы назіраем і пашырэнне кліпавага мыслення. А вельмі ж не хочацца, каб мова была неапраўдана спрошчана і засмечана запазычанасцямі. Мы ўсё роўна павінны памятаць, што літаратура — гэта мастацтва слова.

♦ Пісьменнікі, кнігавыдаўцы, як на мой погляд, часта неапраўдана ўжываюць само разуменне, ідэю «сацыяльнага заказу» ў дачыненні да мастацкай літаратуры. Сацыяльны заказ, на маю думку, — гэта тое, што адлюстроўвае патрэбы пэўнага грамадства і накіравана на задавальненне гэтых патрэб. Калі гаварыць пра сацыяльны заказ на дзіцячую літаратуру, то ён павінен адпавядаць інтарэсам юных чытачоў і тым каштоўнасным арыенцірам, якія неабходны нашай дзяржаве: выхаванне патрыятызму і любові да роднай мовы, прывіванне такіх каштоўнасцей, як сям'я, дабрыня, справядлівасць, фарміраванне беражлівых адносін да навакольнага асяроддзя.

*Запісаў Леанід ЦВІРКА*

Аксана ВАРАТНІКОВА



# Цвяток Радзімы

Выраз Максіма Багдановіча пра матывы на слуцкія паясы спачатку не кожны зразумее: у чым паэтычнасць? Ён убачыў — і назваў. А сапраўды, ягоны «цвяток», вымаўленне слова — гэта ж гук! Бо лугавыя кветачкі нашай зямлі надзелены мноствам адценняў гучання ад нізоў да верху, ад подыху ветру і шуму дажджу да шоргату дробных стварэнняў у зямлі і траве. Цалуе пчолка сваю кветачку і п’е з яе — мы ўсе гэта чулі, а нехта — запомніў. «Цвіў-цвіў!» — віруюць ля кветкі птушкі. Токі-патокі вады па лузе! А паэт — толькі паўтарыў. Праз вочкі кветачак адкрыты цэлы свет у іншае вымярэнне. А летняй ноччу там свае адносіны. Скачуць і поўзаюць! Дзеляць галінкі і пядкі зямлі, каб адпачыць — і зноў шукаць. Ежу ды сонейка. Або цемру. Яны, стварэнні прыроды, добра ведаюць, што шукаць. А чалавек кожны дзень вырашае: кім быць, якім быць. У прыродзе ж шануецца парадак.

…Мы кветкі любім — і выкідваем. Прыгажосць і карысць заўсёды маем на ўвазе як сатэлітаў, практыцызм — бязмоўная (безумоўная?) частка нашага жыцця. А галандскія кветкі, якія нясём у падарунак? Яны з’явіліся на вякі раней, чым займелі мы такую звычку. Яны з’явіліся на нашых абразах. Даўно, яшчэ ў XVIII—XIX стагоддзях.

У паганскія часы, нам здаецца, быў хаос. Але для даўніх нашых продкаў паўнавартасная сістэма прыгажосці і дабра — гэта букет кветак. Як стосік думак пра Сусветнае Дрэва. А гэта ўжо звязана з абсалютным дабром — сям’ёй, калектывам. Кветкі — ратаванне і падтрымка!

…Вянок быў у думках — як кола, спрадвечнасць, нябесная дасканаласць. Хвалепадобныя лініі ў гэтым хаосе — знак нябеснай і зямной вады.

Кветкі падаравалі нам нашы паэты. У старажытнасці пра іх ясна казалі, хто адкуль паходзіць: быццам хочучы паказаць, якая зямля ўзрасціла, якія гукі, пахі і кветкі паэту сняцца! Мікалай з Гусава ці Сімяон з Полацка, яны ўславілі прыроду і зоркі родных мясцін!

А вось сучаснікі.

> Давід-гарадоцкі пясняр —
> гіяцынтаў букет і вяргіні.

Хто гэта?

Наваполацкі пісьменнік таксама агучыў тэму кранаюча:

> успомню пчалы пацалунак
> быў кветкай калісці.

Імпрэсіяніст з Гарошкава намаляваў карціну:

> ружы чырвоны ліхтар
> на зялёнай вуліцы сада.

Глыбокая зельвенская выгнанніца размаўляла на мове, што пахне белым рамонкам і мятаю. Мы выраслі з гэтымі кветкамі ў душы, не заўважылі, як яны сталі часткай нас, карэньчыкамі праараслі. А можа, балела ёй, зельвенскай культурнай гераіні, што напрарочыла смерць, распушчэнне і дыфузію мовы, якая існуе, але даўно

> пераплялася з травою і кветкамі…

* * *

Вы пазналі, хто стварае кветкавы дыван паэзіі?

*Ксенія* БАНДАРЭНКА

# ЗГРАЙКА НЯСКОНЧАНЫХ ВЕРШАЎ...



***Ксенія Бандарэнка нарадзілася 26 чэрвеня 1996 года ў Гомелі. У гэтым годзе там жа скончыла гімназію № 56. Здольнасць да вершаскладання ў Ксеніі выявілася яшчэ ў дзяцінстве, аднак публікацыя ў «Маладосці» — першая спроба падзяліцца ўласнай творчасцю з шырокім колам чытачоў. Па словах Ксеніі, вершы прыходзяць самі, хочацца ёй гэтага ці не. І дзяўчына не перашкаджае ім з'яўляцца на свет.***

* * *

нябёсы — не бесы
прыставіўшы лесвіцу
адчыніўшы весніцы
аблокаў бессмяротных
можна трапіць у рай.
ды навошта? не палезу!
мне дастаткова пасвіцца
на зямлі
да сонейка лашчыцца
і ў вадзе песціцца
гуляючы з вясёлкай,
я кропелька вады
я ластаўка дажджу
я травам дагаджу
раслінам пакажу
дзе зоркі граюць
на струнах арфы-сонца.
тады ж навошта я лячу,
вяртаючыся бясконца…

* * *

Вясна на Палессі… Ты раніцай чыстай
Рачулкамі песціш мурожны прастор.
І сонейка ззяе ў галлі прамяніста,
І чуецца клёкат нясмелы буслоў.
Калі ты ідзеш, усміхаюцца дрэвы,
Пралескі гамоняць адна з аднае,
Гучаць спазаранку вятрыскі напевы,
Пяшчоту ўплятаюць у косы свае…
І зноў ажывае ўсё, зноў прачынаецца,
Гамоніць з травою ў полі каса.
Вясной і душа твая зноў абнаўляецца —
Паўсюль маладосці буяе краса.

* * *

Насыпаў верасень-багач
Нам зорак з неба зернем.
Ды годзе, неба, ты не плач —
Мы зоры вернем.

Пасеем іх, як мае быць,
Зямля іх добра ўзросціць.
І ураджай зноў паляціць
Дадому ўвосень.

Заганарыцца неба ўраз
Уборам спрытным.
Іх верасень у гэты раз
Далоў не ссыпле.

* * *

Зграйка нясконачаных вершаў
Бліскае слоўкамі-вочкамі.
Хто апранецца з іх першы
У новую назву-сарочку?

Ляжаць на паперы, хвалююцца,
Дарослымі стаць ім хочацца.
Хай яны там не турбуюцца —
Сшыю ім вопратку ноччу я.

Болей не будзе папера
Кратамі для немаўлятаў:
Будзе папера ім — дзверы
У новую кнігу-хату.

* * *

Не вешай на вокны жалюзі.
Я сонцу праз іх жалюся,
Што гэта жалезнае вейка —
Заслона для чалавека.

Здаецца, шматок метала,
Каб сонейка зрок не псавала...
Ды толькі ці шкодзіць тое,
Што даецца прыродай самою?!

Не вешай на вокны жа́люзі.
Я сонцу праз іх жалюся.
А шкло мае скаргі глытае
І ў чорныя дзіркі кідае.

Здаецца, шматок метала —
Ды як жа мне зор не хапала,
Калі металічнай завесаю
Мне космасу німб занавесілі.



Канстанцін КАСЯК

# БЛОГ

*Апавяданне*



***Канстанцін Касяк нарадзіўся 29 ліпеня 1987 года. Скончыў гістарычны факультэт БДУ па спецыяльнасці гісторыя ўсеагульная і айчынная. Працаваў ва ўстановах культуры і адукацыі: настаўнікам гісторыі ў сярэдняй школе Мінска, навуковым супрацоўнікам у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Вольны час бавіць гуляючы ў рэгбі і вандруючы разам з сябрамі па прасторах бацькаўшчыны.***

Гэта адбывалася ў высакосны год. Справы мае ў той час ішлі не самым лепшым чынам. Дзяўчына кінула мяне, грошай зусім не мелася, ды і ў вучобе былі завалы. Усё, што мне заставалася, — мірыцца з такім становішчам ды неяк спрабаваць выправіцца, а яшчэ пісаць у блог.

Той час з’яўляўся росквітам беларускай блогасферы. Свае блогі заводзілі ўсе: ад звычайных работнікаў да вядомых асоб і «зорак» эстрады. Студэнцкі асяродак не заставаўся ўбаку, прынамсі той, што належаў да БДУ. На гістарычным факультэце весці акаўнт на платформе Livejournal лічылася праявай добрага густу. Шчыраваў і я. У свой блог пісаў пра ўсё, што тады адбывалася ў маім жыцці. Калі шоў на нейкую выстаўку ці канцэрт, то вечарам у блогу абавязкова з’яўлялася нататка з мерапрыемства. Тое ж датычыла і тых момантаў, калі я глядзеў з сябрамі футбол альбо чытаў вартую кнігу, ці знаёміўся з цікавым чалавекам. Калі мне рабілася сумна, то ў дзённіку на адзін дэпрэсіўны допіс большага.

Дзень за днём, месяц за месяцам мінаў час. Забыліся старыя крыўды на дзяўчыну, якая раптоўна сышла да майго сябра, знайшліся падпрацоўкі, а разам з імі і нейкія грошы, прадметныя «хвасты» зніклі. Трэба было жыць далей.

* * *

Прыйшла субота. Надвор’е было яшчэ па-летняму цёплым, таму апошнюю пару вырашыў прагуляць. Я спускаўся ўніз па лесвіцы і думаў, што няблага б пазнаёміцца з якой-небудзь дзяўчынай, бо ўжо амаль год бавіў час у «ганарлівай адзіноце». Раптам да мяне наблізілася невысокая бялявая дзяўчына з паралельнага патока.

— Дзень добры! Слухай, ты глядзеў… — паспрабавала яна спыніць мяне.

— Не! — не звяртаючы ўвагі на дзяўчыну і не спыняючыся адказаў і пайшоў далей.

Я накіраваўся ў сквер, дзе мяне чакалі сябры. Ішоў і думаў: чаму ўсё ў жыцці складаецца менавіта гэтак? Чаму мне заўсёды не шанцуе? Чаму не магу здаць іспыт з першага разу? З-за чаго не шанцуе з дзяўчатамі? Як пазнаёміцца

з непаўторнай бялявай прыгажуняй? Мне заўсёды падабаліся бландзінкі з блакітнымі вачыма і сярэдняга росту. Вырашыў, што вечарам, калі прыду дамоў, абавязкова напішу пра гэта ў блог. Напішу, што мне не хапае яе, што, сярод тых, з кім вучуся і бачуся штодня, яе няма. Маёй каханай. Падумалася, што магчыма, яна пабачыць гэты допіс і мы нарэшце сустрэнемся. Аднак сябры запэўнілі, што так у жыцці не бывае. Маўляў, гэта з вобласці фантастыкі. Я згадзіўся, але ўсё адно напісаў.

* * *

Настала восень. Нечакана мой дзённік зрабіўся папулярным. Ён трапіў у пошукавую выдачу, колькасць чытачоў усё большала. Дзякуючы блогу я пазнаёміўся з многімі цікавымі людзьмі. Мы сустракаліся, бавілі разам час, абмяркоўвалі розныя цікавыя пытанні.

Аднойчы ў маім дзённіку з'явіліся вельмі дзіўныя каментарыі. Пісала дзяўчына. Даволі прыгожай мовай, разумна і ўзважана. Такога каментатара рэдка сустрэнеш на прасторах байнэту. Спачатку падалося, што мы знаёмыя, але, перабраўшы ў галаве ўсіх вядомых дзяўчат, я не змог зразумець, хто б гэта мог быць. З кожным новым каментарыем мая незнаёмка нібы нагадвала: «Я ўсё пра цябе ведаю!» Але варта адзначыць, што рабіла яна гэта з вялікай хітрасцю, бо штораз даводзілася думаць пра тое, адкуль невядомы чалавек мог ведаць акалічнасці майго прыватнага жыцця. Да ўсяго ж, пісала яна так, што кантэкст допісаў быў зразумелы толькі мне і ёй. Чым далей ішла гэта гульня, тым цікавей яна рабілася. Але падсвядома прыходзіла разуменне, што рана ці позна ўсе маскі будуць зрынуты і наступіць доўгачаканы фінал.

* * *

Невялікай кампаніяй сяброў мы сядзелі ў адной са сталічных кавярняў. Побач — кампанія з паралельнага патока. Нешта яны адзначалі. Студэнты заўсёды штосьці адзначаюць, асабліва з гістарычнага факультэта. Тут наогул шырокі спектр: ад дня народзін Міндоўга да перамогі пад Грунвальдам. Вось і ў той дзень нешта такое было.

З-за суседняга століка, за якім сядзелі гістфакаўцы, узнялася дзяўчынка, выглядала яна менавіта як дзяўчынка, не гледзячы на тое, што мела столькі ж гадоў, колькі і я. Яна падышла да нас.

— Можна цябе на хвіліначку, — звярнулася яна да мяне. Пры гэтых словах усе хлопцы за нашым сталом адзінагалосна выказалі сваё здзіўленне: «О-оо-оо!»

Мы адышлі на бяспечную адлегласць ад сяброў, каб ніхто з іх не змог падслухаць размову. Яна, гледзячы мне ў вочы, пачала:

— Ведаеш, ты мне падабаешся!

— І што з таго?

— Я хачу сустракацца з табой?

— У сэнсе? — меней за ўсё я чакаў такіх прапаноў.

— Як звычайныя людзі сустракаюцца: каханне, пацалункі ды шмат чаго яшчэ.

— А ў мяне ёсць час падумаць?

— Толькі пяць хвілін.

— Ну тады, так!

— Ты хоць ведаеш, як мяне зваць?

— Не! — адказаў я і ў гэты момант зразумеў, што сёння даведаюся яе імя, а ўжо заўтра для мяне пачнецца новае сапраўднае жыццё.

Арцём КАВАЛЕЎСКІ

# ПРЫЗМА ЧАСУ



***Арцём Кавалеўскі нарадзіўся 18 сакавіка 1979 года ў Мінску. Паэт, эсэіст, перакладчык, журналіст. Працуе выкладчыкам на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі БДУ. Аўтар кніг «АдмыСЛОВЫя гульні», «Аддаленасць і Адданасць». Чарговая падборка вершаў — магчымасць паглядзець на свет праз прызму часу і думак пісьменніка.***

* * *

Калі апалаю лістотай
Узнагародзіць восень нас,
Наўколле захлынецца слотай
І спыніцца няспынны час.

А дрэвы — схімнікі-манахі —
Паспакайнеюць спакваля,
І згубяцца былыя страхі,
Якія вернуцца пасля…

Пасля таго, як снегам елкім
Двары і вулкі замяце
І я пастаўлю свечку-елку
Дзесь у пакоі, у куце.

Зямля засне, бо ёсць нагода —
Зімы павольны мерны крок,
Калі стамлёная прырода
Хаду прыпыніць незнарок.

* * *

Адліга. Пад нагамі — кіша.
Як дзіўна студзень верш свой піша!
Лаўлю ў далоні слёзы-кроплі,
Паміж табой і мной — шматкроп’і.

Шапэна хочацца і грогу,
Але не йдзе на дапамогу
Ні музыка, ані напой…
Шматкроп’і між табой і мной.

Які бясконцы гэты тыдзень:
Ніхто не кажа мне «дабрыдзень»,

Ніхто не зычыць добрай ночы,
Пераждагнаўшы, як аднойчы.

Адліга ў студзені на дзіва
Хлюпоча жарсна і праўдзіва:
Шматкроп'ем кроплі б'юць у твар…
Зіма наўкол, а ў сэрцы — сквар.

* * *

Сакавік сустракае слатою…
Я іду і спяваю пра тое,
Што мае састарэлыя рэчы
Зноў і зноў абцяжарваюць плечы.

Шалік душыць, а куртка сціскае.
Зрэшты, маю я тое, што маю…
На імгненне, на хвілю, на вечнасць
Расцяклася мая недарэчнасць…

Сакавік-правакатар — паплечнік —
Сыпле зораў вязьмо ў мой заплечнік
І частуе падманлівым хлебам —
Лустай глебы, намазанай небам.

* * *

Праз мае скамечаныя дні
І мае прачуленыя ночы
Прарастаюць стомы карані
Сёння і заўсёды і… аднойчы.

Двойчы неакрэслены матыў,
Тройчы незабыўныя адказы…
Човен маіх думак ціха плыў
У незразумеласць мудрай фразы.

І вяртанняў колішніх паўцень
Зноў падаўся невыносна смешным,
І таму скамечаны мой дзень
На жыцця прасцягу ўцешным.

* * *

Баліць тады, калі няможна
Знайсціся між людзей і слоў,
Калі шыбуеш асцярожна
Уздоўж прыпынкаў-астравоў,

Дзе ненадзейныя прыкметы
Чужых размоваў зноў і зноў
Знікаюць хутка, як каметы,
Нібы фрагменты ліпкіх сноў;

Калі будзённасць пад капірку
Фіксуе права на нябыт,
Дзе час ляціць у кропку-дзірку
І ўсё пазбаўлена арбіт.

* * *

Павуціннем пажоўклае восені
Вабіць час, на імгненне зажураны…
…вечарам, недзе а восьмай,
Мой настрой ураганны і спужаны.

Значыць, ноч абяцае быць жорсткай,
Жоўта-вогненнай, спаленай прагна…
…паміж явай і трызненнем — мост я,
Нетрывалы, пахіснута-ўяўны.

* * *

Шыбую ў сквоты халастыя
Па бруку спраўджаных шляхоў,
Вітаю вуліцы пустыя
І брамы згорбленых дамоў.

Як лёгка дыхаецца сёння,
Які іскрысты ў сэрцы шал!
А ты пытаеш, ці агонь я,
Ці проста Цёма-цемрашал?

* * *

Восень жвіроўку мацае
Шэрымі шорсткімі пальцамі,

Лісце — такое крылатае —
Сцежкі у парках латае.

Лётае і адлятае
Зграя варонаў злая.
І — зноў друкуе вершы
Дождж лістападаўскі першы.

* * *

Вуліца шчэрыцца шэранем пылу,
Хмары-аблокі пеняцца мылам…
Я адчуваю, гляджу, назіраю
Бераг нябёсаў — ад краю да краю.

Мроіцца бэз, але без абавязкаў:
Свята — не свята, аповед — не казка.
Дзень апранае адзенне са зрэб'я.
Я адчуваю сваё безрабер'е.

* * *

Калі брахалася шалёна
Ноч з ветрам-хлусам наўзаем
І дасылала сто праклёнаў
У вокны цёмныя мае,
Я забаўляўся з лісцем клёна,
З галлём дрыготкім арабін,
І не пускаў мяне з палону
Віна чырвонага рубін.

* * *

І зноўку п'яніца,
І мора,
І стары…
І так атрутна свецяць
Ліхтары,
І пераезды падаюцца
Прызмай часу,
І зноўку блытаецца НАТА
З НАСА,
І невядома,
Што абудзіцца спярша —
Няўрымслівае цела ці
Душа?..

*Кірыл СТАСЕЛЬКА*

# АПАВЯДАННІ



***Кірыл Стаселька нарадзіўся 25 ліпеня 1990 года ў Барысаве. Займаўся ў студыі журналістыкі пры мясцовай газеце «Адзінства». Студэнт 5 курса БДУ факультэта філасофіі і сацыяльных навук. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Вожык» і іншых.***

## Знаёмы незнаёмец

* * *

Ад яе вачэй не хацелася адрывацца. Позірк быў такі лагодны, нібы матчын, але ў ім бачылася і некаторая дзёрзкасць. Акрамя таго я адчуваў яшчэ і сілу, якая мяне палохала.

Было зябкавата. Мне хацелася паказаць сваю клапатлівасць, і я абняў яе яшчэ мацней. «Гэты момант асабліва рамантычны, як у галівудскіх стужках пра каханне», — прамільгнула ў галаве. Здаецца, мы не размаўляем ужо больш як паўгадзіны. Не таму, што не было пра што гаварыць, а таму, што словы толькі б перашкаджалі. Нам было добра разам. Мы проста сядзелі і назіралі за начным Мінскам з высокага даху. Словы тут не патрэбны. Мы былі адным цэлым.

Яна выклікала ў мяне асаблівыя пачуцці. Мяне вабіла не толькі яе прыгажосць, а нешта большае. Дзяўчаты, з якімі я сустракаўся раней, таксама выглядам даволі пекнымі, акрамя знешнасці яны мала чым адрозніваліся. Я гуляў з імі, хадзіў у клубы, кіно, тусіў, але анічога асаблівага да іх не адчуваў. Падобныя стасункі заўважаў і ў больш сталых.

Мае бацькі, іх знаёмыя, бацькі маіх прыяцеляў — было такое адчуванне, нібыта яны ўсе ажаніліся не таму, што мелі асаблівыя пачуцці адзін да аднаго, а каб не застацца на ўсё жыццё адзінокімі. Яны быццам узялі лепшае, што трапілася ім пад руку. Бо не хацелі быць адзінокімі, ды і ўвогуле многія так жывуць. Таму я не верыў, што каханне, пра якое пішуць у кнігах, ды паказваюць у фільмах — існуе.

Пачуцці, якія апанавалі мяне, былі зусім новымі. Магчыма, не ў кожнага з'яўляецца выпадак адчуць такое. Гэта больш, чым радасць ці бесклапотнасць. Гэта больш, чым пачуццё сяброўства альбо каханне. Так, было ўсё гэта: і радасць, і бесклапотнасць, і пачуццё сяброўства, і каханне, і пяшчота, ды яшчэ штосьці...

Іншыя людзі, рэчы, справы не мелі аніякага значэння. Дакладней, іх проста для нас не існавала. Былі толькі мы. Час нібыта спыніўся. Не існавала заўтра, было толькі цяпер.

«I kissed a girl, I like it…» — раптоўна пачала лямантаваць Кэці Пэры. Нібы каменем разбілі шыбы. Я аж здрыгануўся. Гэта зазваніў яе мабільнік. Усё раптоўна знішчылась. Гэты званок апусціў нас з нябёс на зямлю. Я пачуў з трубкі голас сяброўкі, з якой яна разам жыла: «Ну што, ты будзеш сёння дома?» І ўсё, што існавала, зноў з'явілася. Успомнілася, што ўжо палова першай ночы і мяне не пусцяць у інтэрнат. Успомнілася, што заўтра панядзелак і мне трэба на пары. Пачуцці заставаліся, але ўжо не такія. Яны ўзмацніліся, калі яна скончыла размову і паглядзела на мяне. У яе вачах чыталася: «Было цудоўна, але ўжо трэба ісці».

Я пацалаваў яе і сказаў: «Ну што, ужо трэба ісці? Пайшлі правяду. Усё роўна ў інтэрнат мяне ўжо не пусцяць».

«Пайшлі. Пераначуеш у нас», — сказала яна. Маё чаканне спраўджвалася. Я крычаў пра сябе: «Ура»! Бо меў магчымасць пабыць з ёй яшчэ.

Праз паўгадзіны мы былі на месцы. Яна заварыла гарбату. Мы сядзелі на кухні і размаўлялі. Здавалася, што з кожнай хвілінай становімся бліжэй адно аднаму. Узнікла адчуванне, што мы знаёмы не менш як дзесяць гадоў.

Я лёг на яе ложак, а яна — разам з сяброўкай. Доўгі час не мог заснуць. Пачуцці не давалі спакою. Я пракручваў у памяці апошнія пяць гадзін, якія мы правялі разам. Усё ўнутры мяне бурапеніла. Урэшце, каб заснуць, вырашыў ні пра што не думаць. І гэта было амаль не магчыма...

* * *

І вось наступіла раніца панядзелка. Дзень абяцаўся стацца цёплым. Я спусціўся ў метро. Нават тут усё было светлым. Людзі ішлі адзін за адным, наплывалі вялікай колькасцю. Прыязджаў цягнік і, як карцом ваду, забіраў пасажыраў. На іх месца наплывалі новыя.

Людзі спяшаліся і не ведалі, што са мной учора адбылося. Як бы мне хацелася, каб яны даведаліся. Як бы мне хацелася ўсім крыкнуць пра сваё шчасце, альбо сказаць кожнаму паасобку. Калі б яны даведаліся, то пазайздросцілі б, бо ў іх жа такога не было. Адны напэўна б сказалі: «Ого, як яму пашанцавла», а другія б адказалі: «Я б хацеў апынуцца на яго месцы». І я адчуваў сябе шчаслівым.

Я адчуваў нейкую цеплыню да ўсяго свету, да людзей. Нават пахмурныя і засяроджаныя людзі здаваліся мілымі і блізкімі. Але гэтая цеплыня мела дамесак пагарды. Бо адчуваў сябе вышэй за іншых, нібыта я ведаў штосьці, чаго пазбаўлены іншыя. Я нібыта ведаў ісціну. Мне карцела падысці да тых, каго бачыў, і абняць іх. Але я разумеў, што гэта выглядала б дзіўна, мяне маглі палічыць вар'ятам. Таму я шчыра чакаў выпадку, каб некаму дапамагчы.

У кожнага з гэтых людзей існуюць свае гісторыі, звычкі, знаёмыя. У кожнага здараліся нейкія прыгоды, радасці, няўдачы. Як бы я хацеў зірнуць на чалавека і ўведаць яго гісторыю.

Я бачу гэтых людзей, назіраю за імі з кутка. Толькі яны мяне не заўважаюць і не бачаць адно аднаго. Кожны кудысьці спяшаецца, заняты толькі самім сабой, сваімі клопатамі, а я назіраю за імі. У гэтым мая сіла, перавага. Я назіраю з кутка, які яны ж самі і стварылі.

Пэўна, я ўсё ж не змагу зазірнуць у гісторыю кожнага. Але паспрабую, хаця б крыху, зазірнуць у гісторыю аднаго.

Нечакана мне хтосьці наступіў на нагу. Я падняў галаву і ўбачыў высокага хлопца з заплечнікам. Ён спяшаўся на электрацягнік, але там не знайшлося месца. Хлопец быў вымушаны застацца і чакаць наступнага. Бачылася, што гэта яму не вельмі падабаецца. Пытанне, за кім сёння назіраць канчаткова вырашылася.

У такім натоўпе хлопца можна было лёгка згубіць. Таму вырашыў трымацца да яго як мага бліжэй. Я праціснуўся скрозь натоўп пасажыраў, якія, як і юнак, чакалі наступнага электрацягніка. Стаў за яго спінай. Прыбыў цягнік, з дзвярэй ледзь вышчамілася чалавек шэсць. Усе, хто стаяў на платформе, рушылі ў вагон. Хлопец быў даволі спрытны, ён хутка заняў больш-менш зручнае месца. Мне ж давялося прыкласці намаганні, каб уціснуцца. Мяне ад юнака аддзяляў адзін чалавек, але, нягледзячы на гэта, я ўсё ж мог чуць музыку, якая гучала з навушнікаў хлопца. Ён слухаў Rammstein. Вось і першы крок у межы ягонага жыцця зроблены.

Зыходзячы з таго, што хлопец слухае, я пачаў выбудоўваць яго партрэт: характар, што ён любіць, кола яго сяброў... Але памыліўся. Наступная песня, якая загучала з яго слухавак, выконвалася Энрыке Іглесіясам. Такі паварот збіў мяне з панталыку. Я вырашыў крыху пачакаць, перш чым самаўпэўнена маляваць яго партрэт. Потым гучалі Queen, 50 cent, Prodigy і некалькі новых папсовых песень.

Пэўна, ён з тых маладзёнаў, якія слепа кідаюцца на тое, што папулярна, што часцей за ўсё мільгаціць па тэлевізары. З тых, пра каго можна сказаць «заўсёды ў тэме».

Пасля станцыі «Кастрычніцкая» хлопец пачаў сунуцца бліжэй да выхада і апынуўся злева ад мяне. Ён выйшаў на станцыі «Плошча Леніна» і ўжо праз сем хвілін уваходзіў у будынак універсітэта. Нягледзячы на тое, што мяне цяжка было вылучыць з натоўпу студэнтаў, я наўмысна ішоў у некалькіх кроках ад юнака. Па дарозе ён вітаўся то з адным, то з другім, жартаваў з дзяўчатамі. Можна было падумаць, што гэта нейкая «зорка» крочыць па калідорах тэлестудыіі. Хлопец падняўся на трэці паверх, зайшоў у аўдыторыю.

Пара яшчэ не пачалася. Таму чуліся размовы, крыкі, жарты. Я пачакаў тры хвіліны і таксама ўвайшоў. Мне пашанцавала: аўдыторыя была вялікая, тут сядзела каля двухсот чалавек. Пэўна, што не ўсе знаёмыя між сабой, таму з'яўленне новага чалавека ніхто не заўважыў. Вачыма я хуценька адшукаў рокера-рэпера, сеў за ім.

Хлопец размясціўся ў вясёлай кампаніі, сярод трох маладзёнаў і дзвюх дзяўчын. Праз некалькі хвілін ён падняўся з месца і пайшоў насустрач пекнай дзяўчыне, якая толькі што з'явілася ў аўдыторыі. Гэта была ягоная дзяўчына. Дзіўна, але яе твар падаўся мне вельмі знаёмым. Яны пацалаваліся, і хлопец пачаў нешта распавядаць, абдымаючы яе і час ад часу цалуючы. Потым яны разам вярнуліся да кампаніі.

Было зразумела, што хлопцы і дзяўчаты даўно знаёмыя. Жарты, якія б пакрыўдзілі чужога чалавека, у гэтай кампаніі ўспрымаліся даволі лёгка. У асноўным жартаваў хлопец, за якім я назіраў і пра сябе пачаў называць яго весялуном, астатнія ж смяяліся і толькі часам дадавалі пару слоў. Ён пажартаваў зноў, але ў гэты момант зайшоў выкладчык і ягоны досціп застаўся не ацэнены.

Першыя пятнаццаць хвілін лекцыі хлопец размаўляў з суседам злева, потым павярнуўся да сваёй дзяўчыны і пачаў штосьці шаптаць ёй на вуха. Часам яна адводзіла галаву і какетліва пазірала на яго. Яшчэ праз дзесяць хвілін юнак начапіў слухаўкі, паклаў галаву на парту і адпачываў ад цяжкіх намаганняў у барацьбе за веды.

Гэты весялун быў звычайным лайдаком і нічога цікавага ў яго гісторыі не бачылася. Нікчэмнасць. Я пачаў на яго злавацца і ледзь не адмовіўся ад намеру сачыць за ім увесь дзень, каб зазірнуць у гісторыю яго жыцця. Але раптам, не заўважна для сябе, стаў уважліва слухаць лекцыю. Пашкадаваў, што ў мяне не было пад рукой асадкі з паперай.

«...не вечным. Канформнасць можа праяўляцца час ад часу...» Голас выкладчыка быў гучным, упэўненым. Я слухаў яго з цікавасцю і верай. Кожнае слова ўспрымалася як штосьці сакральнае, як вялікае багацце, якое я атрымаў і якое ніколі не згублю. Яно будзе паўсюль са мной і заўжды мне дапаможа. «Так, паўтараю самае галоўнае. Памятайце, што канформнасць — гэта падатлівасць чалавека рэальнаму ці ўяўнаму ціску групы, якая выяўляецца ў змяненні яго паводзін і ўстановак у адпаведнасці з першапачаткова непадзяляемай ім пазіцыяй большасці. Канформнасць можна падзяліць на вонкавую: калі чалавек дэманстратыўна прымае пазіцыю большасці з мэтай атрымаць адабрэнне ці пазбегнуць групавых санкцый, і ўнутранную: калі чалавек сапраўды прымае пазіцыю групы як больш аб’ектыўную і абгрунтаваную, чым яго ўласная». Пачуваўся я нібыта пад гіпнозам. Не было аніякай стомы. Здавалася, што я прасядзеў бы тут яшчэ некалькі гадзін і не стаміўся б.

Але нечакана выкладчык змоўк і накіраваўся да дзвярэй, сказаўшы перад гэтым: «Усё, лекцыя скончана, да наступнай сустрэчы». Некаторыя студэнты пачалі павольна падымацца і выходзіць з аўдыторыі. Хлопец з сябрамі таксама выйшаў. Яны, напэўна, пайшлі перадыхнуць, а я вырашыў, каб не выглядаць падазрона, застацца ў аўдыторыі.

Глядзеў на студэнтаў і адчуваў сябе так, як адчуваў сёння раніцай у метро. Тут таксама было шмат людзей са сваімі гісторыямі, толькі яны не мяняліся і былі між сабою звязаны пэўным чынам, у адрозненні ад пасажыраў у метро. Я таксама глядзеў на студэнтаў з цікавасццю, вывучая кожнага паасобку. Былі тут ціхоні, блазны, фіфы-моднікі і проста абыякавыя, якія глядзелі на ўсё з пагардай.

Вярнуліся сябры хлопца і яго дзяўчына. Дзяўчына прысела з адным хлопцам крыху збоку ад кампаніі. Яны ціха пра штосьці шапталіся. Мне стала цікава. Я ўстаў і выйшаў у калідор, каб потым вярнуцца і сесці бліжэй да іх. Мяне шчыра ўразіла тое, што ўбачыў, калі вярнуўся: дзяўчына цалавалася з сябрам хлопца.

Следам за мной у аўдыторыю зайшоў выкладчык. Хуткім крокам я пайшоў у бок парачкі, якая мяне зацікавіла, і сеў за імі. Перапынак доўжыўся каля дзесяці хвілін, а хлопец, за якім я назіраў, так і не вярнуўся. Мяне засмуціла тое, што я згубіў паддоследнага, але не вельмі шкадаваў, бо змог даведацца пра тое, чаго хлопец і сам не ведае. Можна сказаць, што некаторыя аспекты яго гісторыі я ведаў лепш за яго самога.

Парачка ведала, што хлопец не прыйдзе, таму паводзіла сябе вольна. Значыць, астатнія сябры ведаюць пра гэта. У няведанні толькі ён. Доўжыцца гэта, напэўна, даўно. Але чаму яму ніхто не скажа? Здавалася ж, што ўсе яны сапраўдныя сябры.

Чаму дзяўчына сама не прызнаецца хлопцу, што хоча сустракацца з іншым? Так, ён канешне, пакрыўдзіцца, але гэта лепш, чым хлусіць усёй кампаніяй. А можа, яны

яго баяцца? Напэўна. Тады гэта тлумачыць іх дзіўныя паводзіны, калі хлопец жартаваў. Ён жартаваў і кпіў амаль з кожнага, але ніхто не падначваў яго. Я памыляўся, калі думаў, што кампанія не крыўдзіцца на гэтыя жарты. Яны ўсе злаваліся, але не выяўлялі гэтага, бо тады б паказалі, што не могуць пастаяць за сябе.

І вось выпала магчымасць адпомсціць. Адпомсціць, так бы мовіць, з-за кутка. Хлопец, калі б і даведаўся, то нічога не змог бы ім зрабіць. За што? Яны ж не вінаватыя ўсе. Гэта сябрук цалаваўся з яго дзяўчынай. Гэта яны яму хлусілі.

Калі я крыху апамятаўся ад здзіўлення, змяшанага з абурэннем, то пачаў прыслухвацца да гутаркі парачкі. Яны дамаўляліся пайсці ў начны клуб «Enjoy». Значыць, сёння яны збіраюцца ўдвух ісці ў клуб, і, напэўна, не першы раз. Потым пра кагосьці размаўлялі. Я зразумеў, што пра хлопца. Гэта адчувалася па інтанацыі, па сэнсах, якія яны ўкладвалі ў сказанае. Доўжылася гэта не доўга. Пасля яны крыху паразмаўляла пра розныя рэчы і пачалі занатоўваць лекцыю ў канспект.

Калі лекцыя скончылася, яны пераселі да кампаніі. Гэта тлумачылася тым, што на наступную пару можа вярнуцца хлопец. А значыць, што ў мяне ўсё яшчэ маецца магчымасць глыбей зазірнуць у гісторыю хлопца.

І сапраўды, праз тры хвіліны перапынку хлопец вярнуўся ў аўдыторыю да кампаніі. Усе паводзілі сябе як і раней: быццам нічога не здарылася. Юнак быў даволі вясёлы. Цікава, дзе ён знаходзіўся, што я прапусціў? Шкада, што немагчыма прысутнічаць у некалькіх месцах адначасова.

Пра што яны размаўлялі я ўжо не мог пачуць, бо, перасеўшы на мінулым перапынку, знаходзіўся далекавата ад іх. Я не мог дачакацца, калі скончыцца лекцыя. Нічога новага не адбывалася. Усе занатоўвалі лекцыю, а хлопец, як і раней, слухаў плэер.

Нарэшце лекцыя скончылася, выкладчык выйшаў з аўдыторыі. Хлопец эмацыйна развітаўся з кампаніяй і пайшоў да дзвярэй. Напэўна, будзе яшчэ адна лекцыя. Але на гэты раз я рызыкаваць не збіраўся. Праз некалькі хвілін таксама выйшаў з аўдыторыі. Хуткім крокам пайшоў за паддоследным. Мы шлі па ранейшым маршруце: спусціліся на першы паверх і накіраваліся ў бок метро. Доўга ехалі спачатку ў электрацягніку, потым у аўтобусе.

У транспарце і на вуліцы было шматлюдна, таму я застаўся не заўважным для хлопца. Мы падыходзілі да вялікага будынка, вакол якога знаходзілася шмат моладзі. У мяне ўзнікла адчуванне, што быў тут раней. Я не адразу зразумеў, што гэта інтэрнат. І тут узнікала яшчэ адна перашкода: я не мог трапіць у інтэрнат без пропуска, а тым больш незаўважаным. Заставалася чакаць. Хлопец зайшоў. Я сеў на лаўку каля пад’езда.

Так я праседзеў дзве з паловай гадзіны, а хлопец не выходзіў. Можа, ён сёння больш і не збіраецца на вуліцу, а я дарэмна чакаю, можа, юнак толькі пад вечар пойдзець куды-небудзь гуляць. Была палова пятай. Я вырашыў прайсціся, бо не мог больш тут сядзець.

У гэтага хлопца, відаць, шмат сяброў, прыяцеляў, знаёмых. Ён жыве весела, без асаблівых клопатаў. На першы погляд, ён падаецца адкрытым для ўсіх, адкрытым для свету. Але, я перакананы, што гэта не так. Ён адзінок і існуе адасоблена ад усіх. Адасоблена як у часе, так і ў прасторы. Пра што ён марыць? Як плануе жыць?

Як жа гэта жахліва, калі здаецца, што ўсё цудоўна. Ты амаль шчаслівы. У цябе ёсць блізкі чалавек, якому ты шчыра давяраеш усе свае сакрэты, мары, спадзяванні.

Яшчэ ёсць сябры, якія цябе заўсёды і ва ўсім падтрымліваюць, якім ты гатоў заўсёды дапамагчы. І вось аднойчы, у самую цяжкую хвіліну, яны ўсе табе здрадзяць. Не будзе нават каму паскардзіцца, расказаць пра свае праблемы, атрымаць хоць нейкую падрымку.

Ты разумееш, што застаўся адзін. Пачынаеш хапацца за ўсё, што толькі трапіць на вочы, але яно выслізгвае з рук. Здзіўляешся, чаму так атрымалася. Злуешся на ўсіх. Ненавідзіш цэлы свет. Чаму людзі такія чэрствыя? Але, як вядома, прычыну нельга шукаць у іншых. Вінаваты толькі ты сам. Мне зрабілася шкада гэтага хлопца. Але што я магу зрабіць? Падысці да яго і сказаць: «Слухай, ты няправільна жывеш. Трэба ўсё мяняць».

Я шмат гуляў. Вярнуўся толькі праз тры гадзіны. На зваротным шляху ледзь знайшоў інтэрнат. Сеў на той жа лаўцы і стаў чакаць. Хлопец усё не з'яўляўся. Мінула каля гадзіны. Магчыма, ён выйдзе пазней і трэба крыху яшчэ пачакаць, а можа, ён ужо даўно выйшаў, пакуль я гуляў.

Праз дваццаць хвілін я падняўся і пайшоў у бок прыпынку. Спадзяванне, што хлопец выйдзе, прымушала мяне час ад часу азірацца ў бок пад'езда, але яго ўсё не было.

Перад тым, як павярнуць за дом, я азірнуўся апошні раз. Хлопца так і не ўбачыў. Я шоў павольна. Штосьці ўнутры мяне разрывалася. Усё ж не можа так скончыцца. Нешта невядомае пацягнула мяне да таго месца, дзе я апошні раз азіраўся. Я крычаў пра сябе ад радасці, бо хлопец усё ж такі з'явіўся і ішоў у маім кірунку. Як добра, што я вярнуўся.

Я затуліўся ў куток за газетным шапікам, каб юнак мяне не бачыў. Праз хвіліну хлопец прайшоў міма. Я счакаў паўхвіліны і рушыў за ім. Мы даехалі да цэнтра. Быў ужо вечар, і горад пачаў запальваць агні.

Хлопец ішоў даволі хутка. Я сачыў толькі за ім, каб не згубіць. На момант падняў галаву і ўбачыў у ста метрах вялікія літары «Enjoy». Там жа мусяць знаходзіцца яго дзяўчына і сябрук. У мяне, шчыра прызнацца, з'явіўся нейкі зларадны настрой. Ахапіла радаснае хваляванне, прадчуванне шоу. Я не мог супакоіцца.

Каля ўвахода ў клуб хлопец спыніўся. Ён кагосьці чакаў. Праз некалькі хвілін да яго падышла і пацалавала шыкоўная дзяўчына. На імгненне мой зларадны настрой перабіла зайздрасць. Але адкуль я ведаю гэтую дзяўчыну? Можа, у нас з ім ёсць агульныя знаёмыя? Хлопец нечакана ўскрыкнуў: попел з цыгарэты, якую паліла прыгажуня, трапіў яму на руку.

…Я адчуў боль. Штосьці кальнула маю руку. Мне зрабілася холадна. Не можа быць! Гэты хлопец я сам. Гэта ж я стаю з шыкоўнай дзяўчынай і збіраюся ўвайсці ў клуб, дзе мусяць знаходзіцца мая дзяўчына з маім сябрам. Гэта мне хлусяць сябры, гэта мяне яны ненавідзяць.

Няўжо пачуцці да той дзяўчыны, што цяпер у клубе, захапілі мяне ўчора. Як так атрымліваецца, што адзін і той жа чалавек можа стаць прычынай вялікага шчасця і нясцерпных пакут. Няўжо гэта ў яе я гэтак закахаўся. Калі так, то хто гэтая дзяўчына, што побач са мною. Я аслупянеў. Дзяўчына здзіўлена пазірала на мяне і паўтарала: «Што з табой, зноў абкурыўся? Давай, пайшлі ў клуб».

Але я стаяў на месцы. Не заўважаў таго, што робіцца вакол мяне. Нічога не чуў і не бачыў. Думкі несліся з неверагоднай хуткасцю. Я не ведаў што рабіць. Можа, усяго гэтага не было, можа, гэта толькі мае фантазіі. Трэба праверыць, трэба зайсці ў клуб. Але я баяўся. А што, калі гэта сапраўды я...

# Сон? рэальнасці?

***«Пачуцці і настроі прыходзяць і сыходзяць па сваёй волі і звычайна знаходзяцца па-за межамі зоны гаспадарання ці ўплыву нашай волі. Здаецца, яны жывуць сваім жыццём і ў сваіх пастаянных метамарфозах, не звяртаюць на нас увагі. Мы не валодаем, не валодаем імі, як гэта можна сказаць пра нашы веды; альбо, калі штосьці і валодае намі, дык гэта яны. Менавіта таму нам варта казаць, што мы ёсць нашы пачуцці і настроі, а не што мы валодаем імі; таму што ёсць нейкая шчырасць і непасрэднасць — шчырасць быць тым, што ты адчуваеш, — у дачыненнях паміж намі пачуцці і настроі, што зусім адсутнічае ў сітуацыі ведаў, якімі мы валодаем».***

Фрэнк Анкерсміт
«Узвышаны гістарычны вопыт» (2007 г.)

Пампезныя інтэр'еры, дарагія дываны, шыкоўныя жырандолі. Яркае святло з усіх бакоў. Людзі, апранутыя ў лепшыя касцюмы. Пачуццё прадчування. Уваходжу ў залу. Амаль усе сядзяць на сваіх месцах. Толькі зрэдку яшчэ падыходзяць тыя, хто спазніўся. Я таксама сядаю і разам з іншымі чакаю пачатку. Становіцца цёмна. Мне нічога не бачна. Сцэну раптоўна пачынаюць асвятляць ліхтары. Гучна грае марш. З'яўляецца першы акцёр.

Крыху пазней выходзяць новыя акцёры. Тое, што адбываецца, не выклікае ў мяне цікавасці. Часам робіцца агідна. З кожнай хвілінай я ўсё больш і больш стамляюся. Хочацца спаць. Спрабую стрымацца і не заснуць.

Я здрыгануўся ад нейкага выбуху. На сцэне абсалютна новая дзея. Напэўна, я задрамаў на хвілін пятнаццаць-дваццаць. Каб не заснуць зноў, ціха падымаюся і іду да выхада. На мяне ніхто не звяртае ўвагі, усе занятыя відовішчам. Але мне ўсё роўна сорамна. Імкнуся хутчэй дайсці да дзвярэй, ды яны падаюцца вельмі далёкімі.

Нарэшце выходжу. Але трапляю не туды. Перада мной вялікі круглы пакой. У ім на дзіва шмат дзвярэй. Аднолькавыя чырвоныя дзверы ў белым пакоі. Можа, вярнуцца?! Не!

Дзвярэй шмат. Спрабую пералічыць, але нічога не атрымліваецца. Такое адчуванне, што іх тут безліч. У якую мне ўвайсці? Разважаць рацыянальна бессэнсоўна, яны ўсе аднолькавыя. Падыходжу да адных. Не, не ў гэтыя! Да наступных. І не ў гэтыя! Хаджу ад адных дзвярэй да другіх ужо хвілін… Не ведаю. Тут немагчыма сачыць за часам. Становіцца страшна.

Урэшце прымушаю сябе падысці да адных з дзвярэй. Падыходжу. Прымушаю сябе ўвайсці. Але не магу. Страх мацней за волю. Прымушаю. Прымушаю. Прымушаю. Але яшчэ больш боязна заставацца тут.

Заплюшчваю вочы, штурхаю дзверы і ўваходжу…

Высвятляецца, што я апынуўся на вуліцы. Дзіўна. Перада мной стаіць мая сястра. А можа, проста знаёмая. Не магу разабраць. Ды як яна тут апынулася? Побач з ёй калыска. Там дзіцянё. Яна штосьці мне захоплена распавядае, але я не чую што. Гляджу на калыску. Яна адпускае калыску і працягвае, жэстыкулюючы, штосьці мне заклапочана гаварыць.

Мы стаім на горцы. Хачу папярэдзіць субяседніцу, але позна. Калыска пачынае скатвацца. Сэрца шалёна б'ецца. Бягу за калыскай, каб спыніць. Бягу, але не паспяваю. Яна перакулілася.

Падбягаю. Дзіцёнку ў калысцы дзесьці пяць гадоў. Ён спакойна глядзіць на мяне. На ім чорныя акуляры. Я разумею, што ён сляпы. Адчуваю, што гэта я вінаваты. Кідаюся абдымаць яго. Ён стаіць спакойна, а я пачынаю плакаць. Плачу гучна і не магу спыніцца. Слёзы залілі вочы. Нічога не бачу. Усё расплываецца. Выціраю слёзы і заўважаю, што я зноў у тым пакоі, дзе шмат дзвярэй.

Так не бывае. Можа, гэта проста сон. Не. Усё вельмі рэальна. Да сну не падобна. Што рабіць? Адчуваю трывогу. Увайсці ў наступныя дзверы?! Не! А калі гэта не сон? А можа, гэта проста ілюзія. Можа, галюцынацыі. І што, калі я нікуды не выходжу? Можа, я застаюся на тым жа месцы. У любым выпадку трэба нешта рабіць. Уваходжу ў наступныя дзверы...

Я з сябрам у нейкім вялікім музеі падобным да Луўра. За вокнамі, на вуліцы, вечар. У музеі, акрамя нас, нікога няма. У кутках свецяцца лямпачкі. Карціны прыгнятаюць сваімі памерамі.

Пачынаем бегчы навыперадкі. Потым бяжым поплеч. З адной залы ў другую і гучна грукаем па падлозе ботамі. Сябр пачынае адставаць. Быццам наўмысна. Хапаю яго за руку. Цягну як малога. Але гэта не вельмі дапамагае. Ён павісае на маёй руцэ якарам.

Гадзіннік паказвае палову трэцяй ночы. Становіцца то цёпла, то халодна, то светла, то цёмна. Адчуваю ў роце прысмак рыбы. Гэта вельмі здзіўляе. Я не люблю рыбу. Рука сябра выслізгвае. Яна робіцца халоднай, мокрай, слізкай, як жывая рыбіна.

За намі ўжо бяжыць ахоўнік. Уцякаючы, азіраюся на сябра і ўскрыкваю ад нечаканасці. Замест яго, старая бабуля з гнілымі зубамі. Яна глядзіць на мяне і смяецца. У мяне ж па целе пайшлі дрыжыкі. Не ведаю чаму, але я не адпускаю старую і працягваю бегчы.

Ахоўнік усё бліжэй. Нарэшце адпускаю руку бабулі. Працягваю бегчы, ды толькі застаюся амаль на тым жа месцы. Такое адчуванне, што я бягу ў вадзе, якая запавольвае ўсе мае рухі.

Ахоўнік амаль побач. Мяне ахапіў жах. Раптоўны ўдар па назе. Адчуваю нясцерпны боль. Валюся на падлогу. Гляджу перад сабой. Мой сябар стаіць у форме ахоўніка з нейкай жалезкай у руцэ. Чую смех. Кідаю погляд убок. Мона Лізаператварылася ў старую. Гэта ўсё ж такі Луўр. Гучны вусцішны смех.

Ахоўнік таксама смяецца. Я падымаюся. Бягу да бліжэйшых дзвярэй. Ахоўнік кідаецца за мной. Б'е мяне жалезкай па спіне. Паспяваю дабегчы да дзвярэй і зачыніць іх за сабою. Намагаюся зноў бегчы, але бачу, што я ў круглым пакоі, дзе шмат дзвярэй.

Больш нічога не баліць: ні нага, ні спіна. Адчуваю ўсю небяспеку гэтых дзвярэй. Але, з другога боку, калі я знаходжуся тут, то апынаюся ў бяспецы. Як жа дзейнічаюць гэтыя дзверы? Можа, за імі існуе нейкая пагроза і галоўнае вярнуцца ў гэты пакой. А што, калі не паспею? Ці хтосьці разам са мной забяжыць сюды?

Знаходжуся ў гэтым белым пакоі даволі доўга. Але нічога не мяняецца. Выйсце можна шукаць за аднымі з дзвярэй. Але за якімі? А можа, гэта нешта накшталт лабірынта?! Буду перабіраць дзверы па чарзе. Галоўнае, вярнуцца ў гэты пакой і паспець зачыніць іх за сабой.

Зноў адчыняю дзверы. Перада мной былы аднакласнік, ён сядзіць за рулём. Аказалася, што я адчыніў дзверку машыны. Аднакласнік запрашае мяне прысесці. Ён заводзіць машыну. Выязджаем на праспект. На вуліцы яшчэ светла, але нікога няма.

Мы ўспамінаем школьныя гады. Аднакласнік дастае вермут і прапаноўвае мне выпіць. Спачатку адмаўляюся і спрабую адгаварыць яго. Але ён запэўнівае мяне, што нічога не здарыцца, тым больш, што на вуліцы акрамя нас нікога няма. Я пагаджаюся.

Мы выпілі вялікую бутэльку. Ён спыняецца і дастае касяк. На гэты раз я не адмаўляюся. Пачынаю смяяцца. Ён таксама. Мы смяёмся і не можам спыніцца. Спрабуем супакоіцца, але ад гэтага робіцца яшчэ больш смяшна. Гаворым адно аднаму нейкую лухту і смяёмся. Праз некаторы час нас адпускае.

Ён дастае яшчэ бутэльку. Мы едзем з вуліцы на вуліцу: п'ём, палім, смяёмся, размаўляем. Спаць зусім не хочацца. Машына разганяецца да ста пяцідзесяці. Смех, весялосць перабіваецца страхам ды хваляваннем. Узнікае дзіўнае пачуццё. Зноў выехалі на праспект.

У ста метрах наперадзе хтосьці стаіць. Мы пачынаем тармазіць. Гэта дзяўчына шаснаццаці-сямнаццаці гадоў. Мы прапаноўваем ёй сесці. Былы аднакласнік прапаноўвае выпіць. Яна адмаўляецца. Тады мы разганяемся, каб напалохаць яе. Скідваем хуткасць да сямідзесяці і наноў прапаноўваем. Яна зноў адмаўляецца.

Машына набірае хуткасць. Дзяўчына пачынае крычаць ад страху. Яна згаджаецца крыху прыгубіць, але мы прымушаем яе дапіць усё, што засталося. Яна дапівае. Працягваем ехаць. Дзяўчына маўчыць.

Заязджаем у нейкі двор. Там таксама нікога няма. Амаль ноч. Цёмна. Я пералажу на задняе сядзенне да дзяўчыны. Пачынаю лезці да яе цалавацца. Яна абараняецца. Спрабуе выйсці, але дзверы зачынены. Сунуся да яе бліжэй, цалую…

Дзверка машыны аўтаматычна адчыняецца. Дзяўчына выходзіць. Машына зноў разганяецца.

Я зноў у белым пакоі, дзе шмат дзвярэй. Ужо не чакаючы, уваходжу ў наступныя.

Вялікі катэдж. Шмат людзей. Святкуецца нейкае вяселле. Тут мноства знаёмых. За сталом сядзіць нявеста. Гэта мая прыяцелька. Частка людзей сядзіць за сталом. Хтосьці проста ходзіць, размаўляе.

Усе пачынаюць набліжацца да стала. Высвятляецца, што я жаніх. Стаю разгублены. Не ведаю, што рабіць. Мяне ўсе клічуць да стала. Сядаю побач з нявестай. Побач сядзяць яе бацькі, але нідзе няма маіх.

Хтосьці гаворыць. Я не слухаю. Нявеста вельмі радасная, але не звяртае на мяне ўвагі. Ведаю, што яна мяне кахае. Але я не хачу на ёй жаніцца. Я яе не кахаю. Усе чакаюць, што я з ёй ажанюся.

Трэба нешта рабіць. Не хачу пражыць з ёй усё жыццё. Яна добры чалавек, але я яе не кахаю. Усё, як у дрэнным анекдоце. Не магу зразумець, як так атрымалася. Калі цяпер, у апошнюю хвіліну, адмовіцца, ніхто мяне не зразумее. Можа, збегчы. Але тут мае знаёмыя. Як я потым буду глядзець ім у вочы.

Усе чакаюць, што я пацалую нявесту. Цалую. Не хачу нікога расчароўваць. У галаве адна за адной мяняюцца думкі. Іх не шмат, але яны мільгацяць. У мяне паніка. Трэба нешта рабіць, пакуль не позна. Дзякуй Богу, што тут няма маіх бацькоў.

Усе зноў пачалі размаўляць між сабою. Падымаюся і незаўважна выходжу ў іншы пакой. Я вырашыў збегчы. Уяўляю, як нявеста будзе плакаць. Сёй-той будзе на мяне злавацца. Кагосьці я расчарую. Выхожду.

За гэтымі дзвярыма ўсё было не так жахліва як за папярэднімі, але толькі цяпер разумею, што нідзе нічога добрага яшчэ не адбылося. Калі ж усё гэта скончыцца? Што мне зрабіць, каб усё гэта скончылася? Вечна прадаўжацца так не можа, таму лепш хутчэй прайсці ўсе дзверы. Уваходжу ў наступныя.

Цёмна. Злева, у некалькіх кроках ад мяне, уключылася святло. Там стаіць стол, а за ім сядзіць чалавек. Святло падае толькі на стол і чалавека. Не зразумела адкуль. Навокал цёмна. Невядома дзе я знаходжуся: у пакоі, на вуліцы…

Падыходжу да чалавека. Ён глядзіць на мяне і ўсміхаецца. Гэты чалавек выглядае як я, але гадоў на дваццаць старэйшы.

— Сядай.

Я працягваю стаяць.

— Сядай, не хвалюйся. Я ж — гэта ты. Ты ж сабе нічога не зробіш?!

Сядаю на стул. Ён чорны.

— Як гэта можа быць? Я што, размаўляю з самім сабою?

— «Як гэта можа быць?» Ты так пытаешся, быццам усё тое, што адбылося з табой дагэтуль, можа і сапраўды быць.

— А што са мной адбылося? Гэта ўсё сон, галюцынацыі, ілюзія? Што гэта? Усё ж так не рэальна.

— Не рэальна? А што такое рэальнасць?

— Рэальна тое, што было ў тэатры і перад гэтым. А тое, што адбылося потым — не рэальна. Той белы пакой, дзверы — гэта не рэальна. Кожныя дзверы, як нейкі сон. І вы не рэальны.

— Адкуль ты ведаеш, што рэальнасць гэта менавіта тое, што было ў тэатры і перад ім?

— Так было ўсё жыццё.

— А што, калі ўсё тваё жыццё сон або ілюзія? Што, калі рэальнасць за аднымі з дзвярэй? Падумай…

— Можа быць, я сам ствараю сваю рэальнасць, і тое, што для мяне рэальнасць — для іншага сон.

— Ты не думаў, што можаш быць галюцынацыяй Бога? Думкі, якія ты лічыш сваімі, насамрэч думкі Бога. Твае думкі і думкі іншых людзей ёсць думкамі ў галаве Бога. А тваё жыццё — усяго толькі сцэнка ў яго галаве. Можа стацца і так, што ты сам Бог, а ўся гэта рэальнасць існуе толькі ў тваёй галаве.

— Але як я магу ведаць дакладна?

— Ніхто не можа дакладна гэтага ведаць. Ніхто, а ты можаш.

Ён дастае з-пад стала пісталет і кладзе перада мной.

— Хочаш ведаць, ці рэальна ўсё гэта? Тады выстралі сабе ў галаву. Што можа быць рэальней за смерць? Калі памрэш, значыць, гэта была рэальнасць. Але табе будзе ўжо ўсё роўна. А калі не памрэш, значыць, гэта сон. І ты можаш узяць гэты пісталет з сабой у іншыя дзверы… Давай!

Падымаю са стала пісталет падношу сабе да галавы. Трымаю. Раптоўна пераводжу на яго і страляю. Стала цёмна. Замест стрэлу чуюцца апладысменты. (Нібыта ўсе пляскаюць мне.) Павольна ўключаецца святло. Перада мной сцэна. Вакол пляскаюць у далоні людзі. Я ў тэатры…

*Алег САЛТУК*

# ШУКАЮ ЗГУБЛЕНЫЯ СЛОВЫ



***Алег Салтук нарадзіўся 25 жніўня 1946 года ў вёсцы Рыжанькі Шумілінскага раёна. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў. Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Літаратурных прэмій імя Уладзіміра Караткевіча, прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро» і іншых. Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі.***

## У ЛЕСЕ

У сасновым бары прычасціцца
Можна шчыра ў любую пару:
Ён у неба глядзіць, як званіца
Ў час малітвы глядзіць на зару.

Не палохаюць светлыя цені,
Ветрык хвою пад ногі трасе.
Спяць у нетрах спакойна алені,
Нібы нетры, рагатыя ўсе.

Глухары затаіліся ў кроне,
Дзяцел лечыць старую сасну.
І вужак у прыдбанай кароне
У карчоўі страчае вясну.

Пакланюся і сонцу, і бору.
Запяе салавей наўздагон.
І ў блакітна-зялёнай прасторы
На малітву пачуецца звон.

* * *

Лячуся полем і дубровай.
Крыштальна-чыстаю зарой.
Шукаю згубленыя словы,
Знаходжу страчаны спакой.

Сачу за ходам зорак дальніх
У недасяжнай глыбіні.
І ні мясцовых, ні глабальных
Праблем не ведаю ані.

Сусвет таемнасцю чаруе,
Дзяркач туман на часткі рве.

І промнік сонечны начуе
У дзьмухаўца на галаве.

* * *

Ахапіла чаромхай ваколіцу
І ўсё светлае, добрае ў ёй,
Што сягоння ніяк не спатоліцца,
І грашыць, і запознена моліцца
За здароўе і супакой.

Расцякаецца белае полымя,
Мір сталюецца у душы.
Напішы ты мне пальцамі кволымі,
Словы любыя напішы.

Прачытаю, віна шыпучага
Уздыму бакал залаты.
І адпрэчыцца ўсё балючае,
І застанецца неўміручае:
Май, каханне, чаромха і ты.

## РАДЗІМА

*Сёстрам Эме і Любе*

Забываемся мы пра яе,
Як яна ад нас недалёка…
Нада мною ружовае сонца ўстае
І заходзіцца каня ад спёкі.

Хоць пустэльна ў сяле навакол,
Апрача нейкіх яблыняў дзікіх,
Кожны з нас будзе гол як сакол,
Без салодкай і горкай радзімы.

На прасторах духмяных палёў
Нам дзяцінства сваё аддавала.
Там з усмешкаю і слязой
Наша светлае заўтра ўставала.

Пройдзе ўсё, бо не вечныя мы,
Ды ніколі не счэзнуць, я знаю,
На маленькай радзіме дымы
Туманоў без канца і без краю.

Яны будуць стаяць зноў і зноў
Над усім, што нам добра знаёма.
І нас клікаць уладна дамоў
Нат тады, калі будзем мы дома.

## СУСТРЭЧА

Нечакана ў той далёкі вечар
Смела ты пастукалася ў дом.
І ляглі з пяшчотай мне на плечы
Твае рукі сплеценым вянком.

Ты была такая маладая!
Сцішыліся сонныя вятры.
Думалася: потым запытаю,
Хто табе калечка падарыў.

Забаўляўся месяц над дарогай,
Сыпаў знічкі ў маладой гульбе.
Не спытаўся — не было нікога
Даражэй на свеце за цябе.

Што збылося, тое і збылося.
Салавей спяваў на ўсе лады.
І калечка з пальчыка знялося
Ці само скацілася тады?

Яшчэ раз такога ўжо не будзе.
Ды ўспамін і час не заараў,
Як язмінам пахлі твае грудзі
І гарэлі вусны, як зара.

## ЧАС

Чарадуюцца даты з падзеямі.
Як па-пісанаму ўсё ідзе.
Ласкай боскаю абнадзеяны
Сустракаю наступны дзень.

Учарашні праводжу з пяшчотаю,
Не шкадую, што праміну́ў.
Рады я, што адкрыта, не ўпотайкі
На мяне ён ласкава зірнуў.

Май смяецца, цвіце, раскашуецца
У палях, пералесках, гаях.
Нешта дужа спрадвечнае чуецца
Ў песні юнага салаўя.

Потым будзе чэрвень з кастрычнікам
І пра верасень успамін.
І паставіць пытальнік з клічнікам
Студзень роўна ў дванаццаць гадзін.

Веру: жнівень яшчэ народзіны
Падаруе сабе і мне…
Анічога яшчэ не пройдзена,
Не мінаецца і не міне.

**ІСНАСЦЬ**

Іней улёгся на скронях,
Зморшчын на твары сляды.
Толькі нібыта сягоння,
Помню той бэзавы дым.

Знічкі гарачь, як сярнічкі,
Серп маладзік навастрыў.
Звоніць у лозе крынічка,
Свецяць сузор'яў кастры.

Не адсячы, не адкроіць
Роднага краю святло,
Тое, што стала са мною,
Тое, што колісь было.

Я прычакаю з маленнем,
Божа, твой праведны суд.
Стаўшы вось тут на калені.
Больш анідзе — толькі тут!

Маргарыта ПРОХАР

# АПАВЯДАННІ



***Маргарыта Прохар нарадзілася 24 кастрычніка 1979 года ў Карэлічах. Скончыла філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру. Аўтар кніг «Набліжэнне», «Насустрач сонцу». Друкавалася ў часопісах «Полымя», «Маладосць», рэспубліканскіх газетах.***

## Прынцэса і бядняк

Хударлявы малады чалавек падышоў да майго стала, паклаў нейкія паперы і сказаў:

— Я хачу адаслаць ліст.

Я здівілася.

— Тады ідзіце на пошту. Тут рэдакцыя.

— Я ведаю, — спакойна адказаў ён. — Але я вырашыў адаслаць свой ліст не зусім звычайным спосабам. Калі гэта атрымаецца, канешне. Справа ў тым, што яна чытае ваш часопіс. Можа, прачытае і гэта. Вядома, калі вы надрукуеце.

— А хто гэта — яна?

Але ён больш нічога не сказаў, павярнуўся і пайшоў. А на стале застаўся рукапіс. Я разгарнула яго і прачытала набраную дробнымі літарамі на пачатку першай старонкі назву: «Прынцэса і бядняк».

«Гэтая дзяўчынка апынулася ў нашым раёне пад вечар. Чыста і прыгожа апранутая, яна была не з нашай кампаніі.

— Эй, глядзі, прынцэса! — мой сябрук паказаў на яе абрубкам старога шланга, які трымаў у руцэ. Мы закачвалі бензін у наш матацыкл-дахадзягу.

Я азірнуўся і ўбачыў яе. Яна бездапаможна аглядалася, бо збілася з дарогі.

— У-ля-ля! — падышоў я да яе.

— Што гэта азначае? — ціха спытала яна, не ведаючы, палохацца ёй мяне ці прасіць дапамогі.

А я... Я раптам застыў на месцы, убачыўшы ейны твар. Ён быў такім прыгожым і чыстым. І ўся яна была быццам сімвал нейкага незвычайна прыгожага і шчаслівага свету.

— Так што гэта значыць — “у-ля-ля”? — зноў перапытала яна.

Маё здранцвенне прайшло, і я патлумачыў, што проста ствараю гукі. Розныя гукі. Такая ў мяне звычка.

— Табе не падабаецца?

— Не ведаю. Проста нечакана... Але вельмі забаўна. Праўда!.. — і яна ўсміхнулася.

— Ты заблудзілася? — спытаў я, калі прайшло першае асляпленне ад яе ўсмешкі.

— Так.

— Дзіўна, як ты сюды ўвогуле трапіла. Па тваім выглядзе не скажаш, што тут жывеш.

— Мы з татам прыехалі адпачываць. Наш гатэль далей. А я... я проста ішла, задумалася пра нешта і раптам апынулася тут, — яна ўмольна паглядзела на мяне. — Вы не маглі б мяне правесці дамоў?

— Я просты, мяне ніколі ніхто не называе на «вы». Так што не будзем. А то прывыкну і стану ганарлівым, а такіх у нас тут, дзе я жыву, не любяць.

Я заўважыў: дзяўчына мала што зразумела з маіх слоў.

— Тум-ту-рум!.. Карацей, давай праведу цябе.

Я крыкнуў свайму сябруку, што хутка буду, і мы пайшлі. Праз хвілін пятнаццаць апынуліся ў квартале багатых прыморскіх гатэляў.

— У твайго бацькі, відаць, шмат грошай, калі вы тут жывяце, — уздыхнуў я.

— Шмат... — адказала незнаёмка неяк абыякава і вельмі сумна зірнула на мяне.

— Чаму ты такая маркотная? У цябе ж ёсць грошы.

— Ну і што?

— Як што? — здзівіўся я. — Калі б у мяне былі грошы...

— Што б ты зрабіў?

— Ну, па-першае, купіў бы новы скейт: ты ж бачыш, на чым я езджу... І... вялікі дом. Каб мама не працавала.

— А дзе яна працуе?

Але я не паспеў адказаць. На алеі з'явіўся мажны шыкоўна апрануты мужчына.

— Эльза! Вось ты дзе! Ну нарэшце, а то я пачаў турбавацца. Збірайся, мы ідзём вячэраць.

— Добра, тата, — пакорліва адказала яна. — Дарэчы, гэта мой новы знаёмы, які не даў мне заблудзіцца ў гэтым горадзе...

І тут я ўспомніў, што не назваў сваё імя. Але ў гэтым, відаць, не было патрэбы: бацька Эльзы нават не паглядзеў у мой бок. Я ўздыхнуў і развярнуўся на скейце.

Раптам Эльза схапіла мяне за руку і прашаптала:

— Прыязджай заўтра вечарам, тата паедзе ў клуб.

— Эльза! Пра што сакрэтнічаеш? — суровы вокрык яе бацькі мог напалохаць каго заўгодна. Не дзіўна, што Эльза здрыганулася і паслухмяна пайшла за ім у гатэль.

* * *

Увесь наступны дзень я думаў пра яе. Спачатку вырашыў, што не пайду на гэтую сустрэчу. Сапраўды, хто я такі ў параўнанні з ёй? Мне мала хто казаў штосьці добрае. У асноўным — толькі дакаралі. Нікому не падабаецца, калі я то прышлёпваю вуснамі, то выбіваю языком трашчотку, то ўзрываю паветра ў шчоках. Але ж гэта такія бяскрыўдныя і смешныя гукі. Чаму ж яны ўсіх раздражняюць?.. Можа, яны ўзніклі ад таго, што я заўсёды быў сам-насам, заўсёды сябе забаўляў, маме не было часу. Праўда, яшчэ... Калі мама спявае ў начным клубе, то я сяджу і гляджу ў акно ў нашай халупе на апошнім паверсе старога дома. А потым, каб неяк развеяцца, страляю з вадзянога пісталета ў цемрэчы па тых, хто праходзіць унізе, і ціха смяюся, калі яны ўздрыгваюць ад вады. Нічога не разумеючы, круцяцца на месцы, а потым падымаюць галаву ўверх. Але дажджу няма, а мяне прахожыя ўбачыць не могуць, бо я схаваны ноччу.

Праўда, адзін раз здагадалася суседка: у яе было адчынена акно, і яна заўважыла, а потым расказала маме.

— Гэта дрэнна... — дакарала яна мяне стомленым голасам.

— Але ж мне падабаецца. Ды гэта і не балюча, а проста смешна, — паспрабаваў я апраўдацца.

Але яна ўсё роўна паўтарыла:

— Гэта дрэнна.

— Але чаму заўсёды дрэнна тое, што мне падабаецца?

Яна толькі махнула на мяне рукой і пабегла пераапранацца на сваю дурнаватую працу.

Я адчуваў: калі-небудзь мама прывядзе адтуль трэцяга тату, як прывяла некалі другога, майго цяперашняга несапраўднага бацьку. Не скажу, што яна была дрэннай маці, але ў яе ўсё ішло абы-як. Кожным ранкам, перахапіўшы нахуткую зроблены ёю бутэрброд з сырам, я спрабаваў збегчы катацца на скейце, але яна даганяла мяне на лесвіцы і крычала, што я павінен глядзець сястру. А гэта зусім і не мая сястра, а дачка другога бацькі. І навошта яна выйшла за яго замуж? Навошта ён увогуле быў патрэбен, калі гэткі ж бядняк, як і мы. Толькі што машына... А так мы па-ранейшаму жывём у халупе, і як да яго, грошай у нас заўсёды ў абрэз...

Я, канешне, не марную дарам часу: падпрацоўваю на мыйцы, хоць ёй і не гавару. Няхай лічыць мяне за гультая. Ну, а калі маці раптам спатрэбяцца грошы, тады я... Але ж і тых грошай у мяне няшмат. Цікава, калі я пайду сёння да Эльзы, трэба ж купіць ёй хаця б адну кветку... І тут я задаволена хмыкнуў сам сабе: навошта купляць тое, што можна атрымаць бясплатна? Я ўжо не раз выкарыстоўваў гэты трук: ляцець на скейце і на хаду хапаць з латкоў то булачку, то піражок. Гэтак я вырашыў пытанне і з кветкай.

Эльза чакала мяне ў цені дрэва, на лаўцы ля гатэля.

— Прывітанне, прынц! — усміхнулася яна, убачыўшы ў маёй руцэ кветку.

— Не! Гэта ты прынцэса. Я не магу быць прынцам, таму што я — бедны.

Яна відавочна замаркоцілася.

— Не трэба так. Лепш пойдзем прагуляемся.

— На начны пірс? Там прыгожа...

— Не, мне так далёка нельга — раптам тата раней вернецца і будзе мяне шукаць.

Яна самотна хітнула галавой, а потым запыталася:

— А ў цябе строгія бацькі?

— У мяне толькі мама.

— А дзе ж бацька?

— Не ведаю, мама не хоча тлумачыць.

— Чаму?

— Яна разышлася з ім і забараняе называць яго імя. Ну што, пойдзем?

— А табе колькі можна гуляць?

— Хоць усю ноч! У мяне мама спявае ў начным клубе.

— Відаць, гэта цікава?

— Фігня! — я сплюнуў на асфальт.

Яна паморшчылася, я гэта заўважыў.

— Прабач, у мяне дрэнныя манеры. Але я буду старацца стаць лепшым.

— Ты вельмі шчыры. А манеры... вывучыць этыкет — не складана.

— Этыкет... Гэта што — вялікая этыкетка?

Яна засмяялася.

— Не, этыкет — гэта правілы, як сябе паводзіць.

Я ўжо не помню, пра што мы яшчэ размаўлялі, бязмэтна гуляючы па вулачцы каля яе шыкоўнага гатэля. Прыгадваю, што шмат жартавалі, смяяліся, елі марозіва. Я навучыў яе крыху катацца на скейце.

Дамоў я вярнуўся ў дзіўным настроі. Штосьці перапаўняла мяне знутры вельмі радаснае, прыгожае. Пачуццё, якое раней ніколі не прыходзіла да мяне.

Мама чамусьці была дома.

— Ты не ў клубе? Што здарылася?

— Не твая справа!

Яна ліхаманкава пералічвала грошы. Па выразе ейнага твару было відаць, што грошай катастрафічна не хапае.

Я яшчэ раз зірнуў на яе засяроджаны сумны твар і раптам нечакана для сябе прапанаваў:

— На, вазьмі яшчэ і мае, — і перадаў ёй усё, што зарабіў на мыйцы за гэты месяц.

— Адкуль у цябе грошы? — здзівілася яна.

Я расказаў.

— Ты мяне ўратаваў! Ты проста не ведаеш, як мяне ўратаваў! — і маці ў парыве абняла мяне і пацалавала. Потым, хутка паклаўшы грошы ў сумачку, кудысьці збегла, так і не патлумачыўшы мне, што здарылася. Потым я даведаўся: у іх зламалася гітара, майстар патрабаваў аплату адразу, ні ў кога не мелася грошай, а гаспадар клуба плаціць не хацеў. У выніку, зрывалася выступленне, а значыць, — і ўся выручка за ноч.

Але тады мяне гэта мала хвалявала. Усе вечары я праводзіў з Эльзай. Мы ўсё ж рашыліся і схадзілі на начны пірс. Праўда, калі вярталіся назад, нейкія няўмекі на скейтах збілі мяне з ног. Я паваліўся. Эльза спалохана падбегла да мяне.

— Як ты? Моцна пабіўся?

Я адмоўна пахітаў галавой і сказаў:

— Дурні!

— Чаму яны дурні? Таму, што не ўмеюць катацца?

— Не. Таму што гэта яшчэ адна мая звычка: я так лаюся. Бачыш, я пакуль дрэнна засвойваю этыкет...

Яна дапамагла мне падняцца з асфальту, і мы разам пайшлі да гатэля. Яе бацька яшчэ не вярнуўся. Эльза збегала ў нумар, прынесла адтуль бінты, ёд, пластыр. Не скажу, што мне тэрмінова патрабавалася дапамога: я прывык падаць, бо катаюся на скейце не першы год. Але яна так ласкава і клапатліва лячыла мае драпіны, заклейвала пластырам сінякі, што не адмаўляўся: мне было прыемна.

Развітваючыся, я раптам успомніў:

— Ба! У мяне ж заўтра дзень нараджэння!

— Ой! — яна радасна ўсплёснула рукамі.

— Вось і ты навучылася гаварыць гукамі. Гэта я заразіў цябе.

Вінавата ўсміхнуўся, і яна ўсміхнулася мне ў адказ.

* * *

Я люблю свае дні нараджэння. Можа, ад таго, што хаця б у гэты дзень мне дастаецца ўся маміна ўвага. Яна нібыта просіць прабачэння. У гэты дзень наганяе ўсё тое, чаго я чакаю цэлы год. Але потым яна ўсё ж збягае на сваю працу, а я моўчкі катаюся на скейце па горадзе і згадваю ўсё тое, што маці мне казала, усе ейныя словы і ўсмешкі.

І вось упершыню я сустракаў дзень свайго нараджэння з кімсьці яшчэ, з тым, хто быў мне не менш дарагім. Эльза запрасіла мяне ў кавярню.

— Але, паслухай, у мяне няма грошай... — сумеўся я ў адказ на яе прапанову.
— Давай дамовімся: у цябе дзень нараджэння, таму плачу за ўсё я. А калі ты заробіш грошы, то запросіш мяне ў кавярню і будзеш плаціць сам. Згода?
Я пагадзіўся, тым больш, што гаварыла яна гэта вельмі рашуча.
Мы весела правялі вечар: каталіся на каруселі, гулялі ў інтэрнэт-кафэ, а пасля каталіся на маім новым скейце. Так, яна падарыла мне новы скейт. Шкада, што так хутка закончыўся гэты вечар і што ў яе такі прынцыповы бацька, бо ёй патрэбна ў час быць дома...

* * *

Дні праляталі імгненна, нібыта я на скейце міма старога булачніка, які пагражаў мне ўслед кулаком за ўсе скрадзеныя ў яго бублікі і піражкі. Я і не заўважыў, як закончыўся гэты месяц — самы прыбытковы ў нашым горадзе. І не адразу зразумеў, што гэта значыць. А гэта значыць, што Эльза ад'язджае.
— Слухай, а давай я цябе ўкраду? Як у кіно?
Яна сумна пахітала галавой.
— Не. Я таксама хачу быць побач з табой, але гэта немагчыма. Я вельмі шкадую тату. Ён строгі на выгляд, але добры. З таго дня, як памерла мая маці, ён жыве толькі дзеля мяне.
Пачуўшы гэтыя словы, я ўспомніў сваю матулю і зразумеў: яна разрывалася між начным "тусам" і намі, дзецьмі. Позна ўночы прыходзіла дамоў і кідалася да нас, але, стомленая, так нічога і не паспявала...
— Ты пішы мне, — Эльза працягнула аркуш паперы з яе адрасам. — Абавязкова пішы! Ну што ты маўчыш? — яна ўмольна паглядзела на мяне.
Здрадніцкі камок слёз падступіў да горла, і я змог толькі сказаць:
— У-ля-ля!..
Я так і не пазбавіўся сваёй дурнаватай звычкі, але, думаю, Эльза мяне зразумела...
Яна з'ехала ў другі горад, мая прынцэса. У далёкі вялікі горад, куды ішлі мае лісты, напісаныя неакуратным почыркам мыйшчыка чужых машын.
Прамінула тры гады, і мы сустрэліся. Я ледзь пазнаў яе: Эльза стала яшчэ больш прыгожай, хаця, здавалася, што гэта ўжо немагчыма. Я падрос і таксама змяніўся — стаў даўгалыгім сарамлівым хлопцам з хрыпатым голасам, які пачынаў прабівацца на першыя басы. Зусім не прыгажун, але Эльза ўсё роўна страшэнна ўзрадавалася мне.
Былі і яшчэ сустрэчы, таму што яна кахала мяне, а я — яе. Але з кожным разам мне здавалася, што Эльза няўлоўна аддаляецца, нібыта адплывае ўсё далей і далей, як той караблік нашага дзяцінства, калісьці пушчаны намі з начнога пірса...
І вось гэты час надышоў. Час развітацца з Эльзай назаўсёды. Яна паехала вучыцца за мяжу ды так і засталася там: бацька стварыў нейкую фірму, і больш яны не прыязджалі.
Але ж так і павінна быць, бо наша жыццё, на жаль, — усё ж такі не казка...
Праўда... Аднойчы прыйшоў ліст і чэк на вялікую суму. Эльза прасіла, каб я вучыўся на гэтыя грошы. Я выканаў яе просьбу: атрымаў спецыяльнасць, стаў добра зарабляць. І мама ўпершыню змагла спадзявацца толькі на мяне. І я клапачуся пра яе і пра сястру, якую перастаў лічыць «несапраўднай». Дарэчы, мама вельмі ганарыцца тым, што я скончыў універсітэт, зрабіўся разумным і выхаваным. Больш не блытаю этыкет з этыкеткай ад піва. Я не пярэчу ёй, але зрэдку ціхім летнім вечарам іду на ўскраіну горада, дастаю свой скейт, заскокваю на яго старую, правераную гадамі дзяцінства платформу, з усёй моцы разганяюся па дарозе і крычу так і не забытае:
— У-ля-ля!

## Фантазіі для скрыпкі кахання

Тралейбус спыніўся. Дзяўчына ля вадзіцельскай кабіны, відаць, убачыла праз шыбу аўтобус на прыпынку, хацела пераскочыць — ірванула ў адкрытыя дзверы, але зачапілася сумачкай, завагалася, і аўтобус ад'ехаў.

Рыхард націснуў кнопку на пульце, і дзверы зачыніліся. Ён зірнуў у люстэрка на засмучаную дзяўчыну.

— Наступны прыпынак — «Азёрная». Будзьце асцярожныя, выходзячы з тралейбуса.

Пачуўшы гэтыя словы, дзяўчына павярнулася да яго, можа, палічыла, што ён смяецца з яе.

А ён назіраў за ёй у люстэрка. Звычайнае аблічча. Толькі вусны крыху прыпухлыя, як у дзіцяці, і пасмачка фарбаваных пад каштан валасоў непакорліва час ад часу закрывае вочы, замінаючы гаспадыні лёгкага паліто і сумачкі колеру бэзу.

Рыхард часам назіраў за пасажырамі на прыпынках. Маршрут ён ведаў на памяць, песні, што гучалі ў прыёмніку, за змену чуў не адзін раз, таму час ад часу спыняў вока на сваіх выпадковых пасажырах, што выходзілі, заходзілі, ехалі, потым зноў выходзілі і заходзілі новыя.

А дзяўчына ўсё стаяла, прытуліўшыся да поручня вадзіцельскай кабіны.

Рыхарду зрабілася шкада яе. Ён нават хацеў дагнаць хуткасны аўтобус, у які яна так імкнулася перасесці. Але тады пасажырка радасна знікне, а ён чамусьці вельмі хацеў, каб яна праехала ў яго тралейбусе яшчэ хоць некалькі прыпынкаў. Дзіўнае жаданне, і ён усведамляў гэта. Але Рыхард прывык, што яго лічылі дзіваком. Ён апраўдваў сябе:

...кожны чалавек павінен калі не жыць, то хаця б думаць так, як хоча, і не трэба штосьці даказваць, абвінавачваць ці апраўдваць. Жыццё толькі адно, і выбар адзін. А каму з нас у гэтым жыцці не хочацца цуду? Зрэшты, свет уяўны, створаны табой у тваіх марах, заўсёды лепшы за свет сапраўдны, за свет рэчаіснасці. І, можа, няпраўда, што ёсць дзеці і ёсць дарослыя. Гэта штучныя межы. Нішто не праходзіць, усё застаецца з намі. Як вера ў казку ў дзяцінстве, так і вера ў будучыню ў дарослых. Звіняць казачныя званочкі імгненняў, але не кожны мае абсалютны слых, каб пачуць і прыкмеціць сваю казку, свой самы важны момант, каб пачуць лёгкія крокі кахання...

За лабавым шклом закружыў снег, такі недарэчны сакавіцкі снег. Бязмэтна падае ён у веснавыя калюжыны, на мокрую дарогу, мокне камякамі, і тады здаецца ад шоргату шын, што тралейбус нібыта едзе ўброд праз раку. Цяжкі час для пешаходаў — дні прамоклых паліто, штанін, чаравікаў і дрэннага настрою.

Рыхард уключыў «чысцільшчыкі» — працерці шкло. Глянуў: дзяўчына падалася да дзвярэй. Ну вось і ўсё... Ён не можа выйсці і правесці яе дамоў, запытаць, як яе завуць, ці радуецца яна вясне. Замест гэтага ён скажа:

— Наступны прыпынак «Завадскі». Своечасова аплочвайце праезд.

І знікне ён, і знікне яна ў апошнім водгаласе зімы.

На гэтым прыпынку выходзілі амаль усе, вось і цяпер засталося толькі некалькі пасажыраў. Яшчэ два рэйсы — туды-назад, ён вольны ўскочыць таксама ў які-небудзь запознены тралейбус і дапаўзе на ім, хуткім, як чарапаха, да знаёмага прыпынку — двух мокрых кіёскаў на начной вуліцы...

* * *

Гэты дом палохаў усіх сваіх наведвальнікаў рэхам. Ад крокаў, кашля, неасцярожнага руху. Дом быў стары, але, відаць, вельмі хацеў жыць: прапускаў чужое жыццё праз свае сцены, дзверы, свой голас.

Каця любіла гэтае рэха, гэты голас дому, як любяць голас сябра. Мабыць, любіла таму, што ён быў з ёю з дзяцінства, і ўсе, хто нарадзіўся і жыве ў гэтым доме, таксама любяць яго і яго рэха. Але жыхароў было цяпер не так шмат. Прыезджыя пужаліся рэха, даўно хацелі зрабіць рамонт, каб пазбавіцца яго. Каця не разумела іх: можна ж проста з’ехаць з таго месца, дзе ты не можаш жыць, дзе ты чужы.

Яна дастала ключ з сумачкі, што так падвяла яе сёння, адамкнула дзверы. Насустрач ёй кінуўся кот, замуркаў, пацёрся аб нагу: прасіў есці.

Зазваніў тэлефон.

— Кэт, дзе ты прападаеш?

— Я доўга ехала ў тралейбусе...

— Кэт, Слава арганізоўвае вечар. Ты будзеш?

— Я доўга ехала ў тралейбусе... І...

— Гэта я чуў.

— Разумееш, я не хачу ехаць назад... Мне так добра, што я дома...

— Я прыеду за табой. На такім жа тралейбусе, — ён засмяяўся.

Гудкі.

Дзіўна, ён нават не захацеў даведацца, ці згодна яна некуды ехаць з ім. Кэт... Зрэшты, усе называлі яе па-рознаму. Мама клікала яе Катрын, тата — Кацяй. Але іх больш няма. І яна заблыталася ў імёнах, і ўжо не ведала, хто яна, якое яе імя, таму кожнаму называлася па-рознаму, а гэта вельмі небяспечная справа: другое імя — і ты ўжо не ты, а іншы. За гэта Алег называў яе дзівачкай. А вось ён не быў дзіваком ці дзівакаватым. Ён быў рэальным і практычным. Чамусьці ўсе такія людзі здаваліся Катрын выразанымі з дрэва. Яна так уяўляла іх у дзяцінстве. Чаму? Мабыць, на гэта цяжка знайсці адказ. Праўда, ужо два гады, як яна ні стараецца, не можа знайсці адказ ні на адно пытанне. Марная справа — апраўдваць, асуджаць, тлумачыць... Чалавек павінен калі не жыць, то хаця б думаць так, як хоча. Жыццё толькі адно, і выбар адзін. А каму з нас у гэтым жыцці не хочацца цуду? Зрэшты, свет уяўны, створаны табой у тваіх марах, заўсёды лепшы за свет сапраўдны, за свет рэчаіснасці. І, можа, няпраўда, што ёсць дзеці і ёсць дарослыя. Гэта штучныя межы. Нішто не праходзіць, усё застаецца з намі. Як вера ў казку ў дзяцінстве, так і вера ў будучыню ў дарослых. Звіняць казачныя званочкі імгненняў, але не кожны мае абсалютны слых, каб пачуць і прыкмеціць сваю казку, свой самы важны момант, каб пачуць лёгкія крокі кахання...

І яшчэ ёсць кропка, мяжа, за якой рэальнае жыццё траціць для чалавека сэнс.

* * *

Тралейбус прабіваўся праз мокры снег. Сур’ёзны малады мужчына ў чорным паліто з букетам чырвоных, як перастаялая кроў, руж, нервова барабаніў пальцамі па вадзіцельскай кабінцы.

— Талон.

Рыхард выдаў яму талон. Мужчына выйшаў на тым прыпынку, дзе выходзілі амаль усе.

Дом у чарговы раз напалохаў яго рэхам. Як толькі Кэт жыве ў гэтым доме? Колькі разоў ён прапаноўваў ёй пераехаць...

Ён пазваніў. Доўга не было чутно ні гуку. Нарэшце яму адчынілі. Са шкадаваннем ён адзначыў, што Кэт вельмі бледная, відаць, хвароба не адпускае яе.

— Ты стамілася?

— Не ведаю.

— Я ехаў на тралейбусе.

— Ты герой.

Алег павесіў паліто, паставіў у вазу ружы, прысеў на канапу. Ён думаў, яна скажа што-небудзь, але Кэт маўчала. Ён не здзівіўся: з ёй бывала такое. Але ён кахае яе. Кахае яе бледнасць, яе бездапаможнасць, яе дзіцячыя вусны. Не раз пытаўся: навошта яму гэта? Кэт трэба забыць, чым хутчэй, тым лепш для яго. Але ён не мог яе кінуць. Напачатку быў аргумент: хто ёй дапаможа? Але... але яна нават не хавала таго, што не кахае. Ён быў для яе сябра, а хацеў быць для дзяўчыны ўсім...

Катрын глядзела на яго і думала:

...ён мне сябра, але хоча быць усім, жыць толькі для мяне. І каб усё было як ва ўсіх. Як ён прывык. Але ж ён заўсёды хацеў валодаць усім цалкам. Захапіць, валодаць і ахоўваць. Алег і не здагадваецца, што ўсё не заўсёды проста, не пакутуе ад пытання: а што пасля? Ён і не здагадваецца, што, каб захаваць каханне, трэба ўмець ахвяраваць сабой і стрымліваць сваё сэрца. Адкрыўшы яго поўнасцю, адкрыўшы сябе, ты нічога не пакідаеш для будучыні. Каханне трэба піць, як дарагое віно, але ўсё роўна, як ні адцягвай момант, надыходзіць ап'яненне. І каханне заканчваецца, надыходзіць перанасычанасць адно адным. Нельга затрымлівацца, трэба разыходзіцца ў час, калі яшчэ можна захаваць у душы апошнюю кроплю кахання — свой цёплы ўспамін пра яго...

— Трэба збірацца, Кэт. У нас мала часу.

— Чаму, у нас хапае часу... Жыццё...

Ён прымоўк. Яна зноў хацела, каб ён сышоў. І, здавалася, ён ведаў пра гэта. У роспачы думаў: што рабіць, чаму яна не кахае мяне?

...Катрын думае: чаму я не кахаю яго. Ён жа столькі для мяне зрабіў. Каб кахалі за колькасць зробленага, ён атрымаў бы каханне ў дзесяцікратным памеры. Але ніхто не ведае, чаму прыходзіць каханне. І яна не ведае. Самы просты адказ: проста так. Сказаць яму? Не, лепш не трэба.

— Ты сёння хадзіла да ўрача?

— Хадзіла. Ён сказаў, што ўсё нармальна. І я бегла цэлы прыпынак, а пасля ехала на тралейбусе і наважылася нават перайсці ў хуткасны аўтобус. Але дзвярыма зашчаміла сумачку... Ты не злуешся на мяне, Алег? Я сёння такая нядобрая...

За гэтую хвіліну пяшчоты ён быў здольны дараваць ёй усё. Яму было добра, утульна побач з ёй.

...Яму так добра са мной. А мне?.. Чаму ён для мяне такі чужы? Я павінна кахаць яго, але не кахаю. Можа, таму, што ён добры толькі са мной. А так ён другі. Можа...

— Я кахаю цябе, Кэт, — ён пагладзіў далонню яе валасы. — Мне пара. Не ездзі на тралейбусе.

* * *

Рыхард вярнуўся дамоў у сем гадзін вечара. Дзіўна, але, пакідаючы тралейбус у парку, ён згледзеў ля кабіны шматок паперы. Ледзь разабраў: «Кэт, я дасылаю табе...» Гэта ўсё, што ён мог разабраць. Кэт... Дзіўнае імя. Але і ў яго таксама. Бацькі назвалі ў гонар нейкага разведчыка. Але ён не стаў ваенным. Рыхард хацеў быць музыкантам. І ён збег са свайго маленькага гарадка, як толькі скончыў школу. Але

«ніхто яшчэ не навучыўся жыць толькі з музыкі», як гаварыў ягоны сябра, таксама музыкант, яго пасля забралі ў войска. Ён застрэліўся, знік, і жыў, мабыць, толькі ў яго, Рыхардавай, памяці, як і ягоныя словы: «Жыццё — адны фантазіі... Фантазіі для скрыпкі кахання».

А Рыхард жыў, вадзіў свой тралейбус. Зрэшты, занятак, якім ты зарабляеш сродкі на жыццё, не мае да тваёй душы вялікага дачынення. Асабліва, калі яна страціла ўсё: мінулае, мару, а значыць, і будучыню. Яе ўжо нічым нельга больш пакрыўдзіць. І цябе цікавіць толькі адно: колькі яшчэ ты зможаш вытрымаць на гэтай зямлі? Ёсць, праўда, адзін сродак — лёгкія крокі кахання. Іх чакаеш да апошняга, верыш, што існуе таксама нехта, падобны да цябе...

Каб пазбавіцца гнятлівых разважанняў, ён уключыў музыку і наліў у фужэр віно. Ён любіць віно...

* * *

Кэт уключыла музыку і наліла віно ў фужэр.

...Яна любіць віно. Яно сагравае, растоплівае ўнутры лядзяшык холаду. І добра засынаць, калі за вокнамі вецер, невядома што — зіма ці вясна...

І яшчэ яна чамусьці падумала, што заўтра зноў паедзе на тралейбусе. Будзе глядзець на дарогу... наперад. Той раз яна прачытала на таблічцы імя вадзіцеля з сумным тварам. У дзяцінстве яна чамусьці хацела закахацца ў мужнага чалавека з самотнымі вачыма. Прынца, рыцара, пакутніка...

* * *

Рыхард здзівіўся, калі зноў убачыў ля сваёй кабінкі Кэт. Яна гэтак жа трымалася за поручань, як у першы раз. І побач быў аўтобус. Рыхард акуратна прытармазіў, каб яна магла пераскочыць. Але дзяўчына не захацела. Яна паехала з ім далей.

І кожны дзень яна ездзіла на яго тралейбусе. Яны не рабілі спробы загаварыць, пазнаёміцца. І Рыхард адчуў, што пачаў з радасцю чакаць новага дня і Кэт. Проста бачыць яе. Не набліжацца. Набліжэнне знішчае казачную сілу яўлення, прыводзіць да расчараванняў. А расчаравання ён баяўся больш за ўсё. Ён баяўся болю ў сэрцы. Няхай усё будзе проста так. Зрэшты, якая розніца, чым яна займаецца, дзе жыве, чытае яна Тургенева ці Чэйза...

* * *

...Кэт адчула, што ранкам яна пачала прачынацца з радасцю. Спачатку не разумела, чаму. Пасля нешта мільганула ў свядомасці. Тралейбус, гэты дзіўны вадзіцель з імем Рыхард, што ўвесь час так самотна глядзіць на яе. Ён не імкнецца пазнаёміцца. Гэта добра. У гэтым ёсць таямніца, загадка. Набліжэнне знішчае казачную сілу ўяўлення, прыводзіць да расчараванняў. А расчаравання яна баялася больш за ўсё. Баялася болю ў сэрцы. Няхай усё будзе проста так. Зрэшты, якая розніца, чым ён займаецца, дзе жыве, чытае Тургенева ці Чэйза...

* * *

Вясна ўпарта адбірала ў зімы горад. Яе пераможныя войскі — ручаі, сонца — знішчалі снег. Прыйшло восьмае сакавіка, і Рыхард вырашыў падарыць кветкі Кэт.

Ён зранку купіў вялікі букет белых шабо і паставіў у сваёй кабіне. Яна ўбачыць іх і зразумее, што гэта для яе. З хваляваннем Рыхард чакаў прыпынку, на якім, як заўсёды, з'явіцца Кэт. Аднак яе доўга не было, і ён спыніў тралейбус, чакаў. Пасля схадзіў у кіёск па цыгарэты. Калі вярнуўся, адчуў, што пасажыраў нервуе затрымка. Што ж, яны ні ў чым не вінаватыя. І ён паехаў, праўда, не закрываў пярэднія дзверы. І тут убачыў яе: яна бегла, спяшалася. Ён спыніўся, Кэт ускочыла ў тралейбус. Рыхард заўважыў, што яна вельмі бледная і ледзь не задыхаецца ад бегу, пасля пачала кашляць. І ён зразумеў, што Кэт чымсьці вельмі хворая...

Кэт павярнулася і паглядзела на кветкі. Яна зразумела, што гэта для яе і — ўсміхнулася... Упершыню ён убачыў, як яна ўсміхаецца.

І ўсю дарогу дзяўчына прастаяла побач, ля яго кабінкі, гледзячы на кветкі... Пра што яна думала, Рыхард не ведаў, але адчуваў, што яна хоць крыху, але думае і пра яго...

Гэты дзень быў шчаслівым, як ніколі, сапраўдны святочны дзень. Адзін. Таму што ён марна і доўга чакаў яе ў наступныя дні, але яна не ішла. Так доўжылася тыдзень: ён чакаў, а яе не было... Няўжо ён чымсьці абразіў яе? Гэтыя кветкі... Усё ж гэта быў нейкі крок да яе. Крок, які, можа, не трэба было рабіць... Пры ўспаміне пра Кэт у Рыхарда сціскалася ад унутранага болю сэрца. Ён не хацеў, каб было так. Але... Позна, і не трэба нічога высвятляць. Як нельга набліжацца — сэрцам да сэрца. Хаця... Яно заўсёды адбываецца — набліжэнне. Каханне. Дарагое віно...

* * *

Калі Рыхард упэўніў сябе, што Кэт больш не прыйдзе, яна з'явілася. Адчыніла дзверцы яго кабінкі і сказала толькі два словы: «Я хварэла». Ён кіўнуў. Рыхард адчуваў яе позірк на сабе, і яму было добра. Чалавеку так мала трэба для шчасця... Толькі каб верылі, думалі пра яго і любілі. Усё астатняе — мітусня.

Кэт выйшла на сваім прыпынку. Але заўтра яна прыйдзе зноў. Заўтра...

* * *

Заўтра выдалася сонечным і цёплым. Рыхард ехаў і ўсміхаўся сам сабе ў люстэрка. Пад'язджаючы да прыпынку, убачыў, як Кэт перабягае вуліцу. Але што гэта?.. Грузавік! Няўжо вадзіцель сляпы?.. Чорная аграмадзіна машыны закрыла Кэт.

Рыхард кінуўся з тралейбуса. Падбегшы, ён убачыў натоўп і на асфальце — нешта аблітае крывёй.

— Яна... яна будзе жыць?

— Вы што!.. Насмерць...

Рыхард няўцямна глядзеў на вясёлае неба, на сонечных зайчыкаў у аскепках шкла на заплямленай крывёю траве.

— Эй, з дарогі!.. — крыкнуў нехта.

Рыхард азірнуўся. Машыны, што стоўпіліся з-за аварыі, разварочваліся. Адна з іх набірала ход. Але Рыхард не зрушыўся з месца, нават крыху падаўся наперад. Як вадзіцель, ён ведаў, што пры такой хуткасці нельга спыніць машыну адразу. Ён ведаў і чакаў...

— Ідыёт! Ён мог бы жыць...

«Ідыёт... Быццам ён не ведаў, што мог жыць. Дакладней, ізноў існаваць...»

У апошнія імгненні ён думаў пра Кэт. Што гэта было?.. І, слабеючымі вуснамі прашаптаў, успамінаючы сябра:

— Нічога... Проста ...фантазіі. Фантазіі для скрыпкі кахання...

*Сяргей МАЦІН*

# ПРАГА ПРАЎДЫ
*Імпрэсія*



***Сяргей Мацін нарадзіўся 26 лютага 1994 года ў Мінску. Вучыцца на хімічным факультэце БДУ. Лічыць, што каханне заўсёды мае права на існаванне, нават калі яно падаецца дзіўным. Мяркуе, што чалавек унутры можа быць поўнай супрацьлегласцю ўласнаму знешняму выгляду. Друкаваўся ў часопісе «Маладосць» і газеце «Чырвоная змена».***

Я пішу табе, нібы сяброўка сяброўцы, і хай цябе гэта не здзіўляе: сама ж аднойчы чытала мой асабісты дзённічак, створаны для самаспазнання, але воляй лёсуператвораны ў шчырую справаздачу... Пішу, не спадзеючыся нават на кроплю разумення, але жадаючы паставіць апошнюю кропку над «і».

Свае дзіцячыя мары я не памятаю. Хаця не, штосьці ўсё ж магу прыгадаць: феі, лёгкія і прыгожыя, што выпраменьваюць пачуццё любові, з гэтага бела-жоўтага святла ўзнікаюць новыя феі, іх робіцца настолькі шмат, што ў пакоі яны ўжо не змяшчаюцца — сцены выбухаюць, нібыта гумовы шарык. У новым пакоі таксама хутка заканчваецца прастора, ён знікае, але прасторы зноў не хапае. Гэта працягваецца пакуль разам з феямі не пачынаюць рухацца межы Сусвету. Тут я звычайна прачыналася ад жаху.

Трэба зазначыць, што разуменне парадку лічбаў да мяне прыйшло ў дзевяць гадоў, разам з адным артыкулам у часопісе «Наука и жизнь». Там распавядалася, што праз дзесяць у сотай ступені гадоў у Сусвеце застануцца толькі электроны, кожны з якіх будзе адзіным асклепкам матэрыі ў прасторы, аб'ём якой будзе роўны дзесяці ў сто дваццаць сёмай ступені аб'ёмаў сучаснага Сусвету. Над гэтым артыкулам я плакала хіба не гадзіну. Нешта падобнае са мною здарылася значна пазней, у адзінаццатым класе, калі я пачула песню пра людзей далёкай-далёкай будучыні. Яны здолелі падпарадкаваць сабе зоркі, падзяліць іх, каб не марнаваць ядзерную энергію бессэнсоўна, але ўрэшце надышоў час, калі апошняя зорка амаль спыніла сваё існаванне, і з трыльёнаў мільярдаў гадоў, што ўжо пражылі гэтыя людзі, у іх застаўся нейкі летуценны мільён, а потым — непазбежны канец, бо Сусвет з'яўляецца тэрмадынамічнай сістэмай, і ягоная энтрапія павялічваецца, пакуль рух элементарных часціц не спыніцца назаўсёды... Але тады я ачомалася хутка — хвілін за пятнаццаць.

Прабач, сябровачка, за адыход ад тэмы — я рэдка спыняюся своечасова, і з гэтай прычыны пакутую. Але сутнасць маіх дзіцячых бясхмарных мар ты, спадзяюся, ухапіла. Пайду далей.

Школьнае навучанне разам з даволі спецыфічным выхаваннем не пакідала аніякага выбару, апроч таго, каб вучыцца настолькі аддана, наколькі гэта магчыма наогул. Дзіцячая цікавасць была ў гэтай справе вельмі-вельмі карыснай. Ты нават сабе і ўявіць не можаш ступені маёй тагачаснай адасобленасці ад аднагодкаў — што дзяўчат, што хлапцоў! Нават баўленне часу ў сеціве (а туды я ўпершыню трапіла ў дзесяцігадовым узросце) амаль не змяняла сітуацыі — у гэтым я падпарадкоўвалася матчынаму выбару, бо шукаць нешта іншае я не наважвалася — настолькі ёй давярала. Добра, што дзядуля навучыў мяне граць у шахматы — адпаведны гурток ажно да пачатку вучобы ў Ліцэі заставаўся маім адзіным адхланнем. Калі б і гэтага не мелася — я дакладна б скокнула з балкона, як неаднаразова парывалася, але ніколі не наважвалася.

Ліцэй падараваў самае каштоўнае, што толькі можа мець чалавек — свабоду, якая філігранна балансавала на мяжы анархіі і пазбаўлення волі. І другую па значэнні каштоўнасць — сяброў ды сяброўак. Ты — лепшая з іх, мудрая і шчырая. Менавіта ў тваёй адмове наталіць жаданні майго цела і хаваецца нейкае несвядомае, інтуітыўнае разуменне маёй *іншасці*, якому доўга трэба было расці, каб стацца свядомым, звыклым і натуральным. Хаця б для мяне самой.

Адна дзяўчына, гісторык, што скончыла Ліцэй у тым жа годзе, у якім я пачала там навучацца, стварыла дэбатны клуб, дзе я атрымала ўпэўненасць у размове. А адна з настаўніц заснавала тэатральны гурток, дзе я перамагла ўласную баязлівасць, а потым — літаратурную суполку, што ва ўніверсітэце сталася такім жа адзіным адхланнем, як шахматны гурток.

Дарэчы, спецыяльнасць я абрала пад уплывам рытарычных перамог і з-за захопленасці сістэмнасцю абранай навукі. Калі б я спазнала сябе раней — выбар быў бы зусім іншым. Але атрымалася так, як атрымалася.

Нібыта выпадкова (лёс палічыўшы за выпадковасць!) я ўпершыню назвала сябе так, як мне падабаецца, — Аліса. Потым узнікла яшчэ адна «лялька» — Аліна. Прозвішчаў у гэтых асоб не было, ды я і не лічыла іх асобамі — так, марыянеткі. Але ж да чаго прыемна было кіраваць гэтымі марыянеткамі!..

Тым жа (пазамінулым) летам я пазнаёмілася з дзіўнай дзяўчынай, што малявала змрочныя коміксы ў японскім стылі ды бязрадасна апісвала будзённы побыт у брудным і хмурным горадзе. Малюнкі і тэксты пацвярджаліся фотаздымкамі — такімі ж змрочнымі, як яе творчасць. Нібыта размаўляеш з чалавекам, які жыве ў пекле.

Час рухаўся. Марыянеткі дужэлі, стасункі з жыхаркай пекла развіваліся, але на рэальны свет гэта ніяк не ўплывала: у ім я ідэальна адпавядала ўсім магчымым патрабаванням.

Аднойчы тая самая дзяўчына (няхай яе клічуць Ліліяй Ільіной, а мяне — Алісай Чапскай) выказала сваё самае патаемнае жаданне:

— З'ехаць з гэтага выклятага Богам горада куды-небудзь далёка-далёка, дзе я буду займацца маляваннем, а хтосьці іншы, хто мяне зразумее і прыме, будзе забяспечваць мяне ежай, паперай, асадкамі, алоўкамі. І яшчэ каб меўся камп'ютар і сканер, з дапамогай якіх пачну алічбоўваць уласную творчасць. Тады я зраблюся шчаслівай...

— А ты дзе жывеш? — спытала я.

— У Піцеры.

— Я ў Мінску, але ў мяне ёсць лецішча недалёка ад сталіцы.

— У мяне таксама ёсць лецішча. Але там мяне ніхто не разумее...

— Я разумею.

— Ды што ты кажаш! Людзі ніколі не здолеюць зразумець адно аднаго *цалкам*...

І пасля паўзы:

— Я проста не веру ў тое, што такія добрыя людзі існуюць. Ты сапраўды можаш забяспечыць мяне ўсім гэтым?

— Сапраўды.

— А дзеля чаго табе гэта трэба? Ты, напэўна, лічыш, што я прыгожая маленькая дзяўчынка, якую, калі бачыш, хочацца ўзняць на рукі і не апускаць на зямлю, пакуль яна сама не папросіць. Ці не так?

— А што, гэта не так? — аўтаматычна спытала я ў адказ.

— Не так, і менавіта гэта галоўная прычына маіх пакут...

Калі б размова адбывалася з дапамогай голасу, а не тэксту — яна б заплакала.

— А як так атрымалася? — зразумеўшы, што яна мае на ўвазе, выгукнула я.

— Не ведаю... — ад гэтых слоў патыхала роспаччу.

Калі б я не была Алісай Чапскай яшчэ тады, на гэтым наша размова з Ліліяй і скончылася б. Але сугучнасць мар Чапскай з марамі Ільіной — сугучнасць, блізкая да рэзанансу — выратавала мяне і пачала знішчаць створаную за васямнаццаць гадоў прыгожую, але абсалютна штучную маску.

Цэлую восень я спрабавала зразумець яе, а яна — не палохацца мяне. На пачатку снежня мы сустрэліся, але я не здолела быць сабой, а звычка мераць усіх сваёю мераю прывяла да начной вандроўкі па Васільеўскім востраве, падчас якой Лілія ледзь не памерла, а я ад страху схавалася глыбока-глыбока ўнутры, пакутуючы ад уласнай нерашучасці. Да таго ж, я прамачыла ногі, і пасля вяртання доўга хварэла.

Зіма была падобна да восені, хіба што сэнсу адчувалася яшчэ меней, а бессэнсоўнага баўлення часу — яшчэ болей, чым восенню. Я ўвасобіла некаторыя дзіцячыя мары (чаго каштуе хаця б сустрэча Новага года на радзіме бабулі, у Жытомірскай вобласці!), але на душы было горка, як ніколі.

Хай Бог дапамагае пецярбургскай дэбатнай асацыяцыі! Менавіта яна арганізавала ў другі дзень вясны турнір, на які я паехала. Афіцыйна — каб атрымаць яшчэ адзін сертыфікат, які дапаможа ў маі ці верасні арганізаваць дэбатны клуб, а практычна — каб сустрэцца з Ліліяй і давесці ёй, хто я такая *на самай справе*.

І тады, калі мы стаялі на кухні ды абдымаліся, баючыся, што хтосьці з прысутных у кватэры прачнеццца, жадаючы большага, але ведаючы, што з *гэтым* варта пачакаць да ліпеня, я адчула, быццам за спінаю вырастаюць крылы. Крылы, у якіх я сабе заўсёды адмаўляла і якія хавала глыбока-глыбока ў душы. Крылы, якімі я абавязкова абхаплю Лілію, і мы паляцім над Заходняй Дзвіной, Нёманам, Прыпяццю, Дняпром, Свіслаччу — і так да апошняга дня жніўня. А калі прыйдзе час развітвацца, мы па-ранейшаму будзем здавацца сябрукамі — Андрэем ды Алесем — але на самай справе будзем самымі ўзаемаадданымі каханкамі, што калі-небудзь жылі на гэтым абшары, які годна завецца Беларуссю.

Генрых ТАРАСЕВІЧ

# ДЗЕ ВЫ, МАЕ ЮНАЦКІЯ ГАДЫ?

*З вянка санетаў «Юнацтва»*



***Генрых Тарасевіч нарадзіўся 23 лістапада 1960 года ў мястэчку Новы Двор Шчучынскага раёна. Працуе саветнікам-кансультантам Сакратарыята Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. У сваёй творчасці аддае перавагу класічным формам паэзіі.***

**1**

Маё мястэчка, мой радзінны стан.
Прайшлі, як сон, юнацкія там леты.
І толькі ў памяці салодкі зман —
Дазвання недасяжная планета.

Мне часта сняцца школьныя часы,
Таемны шпіль драўлянага касцёла,
Сяброў выявы, блізкіх галасы…
Ад іх на сэрцы светла і вясёла.

Няўмольны час… Бяжыць за годам год,
Падзей і спраў адвечны карагод,
Жыццё маё ўспамінамі сагрэта,

Сярод якіх мясціна Новы Двор —
Сумлення, веры, шчырасці дазор,
Зямны выток для боскага санета.

**3**

Гаючы сродак ад душэўных ран —
З юнацтвам віртуальныя сустрэчы.
Я памяці сваёй высокі сан
Цаню й шаную — сам яе паплечнік.

…О, Новы Двор! Заўжды я паспяваў
З Літвы пад дах бацькоўскай роднай хаты.
Іграў на танцах весела, спяваў
З гуртом эстрадным — быў саліст заўзяты.

Адбітак клуба ў возеры застыў,
Гітарных струн знаёмы ўсім матыў,
У джынсы моладзь модна «прыадзета»…

Малой радзімы сціплы дабрабыт,
Тутэйшай мовы мілы каларыт —
Прамень надзеі і святла паэта.

**9**

Дзе вы, мае юнацкія гады,
Даўнейшых дзён часіны залатыя?
Уласны свет мне дараваў тады
Выключна мары-мроі маладыя.

…Цнатлівая узнёсласць пачуцця
Да вабнай і гарэзлівай дзяўчынкі,
І як прадвесце сталага жыцця —
Адчайныя хлапечыя учынкі.

Таго кахання першага charmant*—
Не выветраны ўвесь яго туман —
Старт у дарослаСць памятны заўжды.
Прыгоды немагчыма затрымаць,
Але мажліва ў думках натаваць
Былых падзей адметныя сляды.

**10**

Былых падзей адметныя сляды
Хвалююць і трымаюць у палоне —
Самотны напамін, што халады
Пакрылі срэбрам так заўчасна скроні.

Жыццё — не чорна-белае кіно,
Яно выразней і глыбей заўсёды.
Але хто зведаў, зрэшты, тое дно,
Спазнаў дабра спрадвечную прыроду?

Жыве і дбае кожны чалавек,
Каб быў яго дазвання шчодрым век,
Каб гожыя дзянькі да скону не звяліся.
Маіх юнацкіх спраў апафеоз,
Як і надзеі на шчаслівы лёс,
Напэўна, вечна ў сэрцы засталіся.

**12**

Не вернецца ніколі маладосць —
Няма нічога вечнага на свеце.
Юнацкіх шчырых зносін прыгажосць
Увасабляюць сёння нашы дзеці.
Падзеі не здараюцца наўгад —
Усё аснову мае пад сабою.
Не зацвіце раптоўна сонны сад
Пад Новы год сцюдзёнаю зімою.

Які б не быў былых учынкаў след,
Заўсёды цемру пераможа свет —
Жыццё адужае сляпую злосць…
Каб мець настрой на многія гады,
Патрэбна ўспамінаць сяды-тады
Гадоў студэнцкіх радасць-весялосць.

**14**

Куды сышло, юнацтва, адгукніся
Дзявочым смехам, рытмамі гітар,
У светлых мроях ясна аднавіся,
Як з даўніх год пасланы небам дар!

Былі ці не цудоўныя імгненні,
Пасля якіх хацелася лунаць
І з радасці людское акружэнне
На шчасце ад душы расцалаваць.

Узрост любы для чалавека важны,
Ды найчасцей у думках неабсяжных
Гучыць з дзяцінства велічны арган,

Хоць збегла з тых часоў вады нямала,
Калі мяне люляла, гадавала
Маё мястэчка, мой радзінны стан.

**15**

Маё мястэчка, мой радзінны стан —
Зямны выток для боскага санета,
Гаючы сродак ад душэўных ран,
Прамень надзеі і святла паэта.

Тут веды я і вопыт набываў,
Удзячны за навуку роднай школе!
З паловай класа шчыра сябраваў,
Спасцігнуць моц жывога слова здолеў.

Дзе вы, мае юнацкія гады?
Былых падзей адметныя сляды,
Напэўна, вечна ў сэрцы засталіся.
Не вернецца ніколі маладосць,
Гадоў студэнцкіх радасць-весялосць…
Куды сышло, юнацтва, адгукніся!

* Charmant (фр. — шарман) — зачараванне.

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# ЦІША

## Аповесць



***Андрэй Федарэнка нарадзіўся 17 студзеня 1964 года ў вёсцы Бярозаўка Мазырскага раёна. Скончыў Мазырскі політэхнікум і Мінскі інстытут культуры. Працаваў у «Полымі», «Маладосці», на кінастудыі «Беларусьфільм». Выдаў кнігі прозы «Гісторыя хваробы», «Смута», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг».***

### 1

У 1980-м Петрусю Двораку было шэсць гадоў, і жыў ён разам з маці і з бабуляй Домнай у белым цагляным доміку на гарадской ускраіне Чэшская Слабада.

Маці працавала непадалёку — два прыпынкі аўтобусам — у прыгарадных цяпліцах, бабуля сядзела дома, атрымлівала пенсію, глядзела гаспадарку і ўнука.

Што да Петрусёвага бацькі, малодшага сына бабы Домны — Марка, той быў «капітан дальняга плавання», у Слабадзе аб'яўляўся рэдка, раз ці два на год, а ўвесь астатні час плаваў па рэках далёкай Сібіры, зарабляў грошы, каб пабудаваць кааператыўную кватэру ў «мікрараёне», — менавіта так слабадчане казалі — не горад, не мястэчка, не райцэнтр, а ўрачыста, спаважна: «Мікрараён!», пры гэтым чамусьці падымалі вочы ўгору.

Бабуля Домна лічылася «ўдавой франтавіка вайны», а таксама «мнагадзетнай маці-гераіняй». Яе муж, Петрыкаў дзед Андрэй, ляжаў пахаваны на мясцовых могілках. Вясною ўнук з бабуляй бралі бляшанку з фарбай і бутэльку аліфы і адпраўляліся паднаўляць магілку. Фарба была зялёнага колеру, а аліфа — жоўтая, цягучая, як мёд. Пакуль Петрык, у якога ад пахаў прыемна кружылася галава, боўтаў палачкай у бляшанцы, бабуля фарбавала. Зялёная агароджа паступова пачынала зліваццa з колерам маладой травы і лісцем акацый, і нават стары дубовы крыж пад бабуліным пэндзлем маладзеў, распростваўся, нібы таксама сабраўся пускаць карані і выкідваць з сябе галінкі.

Былі ў бабы Домны яшчэ два старэйшыя сыны, родныя Петрусёвы дзядзькі, таксама сямейныя. Звалі іх Стах і Стэфан. Стэфан жыў побач, у Слабадзе, а Стах — у тым самым чароўна-заманлівым, недасяжным мікрараёне. Усе тры браты мелі розную знешнасць: Стэфан — светлы, Стах — руды, Марк — чарнявы; затое былі аднолькавыя характарамі: упартыя, упёртыя, ганарыстыя і надта ж нядружныя, да таго, што за вочы іх празвалі «браты Карамазавы», і гэтая дражнілка даўно гуляла па наваколлі як анекдот, як абазначэнне пустой крыўды:

«Чаго надзьмуўся, як той Карамаз?», ці «Вам яшчэ не хапала сварыцца, як тым Карамазавым!»

Ніхто, у тым ліку і самі браты, не памятаў прычыны, з-за чаго ўсё пачалося, але гэтая варажнеча паміж імі цягнулася каторы ўжо год, і канца ёй не відаць было. Браты ўвесь час пнуліся даказаць сабе і людзям, хто з іх траіх лепш жыве, прычым кожны быў упэўнены, што толькі ён адзін як трэба ў жыцці ўладкаваўся, самы разумны, удачлівы і гаспадарлівы, а тыя два — нікчэмныя шалапуты. Здаровыя дарослыя дзядзькі — Стэфану было 50, Стаху 45, Марку 40, а капрызнічалі горш за малых дзяцей: не віталіся, амаль не размаўлялі, не кажучы ўжо, каб сабрацца разам, як у іншых сем'ях, выпіць, пагаварыць, паабдымацца, паспяваць...

Бабуля Домна вельмі перажывала за сыноў, старалася памірыць іх, але пакуль марна.

І толькі малому Петрыку было ўсё роўна. У свае шэсць ён быў перакананы, што ён — самы шчаслівы чалавек на зямлі, людзі, якія яго акружаюць, самыя лепшыя, самыя добрыя, а выдумляюць яны нейкія праблемы проста так, ад няма чаго рабіць, каб яшчэ весялей жылося. Гэта ў іх такая гульня.

Іншае цікавіла Петрыка. Напрыклад, ён часта ўяўляў, як аднойчы расчыняцца дзверы, стане ў парозе бацька, стомлены, усмешлівы, з вялізным мехам грошай за плячыма, і тады яны пачнуць мітуслівы пераезд — як у фільмах пра навасёлаў ці на малюнках у кніжцы: грузавая машына з адкінутым бортам, на ёй трумо, вазон з фікусам, канапа і паласаты кот на руках хлопчыка ці дзяўчынкі, узбуджаных, расхлістаных, з круглымі ад радасці вачыма...

Няўжо гэта праўда будзе? Што давядзецца адсюль з'язджаць? Але навошта? Калі і тут так здорава? Калі іхняя Чэшкая Слабада — самае прыгожае месца ў свеце? Хіба можа быць штосьці лепшае за іхні беленькі домік, за гэты ўтульны дворык са старым абрыкосавым дрэвам пад сцяной, якое распасцёрла галіны над дахам, пачарнелым ад часу і непагадзі, пазелянелым ад моху? Па шыферных жолабах якога ўлетку скочваліся і падалі ў траву спелыя аранжава-жоўтыя плады... Тры вішні раслі каля плота — невысокія, кусцістыя, але ўраджай ягад давалі такі, што не ведалі, куды іх дзяваць, і скармлівалі гусям: баба Домна брала граблі і біла па галінах, а гусі ўжо стаялі пад вішняй напагатове з выцягнутымі шыямі, чакалі, пакуль з неба насыплецца ім ласунак, а каторая яшчэ і спрабавала лавіць ягады ў паветры.

Калі па драбіне залезці на дах, ці ўскараскацца на разгаліну абрыкосавага дрэва і азірнуцца, можна было з вышыні ўбачыць усю Слабаду. У цэнтры, як гістарычны помнік, узвышаецца недабудаваная воданапорная вежа. Ад яе вядуць роўныя вулічкі, якія дзеляць Слабаду на няправільныя, але ўсё адно акуратныя квадраты і прамакутнікі — з домікамі ў зяляніне садоў, з агародамі, што спускаюцца да безыменнай рачулкі. Адзін бераг у яе высокі, гэтак званы Вал, або Замчышча, хаця ніякага замка там няма, а толькі сярод зараснікаў скрыпеню — іван-чаю, крапівы і дзікага маліннiку — залежы старой чорнай клінковай цэглы, ды яшчэ калі патыркаць палкаю ці жалезным прэнтам, абавязкова ўпрэшся ў цвёрдыя парэшткі сцяны. А другі бераг — нізкі, балацяністы, які паступова пераходзіць у падлесак, а потым, па меры ўзвышэння, у сапраўдны густы казачны сасновы бор, рай для гарадскіх і мясцовых грыбнікоў-ягаднікаў.

На поўнач ад недабудаванай вежы, далёка, кіламетры за тры, маленькі аэрадромчык мясцовага значэння — усяго тры «кукурузнікі» і пяць верталётаў. На поўдзень, бліжэй да горада — цяпліцы, дзе працуе Петрыкава маці. Яны крытыя бліскучай плёнкаю, здалёк падобнай на люстраную гладзь возера. Там нават зімой ці ў пахмурную познюю восень ад спецыяльных лямпаў светла, як у ліпеньскі поўдзень,

і расце зялёная цыбуля, часнок, квасоля, гуркі, памідоры, перцы, баклажаны... Усё гэтае дабро затым укладваецца ў скрынкі, грузіцца ў машыны з будкамі і адбывае ў ненажэрны мікрараён.

А на захадзе, цераз поле, проста перад табой — гарадскія пяціпавярховікі. Добра відаць крайнюю да поля вуліцу, па якой ездзяць машыны. Калі ж прыставіць да вачэй далоні «біноклем», можна разгледзець нават маленькія фігуркі людзей на прыпынку і ўбачыць, як да іх падпаўзае жоўты «Ікарус» № 23, адзіны рэйс, які звязвае Чэшскую Слабаду з горадам. Калі не лянуешся і маеш вольны час, можна прасачыць увесь яго далейшы рух. Вось ён забірае пасажыраў, паварочвае ў канцы вуліцы, расцягнуўшы на баку свой «гармонік», хаваецца ў пералеску, ізноў выплывае — цяпер бліжэй, у раёне аэрапорта, а праз якіх дваццаць хвілін ён ужо каля Петрусёвага дома! Тут таксама сапраўдны гарадскі прыпынак, з указальнікам «Чэшская Слабада», нават з пешаходным пераходам — палоскамі «зебры» ўпоперак асфальтаванай вуліцы. Далей прыпынкамі будуць «Воданапорная», «Парнікі», «Школа», чарговы паварот — і вось так, апісаўшы авал, «Ікарус» зноў апынецца на той самай крайняй да поля гарадской вуліцы, якую відаць адсюль, і перадасць ёй ад Петрыка прывітанне.

## 2

І гэты авальны маршрут аўтобуса, і ўсё, што знаходзілася ўсярэдзіне авала: ціхая, дачная Слабада са сваімі студнямі і пеўнямі, домікі, садзікі, агароды, дарога, лес, поле, краявід горада, і рачулка, якая таксама акружала Слабаду, нібы акальцоўвала яе, — усё было надзвычай талкова прадумана некім. А яшчэ стварала адчуванне ўтульнасці і бяспекі.

Нават тое, што бацька не жыве з імі, амаль не бывае дома, мала бянтэжыла Петрыка. Яму і так някепска жылося. Маці з бабуляй любілі яго, песцілі. Паміж сабой — у адрозненне ад Домніных сыноў — амаль ніколі не сварыліся. Домна звала нявестку «доня», а нявестка яе — «мама» і на «вы». Хіба што зрэдку, калі маці прыходзіла з парнікоў асабліва натомленая, а баба Домна, наадварот, кульнуўшы пару чарачак «абрыкосавай», была ў прыўзнятым настроі, нявестка магла адпусціць на адрас свякрухі пару з’едлівых — кшталту: «Пры жывым мужы быць саламянай удавой... Усе сем’і як сем’і, а мой — капітан...»

Звычайна бабуля вінавата адмоўчвалася. Толькі прасіла ціха:

— Не сварыся, донечка...

— Я не сваруся, мама! Я проста так кажу! Былі б грошы — не было б клопату...

Ужо гэтыя грошы! З чаго б маці ні пачынала, абавязкова на іх збівалася. Яна нібы проста так, сама сабе, як бы між іншым пачынала ўпікаць бабу Домну, што тая — удава героя вайны, жонка франтавіка, цэлых адзінаццаць гадоў не хоча атрымліваць законную грашовую дапамогу, гэтак званыя «ўдовіныя».

— Гэта ж столькі грошай ляснула — падумаць страшна!

І ўсё з-за драбязы (лічыла маці), ад гонару, звычайнага капрызу. Начальства ўсяго толькі хацела перанесці прах Андрэя з слабадскіх могілак у брацкую магілу каля аэрадрома, а Домна не давала дазволу. Прычым у такой рэзкай форме, што начальству хоць вушы затыкай.

— Адступіцеся! Я не ведаю, каго вы там у вашай братняй магіле пазбіралі ды пазакопвалі!

— Не ў нашай, — цярпліва папраўлялі яе. — Не наша яна, а агульная. Гэта народны сімвал.

— Хай сімвал, а я дазволу не даю!

— Ды зразумей ты: мы ж не для сябе — для цябе стараемся, табе дабра хочам, і твайму Андрэю...

— Ён мне не кажа, што яму там кепска!

— Ну падумай сама — школьнікаў куды вадзіць на 9 мая? На могілкі? Дзяцей у піянеры прымаць — перад дубовым крыжам?

— Вадзіце куды хочаце.

— ...А брацкая магіла — гэта ж прыгожа, велічна, культурна... Здалёк відаць. Чыста прыбрана, літары золатам напісаны...

— Хай золатам, хай серабром, а я дазволу не даю. Вам трэба, дык выкопвайце — я рыдлёўку пазычу.

— Глядзі, дажартуешся! — намякалі ёй. — Табе трэба ўвогуле маўчаць, бо, калі на тое пайшло, з гэтай гісторыяй трэба яшчэ разабрацца...

Гісторыя і сапраўды была няпростая; усяго ў ёй было намяшана: супадзенне, неверагоднасць, збег абставін і нават крыху містыкі. Ад першага дня вайны радавы Андрэй, як і ўсе, ваяваў — у сэнсе, адступаў, быў у акружэнні пад Смаленскам, удзельнічаў у абароне Масквы, а ў 43-м, калі вызвалялі Беларусь, так супала, што акурат іхняй дывізіі выпаў гонар ачышчаць ад немцаў родны горад і сваю Чэшскую Слабаду... Як угледзеў салдат знаёмыя краявіды, як забілася сэрца, — так і пабег, не хаваючыся ад куль, што свісталі над галавою, па сваёй вуліцы, ускочыў у двор, прытуліўся да абрыкосавага дрэва... І асеў... Сэрца не вытрымала! Так і памёр на месцы. Аднапалчане, сцягнуўшы пілоткі, пастаялі крыху, паслухалі, як галосіць над нядаўнім іхнім жывым таварышам, а цяпер нябожчыкам, маладзіца-ўдава... Вайна ёсць вайна, яшчэ не такое здараецца, не рэдкасцю было, калі чалавек сярод франтавой віхуры паміраў сваёй смерцю... Але каб вось так, на ганку роднага дому!.. Крышку пастаялі — і далей, трэба было працягваць наступленне, не даваць немцам апамятацца; вызвалены маленькі горад з ваколіцамі быў усяго толькі нязначным эпізодам у грандыёзнай аперацыі. А салдат застаўся ляжаць у роднай зямельцы на мясцовых могілках пад дубовым крыжам. Калі неўзабаве ўзнавіў працу ваенкамат, Домну адну з першых выклікалі туды. Вярнулася жанчына з цэлым багаццем: згушчонка, тушонка, хлеб, селядцы, павідла, а галоўнае, з новенькімі дакументамі, у якіх рашучая пячатка пацвярджала, што яе муж сапраўды «гераічна загінуў пры вызваленні Чэшскай Слабады», і цяпер яна афіцыйна з'яўляецца ўдавой франтавіка. Неўзабаве афармілі прадуктовыя карткі на дзяцей, потым пенсію, ільготы — усё як належыць, і нават пазней, у сувязі з 10-годдзем, 20-годдзем заканчэння вайны, ці проста на 9 мая яшчэ выклікалі ў гарсабес і ўручалі розныя каштоўныя падарункі або грашовую невялічкую дапамогу. Недзе ў 60-я, калі ўзнікла мода на манументы, брацкія магілы, абеліскі, пастаменты з бетонным салдатам у касцы і з партызанам з гранатай, у Слабадзе таксама заварушыліся, выбралі месца — каля аэрадрома, на высокім пагорку, каб здалёк было відаць, і вырашылі перазахаваць астанкі партызан і падпольшчыкаў у агульную магілу, а над ёй узвесці стандартны мамумент. Вось тут Домна нечакана праявіла ўпартасць: «Не даю дазволу! Ён ляжыць і есці не просіць».

Начальства ўсіх калібраў: слабадское, гарадское, ваенкаматаўскае, з аддзела культуры і ідэалогіі, з райсабеса — спачатку нават разгубілася. Гэтая Домна проста збіла іх з панталыку, пераблытала планы, паставіла ў няёмкае становішча. Ды яшчэ і ўзнік нейкі ледзь не палітычны аспект, двухсэнсоўнасць, рэлігія — карацей, чорт ведае што.

Спачатку Домну ўпрошвалі. Потым пачалі злавацца, папярэджваць, пагражаць.

— Глядзі! Бо калі на тое пайшло, мы ўміг дакажам, што ён ніякі не герой, а проста памёр сваёй смерцю, без удзелу ў баявых дзеяннях. Каб ён хоць прапаў без вестак, ці хоць сваёй смерцю памёр, але дзесь далёка, не на вачах, і каб пахаваны быў таксама далёка — тады б яшчэ мог лічыцца героем. А так? Па сутнасці? Калі разабрацца? Ні сёе, ні тое, нейкая несуразная смерць... Ужо дакладна — не подзвіг.

А Домна заладзіла сваё:

— Адступіцеся! Па дакументах ён франтавік-герой. Вы мне самі дакументы выправілі!

— Як выправілі, так і ануліруем. Дакументы і ануліраваць можна.

— Ануліруйце! Як у вас совесці няма...

Любому цярпенню, нават начальніцкаму, прыходзіць канец.

— Як ты з намі, так і мы з табою. Калі ў цябе прынцыпы, дык у нас тым больш. Сказана — зроблена. Узялі і сапраўды пазбавілі пенсіі, ільгот — словам, усяго.

— Ануліравана! Цяпер ты не ўдава героя вайны, — цынічна заявілі ёй. — Больш не будзе табе ні грошай, ні льгот, яшчэ і медалі забяром.

— Забірайце! Сабе начапляйце ды насіце! Не трэба мне вашыя медалі і вашыя грошы — абы вы сябе не абдзялілі!

— І яшчэ прымусім вярнуць за ўсе гады, што ты несправядліва атрымлівала. І тушонку вернеш...

— Грошы я на дзяцей траціла, а тушонку куплю — ежце! Хай вашы дзеці так наядзяцца мяса, як мае! — дзёрзка адказвала ганарыстая, непакорная ўдава.

Тым больш, што дзеці ў яе да таго часу павырасталі, а Стах і Стэфан дык нават паспелі адслужыць і ажаніцца.

Але ў душы, канешне ж, перажывала. Людзі бачылі несправядлівасць, спачувалі ёй, раілі:

— Напішы ў Маскву.

— Не буду я пісаць ні ў Маскву, ні ў Берлін! Хіба ён вінаваты, што загінуў не так, як ім хочацца?

Уся гэтая гісторыя пачалася даўно, калі Марк яшчэ не быў жанаты, а Петрыка нават на свеце не было, цягнулася вось ужо цэлых адзінаццаць гадоў і перыядычна не давала маці спакою.

— Адзінаццаць... ці то ўжо больш, на дванаццаць месяцаў, — пачынала множыць маці, збівалася. — Ды павышэнні кожны год... Кватэру, палац можна было б адбудаваць! Каб хаця палавіну тых грошай — і Марку не трэба было б у заробкі ездзіць, гібець у той Сібіры... Даўно б у мікрараёне жылі... Ці хаця б Петрыку вунь адкладвалі... А так — абы-што!

— Не ўбівайся, донечка... Гэта не тыя грошы, якіх шкадаваць трэба.

— Дык крыўдна ж вельмі, несправядліва! Можа, варта было б саступіць? Хай бы перазахавалі... Цела мёртвае, а грошы ж жывыя. Мо і цяпер не позна, калі б вы саступілі, дык і яны за ўсе гады разлічыліся б...

Бабуля Домна падціскала вусны і ўпарта маўчала. Ды і маці казала ўжо без энтузіязму. Яна як хутка загаралася, так і астывала, і ў канцы рабілася поўнай саюзніцай бабы Домны; ужо самой было няёмка, што лішні раз развярэдзіла сямейную драму.

Выліўшы душу, выказаўшыся, яна зараз жа пачынала шкадаваць, апраўдваць свякруху, і вінаваціла ўжо не Домну, а «тых» — маўляў, хоць бы, бессаромнікі, ільготы пакінулі: зубы паставіць, за электрычнасць менш плаціць, у транспарце бясплатна ездзіць, у чарзе не стаяць, ну, мала што.

І канчалася ўсё аднолькава — скрушнымі жаночымі ўздыхамі і цвёрдым перакананнем:

— Няма справядлівасці на гэтым свеце!

### 3

Яшчэ баба Домна любіла ладзіць «вячоркі». Раз на два-тры месяцы ў яе збіраліся такія ж, як яна, пенсіянеры. Прыходзіла сямейная пара — Аўрам з Марыйкаю, Аўрам — у вышытай сарочцы, з баянам, жонка — у белым з чырвонымі пеўнямі фартуху. Адзінокая Марта, хворая на расшырэнне вен, сядзела ў Домны яшчэ з раніцы, чакала; пра яе расказвалі, што яна ўмудрылася за ўсё жыццё ніводнага дня не працаваць, ціхім ходам перажыла многіх здаровых, нават і тых, у каго не было расшырэння вен; зімой чытала кніжкі і глядзела тэлевізар, а ўлетку грэла на сонцы ногі з выпуклымі, чорнымі, як п'яўкі, венамі. З'яўляўся Зміцер, колішні пастух, мясцовы паэт і спявак, прыгожы статны дзед, з белым кліночкам барады; адзіны на ўсю Слабаду чалавек, які з самага маленства насіў акуляры з круглымі шкельцамі, з пазалочанымі дужкамі; жартавалі, што ён нарадзіўся ў малюсенькіх акулярчыках, якія потым раслі разам з ім, — гэты ніколі не быў жанаты, але, відаць, валодаў нейкай незвычайнай, магічнай сілаю — умеў перадаваць сваю знешнасць на адлегласці, і ў слабадскіх жанчын сяды-тады нараджаліся хлопчыкі, надта ж на яго падобныя. Дапаўняў кампанію яшчэ адзін бабыль, гарбаты Якаў. Гэты прыходзіў з пілой пад пахаю і з лукам, зробленым з сагнутай лазіны, самым звычайным, як дзеці робяць, толькі замест капронавай цецівы ў яго была нацягнута жалезная струна. Петрыка ён называў «унучкам» і любіў гайдаць на назе.

Петрык таксама прымаў пасільны ўдзел у падрыхтоўцы «вячорак». У яго абавязкі ўваходзіла калоць малатком абрыкосавыя кастачкі і выбіраць адтуль ядры. На іх настойвалася славутая Домніна «абрыкосаўка».

Рассаджваліся за круглым сталом, з любоўю Домнай сабраным. Усё было акуратна раскладзена па талерачках, прыгожа нарэзана: каўбаса, мяска, гуркі-памідорчыкі, салаты-цыбулькі, яйкі сырыя і вараныя... Урачыстая, радасная, памаладзелая Домна разлівала з графіна ў чаркі залаціста-жоўтую «абрыкосаўку». Выпівалі, закусвалі. Аўрам чапляў на плячо шлейку баяна. Домна брала бубен. Якаў згінаў пілу — звычайную, якой дровы рэжуць, з паліраванымі ручкамі, і пачынаў вадзіць па белым палатне сваім самаробным «смыкам». Гучала яшчэ прыгажэй, чым на скрыпцы! Піла то згіналася, то разгіналася, вібрыравала і выдавала такія жалобныя гукі, што заходзілася сэрца. Зміцер пачынаў спяваць, паблісквaючы акулярамі. Да яго далучаліся астатнія. З расчыненага вакна, у якім ветрык пухіром надзімаў фіранку, на ўсю вуліцу неслася зладжаным хорам:

Ой, не пакіну гарэлачку піці,
Бо — салодная!
Ой, не пакіну дзяўчынку любіці,
Бо — лагодная!

Маці позна ўвечары, ці на другі дзень, памагаючы бабулі прыбіраць сляды банкету, бурчала:

— Галоўнае, дзе такія песні бяруць... Я колькі жыву, такіх не чула. Абы-што!

— Не злуйся, донечка, — цярпліва зносіла папрокі Домна. — І мне ж хочацца трохі радасці... Я ж такое цяжкае жыццё пражыла, адна ўдавою траіх сыноў выгадавала...

Маці апускала руку з венікам.

— Ды па мне хоць кожны дзень гуляйце! Іграйце хоць на пілах, хоць на сякерах, хоць на балалайках... Тыя ж зноў прыпруцца! Ды пачнуць плявузгаць абы-што.

«Тыя» — значыла начальства, якое сапраўды неўзабаве з'яўлялася як з-пад зямлі. Пад'язджалі, заходзілі ў двор, у дом. І ўжо за ўсё даставалася бабулі! Тут яны ўжо не ўпускалі магчымасці за ўсё адыграцца. Маўляў:

— Лёгка жывеш!.. Вядзеш амаральны лад жыцця... П'еш, гуляеш...

Дужа не падабаліся начальству гэтыя падазроныя пагулянкі, зборышчы, такое дэманстратыўнае вяселле. Кабеціна на пенсіі, па-іхняму, выгляд павінна мець скрушны, знясілены, сама павінна быць гарапашнай, сагнутай у крук, прыгнечанай нягодамі, — але разам з тым і руплівай, каб увесь астатак жыцця пакласці на дзяцей і ўнукаў.

А Домна проста жыла ў сваю ахвоту. І гром не забіваў яе за гэты грэх на роўнай дарозе, і зямля не правальвалася пад нагамі; наадварот — статная, маладжавая, асабліва пасля пары чарачак «абрыкосаўкі», босыя ногі ступалі па зямлі лёгка, спіна была разагнутая, вочы маладыя і румянец на шчоках.

І вось гэта чамусьці асабліва раздражняла начальнікаў, нават успрымалася імі, як асабістая знявага. Паводзіны Домны абуралі іх не менш, а, бадай, нават і больш, чым перазахаванне Андрэя. Такім жыццём яна збівала з панталыку іншых, з'яўлялася жывым узорам, уводзіла ў сумненне: а раптам сапраўды чалавек створаны для волі? Тады што ж гэта атрымліваецца? Што зусім не абавязкова да пацямнення ў вачах рваць жылы, свету белага не бачыць за працай? Так, чаго добрага, гледзячы на яе, і іншым захочацца такога ж жыцця, усе пачнуць спяваць, і ніхто працаваць не будзе.

— ...І не сорамна вам, старым? Чаму вы малых навучыце? Дзеці са школы ідуць, чуюць... Які вы прыклад падаяце падрастаючаму пакаленню?

Гэта быў любімы аргумент — «падрастаючае пакаленне».

— Я вашае пакаленне паганаму не вучу, — звыкла абаранялася Домна.

— «Вашае»... Яно такое ж нашае, як і тваё. У цябе ў самой вунь унук — чаму ён навучыцца? Піць, гуляць сярод белага дня?

— Хіба па вашых законах песні няможна спяваць?

— Зноў — «вашых»... Антысаветчынку разводзіш? Супрацьстаўляеш сябе і дзяржаву? Законы такія ж нашыя, як і вашыя, яны для ўсіх пісаны.

— Адступіцеся! Я ведаю, што вам трэба — Андрэя выкапаць.

— Не выкапаць! Не выкапаць. А культурна, па ўсіх нормах і правілах беражліва перазахаваць. Вось тады будзе іншая справа. Тады ты зноў аўтаматычна станеш заслужанай удавой, і, калі ласка, — можаш з чыстай душою піць, гуляць, спяваць, — знарок заводзілі Домну. А так чым ты славутая? — нічым. Якія ў цябе заслугі перад грамадствам? — ніякіх.

— Я і так удава франтавіка!

— Франтавікі ўсе ў брацкіх магілах, ці пад помнікамі з зоркамі, а твой Андрэй пад крыжам. Так што афіцыйна ніякая ты не ўдава, няма ніякіх ільгот і правоў — ануляраваны!

Тут не вытрымлівала Петрыкава маці і ўступалася за свякруху.

— Ах, бессаромнікі! Чаго вы яе дзеўбяце, як коршакі?! Нявіннага чалавека! Вы ж калі пастаўлены над людзьмі, дык павінны шкадаваць іх! Як гэта так — каб ні каліва шкадавання! Хоць бы падумалі, як ёй адной было траіх дзяцей падымаць; яна ж і праўда — мнагадзетная маці...

Само сабой, даставалася і нявестцы.

— Не выдумляй! Мнагадзетная маці — гэта калі дзеці малыя, а ў вас вунь якія бугаі! — ды яшчэ такія няддружныя... Браты Карамазавы!

Калі канчалася ўсё, уціхамірвалася і адбывала начальства, маці пачынала ўжо ўсур’ёз злавацца на Домніных сыноў.

— І чаму яны не паміраццa ніяк? Што яны ўсё дзеляць? Сорамна на ўвесь горад... Абы-што!

Петрыку вельмі шкада было ў такія хвіліны добрую бабулю, такой няшчаснай яна выглядала.

— Ох, донечка, не кажы... Гора проста. Так мучылася з імі, адна гадавала, а яны вунь... Малыя былі, дык золата, а не дзеці, такія дружныя, лагодныя, сам галодны, а брату аддасць... А падраслі — як сурочыў хто, бы які чорны кот паміж імі пабегаў!

— І чаго ім не хапае? — хутчэй сама ў сябе, чым у свякрухі, пытала маці. — Асобна жывуць... Я далібог не ведаю, радавацца мне, калі ён прыязджае, ці плакаць, — казала яна, пераскочыўшы ў думках на прыезды свайго мужа Марка.

## 4

Прыезды Марка былі хоць і рэдкія, затое ўсе незабыўныя. Каму-каму, а Петрыку ўражанняў хапала. Пачаць хоць бы з таго, што бацька блытаўся ў сынавым узросце. Заўсёды ў яго з падарункамі атрымліваліся казусы. Калі Петрыку было два гады, бацька прывёз яму новенькі школьны ранец, набіты кедравымі шышкамі з карычневымі арэхамі, такімі цвёрдымі, што нават дарослыя з цяжкасцю раскусвалі іх. Зярняты не хацелі вылузвацца, ліплі да зубоў разам са шкарлупкаю, а збянтэжаны бацька пераконваў усіх, што яны проста «недасушаныя», а так — вельмі ж карысныя па колькасці вітамінаў. Маці толькі ўздыхнула:

— Вітамінаў, — і схавала ранец у шафу.

У чатыры гады — сын ужо ганяў па двары мячык, умеў чытаць і пісаць друкаванымі літарамі — бацька аб’явіўся з прыгожым пакункам. Там ляжалі ніколі тутэйшым людам не бачаныя памперсы, паўзункі, пінеткі... «Соску не забыў?» — спытала маці, а ён, збянтэжаны, кашляючы, апраўдваўся:

— Фінскі камплект! Вельмі дорага каштуе...

Ён кожны раз бянтэжыўся.

Затое ў пяць гадоў атрымаўся перабор: бацька прыехаў сапраўды з мехам за плячыма, толькі замест грошай там было адзенне: унты, кажух і вялізная пухнатая вушатая шапка са скуры невядомага звера; калі бацька пачаў яе на Петрыка мерацЬ, той схаваўся ледзь не да пояса.

У свой апошні прыезд, гэтым летам, Марк падараваў сыну пісталет, які страляў струменямі вады, акрамя таго аб’явіў, што больш нікуды не паедзе, ні ў якую Сібір, а застанецца назаўсёды дома.

— Усё! Хопіць! — казаў цвёрда, рашуча. — Падурэў, Марка, і годзе! Колькі можна людзей смяшыць... Пара, пара за розум брацца. На роднай зямліцы... Дзе нарадзіўся, там і згадзіўся. Вось так яно, брат Пятрок! Цяпер мы з табою зажывём! — казаў абміраючыму ад шчасця сынку, які круціў у руках пісталет, прыціскаў яго да грудзей.

Пакуль бацька раскладваўся, сын не адліпаў ад яго. У пакоі пахла мужчынскім духам, віном, тытунём, ветрам... Бацька быў рослы, дужы, складны. Загарэлы абветраны твар. Барада кольцамі з адлівам сівізны. Куртка-штармоўка. Моцныя рукі. У Петруся засталося ў памяці, як зусім маленькага бацька саджаў яго да сябе на калені, напінаў мускул рукі, даваў сыну памацаць і, задаволены, казаў: «Бачыш, які я дужы? Я магу на нашым аэрадроме самалёты з далоні запускаць», — і Петрык верыў.

У доме панаваў непрывычны гармідар. Бацька быў вясёлы, узбуджаны, на сябе не падобны. І ўсім перадавалася яго радасць. Маці ззяла, Домна мітусілася.

— Вось і добранька... І правільненька... Паплаваў — і годзе, пара прычальваць... Ты ўжо не малады, вунь барада, як у Зміцера, сівая...

Бацька выходзіў на двор. Пятрок, як зачараваны, ішоў следам. Бацька набіраў у грудзі паветра, азіраўся:

— Якая прырода! Якая прыгажосць! — казаў узбуджана. — А вось і ты, мой абрыкосік! Колькі я гэты ствол паліраваў, па ім лазячы! Кожны сук ведаю... Неяк маці папрасіла абрыкосаў нарваць, дык я ўсе абарваў: і спелыя, і зялёныя... Смех і грэх! Тваіх гадоў быў, такі ж малы, неразумны... Вось тут во стол стаяў. Вячэралі за ім... Сёрбаем зацірку з аднаго чыгунка... Вясна, абрыкос цвіце, вечар, прыцемкі, а пчолы гудуць над галавой!.. Уяўляеш — яшчэ не спяць! Такое не забываецца. Вучыся, сынок, працавітасці ў пчол.

Памацаў шурпатую кару камля, дзелавіта адзначыў:

— Пабяліць трэба было б, каб не шэрхла.

А калі вярталіся ў дом, заключыў:

— Прырода — вялікая рэч! Запомні, сын. Заўсёды любі і беражы родную прыроду.

Усё гэта страшэнна падабалася Петрыку. Асабліва тое, як прыгожа, паэтычна бацька ўмее казаць пра будзённыя рэчы.

Калі селі за стол — не пад абрыкосам, а ў пакоі — бацька, адкаркоўваючы пляшку, лёгка абышоўся без нажа, скалупнуў адным пазногцем вялікага пальца. Затым устаў з поўнай чаркай у руцэ і нізка, так, што гарэлка з чаркі закапала на падлогу, пакланіўся Домне.

— Дзякую, матуля, дарагая-каханая, што нарадзіла мяне, выхавала, дала шчасце бачыць усю прыгажосць свету і зямелькі роднай...

— Ай, адступіся! — махнула рукой Домна, саромеючыся клаўнады, якая адбывалася ў кожны сынаў прыезд. — Скажы лепш, што з братамі думаеш рабіць? Калі вы мірыцца будзеце?

— З братамі? — Бацька выпіў, выцер рот. — Гэта яшчэ тыя браты... Яны мне во з такіх гадоў (правёў далонню ніжэй калена) у пячонках сядзяць. Раз сказаў — нагі маёй не будзе ні ў таго, ні ў другога. Маё слова цвёрдае.

— Але чаму? — шчыра не разумела маці. — Павінна ж быць прычына!

— Паэзіі няма ў душах. Палёту думкі. Паэзія, каханне, прыгажосць для іх — пустыя гукі.

— Сыночак, — пачынала прасіць Домна, — памірыцеся! Няможна так жыць, сорамна. Пра сына падумай, як яму жыць, як такое слухаць? У школу пойдзе, дражніць будуць, хто за яго заступіцца?

— За яго? — бацька прысеў, паклаў сыну далоні на плечы. — Вось за гэтага?

Петрык аддана глядзеў яму ў вочы.

— Думаеш, яму прыемна будзе слухаць, што вас братамі Карамазамі дражняць?

— А ці ведаеш ты, што такое браты Карамазавы? — спытаў Марк у сына.

Петрусёк ведаў: па-мясцоваму «карамазы» азначала стракаты, рознакаляровы, а яшчэ — нягеглы, абы-які. Бацька засмяяўся, лёгка пстрыкнуў яму па носе.

— Глыбока памыляешся! Гэта твор найвялікшага пісьменніка, ураджэнца нашай шчодрай на таленты непаўторнай матухны-радзімы Беларусі. Вось так. Каб ведаў. Твор, браце мой, настолькі геніяльны і тоўсты, што ніводзін чалавек пакуль не адужаў дачытаць яго да канца. Так што, калі пойдзеш у школу,

будзеш добра вучыцца — можа, ты дасягнеш такіх вышынь, што дачытаеш. Так і запомні!

На другі дзень пасля абеду бацька павёз Петрыка купляць яму новую кашулю і сандалі. Зайшлі ў парк. Быў выхадны, працавала «чортава кола», арэлі, карусель у выглядзе звяроў. Пакуль Петрык катаўся на шыі лебедзя, бацька купіў білет на экскурсійна-прагулачны цеплаходзік па Сожы.

— Не забывай любавацца краявідамі, — нагадаў бацька сыну перад тым, як ступіць на палубу. — Больш запамінай малюнкаў прыроды.

А краявіды і сапраўды былі прыгожыя. Вачам адкрываліся такія далі, што дух займала. Цеплаходзік плыў па сярэдзіне Сожа, левы бераг быў нізкі, роўны, бы засланы зялёным шаўкавістым абрусам, а правы — адвесны, стромкі, магутныя дрэвы стаялі на самых кручах і трымаліся на адным толькі карэнні! Бацька перыядычна спускаўся з верхняй палубы на ніжнюю, дзе быў буфет, прыносіў сыну цукеркі, шакалад ці марожанае, і з кожным разам усё мацней любаваўся роднымі мясцінамі, голасна, на ўсю палубу прапаноўваў тое самае рабіць сыну і незнаёмым пасажырам.

— Якая багатая нашая матухна-радзіма! Што там твая Сібір, што Швейцарыя! — і Пятрусь бачыў, што пасажырам таксама перадаецца яго ўзнёслы настрой, яны часцей усміхаюцца і з падзякай, прыязна глядзяць на бацьку. І сам Петрык міжволі пачынаў адчуваць гонар за бацьку, і шчымлівую радасць, што нарадзіўся ў такіх чароўных мясцінах.

А бацька падміргваў сыну, складваў рупарам далоні, аддаваў каманды нябачнаму капітану:

— Кінь права! Мель па курсе!

Нарэшце супакоіўся, яны прыселі на лаўку. Петрык даведаўся многа цікавага; напрыклад, што звычайны бакен паказвае мель, а паласаты — бела-чорны ці бела-чырвоны, азначае рэзкі паварот фарватару; што розніца паміж прагулачным цеплаходзікам і «Ракетай» у тым, што «Ракета» ляціць на крылах амаль у паветры, а «наш ціхаход мае асадку 1 метр 60 см», але калі «Ракета» спыніцца, асадка ў яе 2 метры 20 см.

Калі на беразе траплялася маленькая прыстань, бацька ўсклікваў: «О, яшчэ дэбаркадэр!»

Таксама сын папоўніў свае веды наконт таго, што дызель «Ракеты» — турбіна — заводзіцца сціснутым паветрам, 3 балоны па 150 атмасфер, а пасля матор пераходзіць на самаабслугоўванне: паветра ў цыліндры пампуе турбіна, а яе круцяць выхлапныя газы.

Петрыку надзьмула ветрам вочы і нос, ён аб'еўся марожаным, аж горла аблажыла, але ўсё адно быў шчаслівы і мог бы так плаваць цэлы дзень. Каля ўніверсама бацька зноў таямніча падміргнуў сыну, знік. Увечары, на пытанне маці: «А дзе кашуля? Сандалі купіў?» — бацька зрабіў вінаваты і разам з тым хітры твар.

— Не, не сандалі. Вось!

Урачыста падаў маці прадаўгаваты футарал.

— Што гэта?

— Паглядзі.

У футарале аказаўся залаты гадзіннік у форме сэрца на ланцужку.

— Вешаюць на грудзі, — патлумачыў бацька.

— Тры, — сказала маці. — Трэці гадзіннік дорыш. Куды мне іх чапляць? Куды я спяшаюся, што мне трэба пазіраць на іх? І так ты хочаш зэканоміць,

назбіраць, накапіць грошай? Што толку ад тваіх заробкаў? Чацвёрты год, чацвёрты сезон... Сын без цябе вырас, а ты без сына і жонкі... Дома седзячы, больш зарабіў бы. Тут жа горад, працы хапае. Хоць бы ў нас у парніках... Ці на аэрапорце, як Стэфан... Ці як Карл Капора, на трактары... І ездзіць нікуды не трэба, ні на якія заробкі, ні ў якую Сібір — сядзіць дома, а ўжо кааператыў гатовы, ды які — харомы, палацы!

Бацька хмурыўся.

— Капора... А што ён ведае, акрамя свайго трактара? Хіба ён бачыў калі, як усход ружавее? Як распускаецца першая кветка? Дыхаў водарам тайгі? Начаваў каля начнога вогнішча з рыбакамі? Жыве кратом і памрэ, як крот.

— Хай крот, а багацейшы за нас.

— У матэрыяльным плане, але не ў духоўным!

І ўсё ж бацька скіс.

— А можа і праўда... Не ідуць грошы да рук... Можа і праўда тут, на зямліцы роднай... Я ж што хочаш умею, я табе не Капора! Магу хоць бы капітанам на цеплаходзе прагулачным... Па рацэ... Лёгка і грашова, і, галоўнае, прырода...

— Прырода, — уздыхала маці.

Потым бацька выпіваў ад засмучэння. Плакаў, цалаваў маці рукі і ўсё паўтараў: «Я сваё шчасце, лепшыя гады праплаваў! Нічога лепшага не бачыў за гэта вось, за нашу Слабодку, нікога лепш за цябе...»

— І я за цябе лепшага не бачыла. І я цябе кахаю і шкадую.

Бацька станавіўся на калені перад маці і цалаваў ёй рукі.

— Як правільна! — усклікваў ён. — Машыну купім, кватэру ў цэнтры... З братамі памiруся, у мяне цудоўныя браты! А то што ж гэта, на самай справе! Жывём нядружна, як няродныя... Нельга так! Трэба ўсё мяняць, усё ў волі чалавека... Хопіць! Вось толькі грошай каб падкапіць... Мне абяцалі... Да зімы...

Назаўтра раніцаю не было ні чамадана, ні бацькі.

— Але ж і сын у вас! — толькі круціла галавою маці.

— Ты мне ўжо, донечка, даруй... Я ж сама думала, што ён перабесіцца, перакруціцца ды прыбяжыць дамоў. А ён чым далей, тым горай. Гэта людзі такія. Пасадзі яго на адно месца — счэзне, захварэе, ссохне, прападзе, памрэ... Такі ўжо характар. Няма ў чалавека прывязкі. Хіба што паміраць сюды прыпаўзе, як прыцісне... Такія ўсе паўзуць дамоў. Цябе вось толькі шкода! Сэрца збалелася... Хіба ты такога вартая? Такая маладая, спрытная, ладная... Кідай ты яго, не мучся!.. — а сама запытальна і разам з тым умольна глядзела на нявестку.

— Кідай, — уздыхала маці.

Тады і Домна таксама ўздыхала — з палёгкай, з непрыхаванай радасцю.

— Не кідай, донечка! Прападзе ён без цябе! У яго душа добрая, чыстая... Хоць і без цара ў галаве...

— Я ведаю.

Ведаў і малы Петрык — бачыў, як маці ажывае, харашэе, дабрэе пасля бацькавых наездаў.

І ён пачынаў здагадвацца, што справа тут, відаць, не ў мяху з грашыма, а ў тым, што мужчына, які не саромеецца плакаць перад жанчынай, станавіцца на калені і цалаваць ёй рукі, хутчэй за ўсё сапраўды валодае нейкім, можа быць, яшчэ большым за грошы, багаццем.

## 5

Не паспяваў знікнуць Марк, як з «Ікаруса» на прыпынку каля дому ўжо выходзіў Стахвей, ці, скарочана, Стах.

Звычайна калі дзядзька Стах прыязджаў, дык першыя яго словы былі не «добры дзень», не «як жывяце», а — «хто памёр?» — у сэнсе, з жыхароў Чэшскай Слабодкі. Калі размова заходзіла пра чужога чалавека, першай справаю цікавіўся:

— Колькі ён зарабляе?

Пра сябе з гонарам паведамляў, што працуе браніроўшчыкам.

— Адзін метр пагонны — рубель! Памнож — і пабачыш!

У Петруся слова «браніроўшчык» асацыіравалася з бранёй танкаў, слова «пагонны» — з пагонамі на плячах, а ўсё разам — з ваенным сакрэтным заводам, на якім, мабыць, дзядзька Стах выплаўляе для танкаў браню. Праўда, на ваеннага ён быў зусім не падобны. Нізкага росту. Увесь у вяснушках, у рабаціцці. Лысінка з кучаравым вяночкам валасоў, адліваючых меддзю. І за гэта меў некалькі мянушак: Руды, Рыжы, Рабы, а самая распаўсюджаная — Медны.

Дзядзька Стах Медны заходзіў у дом, пачынаў шукаць вачыма, куды павесіць капялюш. Маці хапала капялюш у яго з рук, увогуле пачынала мітусіцца. Петруся дзівіла гэта — нібыта завітаў дарагі госць. Затое баба Домна накідвалася на сына.

— Табе далёка было пад'ехаць? Цяжка было брата абняць? Чаму вы не мірыцеся?

— Ах, ха, ха, — адказваў на гэта Стах. Прысаджваўся за стол. — Я ж вас паміру! Ах ты, мая Ціша!

Петрык, калі быў малы, думаў, што дзядзька Стах, як і бацька, летуценнік (а яго падсвядома цягнула да паэтычных натур), і пад словам «ціша» мае на ўвазе навакольную цішыню, ёю захапляецца пасля гарадскога тлуму, калі ўскліквае: «Ах ты, мая ціша!»

Але цяпер ён ведаў, што Ціша — гэта сучачка дэкаратыўнай пароды, той-тэр'ерчык, дзядзька Стах з жонкай цёткай Таняю надта любяць яе, выгульваюць, мыюць у ванне шампунем, яна нават мае ўласную канапку, хоць і спіць з імі ў адным ложку.

— Ты чуеш, што я пытаю, ці ты не чуеш? — не ўнімалася баба Домна, пакуль маці ладзіла закуску.

Стах зноў не адказаў, а пагладзіў пляменніка, як сабачку, па галаве. Петрык даверліва падышоў бліжэй, прыцiснуўся да дзядзькавага калена.

— Бач, вялікі вырас. Калі ў школу?

— На той год, — адказала за Петрыка маці.

— Пойдзеш у школу — не бойся. Я памагу. У мяне сусед настаўнік. Лёнем завуць. Лену маю вучыў, і цябе будзе вучыць.

— Памажы, Стахвейка, — паддобрывалася маці. — Хто ж яму паможа, сіраце пры жывым бацьку?

— Той яшчэ бацька... Пустазвон, перакаці-поле. Пустазелле. Колькі ён зарабляе? На білет хоць былі грошы? Ці ў вас прасіў?

— Былі...

— А кулак не аб'яўляўся? — спытаў Стах, маючы на ўвазе брата Стэфана.

— Які ён табе кулак?! — не вытрымлівала Домна. — Ён табе родная кроў, а не кулак!

— А хто ж ён? Кулак. Адгарадзіўся ад усяго свету, знялюдзеў ужо, здзічэў — нават палітыкай не цікавіцца... Каб мог, дык неба закрыў бы купалам.

— Схадзі, прашу цябе, да Стэфана, — усё яшчэ не губляла надзеі Домна. — Схадзі!

Стах задумаўся.

— Гэта што там на падаконніку? — памаўчаўшы, спытаў у маці. — Памідор? Можна мне памідор? Яны, цяплічныя, смачней чым з грады. Колькі ты там на сваіх парніках зарабляеш?

Выпіў, закусіў памідорам, пасаліўшы яго перад тым, паведаміў, што «гурок на 80 працэнтаў складаецца з вады, затое ў памідоры калорыяў — як у мясе!» З кожнай чаркай язык яго развязваўся. Ён дэманстратыўна звяртаўся толькі да маленькага пляменніка, называючы яго то Петрыкам, то Цішаю.

— Ты ведаеш, як я жыву? Які я багаты? У мяне ў кватэры ў футбол гуляць можна! Ах ты, мая Ціша! А грошай на браніроўцы зарабляю столькі, што мог бы засыпаць цябе з галавою, як лістамі з клёна ўвосень!

І Петрыку зноў бачылася ў гэтым параўнанні — грошай з кляновымі лістамі — паэзія.

Маці з Домнай і гаварыць са Стэфанам перасталі, бо ўсё адно без толку, на пытанні ён не адказваў — або рабіў выгляд, што не чуе, або бесцырымонна мяняў тэму і казаў:

— Ах-ха-ха. Дзе ж ты, мая Ціша! А той усё плавае... Я ж табе паплаваю!

Баба Домна скрушна глядзела на яго.

— Як ты такі дамоў заедзеш? Што Таня скажа?

Выводзілі Стаха да прыпынку маці пад адну руку, баба Домна пад другую. Пятрок ззаду нёс капялюш. Дзядзька Стах не хацеў ехаць, парываўся абняць Домну. Ад перапаўняючых яго пачуццяў, ад хмельнага захаплення жыццём ён раскідваў рукі (гальштук матляўся):

— Ты ляці ад Волгі да Ур-ра-а-а-а... — расцягваў, разгортваў грудзі і лёгкія, і так доўга цягнуў на «а», нібы заклініла яму, і хацелася закончыць за яго, выгукнуць гэтае заключнае «ла!» Нарэшце ўсаджваўся ў аўтобус і з песняю адбываў.

Ледзь паспявалі перавесці дых, як у двары чуўся тупат. Цяжкай хадою праходзіў па сцежцы і ўзнікаў на парозе дзядзька Стэфан. Моўчкі здымаў кепку, азіраўся. Маці брала кепку і чапляла на той самы цвік, дзе нядаўна вісеў капялюш.

— Гэта ж трэба! Як цікуюць адзін за адным! — усплясквала рукамі баба Домна. — Не каб разам сабрацца!

Дзядзька Стэфан пазіраў у падлогу. Так і чакалася, што зараз чалавек пачне каяцца, прасіць прабачэння, выкручвацца. Але ён не каяўся, а казаў толькі:

— Во-о-сь, — і апускаўся на табурэтку.

Стэфан працаваў вартаўніком на аэрапорце, куды ездзіў веласіпедам. Калі яго брат Стах смакаваў слова «браніроўшчык», дык Стэфан, падкрэсліваючы выгоднасць свайго вартаўніцтва, з няменшай важнасцю зазначаў, што ў яго праца:

— Суткі праз двое!

Жыў вельмі замкнута, аднаасобна, вёў амаль натуральную гаспадарку. Але імкнуўся да яшчэ большай незалежнасці, поўнай.

— Ты не мог раней прыйсці? — ужо на яго перакідвалася Домна. — Далёка табе?

На што Стэфан зноў цягнуў глыбокадумна:

— Во-о-сь.

У яго быў выгляд суддзі, ці пракурора, які нарэшце заявіўся, каб сказаць сваё апошняе важкае слова і абвесціць прысуд. На Домну ён не звяртаў увагі, а ў братавай строга спытаў:

— Дык кім ён там у цябе робіць?

— Яго зразумееш? Ці то сплаўшчыкам, ці лоцманам, ці боцманам... Як гэта правільна: лоцман ці боцман?

— Не ведаю і ведаць не хачу, — адразаў Стэфан. — Брэша ўсё жыццё. Абодва слова праўды не сказалі ніколі: што твой, што Медны...

— Які ён табе Медны?! — не вытрымлівала, крычала Домна. — Ён табе родны брат! Вы мірыцца калі-небудзь надумаеце?! Чаго вам не хапае?! Здаровыя, не калекі, не лядачыя, з рукамі-нагамі, багатыя... Жывяце асобна, як у раі... Што вы дзеліце?

Адказу не дачакалася, ды, было відаць, не надта і чакала яго, а проста так казала — па завядзёнцы.

Дзядзька Стэфан таксама доўга сядзеў. Піў «абрыкосаўку», закусваў, памаленьку чыхвосціў аднаго брата, другога, і ўсіх слабадчан за кампанію.

Калі ўсё канчалася, маці падлічвала страты і толькі рукамі разводзіла.

— Але ж і сыны ў вас! Гэта ж трэба: трое мужчын перабыло, усе адчынялі веснічкі, бачылі, што клямка на адным цвіку вісіць — і ніхто не паправіў! Прыдуць, як у шынок, паядзяць, пап'юць, пачэшуць языкі, а ты слухай ды кожнаму ківай... Я думала, у мяне муж, ды свякруха, ды два дзеверы — я з імі гора ведаць не буду! А тут — абы-што!

— Ох, твая праўда, донечка... Я ўсё думаю, не яны — я вінаватая! Мо я ім замінаю?..

Гэта была любімая бабіна тэма. Неаднойчы яна і раней казала, што, відаць, толькі яе смерць памірыць і аб'яднае братоў.

## 6

Аднойчы ў красавіку, пад вечар, Пятрусь з сябрам-аднагодкам Тамашам Капорам гулялі каля аўтобуснага прыпынку ў «цір» — шпурлялі каменьчыкі ў шыльду «Чэшская Слабада».

Выйшла з дому Галька, старэйшая Тамашава сястра, у белай спадніччцы, у белых калготках. Галя вучылася ў школе, ёй было ажно 9 гадоў. З імі, малымі, яна не цырымонілася. Любіла мерацца ростам, падцягвала за вуха, праводзіла далонню па макаўцы — і Тамаш, і Петрык даставалі ёй толькі да грудзей.

Галька агледзелася, пазяхнула. Ёй было сумна.

— Што вы тут робіце? Яшчэ вочы сабе не павыбівалі. Хадзем лепш пад грушу траву есці, — загадала яна камандзірскім тонам.

І яны пайшлі вузкай сцяжынкай на поле пад грушу.

— Усё гэтае поле наш тата засеяў, — як бы між іншым паказвала вакол рукой Галька.

Поле зелянела маладым жытам. Пасярод поля ўзвышаўся пагорак, парослы дзікай травой і жоўтымі дзьмухаўцамі — у зялёным моры маленькі востраў, з пахіленай грушай замест пальмы.

— Грушу хацелі спілаваць, але тата не даў.

Адсюль, з пагорка, на ўсе чатыры бакі адкрываўся іхні родны краявід. Зялёная рунь пагранічнай паласой аддзяляла горад ад Слабады. Там, адкуль яны прыйшлі, у Слабадзе, няспешна цякло сваё жыццё. А наперадзе поле ўпіралася ледзь не пад самыя вокны белых гарадскіх пяціпавярховак, новенькіх і яшчэ недабудаваных. Сонца заходзіла ў тым баку, адбівалася ў шыбах, свяціла ў вочы.

Цікава было вось так стаяць на мяжы горада і сяла, узвышацца над гэтым, ды яшчэ і мець волю: хочаш — вяртайся дамоў, у Слабаду з яе домікамі, садамі, рэчкай, лесам, хочаш — ідзі ў горад з яго спакусамі.

— Ву-у-нь у тым доме, — не прамінула пахваліцца Галька, — мы будзем жыць. Татка кватэру там будуе.

Карл Капора быў майстар на ўсе рукі. І блізка нельга было ставіць Петрусёвага бацьку з механізатарам Карлам Капорам. Тое, што Марк толькі збіраўся зрабіць, дзядзька Карл ужо рабіў. Ён паспяваў зарабляць грошы, будаваць кватэру, на сваім трактары са зменным абсталяваннем араў поле, засяваў, жаў, малаціў; акрамя таго быў галоўны над чысцінёй у Слабадзе — звозіў смецце з бакаў на прыпынку, узімку чысціў вуліцы ад снегу касым нажом-адвалам, а ўлетку адмятаў іх круглым жорсткім венікам-валам, прычэпленым ззаду да трактара. Што і казаць — гэта табе не «капітан дальняга плавання»...

— А цяпер давайце есці траву. Без каманды не рабіць нічога! — папярэдзіла Галя.

Елі лежачы на жыватах. Трава сакавітая, сціснеш у пальцах, аж пырскае з яе. Есці трэба было так, як вучыла Галя: асцярожна цягнуць, тады травінка з ледзь чутным прыемным скрыпам выходзіць з сустава — кончык белы, і яго можна есці — салодкі, смачны... Калі ж падняліся — выкачаныя, выпацканыя ў жоўтыя і зялёныя плямы, — Галька агледзела сваю спаднічку і калготкі і ледзь не заплакала. Але стрымалася. Будучы камандзіршай, бесклапотна сказала:

— А-а, памыюцца! Давайце далей ляжаць! — і зноў плюхнулася на жывот; маўляў, мне ўсё роўна.

Ляжалі на цёплай траве ўкруг, цесненька, блізенька, галава да галавы, ногі ўрас-кід, падобныя на маленькіх маляроў, і шэпатам абмяркоўвалі важную, надзённую тэму: што будзе, калі Брэжнеў памрэ? І ці могуць такія людзі наогул паміраць?

— Брэжнеў ніколі не памрэ, — упэўнена сказаў Пятрок. — Яму вучоныя дадуць такі ўкол, ад якога ён памаладзее. А потым пастарэе — а яму зноў укол...

Гальцы і без таго было прыкра за спаднічку і калготкі, а тут яшчэ так яўна забіралі яе камандзірскія паўнамоцтвы.

— А Леніну чаму не далі?

— Вучоных не было. Таму Леніна і не закопваюць у магілу. Ён ляжыць у маўзалеі і чакае, пакуль вучоныя прыдумаюць такі ўкол, і ён ажыве.

— Усё ты ведаеш! Што ні спытай! І адкуль ты такі разумны ўзяўся? — ветлівенька, салодзенькім, як трава, галаском пачала Галя.

— Баба Домна расказвала.

— Баба, баба, — перадражніла Галька. — Можна падумаць, нейкая баба больш ведае, чым у школе вучаць! Хочаш, я скажу, чаму ты такі разумны?

— Ну, чаму?

Але яна марудзіла. Азірнулася. Пачырванела.

— Дай вуха. Ты таму такі разумны, бо ты...

І выдыхнула яму ў вуха слова.

Каб яна проста сказала, уголас, без гэтых таямнічых падрыхтовак, Петрусёк бы ўвагі не звярнуў. Падумаеш — чуў ён сто разоў яшчэ і не такое. Ён дасюль нават не ведаў, што гэта кепскае слова. Але, мяркуючы па тым, як пачырванела Галька, як яна азіралася, перш чым гэтае слова прашаптаць, было тут несумненна штосьці нядобрае, брыдкае, саромнае, абразлівае.

— Няпраўда! — ускочыў ён на ногі.

— А вось і праўда! Ты не такі, як мы, а чарнявенькі і лупаценькі... Як і твой бацька...

Гэта ашаламіла яго. Раней ён ніколі не задумваўся, чаму ў чалавека такая, а не іншая знешнасць, яго не цікавіла, які ў каго нос, рот, губы, падбародак, яму было ўсё роўна, якога памеру вушы, кучаравыя валасы ці прамыя і тырчаць пасмамі.

Усё гэта было так нова, так дзіка, так нечакана, што ён проста разгубіўся. Галоўнае, за што?!

Яго гарманічны сусвецік, дзе ўсе людзі летуценныя паэты, добрыя, шчырыя, разбіваўся цяпер адным гэтым словам, як шкло жалезным малатком.

— А скажы мне! — хныкаў Тамаш, цярэбячы Гальку за выпацканыя калготкі. — Я таксама хачу пачуць!

Галька і яму прашаптала на вуха. І яны ўжо абое захіхікалі, брат з сястрою.

У Петрыка яшчэ больш сцялася ўсё ў сярэдзіне. Вочы ў яго пачалі наліваца слязамі. Ён хацеў крыкнуць, але замест гэтага толькі прашаптаў:

— Дык і што з таго?

— А тое, што ў армію цябе не возьмуць! — заявіла бязлітасная Галька, — і ў школу не прымуць, і дзеўкі ў цябе ніколі не будзе!

Яна яшчэ і языком пацвяліла.

Пятрусь нічога лепшага не прыдумаў, як падцягнуць штонікі на гумцы — і наўцёк! Пабег па зялёным жыце, не разбіраючы дарогі.

А ўслед яму неслася:

— І бацька ў цябе!.. І дзед твой не герой!.. І дзядзькі твае!..

Петрык бег з усіх ног, спатыкаючыся.

Дзверы ў веранду былі насцеж.

Маці смажыла на пліце мойву. На стале стаяла міска з мукою і пляшка алею. Шквырчала патэльня, пырскалася гарачым алеем, тоўстыя доўгія рыбкі, абваленыя ў муцэ, з аднаго боку ўжо былі падрумяненыя, карычневыя, у некаторых з жыватоў выпірала жоўценькая ікра, падсмажвалася — самае смакоцце!.. Петрык заўсёды любіў вылушчваць гэтыя прадаўгаватыя долькі, што так прыемна лопаюцца на зубах, калі іх жуеш. Іншым разам ён так парадаваўся б такому святу!

Але цяпер ён уляцеў у веранду з выглядам чалавека, у якога здарылася вялікае гора.

— Мама! — крыкнуў адчайна. — Мама, я... Я...

— Што?

Тут Пятрок прыкусіў язык. Ён чамусьці таксама пабаяўся сказаць тое слова ўголас, а зрабіў усё па-Гальчынаму. Спачатку азірнуўся, потым пачырванеў, і толькі тады прашаптаў маці на вуха:

— Галька сказала, што я...

— Усё?

— Усё.

— Дык што ж тут такога? — сказала маці. Яна была занята, да таго ж яўна не ў гуморы. — Хоць бы і так. Ты і праўда падобны. Вунь які чарнявенькі, лупаценькі, вушаценькі... Рыхтык бацька.

Пырснуў алей на руку, і маці войкнула.

— Не стой пад рукою!

— Гэтак ты за мяне заступаешся?! — ужо з непадробным адчаем, не ведаючы, што ж гэта ў свеце робіцца, усклікнуў Пятрок. — Ну, калі той бацька яшчэ раз прыедзе! Я яму, калі вырасту... Я...

— А пры чым бацька? Яго ж твая любімая баба Домна нарадзіла. Дык ідзі спытай, ад каго ён. Мо ад Якава?

Маці знарок казала гучна, каб бабуля магла чуць, бо яе пакойчык быў блізка ад веранды. Бабуля Домна не выходзіла. Якраз учора ў яе была пенсія, трохі пагулялі, паспявалі, і цяпер яна, як заўсёды ў такіх выпадках, адчувала сябе вінаватай, старалася лішні раз не трапляцца на вочы і на язык нявестцы.

— Яна нікому не кажа, а ты спытай — табе мо скажа.

— Я да яе ніколі ў жыцці не пайду! — і зараз жа пабег да бабы Домны.

## 7

Пятрусь піхнуў дзверы, уваліўся ў пакой.

Грозны! — штонікі на гумцы, сандалікі, шапачка круглая, надзета брылём назад і ад таго падобна на ярмолачку.

І з месца ў кар'ер:

— Ад каго мой бацька?!

А баба Домна стаіць перад ім, маўчыць, і ўсміхаецца светла. Паддаценькая, добрая. Шчочкі румяныя, зубкі цэлыя, вочы лагодныя.

— Я твой дом спалю, і цябе разам!

— На, палі.

Дастала з прыпечка карабок сернікаў, пашамала, а ў рукі не дала, хітрая.

Ахайны пакойчык. На тумбачцы тэлевізар, закрыты вышытай сурвэткай. Графінчык «абрыкосаўкі» на адкідной крышцы серванта, вакол графінчыка — рассыпаны цукеркі. На стале букет у слоіку. Букеты яна ставіла круглы год — зімою проста галінкі смародзіны або маліны, яны хутка распускаліся, зялёнымі лісткамі маладзілі пакой, і моцна пахлі вясною. Цяпер стаялі стаўбункі ледзь-ледзь распукнутага сіняга лубіну. Пятрусь заўсёды збіваў палкаю яго галоўкі, лічыў пустазеллем, і нават не здагадваўся, што звычайны лубін, пастаўлены ў слоік, можа быць такім прыгожым.

— Ад каго мой бацька? — ужо не так агрэсіўна спытаў унук.

— Ад дзеда Андрэя — ад каго ж. На, сам паглядзі...

І зняла са сцяны рамку, дзе пад шклом — пажоўклае фота з зубчыкамі па краях. Малады, вельмі сур'ёзны твар, засмучаны прадчуваннем хуткай смерці. На ўсіх без выключэння даваенных здымках такія твары — нават у тых, каму наканавана выжыць.

— Бачыш, які падобны? Усе ад Андрэя — і бацька твой, і дзядзькі. Усё ён паспеў. І сыноў нарадзіць, і дом гэты зрабіў, і печ склаў, і грубку... Тут усё яго рук. І вішні на двары пасадзіў, і абрыкос...

— Абрыкос? Дзед Андрэй?

Аргумент з абрыкосам падзейнічаў. Прамільгнула думка, што цяпер і яму, Петрыку, будзе чым хваліцца; Галя Капора скажа: мой тата, мой тата, а ён ёй — а вось мой дзед Андрэй!.. І зараз жа ўспомнілася, што расказваць больш няма каму, цяпер яны з Галькай ворагі.

— Ну, бачыш, ад каго твой бацька? Ад найбольшага героя!

— А чаму ён не ў брацкай магіле каля аэрапорта, як усе?

— Бо ён такія подзвігі рабіў, што яго асобна пахавалі. Хто ў брацкай магіле, той меншы герой, а хто ў асобнай — той большы.

Пятрусь слухаў з недаверам, але бабуля казала так упэўнена, пераканаўча, што ён быў зусім супакоіўся. Але тут зноў крыўда нахлынула.

— А яны дражняцца! Кажуць, што я... — і зноў не адважыўся вымавіць уголас, азірнуўся, як і з маці, пачырванеў, і паманіў бабу, каб нахілілася. Прашаптаў ёй на вуха.

Бабуля выпрасталася, стала строгай, урачыстай.

— Ніколі больш такога не кажы! І не паўтарай! Ні ў голас, ні сам сабе не кажы, бо гэта самае брыдкае, самае страшнае слова, якое толькі можа вымавіць чалавечы язык!

— Горш за мацернае? — прашаптаў Петрык, у якога аж мурашкі па спіне папаўзлі ад яе біблейскага тону.

— Горш! І таго, хто гэта кажа, у турму пасадзяць, і Бог на небе пакарае так, што язык адсохне, і рукі-ногі паадсыхаюць!

— А Галька сказала, — заміраючы ад страху, прашаптаў Петрык. — Не пабаялася... І што ёй за гэта будзе?

— Бог пакарае.

— Калі?

— Ну, не адразу... Трошачкі пасля таго, як сказала. — Тут бабуля прыслухалася, прыпала да акна: — Нехта ідзе да нас...

Але дзверы ўжо стукнулі. Петрыку і соладка было, і страшна, і так шкада Гальку! А раптам у яе язык адсохне? Ці рукі адымуцца? Яна такая прыгожая... Жывая, жвавая... Пругкая, як ікрынкі мойвы. І Петрыку было заўсёды прыемна, калі яна мерылася ростам і прыціскала яго да грудзей. Ах, што ж яна сама сабе нарабіла, дурніца! Цяпер ён і рады быў бы памагчы, ды ўжо, відаць, ніяк.

— А яны яшчэ дражнілі мяне разумным, — ні з сяго ні з таго ўспомніў ён.

— А ты не паказвай крыўду. Бо яны толькі таго і чакаюць. І калі ты злуешся, дык яшчэ больш будуць дзяўбаць. Яны табе — разумны, а ты адказвай — яшчэ і які разумны, разумнейшы, скажы, за вас! Я, скажы, такі разумны, як Брэжнеў.

— А яны крычалі, дзеўкі ў мяне не будзе, — адно за адным прыгадваў Петрык.

— А ты скажы — мае дзеўкі яшчэ не нарадзіліся, яны не роўня вашым, мае, скажы, дзеўкі будуць з чыстага золата!

Параўнанне не вельмі спадабалася ўнуку — лепш было б, каб яго дзеўкі былі жывыя і цёплыя, як Галька, а не з мёртвага халоднага золата. Але ўсё адно яму прыемна было слухаць, і лягчэй рабілася на сэрцы. Ён бачыў, што бабуля шкадуе яго, хоча абараніць, і таму знарок перабольшвае.

— Яшчэ казалі, што ў армію не возьмуць...

— А ты скажы — возьмуць, выберуць у генералы, і я буду ў сухім штабе сядзець, а вы ў акопах мокнуць, — мякка слала баба Домна.

А сама цукеркі падсоўвае, і ўсё свеціцца дабром. Кошачка падышла, стала ласціцца аб ногі. І сцены добрыя тут, і тэлевізар добры, і так прыемна пахне абрыкосавай настойкаю...

— Ну, бабулечка, я цябе так любіць буду, не ведаю як!

Радасны, супакоены — з такой навукай не прападзе цяпер! — пабег Петрык на веранду. А там Галькін бацька, трактарыст Карл Капора. Сядзіць за сталом і есць мойву.

— ...А я бачу, нешта не так. Пцьфу-пцьфу... Галя ледзь не плача. Што такое? Я пытаю — маўчаць. Я за папругу — маўчаць. Я здымаю папругу... Тут Тамаш прызнаўся. Галя, кажа, дражніцца! Петрыка, кажа, задражніла. А яна перажывае, во яно як... Ну, думаю, раз так — схаджу, гляну. Думаю, трэба схадзіць, глянуць. Пцьфу! Схаджу, думаю, адведаю, — усё паўтараў Капора, відаць, ставіў сабе ў заслугу свой прыход.

— Не плюйся... Усе дзеці спрадвеку дражняцца.

Маці наклала на талерку рыбы, зверху лусту хлеба, падала сыну:

— Бабулі аднясі... Бо яна ганарыстая, сама не прыйдзе, — патлумачыла Капору. — Пакрыўдзілася, што я мо не так сказала пра яе ўчарашнія гулі.

Петрык аднёс і хуценька назад — паслухаць.

— ...Дык я думаю, гляну. Як хлопцу пасля таго, як яго пакрыўдзілі. Наўрад ці яму соладка на душы, — разважаў Капора. — Няможна такім словам дражніць чалавека. Калі ўжо так не церпіцца, ну, скажы, дапусцім, яўрэй. Чалавек жа не вінаваты, што яўрэй, правільна? Што ж тады, не жыць?

— Абы-што ты плявузгаеш! — злавалася маці. — Чалавека ніяк не трэба дражніць! Ніякім словам! Ды не плюйся ты!

Капора меў дурную звычку — казаць перыядычна «пцьфу-пцьфу». Праўда, сліна не ляцела, але было непрыгожа, непрыемна, бо здавалася, што вось-вось сліна выляціць. А так як заходзіў ён часта, любіў пасядзець, і чалавекам лічыўся важным, патрэбным са сваім трактарам і сваімі ўмелымі рукамі — такога не выганіш, дык, бывала, маці, стаміўшыся рабіць яму заўвагі, дэманстратыўна прыносіла і расцілала на падлозе каля яго ног газету.

Цяпер маці марна старалася змяніць тэму.

— Усё! Каб больш не вучыў гэтаму сваіх дзяцей. На гурка вазьмі.

— Гурка папрэбую... Смачны, салодкі... Пцьфу!.. Чаго ўжо тут... Так ужо атрымалася... Трэба выгляду не паказваць... Трэба цярпленне... Я вось з адным служыў, дык у яго было прозвішча Яблонскі...

— І што?

— Цярпеў. Тут толькі адно — цярпленне і яшчэ раз цярпленне...

— Ну, вушы проста ад цябе вянуць! — не вытрымлівала маці.

— Ты вунь якая ладная, русая, прыгожая... Гарна маладыця! А Пятрок, бачыш, не ў цябе ўдаўся... Бывае... Я Гальцы гэта ўмазгую. Папруга паможа... Калі ўжо так закарцела, язык свярбіць, дык можна ж якое іншае слова знайсці... Сказаць — рускі, ці паляк, ці чэх...

— Я табе соты раз паўтараю — ніяк не трэба дражніцца!

— Мы мо і ёсць якія чэхі. Нездарма ж так назвалі — Чэшская Слабодка... Проста так не назавуць. Людзі калі ўжо даюць назву, дык ведаюць, што да чаго. Калі б тут жылі, дапусцім, яўрэі, была б, можа, Яўрэйская Слабодка... Альбо каб жылі славакі — Славацкая Слабодка...

Капора марудна набліжаўся да высвятлення ісціны. Гаварыў з задавальненнем, было відаць, што падабаецца яму тут. Гаворачы, ён адначасова еў мойву, гурок, а найбольш — маці вачыма.

— Абрыкосам пахне, — нюхаў чарачку, разглядваў на святло. — А калі б жылі рускія — звалі б Руская Слабодка... Пцьфу...

— Не магу я больш слухаць! — зусім раззлавалася маці. — Як веснічкі целяпаюцца, дык хоць бы хто памог... А ты спаць ідзі — даўно пара! — на сына.

Петрык пайшоў, распрануўся, акуратна склаў на табурэтку штонікі, кашулю, зверху кепачку. За акном было зусім цёмна. Лёг у ложак і накрыўся коўдраю. І адразу ж перад вачамі паплылі зялёныя і жоўтыя плямы, чамусьці падумалася, што ствол абрыкоса так і не пабялілі...

Маці ціха прыйшла ў цемры. Пачала абдымаць яго.

— Ах ты мой дурненькі, я ж цябе так люблю... Ты ж сам сябе не можаш бачыць збоку, а ты такі спрытненькі, ладненькі, прыгожанькі... Добры, ціхі... Самы разумны ў мяне!

А ён выкручваўся, не даваўся ў рукі, мармытаў:

— Не хачу быць разумным...

— Ты ж толькі калі вырасцеш, дзеўку палюбіш, не забывай пра матку, добра? Бо дзеўка скажа, нашто нам матка — старая, нягожая... Не ўсе нявесткі свякрух любяць...

— Не хачу расці! — шыўся ён пад коўдру.

— А што ты хочаш?

— Вось тут з табою жыць і на вуліцу не выходзіць!

Маці весела смяялася, і Петрык таксама супакоіўся — ён успомніў, што цяпер у

яго ёсць навука бабы Домны і яму больш няма чаго баяцца. Раніцай ён выйшаў на вуліцу, па звычцы прытрымліваючы веснічкі дзвюма рукамі. Але яны ўжо не калываліся, клямка сядзела надзейна. Каля Капорынага дома стаяў матацыкл з каляскаю. Дзядзька Карл дзелавіта піхаў палачку ў бак — правяраў, колькі бензіну. Побач стаяла Галька ў бялюткай, адмытай-адпрасаванай спаднічцы і трымала ў руках самы сапраўдны матацыклетны шлем! Пятрок адвярнуўся, раздумваючы, ці не шмыгнуць назад у двор. Але Галька ўбачыла яго і ўзрадавана махнула рукой. Яна была вясёлая! Яна клікала яго, каб падышоў. Ён марудзіў. Яна сама падбегла.

— А мяне сабака ўкусіў! — пахвалілася.

— Чый?!

— Наш.

— Калі?!

— Учора ўвечары, позна, калі тата ад вас вяртаўся.

Пятрусь стаяў аслупянелы. Вось дык падзеі! Як хутка прыйшла кара! Злачынства — і імгненна пакаранне... Але ж ён не хацеў гэтага! Цяпер Галька ўзненавідзіць яго, падумае, гэта ён на яе кару напусціў... Ён ужо сабраўся ўсё растлумачыць, сказаць, што не ён вінаваты — ён ніколечкі не крыўдуе! — на слова, якое нельга вымаўляць чалавечаму языку, але тут Галя сказала:

— Нага сіняя, як неба! Хочаш, пакажу? — і задрала спаднічку.

Нага была не як неба, а хутчэй як вясёлка на небе: сіняк, густа змазаны ёдам і зялёнкаю, і ад таго featuresзнакаляровы, і на сіняку — чорныя, заманлівыя сляды дзірачак ад зубоў, зверху і знізу.

— З сабакі поўсць стрыглі, палілі і попелам замазвалі...

— Навошта?

— Каб не заікалася. І яшчэ доктар прыязджаў. Цяпер мяне будуць вазіць у паліклініку на ўколы.

Сколькі навін! Петрык аж пазайздросціў.

— А ты ў шлёме будзеш ездзіць?

— Канешне! Гэта ж горад; там без шлёма нельга, адразу арыштуюць.

Не — усё ж такі Галька здораўская! Вунь колькі прыгод, і як прыгожа ўмее расказваць — «нага сіняя, як неба!»

**8**

Першага верасня маці памагла Петрыку ўздзець на плечы ранец — дачакаўся свайго часу бацькаў падарунак, узяла за руку і павяла на прыпынак.

Па дарозе сустрэлася Галька Капора з братам Тамашам. Хлопчыкі міжволі пацягнуліся адзін да аднаго, адзін чарнявы, другі бялявы, абодва падстрыжаныя, вушастыя, натапыраныя і напалоханыя — дзеці поля, лесу, рэчкі, прастору, волі...

На прыпынку ўжо многа стаяла слабадскіх школьнікаў. Старэйшыя былі вясёлыя, смяяліся, хлопцы штурхалі дзяўчат, а меншыя, такія, як Петрык з Тамашам, збіліся ў маўклівы гурток са сваімі букетамі гладыёлусаў вышэй галавы, а ў дзяўчынак у кожнай на галаве яшчэневерагоднай велічыні банты.

Паказаўся знаёмы «Ікарус». Раптам усе пачалі хвалявацца: а можа, не спыніцца? Аўтобус і праўда праехаў далей, чым трэба, потым усё ж прытармазіў, даў задні ход і неахвотна спыніўся.

Ехаць было два прыпынкі. Раней Пятрусь бачыў школу толькі з акна аўтобуса. Звычайна, калі вадзіцель аб'яўляў: «Школа!» — кожны раз ён прыліпаў лобам да

шкла і з недаверам, нават са страхам пазіраў на цагляную трохпавярховую будыніну, якая трывала асацыіравалася ў яго з турмою. Колькі ён сябе помніў, старэйшыя палохалі яго:

— Пачакай, пойдзеш у школу — пабачыш...

— Там, браце, не мёд!..

— Гуляй цяпер — бо ў школе не пагуляеш!..

Калі ім верыць, галоўная задача школы была ў абмежаванні свабоды, а ўся навука складалася з суцэльных забарон. Там на ўроках забаронена гаварыць, азірацца, уставаць, свістаць; няможна было нават, калі захочаш, выйсці ў прыбіральню. Трэба было толькі сядзець моўчкі, рукі склаўшы, і вачэй з настаўніка не зводзіць.

Аднак усё аказалася не такім і страшным. Пасля ўрачыстай лінейкі іх прывялі ў клас. Петрыка пасадзілі за адну парту з Тамашам. Клас вялікі, прыгожы. Стаяў прыемны пах, які бывае пасля рамонту. Праўда, каляровыя плакаты былі страшныя — на адным чалавек з разрэзаным жыватом, дзе ўсё напаказ, усе вантробы да апошняй кішачкі; на другім — чалавек зацягваецца цыгарэтай, і лёгкія ў яго гніласна-зялёныя, а побач другі чалавек удыхае водар ружы, і ў гэтага лёгкія чысценькія, ружовага колеру. Потым карта, глобус. Каля вялікай дошкі стэндзік, там кішэнькі для картак з лічбамі і з літарамі; да кожнай літары малюнак: «в» — вожык, «г» — грыб, «е» — лясная красуня-елка, «ё» — тая самая елка, толькі навагодняя, прыбраная бліскучымі цацкамі.

Малады настаўнік адразу спытаў:

— Хто ведае на памяць верш?

— Я!

— Хто?

— Дворак Пятрок!

Увесь клас так і паехаў са смеху. Пятрусь з Тамашам нічога не разумелі.

— З гэтага дня вы ўжо вялікія, — сказаў настаўнік. — Таму адвыкайце ад гэтых сю-сю, Марыначак-Паўлінaчак, Сяргейкаў-Петрачкоў. Наступны раз будзеш казаць — Дворак Пеця, або Дворак Пётр. Так і прыгажэй, і больш правільна. Ну, расказвай верш.

— Мы вясёлыя рабяты. Наша імя...

«Жарабяты», — хіхікнулі ззаду.

— Акцябраты! — пакрыўджана выгукнуў Петрык.

— Добра, сядай. А хто ўжо ўмее чытаць?

— Я! Я — Дворак Пётр!

— Якая гэта літара?

Баба Домна вучыла ўнука так: «каля мяне парасяты» — кэ-лэ-мэ-нэ-пэ-рэ-сэ-ты.

— Сэ, — сказаў ён.

— Не сэ, а эс. А гэта?

Пятрусь бачыў, што «тэ», але ўжо засумняваўся і сказаў:

— Эт.

— Не эт, а тэ. Можаш прачытаць слова?

— Ге-рой.

— Правільна. Малайчына. Вось ты, Дворак Пётр, і ёсць герой. Цябе ўжо ў трэці клас можна запісваць. На сёння табе хопіць, пасядзі маўчком.

Тамаш Капора зайздросна шаптаў:

— Ну ж ты і хітры! Выкруціўся! Я і не ведаў, што ты такі...

Петрык сядзеў амаль шчаслівы. Настаўнік заняўся іншымі, пачаў дапытваць іх падрыхтоўку. Петрык пакруціўся. Неўзабаве яму стала сумна. Ён падняўся і пайшоў да дзвярэй.

— Ты куды? — заступіў яму дарогу настаўнік.

— У туалет.

— Наступны раз будзеш падымаць руку і прасіць дазволу. Ідзі.

Пятрок выйшаў, пахадзіў па калідоры, спусціўся на двор, сарваў кветку з клумбы. Неяк ногі самі сабой панеслі яго са школьнага двара. Ён і не заўважыў, як апынуўся на полі, ужо зжатым, жоўтым ад пожні. Вось груша, пад якой яны елі траву. Сцежачка... Так ногі самі і прывялі яго дамоў. Бабуля Домна грэлася ў двары.

— Баба, мяне пахвалілі!

У бабы ледзь не аднялася мова.

— Захацеў быць такім, як бацька?! — ды плескача. — Цябе ж у кут на ўвесь дзень паставяць! На калені на гарох! Лінейкаю па руках!..

Ды зноў плескача! Калі ў абед пад'ехаў аўтобус, і Галька ўрачыста прынесла Петрыкаў ранец, ён, зарованы, запалоханы, мала што разумеючы, толькі прасіў бабулю, каб не казала матцы.

— Ох, і ўляціць табе, — суцешыла яго Галька. — І сёння, і заўтра!

На Петрыкава шчасце, маці вярнулася позна, стомленая, амаль не распытвала, як прайшоў першы школьны дзень, а бабуля, дзякуй ёй, добрая душа, і выглядам не паказала, што нешта здарылася. Не перадаць, з якім сорамам ехаў Петрык у школу на другі дзень. Але і тут абышлося. Настаўнік проста прамаўчаў. Ну ні слоўка!

Тамаш Капора дзівіўся, зайздросціў:

— Трэба ж так умець... Зноў выкруціўся! Спрытняк! І як толькі ўдаецца?

Пятрусь, аднак, напярод вырашыў дзейнічаць больш абачліва, а пакуль — залегчы на дно, каб спадцішка рабіць назіранні і набірацца вопыту.

**9**

З таго часу, як пайшоў у школу, Петрык толькі і чуў: ты ўжо вялікі, ты ўжо вялікі.

— Ты ўжо школьнік, вялікі, — сказала маці. — Хопіць табе мыцца ў балеі. Будзем ездзіць да дзядзькі Стаха ў мікрараён, у ванну.

І яны пачалі ездзіць да дзядзькі Стаха. Звычайна па пятніцах, увечары пасля працы. Маці напакоўвала сумку буракоў, морквы, бульбы, гуркоў, памідораў.

— Ты прывыкай, і яны хай да цябе прывыкаюць, — вучыла маці. — Мо з настаўнікам паможа... А мо кватэру на цябе перапішуць... Ды прыглядвайся да яго, вучыся! Не глядзі, што ён такі. Гэта ён на людзях прыдурваецца, а сам жыць умее, не тое, што твой бацька...

Петрыка заўсёды ўражваў гэты хуткі пераход ад слабадской цішы да горада. Некалькі прыпынкаў — і вось ты ўжо ў мікрараёне, як на іншай планеце. Дзіцячы сад, чужая школа. Гастраном. Знаёмы двор — прамакутнік, па два дамы з тарцоў, па тры — уздоўж. Усё замкнута. Пасярод двара дзіцячая пляцоўка, арэлі, грыб-мухамор у пясочніцы. Лавачкі ля пад'ездаў.

Дзядзька Стах з жонкай цёткай Таняй жылі ў трохпакаёўцы. Адзіная іх дачка Лена вучылася ў Мінску на доктара. Для яе бацька будаваў яшчэ адну такую ж трохпакаёвую кааператыўную кватэру, але ўжо ў «цэнтры» (як для слабадчан чароўным словам было «мікрараён», так для жыхароў мікрараёна — «цэнтр»). А пакуль жылі ў сваёй шыкоўнай, прасторнай кватэры ўтрох: дзядзька Стах, цётка Таня і Ціша,

сучачка з гладкай поўсткай, крывымі лапкамі, лупаценькая, з вусікамі. Спала яна на канапцы, куды, растаўсцелая, не магла ўзабрацца, тады азіралася, просячы дапамогі, і яе падсаджвалі. Ела з асобнай міскі, а то і з гаспадарскай, за сталом, калі дзядзька Стах браў яе на калені. Выгульвалі яе мала, у асноўным яна сядзела на падаконніку, пазірала ў акно і тапырыла вусікі.

Маці вучыла Петрыка прыглядацца, запамінаць — а што тут было прыглядацца? Толькі пазіраць і зайздросціць. Прыбіральня, ванна, балкон, кухня — усё ў адным памяшканні, і разам з тым ізаляванае. На падлозе дываны, на сценах дываны. Чысціня, ахайнасць. Мора вольнага часу — сядзі сабе за сталом і нічога не рабі. Цуд, а не гарадское жыццё!

Багатыя Стах і цётка Таня заўсёды прымалі бедных сваякоў — Петрыка з маці — гасцінна, але з паблажлівасцю.

— Ну, што новага? Хто памёр? — яшчэ з парога кожны раз пытаў Стах.

— Пакуль ніхто, — адказвала маці як бы крыху вінавата.

Цётка Таня працавала ў бальніцы медсястрою. І хоць цяпер, дома, ад яе нічым не пахла, Петрыку заўсёды чамусьці здавалася, што ўсё ж такі яна крыху пахне бальніцай, хлоркай і крухмальнай пасцельнай бялізнай. Цётка абдымала Петрыка, пры гэтым абмацваючы, — так, што дрыжыкі бегалі па скуры і рабілася шлакотна, уздыхала:

— Пусценькі... Не ўеты.

Яна ацэньвала чалавека не па адзенні, не па розуме, а па тым, наколькі ён тоўсты; ёй падабаліся людзі мажныя, поўныя, толькі па гэтым яна меркавала і пра цяперашні дабрабыт чалавека, і пра яго будучыню.

Дзядзька Стах таксама мацаў Петрыку жывот, а потым, задзіраючы майку, паказваў для параўнання свой, які ён называў «мамончык».

— Во які мамон трэба каб быў! — і ляпаў сябе па жываце.

Цётка Таня напаўняла ванну. Петрык распранаўся, сцінаючы плечыкі, папіскваючы, нібы не ў гарачую ваду трэба было ўваходзіць, а ў халодную, увальваўся ў глыбокую ванну з галавой. Якая блакітная вада! Якая прыемная расслабленасць ва ўсім целе! Ён мог тут ныраць, мог ляжаць на спіне, не дастаючы дна, мог адштурхоўвацца нагамі ад аднаго краю, а рукамі ад другога — і так плаваць узад-уперад. А далей была яшчэ большая прыемнасць, калі маці захутвала яго і выцірала калючым махровым ручніком, ад чаго цела рабілася лёгкім, чыстым, пругкім...

Потым сядалі за стол. І тут у Петрыка вочы разбягаліся. Вэнджаная рыба з белым слоем тлушчу — з Латвіі прысылаў цётцы Тані брат; катлеты, каўбаса, галубцы, з прывезенай імі свежай гародніны — вінегрэт і салаты... І гэта ў будні дзень, без аніякага свята. Дзядзька Стах наліваў сабе віна, перад тым, як выпіць, пытаў у Петрыка:

— Ты ведаеш, колькі тут калорый? Больш, чым у катлеце!

Цішу ён трымаў на каленях. Яна лезла мордачкай ва ўсе міскі, да якіх магла дацягнуцца, ніхто на яе не гыркаў, ёй дазвалялася за сталом тое, што і людзям.

— Ну, бачыш, як я жыву? У мяне ўсё! А ў кулака?

— Бачу, Стахвейка... Такія харомы... Каму яны застануцца? Лена замуж выйдзе, пабудуеш каператыў... А тут? Кватэра вялізная... Мо на сваю Цішу перапішаш? — няўмела жартавала маці. — А мо і майму Петрыку, твайму роднаму пляменніку, перападзе на долю...

На што цётка Таня адказвала:

— Ат, тыя кватэры... Абы голаду не было. Без кватэры можна пражыць, а не паеўшы — не пражывеш.

А дзядзька Стах казаў:

— Ах ты, мая Ціша! Ах, ха, ха, — або, каб перавесці гутарку з кватэрнага пытання, проста тыркаў пальцам у тэлевізар. — Ясір Арафат! Цалавацца ў Маскву прыехаў! Я ж вас пацалую...

У кожным пакоі ў іх стаяў тэлевізар, і яшчэ адзін — маленькі — на кухні. Гэты куханны не выключаўся ніколі, і чамусьці заўсёды, у які б час Пятрок з маці не прыехалі, па ім паказвалі адно і тое ж: Палесціна, арабы ў сваіх стракатых хустках і без хустак, яўрэі ў ярмолках і з пэйсамі і без ярмолак і без пэйсаў; аб'ядноўвала іх тое, што і арабы, і яўрэі заўсёды былі аднолькава ўзбуджаныя, крычалі і махалі рукамі.

— Ніяк не супакояцца, — здзіўлялася цётка Таня. — І за што яны ўсё ваююць?

— За мір у Еўропе, — патлумачыў Стах.

— Ты яшчэ не гаварыў з настаўнікам? — нагадала маці. — Пра Петрыка? — яна хацела выцыганіць у багатага дзевера хоць нешта практычнае. — Памятаеш, ты казаў, настаўніка ведаеш.

— Хто? Я? Ды я яго яшчэ такога, як Петрык, памятаю, як аблупленага ведаю! Гэта ж мае суседзі! На адной лесвічнай пляцоўцы...

Петрык ужо бачыў тыя дэрмацінам абабітыя дзверы, за якімі жыў яго будучы настаўнік. Ведаў, што настаўніка завуць Леанід Міхайлавіч (Стах казаў проста — Лёнька, або Лейба), у яго жонка Лена, у іх дзяўчынка-немаўля. Яшчэ там жылі бацькі настаўніка: дзядзька Міша (Стах казаў — Мейша) — мяснік у гастраноме, і цётка Броня, хворая. Цётка Таня часта хадзіла мераць ёй ціск.

— Ты абяцаў з настаўнікам пагаварыць...

— З Лёнькам? Абяцаў — пагавару. Маё слова — браня. Не цяпер толькі, а гадоў праз пяць. Ён жа з пятага класа вучыць, фізіку... Ён, Лёнька, такі — ён паможа! Алене маёй памог, і Петрыку, пляменніку майму, паможа.

— А вы як з імі, добра жывяце? Не сварыцеся?

— Мы? З імі?! Ды душа ў душу! Яны мяне паважаюць — ты што! Броня хворая, ціск мераць трэба, Таню завуць… А так яны такія ж, як мы! Таксама хварэюць, працуюць, у гастраном ходзяць...

— Можа, ім прывезці што? Бульбачкі, яек, грыбоў... Дык перадаваць жа сорамна...

— Чаго? Прывязі — Таня перадасць. Толькі мяса не вязі — у іх хапае.

— А гуся?

— Ну, гуся можна.

— Вы ж хаця з імі не сварыцеся, жывіце дружна...

— А каго яны будуць зваць ціск мераць? — лагічна заўважыў Стах. — У нас дружба — ты што! — вадой не разліць! Я іду ў гастраном: «Міша, мне лапатку!» Ён выбера ўжо... Да грама адсячэ! Ён мяне навучыў мяса выбіраць, па пражылках: калі белыя — маладое, сінія — брак. У лазню разам ходзім — яны таксама ў лазню, як і мы, ходзяць — там, у лазні, і пазнаёміліся. А да таго жылі і не ведалі, што суседзі. Неяк у лазні, у буфеце, я каньяк бяру, гляджу — Міша з гастранома! Я крычу на ўвесь буфет: «Міша!» Ён таксама п'е, як і ўсе. Ну, выпілі, ён пытае: «Вы яўрэй?» Я кажу — чаму, я нармальны чалавек.

Дзядзька Стах схапіў Цішу на рукі, прыціснуўся шчакой да мордачкі:

— Ах, ха, ха. Я, скажы, Ціша, наґмальная...

Смяяўся дзядзька Стах. Смяялася недалёкая цётка Таня. Пасміхалася, ківаючы галавою, прымушана і неяк нават як бы зусім нявесела, маці. А больш шчыра смяяўся Петрык, уяўляючы, як Ціша гаўкае: «Наґ!-мальная!» Цётка Таня паглядзела на гадзіннік:

— Ціша на вулку хоча? Гуляць пара Цішы?

Гэта быў ветлівы знак, што гасцям трэба варушыцца. Дзядзька Стах таксама сабраўся, каб заадно выгуляць Цішу і правесці гасцей. Калі выйшлі, Петрык яшчэ раз паглядзеў на суседнія, у ромбах, дзверы. Уявіў за імі хворую Броню, яе мужа-мясніка — вялізнага дзядзьку ў брудна-белым, з крывавымі плямамі фартуху, са шчарбатай сякераю ў руцэ... Бацька-мяснік трывала пераплёўся з сынам-фізікам, а гэта ўсё разам стварала даволі-такі страшнаваценькую карціну Петрыкавай будучыні.

Пятнаццатага лістапада Петрыку спаўнялася восем гадоў. Напярэдадні, за дзень, маці вырашыла з ім з’ездзіць да Стаха ўжо не ў ванну, а проста ў госці.

— Скажам, што дзень нараджэння заўтра... Мо зробяць падарунак, ці грошай дадуць... Бо ты ж ужо вялікі.

Да гэтага ніякія яго дні нараджэння не адзначаліся, ды так і не казаў ніхто — «дзень нараджэння», а казалі — імяніны. Петрык нават не памятаў дакладны дзень гэтых сваіх імянін, ведаў толькі, што яны позняй восенню, калі дэтэсафаўцы перастаюць ездзіць на аэрадром і скакаць з парашутамі, грыбнікі знікаюць, калі неба імжыць дажджамі, а то і ранішнім прымаразкам абівае лісце, — толькі адзінокі трактар вуркоча на полі, і нявядома, што ён там робіць, бо ўсё даўно зжата і прыбрана.

Маці зноў напакавала сумку, на гэты раз з разлікам на Стахавых суседзяў. Дзеля такога выпадку забілі гусака, баба Домна абскубла, абсмаліла і палову акуратна ўкруціла ў чыстую марлю.

Дзверы адчыніў Стах. Ён пахістваўся, і ад яго несла вінам. На Петрыкава з маці «добры дзень» адказаў:

— Чулі, Броню «хуткая» забрала?

На пытанне, дзе жонка, ён зноў адказаў пра Броню:

— Баяцца, што сперализуе. Я ж вас сперализую!..

— Дзе Таня, я пытаю?

Высветлілася, што Таня сёння ў начную змену. Распрануліся, сумку распакавалі. Нязвыкла было бачыць голы стол, на якім толькі пляшка віна і шклянка. Пакуль Петрык забаўляўся з Цішаю, якая хадзіла на задніх лапках, маці пачала заварваць гарбату, а дзядзька Стах сеў за стол і выпіў віна.

— Хто ў вас памёр?

— Усе жывуць, — стомлена сказала маці. — Вось восем гадоў хлопцу заўтра...

— Заўтра?!

Стах імгненна стаў сур’ёзны. Апусціў галаву, задумаўся. Потым сказаў:

— Гады сваё бяруць, — яшчэ падумаў крыху і паўтарыў: — Усё цячэ, усё змяняецца... Ах ты, мая Ціша.

— Малы... падарунка чакае.

— А я яго ў лазню, у парылку зваджу.

— Куды яго ў парылку, сэрца лопне, ён жа малы!

Маці з Петрыкам селі піць гарбату. Дзядзька Стах быў зусім развезены і нязвыкла маўклівы. Потым ні з таго ні з сяго ўспомніў пра «кулака» — брата Стэфана, і ўзарваўся:

— Ты сама бачыш, як я жыву! А ён?!

— Бачу, бачу — багата жывеш.

— А ён хваліцца, што ў яго зямля! Ды ў яго, як у латыша — хрэн ды душа!

— Паехалі, сынок...

Маці з Петрыкам ўжо сабраліся, апрануліся, стаялі з пустой сумкай у парозе, а Стах, хістаючыся, з Цішаю на руках, усё не мог супакоіцца, і паўтараў, што ў

Стэфана «як у латыша». Потым пусціў Цішу, пайшоў у пакой. Вярнуўся з гітараю ў руцэ.

— На! Табе падарунак. На дзень нараджэння. Будзеш скрыпачом. Лена некалі іграла...

У Петрыка сэрца зайшлося ад радасці. Ён і марыць не мог пра гітару! Гітара была хоць не новая, але ад таго здавалася яшчэ лепшай, як чытаная-перачытаная кніга здаецца лепшай, цікавейшай за новую. На двары, на вуліцы, і потым, калі сталі на прыпынку, хаваючыся ад восеньскага ветру, маці ўсё не магла даць веры, што вось так, з адной гітараю, Стах іх адпусціў.

— Можа, калі мы на кухні сядзелі, паклаў табе ў кішэню? Каб мы не бачылі? Сюрпрыз каб зрабіць? Паглядзі, сынок, у кішэнях...

Разам абшукалі, абмацалі кішэні паліто. Пуста! Зрэшты, Пятрок не разумеў матчынай засмучонасці.

— Мама, — радасны, брынькаў на гітары, — чуеш, якія струны тугія? Мяне дзед Аўрам іграць навучыць, калі ў бабы вячоркі будуць...

— Ды якія вячоркі? — адказала маці, думаючы пра сваё. — Даўно ж ужо не збіраюцца. І баба, бачыш, як хварэе...

## 10

На другі дзень, ужо на сапраўдныя імяніны, маці выправіла сына да другога дзядзькі.

О, туды Петрык пабег з радасцю! Ён любіў дзядзьку Стэфана больш, чым дзядзьку Стаха, і хоць маці наказвала яму прыглядацца да Стаха і ў яго вучыцца, як жыць, Петрык быў упэўнены, што прыглядацца і вучыцца трэба акурат у Стэфана.

Яму падабалася, як Стэфан зваў яго — нябож. Падабалася, што ён кажа не веласіпед, а «веламашына», не прыпынак, а «аўтастаянка», не аэрапорт, а «рапорт», не запальнічка, а «машынка для здабывання агню», не нажніцы, а «ножны», не падстрыгчы, а «апратаць»... Падабалася, што ён верыць у Бога — ніколі не біў кабана, не перахрысціўшыся, і нават калі даваў папругі свайму Валіку, як той быў яшчэ малы, — таксама перад гэтым асяняў лоб крыжам. Цяпер Валік служыў у арміі, у Бірабіджане, прынамсі, адтуль прыходзілі лісты, але дзядзька Стэфан чамусьці быў упэўнены, што гэта для канспірацыі, а на самай справе яго сын служыць у Афганістане, таму ўважліва праглядаў газеты, слухаў навіны па тэлевізары і круціў рожкі настройкі свайго «Акіяна», прыпадаючы да яго вухам. Звычайна прыёмнік трашчаў, пішчаў, шыпеў, але аднойчы Петрык стаў сведкам, як прагучала чыста, гучна, выразна:

— …«И в афганских песках белеют косточки советских ребят...»

Голас маладзенькай дыктаркі быў да таго нязвыклы, настолькі адрозніваўся ад афіцыйных галасоў савецкіх дыктараў, што па інтанацыі абсалютна не зразумець было, злараднічае яна ці шкадуе тых савецкіх хлопцаў.

Кароткі прагляд газет, тэлевізар і «Акіян» з’яўляліся для Стэфана адзіным адпачынкам. Увесь астатні час ён не мог без працы — усё нешта габляваў, грукаў, капаў, альбо, калі ўжо зусім не было чаго рабіць, падмятаў двор, на якім і так ні акурачка, ні трэсачкі, ні саломінкі; але дзядзька Стэфан усё роўна гадзінамі мог вышкрэбваць зямлю венікам. Цётка Поля, яго жонка, па сакрэце расказвала Петрыкавай маці, што нават уночы ў ложку ён не мае спакою, варочаецца, уздыхае, не любіць спаць, лічачы сон марнай тратай часу.

— Нервенны чалавек, — напаўголасу дадавала цётка Поля.

Яна была ціхім ценем мужа: такая ж працавітая, гаспадарлівая, эканомная, як руплівая мыш, і надта любіла рабіць запасы. У сенцах, каморках, баковачках, па ўсіх кутках, дзе дазваляла месца, паліцы былі застаўлены слоікамі варэння, розных закрутак, закатак, саленняў, марынадаў, мачэнняў; цесна стаялі палатняныя мяшэчкі з сухімі грушамі, яблыкамі, абрыкосамі, вішнямі, слівамі; на глухой сцяне ў верандзе віселі на цвічках і давалі прыемны пах пучкі зёлак, зверабой, мята, меліса, чыстацел, каліна, рабіна; на кухні каля пліты, у кутку, прыкрытыя чыстай марляю, звісалі з жэрдачкі нізкі цыбулі, часнаку, сухіх белых грыбоў... Свае запасы яна трымала ў надзвычайнай акуратнасці, ведала месца кожнаму слоіку, але здаралася, што Стэфан, доўга што-небудзь шукаючы і не могучы знайсці, не вытрымліваў, ставіў на паліцу руку і змахваў за раз ўсё на падлогу. Ляцела, звінела, білася!.. Ён называў гэта — «грабянуць». І калі ён, будучы не ў гуморы, памаўчаўшы, папярэджваў:

— Зараз грабяну! — як толькі вымаўляў гэтае слова, Поля з усіх ног ляцела бараніць сваё дабро, целам яго закрывала.

«Нервенны які, з характарам», — шаптала яна, а ўголас сказаць баялася.

Дзядзька Стэфан, калі прыбег да яго імяніннік, падграбаў пад яблынямі ў садзе лісце і складаў на тачку, каб вывезці потым на вуліцу на сметнік. Петрык увязаўся за ім. Дзядзька Стэфан ссыпаў лісце ў кучу. Закурыў.

— Во-о-сь, — сказаў ён. — Капораў певень сюды панадзіўся хадзіць. У тым годзе. Я лісце выводжу, ворах насыпаю, а ён ходзіць і ходзіць. Чаго ты ходзіш? Неяк я сабраўся гэты ворах спаліць. Плюхнуў бензіну, ляп-ляп па кішэнях — сернікаў няма, толькі машынка. А з машынкаю ж не падступішся. Пайшоў па сернікі. Вяртаюся — а певень залез на кучу, стаіць і бензін нюхае. Мяне не бачыць. Я ззаду падкраўся — чырк запалку! Кідзель! Як ударыла полымя, як шуганула! Як узвіўся певень! Во-ось.

Ён дастаў з кішэні маленькія нажнічкі, адшчыкнуў чорны канец цыгарэты, паклаў недакурак назад у пачак. Паўза была неймаверна доўгая.

— На дванаццаць метраў уверх! — сказаў нарэшце Стэфан. — Так, значыць, спалохаўся. Ён жа не чакаў! Капора потым пытае: «Што з маім пеўнем, не есць, пер’е пачало выпадаць?» Я кажу: «Я ж не ведаю, што ў твайго пеўня ў галаве». Так пакрысе схуднеў, абліняў і памёр, бедны. Ад стрэсу. Вядома, памрэш! А то ў гэтага Капоры яшчэ сабака вые дзень і ноч, — паскардзіўся дзядзька Стэфан, беручыся за тачку. — Смерць наклікае... Няма каму па губах надаваць. А вы куды ўчора ездзілі? Зноў да таго Меднага?

Петрык, пад уражаннем гісторыі з пеўнем, які перажыў стрэс, не адразу пачуў пытанне.

— Да яго... А ў мяне імяніны сёння! — успомніў ён.

— Колькі табе?

— Восем.

— Вялікі расці, — ветліва сказаў Стэфан.

Вярнуліся ў двор. Дзядзька, крэкчучы, нагнуўся пад яблыню, падняў антон.

— На, — выцер аб штаны і працягнуў Петрыку. — Вялікі расці. Ну, як там той дзяляга пажывае? Што казаў?

— Казаў, што ў вас як у латыша — хрэн ды душа, — міжволі наіўна вырвалася ў Петрыка. Ён прыкусіў язык, ды позна.

Дзядзька Стэфан памаўчаў, памуляў губамі.

— Во-ось што я табе, нябож, скажу. Другі раз пабачыш яго, дык перадай, — скажы, дзядзька Стэфан перадаў, што гэта не ў мяне, а ў яго, як у латыша — хрэн ды душа! Так і перадай! Не забудзеш?

— Не забуду.

У дзядзькавым голасе чулася не толькі крыўда, а яшчэ і зайздрасць, бо надта ж трапным, дасціпным падалося яму выслоўе. Стэфан яўна перажываў, што не сам да такога дадумаўся. Таму, праводзячы пляменніка, ён расхваляваўся і ўсё паўтараў:

— Толькі не забудзь! Так і перадай! Так і скажы — гэта ў цябе, скажы, як у латыша! Чуеш? Во-ось...

— Ну што? — сустрэла сына маці.

— Во, яблык.

Маці абнюхала антон — позні, воскова-жоўты, цяжкі. Яблык на ўвесь пакой пах мёдам.

— І ўсё?

— Сказаў «вялікі расці».

Маці паклала яблык на канапу побач з гітарай. Яшчэ на канапе ляжаў канверт з пісьмом ад бацькі. У пісьме — вялікім, з рознымі прыгожымі лірычнымі апісаннямі, паведамлялася, што бацька хацеў зрабіць сыну на дзень нараджэння незвычайны падарунак: прыслаць асятровай ікры, прычым, самай свежай, уласнага прыгатавання; ён хацеў напіхаць яе ў вялікія грэлкі і выслаць. Сам сабраўся налавіць асятроў донкамі на жыўцоў-уюноў: «Асятры хапаюць уюна, як ашалелыя!» — пісаў бацька. Але напароўся на рыбахову, а ў яго не было ліцэнзіі, і замест падарунка давялося заплаціць штраф за кожную «асятровую галаву». Асятроў адабралі і выпусцілі назад у Лену. Бацька прасіў прабачэння за гэта.

Маці прысела на канапу, узяла гітару на калені, як гуслі. Агледзела падарункі. Заключыла:

— Абы-што.

Рыпнулі дзверы, у пакой увайшла баба Домна. У руках яна трымала ладны мяшэчак, набіты, як падалося Петрыку, кавалкамі гаспадарчага мыла. Злавіла вуха ўнука сухімі вуснамі, пацалавала.

— Вялікі расці, унучак мой дарагі, слухайся матку, мяне ўспамінай... А гэта табе падарунак, — паклала мяшэчак на стол і ўсхліпнула чамусьці. — Ад мяне і ад дзеда Андрэя.

Маці ўзяла мяшэчак за рогі, патрэсла. З яго пасыпаліся пачкі жоўтых рублёў, зялёных троячак, сініх пяцёрак, чырвоных дзясятак і нават некалькі танюткіх стосікаў ружовых дваццацьпятак...

Некаторы час ўсе трое ў нямым маўчанні сузіралі рознакаляровую кучу. Петрыку ўспомнілася, як некалі дзядзька Стах казаў, што можа засыпаць яго грашыма з ног да галавы, як лісцем з клёна, і цяпер гэта не падалося яму паэтычнай мэтафарай. Ён не ведаў, многа тут грошай ці мала, але ён бачыў, што яны неспадзяванка, як з неба зваліліся, менавіта прыемны сюрпрыз.

Першая прыйшла ў сябе маці:

— Няўжо далі пенсію за Андрэя?!

— Да капеечкі. За ўсе гады, — адказала задаволеная эфектам баба Домна.

— Колькі грошай... Бог ты мой! Я нават не ведала, што іх столькі можа быць у адным месцы...

Маці не хавала радасці. Яна трымала над сталом далоні з растапыранымі пальцамі, не адважваючыся дакрануцца да грошай.

— А я думаю — чаго яны адчапіліся ад нас? А іх, бач ты, сумленне заела. Вось ёсць жа справядлівасць на свеце! Хто б мог падумаць? Цярпленне, як той Капора кажа... Знайшлася добрая душа... Праўду кажуць, што добрых больш, чым злых, а разумных больш, чым дурняў...

Бабуля прысела і пачала гісторыю, як прыехаў у ваенкамат важны генерал і зрабіў усім разгон, а на тое, што франтавік ляжыць пад крыжам — ён ім: а вы не ведаеце хіба, што бацюшкі малебны на фронце служылі? Не чулі, што з іконамі святымі ў самалёце гарады абляталі — і не можна было ўзяць такі горад?! Яны стаяць па струнцы, стаяць...

Бабуля замоўкла на паўслове, заміргала вачыма і сказала:

— А можа, і не было ніякага генерала. А проста пабачылі, што памру хутка, ды пашкадавалі. Памру я, доня, баліць у мяне ўсё...

Гэта была праўда. Бабуля стагнала па начах, іншы раз уставала з ложка, ціха ішла на кухню, кіпяціла на пліце ваду для грэлкі, думаючы, што яе ніхто не чуе, — але ўнук чуў.

— І думаць забудзьце! — раптам закрычала маці. Пятрок ажно спалохаўся, а потым зразумеў, што за гэтай сярдзітасцю маці стараецца прыхаваць свой страх за свякруху і шкадаванне яе. — Вас, старых, каго ні паслухай, дык у таго рак, у таго рыба! Менш унушайце сабе!

— Не, донечка. Баліць жа. Чаму ж я і п’ю... А да доктара страшна ісці... баюся... Пакуль не ведаеш, лягчэй, а як пацвердзіцца... Пацярпі, мілая донечка, не трымай зла, даруй за ўсё, і ты, унучак, успамінай бабу Домну...

Маці абняла яе.

— Вы мне радней за матку — ніколі не бачыла лепшай душы...

— Марку свайму, як вернецца, грошы не паказвай — ты ведаеш, які ён. Пакладзі на кніжку і здымай патроху. І дом я на цябе адпісала. Будзе ў вас тая кватэра ці не будзе, а дом ёсць дом, ды яшчэ ў такім залатым месцы... Ён вякі прастаіць. І грошы ў цябе будуць, і дом — толькі яго не кідай...

— Не кіну.

І расчуліліся, зашморгалі насамі, прыгарнуліся адна да адной, навек аб’яднаныя непуцёвым мужчынам.

## 11

У школе Пятрок усё стараўся разгадаць яе правілы і вывесці з іх якісьці закон.

Аднаму настаўніку, заўважыў ён, падабаецца дысцыпліна — ну і будзь такім, ціхім, уважлівым, сядзі смірна. Другі, наадварот, хацеў актыўнасці — калі ласка, у меру варушыся, падымі руку і спытай, ужо табе плюсік. Трэці любіў маўчуноў, і Петрык, нават калі ведаў урок, перад усімі не высоўваўся.

Стараннасць яго не прапала. Хутка яго заўважылі, пачалі хваліць і нават ставіць у прыклад іншым.

— Ох ты і спрытнюга! — уражваўся Тамаш Капора. — Адно слова — хітруган!

Сам Тамаш за ўсю доўгую восень так і не навучыўся чытаць нават па складах. Табліца множання таксама не давалася яму. Да таго ж у яго была тая самая праблема, што і ў Петрыка напачатку: ён ніяк не мог зразумець арфаэпіі — чаму ў літар розныя гукі? Напрыклад, чаму эс, але пэ? — і ўпарта трымаўся толькі аднаго варыянта: «эк, эл, эм, эн, эп...»

Трэцякласніца Галька апекавалася імі, забягала на перапынках, прыносіла яблыкі, цукеркі, коржыкі, дзяліла пароўну, пыталася, як вы тут. На галаве ў яе былі два прыгожыя «хвасты» і на канцы кожнага па белым матылі касніка.

— А ты чаму такі няздатны? — упікала брата. — Паглядзі, як Петрыка ўсе хваляць.

— Ага — яму добра, ён хітры! — апраўдваўся Тамаш.
— А ты чаму не хітры?
— Сама ведаеш, чаму...

Яшчэ раней, адразу пасля першых паездак да дзядзькі Стаха, Петрык на перапынках пачаў круціцца каля настаўніцкай. Неўзабаве ён вылічыў Леаніда Міхайлавіча, і потым, дзе б той ні трапляўся яму на вочы, спадцішка разглядаў яго. Настаўнік быў падобны на маладога Змітрака Бядулю, партрэт якога Петрык бачыў дома ў кніжцы пра маленькіх дрывасекаў і пяць лыжак заціркі: такі ж сімпатычненькі, кучаравы, губаценькі і з выпуклымі, добрымі і сумнымі вачыма. Леанід Міхайлавіч насіў джынсы і кароткую скураную куртку. Яму было гадоў дваццаць пяць. Знешне зусім не страшны! А па характары? Бацька-мяснік у запэцканым крывёю фартуху і са шчарбатай сякерай у руцэ па-ранейшаму маячыў за спінай сына-настаўніка.

Неяк перад Новым годам Пятрусь бег з буфета на ўрок, у клас, пазіраў пад ногі — і наляцеў на маладога настаўніка, проста галавой яму ў жывот. Леанід Міхайлавіч аж войкнуў. Падняў указальным пальцам Петрыка за падбародак:

— А я цябе недзе бачыў. Ты ў мікраараёне бываеш?
— У дзядзькі Стаха... Гэта мой родны дзядзька.

Настаўнік узяўся за скроні, потым за лоб, і вочы заплюшчыў.

— Уяўляю! — прамовіў упалым голасам.

З таго часу, калі сустракаліся ў калідоры ці на двары, Леанід Міхайлавіч заўсёды лавіў Петрыка за рукаў ці за плячо.

— У дзядзькі быў?
— Быў...
— М-мм... Не крыўдуй, але твой дзядзька... Гэта проста хоць рэж мяне, хоць еж мяне. Уяўляю!

Пятрусь добра разумеў, чаго Леанід Міхайлавіч баіцца: што языкасты, балбатлівы дзядзька плявузгае пра яго сям'ю, а Петрык будзе разносіць гэта па школе. Але Петрык трымаў рот на замку, да таго ж меў смірныя паводзіны, добрыя адзнакі, аб чым, канешне, Леаніду Міхайлавічу хутка стала вядома, і настаўнік адразу павесялеў, і пры сустрэчах пачаў пытаць ужо не пра дзядзьку, а проста: як жывеш? што чытаеш? чым цікавішся? Зваў яго Леанід Міхайлавіч коратка і прыгожа — Піт. Паміж імі нават узнікла нейкая сувязь, як у людзей, у якіх ёсць агульны сакрэт.

— І тут ты пралез, — канючыў назіральны Тамаш Капора. — Усіх абвёў вакол пальца! З настаўнікамі сябруеш... Хіцёр Зміцёр!

Леанід Міхайлавіч кожны перапынак выходзіў пакурыць на ганак. Размінаў у тонкіх пальцах цыгарэту з залатым абадком на фільтры. Зацягваўся апетытна, прыгожа. Побач Піт у якасці пасіўнага курыльшчыка прагна лавіў ноздрамі чужы дым. Па меры сіл і магчымасцей Леанід Міхайлавіч стараўся скарыстоўваць гэтыя перакуры для таго, каб хоць трохі «абчасаць» свайго маленькага сябра. Відаць, ён лічыў, што чым больш упіхне ў Піта культуры, тым лепш будзе яму, настаўніку, бо тым менш Піт будзе ўспрымаць дурноту і хамства свайго дзядзькі. Хамства Леанід Міхайлавіч не пераносіў фізічна. Асабліва абражала яго густ простанародная грубасць, розныя мясцовыя прымаўкі-прыказкі, нават самыя нявінныя, напрыклад: «У дурнога салаўя — дурная песня», «Ну ты дзіва — век не бачыў, а пабачыў — засмяяўся», «Пра цябе ў Маскве ў лапці звоняць»; не кажучы ўжо пра тое, што калі дзеці гулялі ў «квача» ці ў даганялкі, дык крычалі на ўвесь двор:

— Не спаймаў, не спаймаў — сваю матку прыкапаў!

Тут Леаніда Міхайлавіча проста перасмыкала, рэзала, як лязом, ён моршчыўся, крывіўся, як ад зубнога болю.

— Які жах... Няўжо вы не разумееце, што нельга так!

Піт рабіў выгляд, што не разумее.

— Такая чароўная прырода вакол, такія мясціны, такі залаты ўзрост — і так бяздарна марнуецца ўсё. Абкрадваеце самі сябе. А як пасля ўспомняцца гэтыя часы! — з салодкімі дрыжыкамі, са слязамі захаплення! з пакутамі раскаяння! — ды не вернеш...

Ён прыкурыў і кінуў запалку. Піт прасачыў за яе палётам і ўспомніў гісторыю дзядзькі Стэфана пра пеўня. Яму захацелася пахваліцца, расказаць Леаніду Міхайлавічу, што яны таксама жывуць вельмі цікава.

Піт не шкадаваў красамоўства, расказваў, захліпваючыся, з зяючымі вачыма — і паказваў! — як певень нюхае бензін, як падкрадваецца да яго дзядзька Стэфан, як потым шуганула полымя і на колькі метраў узляцеў угару певень:

— На цэлых два**нн**аццаць метраў!

Петрык знарок, для ўзмацнення дадаў лішняе «н». І як пасля певень сумаваў, ліняў, мучыўся, не хацеў есці, пакуль не сканаў — ад стрэсу! Апошняе слова Петрык таксама вымавіў з асаблівым націскам.

Ніякага ўражання яго гісторыя на настаўніка не зрабіла. Леанід Міхайлавіч толькі і сказаў:

— Усё мае межы, акрамя чалавечага глупства.

У сакавіку, як толькі пацяплела, Леанід Міхайлавіч пачаў прыязджаць у школу на матацыкле «Ява», новенькім, з нікеляванымі дугамі, з абцягнутым футрам сядлом. Раз нават ён падвёз Петрыка дадому, — можа, знарок захацеў зайсці паглядзець, як той жыве. У двары яшчэ дзе-нідзе ляжалі латкі снегу. Але на праталінах зелянела трава, і крокусы рашуча прабівалі зямлю сваімі трохкутнымі, пругкімі рожкамі, смела вылазілі на свет. Ад зямлі падымаліся празрыстыя хвалі нагрэтага паветра, і пахла талым снегам. Двор, агарод, сад, домік, а галоўнае, цішыня — усё спадабалася настаўніку. Піт правёў яго ў дом. Нікога не было: маці на працы, бабуля з раніцы паехала ў паліклініку. І тут застаўся задаволены Леанід Міхайлавіч. Асобны пакойчык. Чысціня. Утульнасць. Кнігі. Акенца ў сад.

— О, нават гітара ёсць!

— На дзень нараджэння... Дзядзька Стах падараваў.

— А я гляджу — знаёмы інструмент. Я яго Лену добра памятаю. Вучыў яе іграць, на гэтай вось самай гітары… Цудоўная дзяўчына, сціплая, таленавітая. Рэдкі выпадак, калі яблык далёка адкаціўся ад яблыні…

Леанід Міхайлавіч настроіў гітару і ўзяў некалькі акордаў. Так прыгожа прагучалі яны ў пустым, ціхім доме! Потым пачаў праглядаць кнігі на паліцы. Петрык сачыў за ім з трывогай, баючыся, каб настаўнік не дабраўся да шыкоўнага, з каляровымі малюнкамі выдання «Падарожжа Гулівера» — пераказ на беларускую Анатоля Кудраўца. Кніга знарок ляжала на самым версе паліцы, каб ніхто не дастаў. Там, усярэдзіне, быў ліст з альбома па маляванні, шчыльны, складзены напалам, як вялікая святочная паштоўка, з віньеткамі па краях, з намаляваным букетам жоўтых, чырвоных і чорных цюльпанаў, і ад рукі напісаны верш, крамольны, да таго захапляльна-непрыстойны, што яго трэба было надзейна хаваць ад чужых вачэй. Піт ведаў яго на памяць, але паштоўку, рызыкуючы, бярог, трымаў у кнізе як закладку.

Канешне ж, Леанід Міхайлавіч дацягнуўся да Гулівера.

— А гэта што? Такое прыгожае?

— Галька Капора... Падаравала на дзень нараджэння, — Піт густа пачырванеў.

— Я гляджу, твой дзень нараджэння як юбілей адзначаўся. Падарункі, кнігі, — а сам ужо чытаў, добра, што не ўголас.

«Добры дзень, мой татка! Піша сын Пятрусь.
Нешта з нашай мамкай я не разбярусь.
То бывае хмурай, то спявае штосьці,
бачу, рэжа куры — мусіць, будзе госць.
Вось прыходзіць дзядзька, маці кажа — брат.
Ты не вер ёй, татка, — нешта тут не так.
Як у сваёй хаце гэты рыжы гад
ціскаў нашу мамку — ды не так, як брат.
Анекдоты сыпаў, а за стол як сеў,
то усё павыпіў, і усё паеў.
Не даваў спакою маці цэлы дзень,
так і лез рукою ёй вышэй калень.
«Я да твайго цела, кажа, дабярусь!»
Маці так нясмела: «Пагуляй, Пятрусь».
Вось я і падаўся ціха да дзвярэй,
ды у кут схаваўся — што будзе далей?..»

Далей было такое, што Петрык са страхам сачыў за тварам Леаніда Міхайлавіча. Але настаўнік дачытаў, загарнуў кнігу, спакойна паклаў кнігу на месца.

— Гэта праўда Галя падаравала? А на выгляд такая ціхоня... Ты паказваў каму-небудзь? У сэнсе, дарослым? І не паказвай. Яшчэ лепш — знішчы. А верш таленавіты, — нечакана сказаў ён. — Ды вось толькі ўсе гэтыя штучкі, «Петрусёвы бацькі», яшчэ будуць, ад іх нікуды не дзенешся, а што можна згубіць — такое, чаго потым не вернеш — дык гэта магчымасць паднесці дзяўчынцы-аднакласніцы партфель, падараваць ёй кветкі — проста так, без прычыны, прысвяціць ёй верш... Не такі, канешне! — спахапіўся Леанід Міхайлавіч, — а пра прыроду, каханне... Калі ты не будзеш ведаць «Петрусёвага бацьку», ты нічога не згубіш. Калі ж упусціцца, выпадзе з біяграфіі не паднесены аднакласніцы партфель, не падараваныя ёй кветкі, не прысвечаны ёй верш — вось гэта будзе катастрофа! Табе здаецца, што ў цябе яшчэ не жыццё, а толькі падрыхтоўка да жыцця, а сапраўднае яно наперадзе, але павер — тут памылка; менавіта ў гэтыя гады, ад 5 да 12, адбываецца з чалавекам усё самае лепшае, што можа адбыцца. А потым — альбо паўтор, альбо салодкія ўспаміны. Таму я табе настойліва раю збіраць па крупінках матэрыял для гэтых успамінаў, хаця б машынальна, проста як капейкі ў капілку, шукаць, цягнуцца толькі да светлага, чыстага, добрага — як яно потым у жыцці паможа! І наадварот, горка будзе, балюча, калі гэтыя чароўныя гады прабягуць без паходаў, песняў, без палатак, гітары... Локці будзеш кусаць! У цябе такі перыяд, што табе трэба паўсюль лезці, усім цікавіцца, быць дапытлівым, вучыцца танцаваць — абавязкова, іграць на гітары, пахадзіць у секцыю плавання, запісацца ў розныя гурткі — у школе ж іх поўна: у драматычны, літаратурны, малявання, — карацей, увесь час шукаць, бо ў кожнага ж чалавека талент, і каб знайсці свой, трэба пераспрабаваць усё. А «Петрусёвы бацькі» нікуды не ўцякуць...

Адзвінелі капяжы, сінія сакавіцкія ранкі з хрупкім лядком пад нагамі змяніліся на зялёныя — красавіцкія. Увесь двор зелянеў травою. У траве, ціўкаючы, бегалі чорныя шпакі з жоўтымі дзюбкамі. Ластаўкі абляплялі правады, і было страшна за іх — як яны з такімі тонкімі лапкамі не баяцца электрычнага току? Вішні, баючыся прапусціць вясну, зацвілі раней, чым выпусцілі лісце, а паўднёвы абрыкос марудзіў, набіраў сілы і соку, каб ужо ў маі ў аднячассе адкрыць і свае шырокія лісты, і буйныя белыя кветкі — да таго пахка-дурманныя, што пчолы п’янелі ад іх нектару і пасля ляцелі крыва, а некаторыя, не могучы ляцець, нават падалі пад дрэва.

На Радаўніцу Петрык хадзіў з бабуляю Домнай на магілку дзеда Андрэя. Фарбаваў ужо сам унук. Баба сядзела на пагорачку, аддыхвалася. Яна моцна здала за гэтую зіму, хварэла, кашляла, хадзіла з палкаю, нават сюды, на могілкі, ледзь даклыпала. Вячоркі ў іх даўно не збіраліся, не было каму больш спяваць: «Ой, не пакіну гарэлачку піці»... Марта ляжала ў бальніцы, вясёлы Зміцер раптоўна памёр. Якаў яшчэ соўгаўся, але ўжо не з музыкальнай пілою, а таксама, як і Домна, з палкаю. Хутка скончылася іх пенсіянерскае шчасце, кароткае, як і ўсё добрае ў гэтым свеце.

Унук старанна працаваў пэндзлем і ўсё пытаў:

— Добра, баба? Я так раблю?

— Вельмі добра, унучак, усё так ты робіш! — хваліла бабуля, а ў самой позірк блукаў між магіл і неяк асабліва пільна спыняўся на адной латачцы зямлі — побач са сваім Андрэем, нібы яна ўжо выглядвала сабе месца.

Фарба на гэты раз была тэракотавая — карычнева-чырвоная. Петрык, фарбуючы, гуляў у палітычную карту свету. На ўроках ім давалі такія карты — белыя, пункцірам падзелены краіны, якія трэба было расфарбаваць па палітычнай прыналежнасці: сацыялістычны лагер — чырвоным колерам, капіталістычны — чорным. Пэндзаль лёгка хадзіў у руцэ, адным узмахам ператвараючы зло ў дабро. Прыемная тэракотавая фарба ўсё больш захоплівала тэрыторыю фарбы старой, бляклай, шэразялёнай.

Потым яны вярталіся краем могілак, і бабуля расказвала, хто дзе пахаваны. Магілак было столькі многа. Унук слухаў і думаў: «Як гэта людзі без мяне будуць жыць, калі я памру?» Гэта ўявіць было немагчыма. І выцякала другое пытанне: а як ім, памерлым, без яго — Петрыка? Як яны могуць гадамі нерухома ляжаць у сваіх магілах і не ведаць, што ён жыве, ходзіць, думае? Што з ім адбываецца?

І хацелася сказаць ім, тым даўно памерлым, што ляжаць цяпер спарахнелыя, — пашкадаваць іх, падбадзёрыць:

«Не бойцеся, я жыву замест вас! Я ўсё гэтак сама, як і вы, цюцелька ў цюцельку, адчуваю!»

## 12

Ніхто, мабыць, з такім нецярпеннем не чакаў канікулаў, як Тамаш Капора. Не змог ён палюбіць школу. Цяжка давалася яму навука. Да таго ж дысцыпліна моцна кульгала. Ён прынёс у клас карабок з-пад запалак з вялізнай кропляй ртуці, падобнай на шарык з падшыпніка. Ёю можна было гуляць у «хакей» — ганяць яе стрыжнямі. Праўда, калі прыцiснеш, яна распадалася на дробныя шарыкі, але ўсе як адзін ідэальна круглыя, з прыемным ззяннем. Настаўнік, убачыўшы, жахнуўся, пачаў крычаць, што пары ртуці шкодныя. Яго адразу ж абсмяялі — дарослы чалавек, а кажа нейкае глупства; як гэта ртуць — ды шкодная? Усё ж настаўнік пабег да дырэктара, і ў Тамаша яшчэ дадалося непрыемнасцей, нават пайшла чутка, што яго могуць пакінуць на другі год.

Увечары зайшоў Карл Капора. Петрык з маці толькі павячэралі. Бабуля не выходзіла, яна цяпер многа ляжала ў сваім пакойчыку. Карл пачаў здалёк — пра суботнік 22 красавіка, як яго прымусілі сеяць кукурузу, а ў той дзень быў замаразак.

— Кажу: не зямля — лёд! Кажуць — сей. Добра, пасеяў. Бо не пасееш — не пажнеш... Не ўзышла. Два, тры тыдні — ні расточка. Кажуць — перасявай. Сёння перасяваў. Вось так яно бывае ў жыцці. Ва ўсім перастрахоўка... Падстрахоўка...

Не падманіш — не пражывеш, не падмажаш — не паедзеш... Вось і твайго сына настаўнік на «Яве» падвозіць, — нязграбна падбіраўся да тэмы Капора. — У каго які талент. Каму што дадзена. Аднаму розум, другому хітрасць... Табе — прыгажосць, вабнасць дадзена прыродаю, — цягнуў ён, пазіраючы на маці так, што сліна набягала яму ў рот, і ён, забываючыся, крыху паплёўваў.

— Што ты хочаш сказаць? Скажы па-чалавечы! — злавалася маці.

Аднак яшчэ доўга кружляў Карл, падступаўся і з таго боку, і з гэтага, намякаў, што «воран ворану вока не выклюе»... Нарэшце высветлілася, што ён прыйшоў прасіць за сына.

— Каб гэта, значыць, Петрык з настаўнікам словам перакінуўся... Пра сына майго. Каторы Тамаш. Паслабку яму трэба ў школе. Хітрасці для навукі ў яго малавата. А я б за гэта — сёе-тое... Мех кукурузы адборнай увосень...

— Твая кукуруза яшчэ ці ўзыдзе! Ды і трэба мне ўсяго два кіяхі, на насенне — нашто мне мех?

Маці на словах злавалася, але ў душы адчувала гонар. Вось і яны займелі блат (дзякуючы Стаху, думала яна). Петрыкаў аўтарытэт значна ўзрос.

Нарэшце трыццаць першае мая! Першыя ў жыцці канікулы! Пачалося лета — і пабегла, паплыло, паляцела, закружылася, заспявала, зазвінела струною!

Петрыку запалі-такі ў душу бацькавы словы аб тым, якая чароўная ў іх прырода, і словы Леаніда Міхайлавіча — як нецікава яны жывуць, марнуюць час, не назапашваюць уражанняў, якія стануць потым каштоўнымі ўспамінамі.

Ён вырашыў пачынаць з рыбалкі. Прычым лавіць рыбу там, дзе яна ніколі не вадзілася, — адразу за домам, на іхняй рачулцы, якая і назвы не мела, а толькі абазначэнне — «дзе коні пераганяюць». Калі гарадскім грыбнікам паказвалі дарогу, дык так і казалі: «Пяройдзеце па кладцы дзе коні пераганяюць, потым па сцежцы — у лес». Відаць, некалі пераганялі, але цяпер вераб'і купаліся ў тым месцы і куры спакойна пераходзілі з аднаго берага на другі. Петрык паспрабаваў быў падбіць за кампанію Тамаша:

— Давай сходзім? Можа, таму думаюць, што там няма рыбы, бо не лавілі ніколі?

Тамаш толькі горка пасміхнуўся.

— Абдурыць хочаш? Не, пане-браце, цяпер я вучоны. Пашукай каго іншага!

Тамаш быў ужо цвёрда перакананы, што хітрасць — найважнейшая рыса чалавечага характару, а Піт — само ўвасабленне яе.

Петрык пачаў збірацца яшчэ з вечара. Вудка, харчы, усё як след, нават гітара.

— Куды гэта ты? — спытала маці.

— Нікуды, — буркнуў Петрык. Яму было крыху сорамна.

— Няўжо па рыбу? Дзе ты ў нас бачыў тую рыбу? Я лепш мойвы куплю.

— А хай папрэбуе. Дзецям шчасціць, — заступілася Домна, сваёй паэтычнай душой разумеючы душу ўнука. Акрамя таго яна ўсяляк старалася аберагчы яго, ведала, што нельга малому быць доўга ў адным доме з хворым чалавекам. А яна хварэла, усё больш ляжала. Пахі пачалі з'яўляцца. Маці ўжо не асмельвалася суцяшаць яе грубаватым: «Ніякі ў вас не рак і не рыба», — а толькі прасіла: «У бальніцу вам трэба лягаць». — «Трэба», — згаджалася бабуля, але ўсё марудзіла, чакала нечага, адцягвала.

Раніцу Петрык праспаў. Таму калі ён — з вудай, гітарай, торбай з прыпасамі выйшаў на вуліцу, сонца стаяла высока, нават расы на траве не было. Звонка трашчалі чэрвеньскія конікі. Ён спусціўся па крутым адкосе да рэчкі. І тут было суха. На другім беразе адцвітала чаромха, сюды далятаў яе пах. Там жа, у чаром-

се, салавей старанна выспеўваў: «Цы-ган, цы-ган! Сала пёк-пёк-пёк!» Маўчаў. Ніхто яму не адзываўся. «Сала кап-кап-кап! Цур-р-р-р!» — звонка і хутка вымаўляў салавей.

«У дурнога салаўя — дурная песня», — успомніў Піт, засмяяўся, і прыйшоў — не першы раз — у недаўменне: як разумны Леанід Міхайлавіч не адчувае, што гэта цікава, смешна? Не можа такога быць! Ва ўсіх людзей аднолькавыя душы, значыць, і мазгі, і адчуванні павінны быць аднолькавыя.

Ён закінуў вуду, прылёг, глядзеў на паплавок і чакаў цуду. А раптам? Як у кніжках пішуць: «І тут лёска напялася, і нешта цяжкае на канцы яе...» Але замест гэтага пачуўся хруст цэглы пад падэшвамі, шоргат ног, шамаценне. Ішоў Якаў гарбаты і палкай рассоўваў перад сабой траву, што навісла над сцежкай. Пятрок скурчыўся, каб зліцца з берагам. Так не хацелася тут чужых, ды і сорамна: гітара, вудка... І ў якім месцы закінуў! Неглыбокім, вада празрыстая, відаць кручок і нават чарвяка на ім, які яшчэ жывы, звіваецца на дне, шукаючы шчылінкі, каб схавацца пад вадой гэтак сама, як рыбак на беразе.

Дзед Якаў заўважыў яго, прысеў побач, папрасіў:

— Прыкуры мне, унучак.

Яго пальцы з цыгарэтай трымцелі. Піт прыкурыў. Дзед зацягнуўся, пачаў уважліва глядзець на паплавок і гаварыць — ціха, манатонна:

— Цяпер тут нічога не спаймаеш... Не зловіш, не. Як ні старайся. А некалі там вышэй, дзе аэрапорт, пад Сож — гаць была, з млынам, і глыбозны ставок. Самы там жылі. Аднойчы злавілі сома, пачалі цягнуць у човен за галаву, а ён з другога боку чоўна хвастом плясь! — і Дзям'яну хрыбетнік перабіў. Хрупнуў хрыбетнік, як лучынка! Зімою, бывала, палонку прасячэш, вядром зачарпнеш — шчупак у вядры сядзіць, зялёны, з белым жыватом...

Яшчэ дзед распавёў, што вось тут, дзе яны сядзяць, сапраўды пачынаўся гарадскі вал, а на ім стаяў замак. Горад быў не там, дзе цяпер мікраараён, а менавіта тут, дзе іхняя Чэшская Слабада, толькі называўся ён не горад, а мястэчка.

— А цяпер тут толькі цэгла, ды рэшткі падмуркаў паўсюль, дзе ні плюнь, — сказаў дзед Якаў і плюнуў. — А там, дзе цяпер мікраараён, базар быў. Раз на тыдзень звозілі тавар на куплю-продаж, потым раз'язджаліся — і ўсё, голы выган.

Паступова дзед ажывіўся і яшчэ больш загаварыў. З яго ўспамінаў вынікала, што ўсё ранейшае было не такім, як цяпер, а намнога лепшым.

Трава была такая сакавітая, пахкая, духмяная, што каровы пасля яе давалі не малако, а масла. Куры дзічэлі і жылі без гаспадароў, у зарасніках, самі па сабе. Захочаш есці — пойдзеш недалёка, назбіраеш яек поўны кош, а яйкі — большыя за гусіныя. І куры дзікія надта смачныя! Лаві любую, смаж, вары, ніхто слова не скажа. Цукру не купляў ніхто, бо на поплаве, дзе ні купіна — там чмяліныя соты, ды якія! — чорныя, цяжкія шары, мёд густы, цвёрды — нажом не ўрэжаш! Соладу з аднаго шарыка цэлай сям'і на зіму хапала.

Пшаніца давала колас — зярняты, як кулі, ядраныя, сцябліны гнуліся. Прывозілі малаціць, дык жорны не вытрымлівалі, трашчалі. Бывала, хто малаціў, а хто ленаваўся, дык так і пускаў неабмалот на саламяную страху. А потым, у галодны год, успаміналі, абдзіралі стрэхі, малацілі — і гора няма, поўныя мяхі зерня!

Бульбу садзілі без гною — так, кінеш зверху і забудзеш, і не палолі, не абганялі; а праз два-тры месяцы з аднаго карча — вядро, з другога — кош, ды такі, што чалавеку не падняць — двое трэба. Не ведалі, што рабіць з той бульбы — і брагу ставілі, і крухмал адцэджвалі, і кабанам высыпалі. Кабаны на бульбе выгадоўваліся па паўтоны, не давалі рады забіць, а былі спецыяльныя байцы, цэлая брыгада, толькі

і займаліся, што свіней білі і рэзалі; мяса хапала і на продаж, і сабе на цэлы год, ды не на адну сям’ю — на тры, чатыры, а ў сям’ях па восем-дзесяць чалавек.

Каноплі выганяла вышэй за два чалавечыя росты, масла з іх націскалі бутлямі, і такую яно мела лекавую сілу, такое было гаючае, што палец сярпом адрэжаш, памажаш — прырастае! ні драпінкі, ні следу. А смачнае, карыснае! — з раніцы лыжку вып’еш — да вечара есці не хочаш.

— Цяпер усё здрабнела. Рэчка высахла, млын разваліўся, рыбы няма, кабаны худыя, яйкі маленькія, мука не белая, а шэрая... Масла на хлеб не намазаць — крышыцца. Цяпер усё толькі за грошы. А што такое грошы? Вось твая бабуля разумее... Любі яе, унучак, глядзі, шануй. Бо цяпер такіх больш няма, і невядома, ці будуць. Людзі здрабнелі. Нараджаюць такіх, як самі, а то яшчэ і горшых...

— І рыбы тут не зловіш, — закончыў дзед Якаў тым, з чаго пачаў. — Яна толькі на глыбокім жыве. Табе б вышэй прайсці, туды, пад аэрапорт, там бабры засталіся, мо і рыба таксама...

Петрык памог яму падняцца, падаў палку. Пры гэтым нібы выпадкова дакрануўся да гарба і загадаў жаданне: «Хай бы ўсё заставалася, як ёсць! І яшчэ каб баба Домна паправілася».

## 13

Петрык з маці па-ранейшаму ездзілі раз на тыдзень мыцца да дзядзькі Стаха.

Неяк выбраліся ў горад утрох: ён, маці і бабуля. Домне трэба было ў паліклініку — здымкі, аналізы, агляды, паперы... Прыехалі ўдзень. Каля кожнага кабінета чэргі, многа людзей, усе старыя і ва ўсіх ільготы.

— Чаго ты тут будзеш нудзіцца, — сказала маці. — Я цябе да Стаха на працу завяду, усё весялей. Памыешся, потым сам прыедзеш — ты ўжо вялікі. А я з Домнай пабуду — як яе адну кінуць?

І павяла Петрыка на будоўлю. Хаця нічога там яшчэ не будавалася. За высокім плотам стаялі толькі вагончыкі-бытоўкі, і адзіны экскаватар каўшом капаў катлаван. Пятрусь прымасціўся ў цені пад дрэвам каля плота, далей ад рабочых, і пачаў назіраць, як дзядзька Стах працуе. Нарэшце ён на ўласныя вочы пабачыў, што ж за такая таямнічая спецыяльнасць — браніроўшчык.

Да катлавана вяла вузкая траншэя, глыбінёю ў метр. На дне ляжаў тоўсты кабель. Рабочыя падносілі на насілках цэглу, дзядзька Стах, стоячы ў траншэі па пояс, браў адну за адной цагліны, клаў іх зверху на кабель і прытупваў нагою. Гэта і называлася браніроўка — закрыць, «абараніць» кабель перад тым, як траншэю засыплюць зямлёй.

Але вось увесь адрэзак траншэі быў забраніраваны. Дзядзька Стах выбраўся, пахадзіў з заклапочаным выглядам па будаўнічай пляцоўцы, у кутку знайшоў кавалак паржавелай трубы, паклаў на плячо і панёс на другі канец, прычым шлях выбраў такі, каб прайсці акурат перад вокнамі бытоўкі з надпісам «Прарабская». З паўгадзіны яго не было. Потым паказаўся з кавалкам дроту ў руцэ. Ізноў — заклапочанасць на твары, ізноў — пад вокнамі «Прарабскай». Так працягвалася з 15-ці да 17-ці. Ні разочку чалавек не прысеў, нават не пакурыў, усё тупаў сабе і тупаў. У канцы працоўнага дня іржавая труба апынулася там, дзе і ляжала, дрот — таксама на сваім месцы.

А ўвечары была ванна, Ціша, стол. Дзядзька, выпіўшы пару шклянак віна, забыўшы на пляменніка-сведку, расказваў жонцы:

— Я ж на браніроўцы!.. Дваццаць пяць пагонных выклалі — палічы!.. Ах, мая Ціша... Я ж вас, скажы, забраніру ю!.. Броню ў бальніцу кладуць — чуў? — да Петрыка. — А Лёня ўсё ў АВІР ходзіць... Я ж вам пахаджу...

Петрык ужо навучыўся амаль не слухаць дзядзькаву балбатню і звярнуў увагу на гэтае новае слова, АВІР, бо яно выклікала ў яго асацыяцыі з вірам, пра які расказваў дзед Якаў, — дзе сом людзям спіны хвастом ламае, а шчупакоў можна чэрпаць вёдрамі зімой і летам.

У той раз яму так спадабалася быць самастойным, што ён пачаў прасіцца ў маці, каб часцей адпускала яго ў горад аднаго.

— Ты ж сама кажаш — я вялікі! Мне ж хутка дзевяць!

І маці пачала адпускаць. У яе і так хапала клопату. Перад гэтым яна доўга раздумвала, нават раілася з ім, з Петрыкам, як быць з бацькам? Як яго выманіць адтуль? Нарэшце напісала коратка: вяртайся хутчэй, бо цяпер у нас поўна грошай. Адказ прыйшоў імгненна; бацька паведамляў, што яму трэба «кроў з носу летнюю навігацыю адхадзіць!»

— Каму трэба, каб ты адхадзіў навігацыю? — разгублена, уголас разважала маці. — Не, не грошы яго там трымаюць — характар такі!

А Піт пачаў ездзіць у горад. У гэтай самастойнасці было многа прыемнага. Ён знарок прыязджаў удзень, каб быў час пагуляць да вечара. Ішоў у парк, ці на любімую плошчу. Там стаялі цагляныя і каменныя двух- і трохпавярховыя будыначкі, аздобленыя немудрагелістай ляпнінай, сціплымі завітушкамі, прымітыўнымі дэталямі франтонаў, але разам з тым кожны будынак быў не падобны на суседа. Усе яны туліліся бліжэй да плошчы і адзін да аднаго, ціснуліся так, што і праходу не было паміж імі, а як бы суцэльная сцяна. На другіх-трэціх паверхах жылі людзі — у кватэрах з акенцамі. Акенцы, нібы байніцы, зверху канчаліся паўкругам, і пад кожным меўся балкончык з чыгуннай разьбою, малюсенькі — на яго можна было паставіць хіба што гаршчок з геранню. А ўнізе, на першых паверхах, розныя шыльды сведчылі, што менавіта тут гандлёвы і культурны цэнтр. Ішлі «Кулінарыя», «Спорттавары», драўляны будынак рачнога параходства з двума шпілямі па баках, цырульня, фотаатэлье «Сілуэт», прамтаварны, бакалея, школьныя прыналежнасці, а таксама магазін «Іголка-нітка», прадуктовы, бюро рытуальных паслуг «Вянок», дзіцячая бібліятэка імя Самуіла Маршака, і нарэшце, з самага краю плошчы ненавязліва ўпісваўся ў старадаўнюю архітэктуру новы трохпавярховы будынак гаркама партыі. Вузкі тратуар ад плошчы агароджвалі парэнчы — дзве жалезныя трубы, прывараныя да невысокіх стоек. Яны цягнуліся ўздоўж усёй плошчы, і калі вуліца на рагу заварочвала, парэнчы паслухмяна паўтаралі яе паварот. Былі яны сям-там крыху пагнутыя, адпаліраваныя да белі і надзвычай зручныя для сядзення.

Пятрусь сядаў на верхнюю, ногі ставіў на ніжнюю і сузіраў. Так цікава было! За спінаю па плошчы ездзяць машыны, па тратуары ходзяць людзі... Ён мог гадзінамі так сядзець. Усё вакол стварала атмасферу ўтульнасці, дыхала нейкай мілатой, роднасцю, было так недалёка ад уласнага дома, што не верылася, што ты ў горадзе, а ўяўлялася проста як пераход тваёй роднай Чэшскай Слабады ў твой жа родны горад. І яшчэ — веданне, што ты такі самы, як і ўсе вакол, што ў цябе свой дом і ты ў любы час можаш туды вярнуцца. Людзі паходзяць і вернуцца дамоў, і ты вернешся. Вось ты ў гарадской кватэры, у дзядзькі Стаха, слухаеш яго п'яненькія байкі, а праз якіх дваццаць хвілін ужо босы ідзеш па цёплай траве да дзядзькі Стэфана... Ну не дзіва?

Дзядзьку Петрык знайшоў на агародзе з рыдлёўкаю. Стэфан ужо каторы тыдзень ваяваў з невядомымі жывёламі, якія захапілі агарод, тачылі норы, знешне падобныя на кратовыя, але па даўжыні і глыбіні не намнога меншыя за тыя траншэі, што браніраваў Стах. Вайна вялася з пераменным поспехам. Стэфан пасыпаў норы мыш'яком, абсаджваў каноплямі, палыном, памідорамі, выпальваў бензінам — нічога не памагала. Убачыўшы пляменніка, дзядзька стомлена абапёрся на рыдлёўку.

— Гэта ж трэба — распладзілася паскудства... Помесь пацука з нутрыяй. У рэчцы жыве, і на сушы жыве. А норы глыбозныя, ступіш — нага падае! І курэй душаць.

— А хто гэта? Як яны завуцца? — згараючы ад цікаўнасці, спытаў Петрык.

— Не ведаю і ведаць не хачу. Паскудства яны завуцца. А то бабёр прыходзіць маліны есці, — скардзіўся на свае беды дзядзька Стэфан. — Вунь сцежку ў траве пратаптаў, як слон.

— З нашай рэчкі? — не паверыў Пятрок.

— З нашай. Яны ж там вышэй, каля рапорціка, усё перагацілі — чаму ў нас і рэчка абмялела. Ён адтуль ходзіць, па начах, пакуль раса на траве — так яму ісці лягчэй.

— А як ён есць? Як дастае?

— Сядае на хвост, лапаю галіны нагінае. Аб'есць да апошняй ягадкі, толькі зялёныя пакіне. Хачу каго прасіць са стрэльбай, ці з капканам, ці з віламі, — задумліва сказаў дзядзька, — каб зрабілі засаду. Во-о-сь.

Побач асцярожна хадзіла і прынюхвалася да нор котка з куксаю на хвасце. Дзядзька Стэфан усіх сваіх катоў так «купіраваў» — проста і без наркозу — адсякаў сякерай кончык хваста. «Яны тады гладчэйшыя робяцца, і вясной спакойныя». Петрык, яшчэ малы, аднойчы бачыў гэтую працэдуру, бачыў, як котка мяўкае і плача, залізваючы акрываўлены хвост. Ён сам тады, гледзячы на яе, плакаў ад шкадавання.

«Вось каб расказаць Леаніду Міхайлавічу! — падумаў Петрык. — Пра невядомых звяроў, пра бабра, пра котку...» Гісторыі маглі б атрымацца не горшыя, чым пра пеўня, які памёр ад стрэсу. Ды вось толькі, здагадваўся Петрык, наўрад ці зразумее іх настаўнік, хутчэй за ўсё зноў назаве звычайным глупствам.

## 14

Першага верасня 1982 года баба Домна легла ў бальніцу. Нібы знарок цярпела, як па календары адмервала, каб укласціся роўненька ў лета. І адразу асірацеў дом без Домны. Не хапала не толькі яе лагоды, утульнасці, дабрыні, а яшчэ і проста фізічна стала пуста: было тры чалавекі — засталіся два. Маці варыла, мыла, ездзіла ў парнікі і кожны дзень адведвала бабулю ў бальніцы, той самай, дзе працавала Стахава жонка цётка Таня; хоць гэта было добра — свой чалавек у бальніцы.

Загучала слова аперацыя. Раней чужое, незнаёмае, а цяпер вось трывала ўвайшло ў сямейны лексікон. Пад рэфрэн гэтага слова пачалася восень, і Петрыкаў другі клас. А ў школе яго чакала яшчэ адна непрыемная навіна: Леанід Міхайлавіч больш не будзе працаваць, звольніўся, некуды ад'язджае... Навошта? Было пачуццё крыўды і рэўнасці. Як гэта яго, Петрыка, вось так, без папярэджання, без развітання можна кідаць? І яшчэ былі змены. Піт хоць і бачыў улетку Тамаша з Галькай амаль кожны дзень, але толькі цяпер, у школьных сценах, звярнуў увагу, што Галька стала зусім вялікая, даўгалыгая, худая, і ад таго страціла нешта, нейкую сваю прывабнасць.

Тамаш таксама перагнаў ростам Петрыка на паўгалавы. Ён загарэў, паздаравеў. Хваліўся, што нават пакурвае. Самастойна разважаў, што цяпер школа яму зусім не патрэбна, бо ён усё роўна будзе трактарыстам, як бацька.

Так пачалася восень. Пасля сонца — пахмурнасць, пасля раскашавання зеляніны — пажухласць, пасля цяпла — вецер, дождж і стыласць... Ночы сталі доўгія. За цэлую восень здарылася толькі адна падзея: нарэшце дабудавалі ў Слабадзе воданапорную вежу, але вадой з яе ўсё адно не карысталіся, а па-ранейшаму бралі з калодзежаў і з калонак. Адзінаццатага лістапада, у чацвер, павінны былі рабіць чарговую аперацыю бабе Домне. У школе Петрык думаў пра яе, успамінаў, як улетку ля рэчкі дакрануўся да дзеда Якава і загадваў жаданне — каб бабуля паправілася. Можа, цяпер яно спраўдзіцца? Прыбег са школы і па матчыным твары зразумеў, што горб Якава не памог. Доктар шчыра сказаў цётцы Тані — няўдалая аперацыя. Прыйшоў дзядзька Стэфан. Пачалі раіцца.

— Ну што. Доктар сказаў Тані, каб перад выхаднымі забіралі. Назусім. І развіталіся. Бо выхадныя наўрад ці перажыве. Нават зашываць не сталі.

— І зашываць не сталі? — перапытаў Стэфан.

— Там іголцы зачапіцца няма за што, сатлела ўсё, распаўзаецца...

Вырашылі так: заўтра забіраць Домну, сёння даваць тэлеграму Марку, каб тэрмінова вылятаў самалётам, і Стаху — перыядычна туды, у Сібір, дазваньвацца. На наступны дзень, у пятніцу, Петрык не пайшоў у школу. Па радыё ўжо аб’явілі пра смерць Брэжнева, але за ўсёй крутаверцю навіна ўспрынялася на дзіва будзённа: свая баба была куды важней, бліжэй за чужога далёкага дзеда. Перад абедам пад’ехала машына «хуткай дапамогі». З яе вылезла цётка Таня, потым два санітары вынеслі на насілках бабулю, накрытую коўдраю, перанеслі ў дом, у пакой, паклалі на ложак. Бабуля была ў забыцці, вачэй не расплюшчыла, з яе цела тырчалі ва ўсе бакі трубкі з бутэлькамі на канцах.

Цётка Таня пачала збірацца дамоў, у горад.

— Едзь і ты з ёю, сынок. Хай ён у вас, Таня, пераначуе. Круціся там каля тэлефона, бо ў іх можа хапіць розуму і па тэлефоне пасварыцца, дык ты тады крыкнеш у трубку, што баба памірае, цябе ён паслухаецца, — вучыла маці.

Сустрэў іх узбуджаны дзядзька Стах з Цішаю на руках.

— Чулі? У Варшаве ваеннае становішча! Ярузельскі аб’явіў! Што робіцца на свеце, ты падумай!

— Можа, яны не ведаюць, што Брэжнеў памёр? — сказала, распранаючыся, цётка Таня.

— Хто? Яны? Палякі? Гэтыя — ды каб не ведалі!

— А за што ж яны тады выступаюць?

— За мір у Еўропе, — адказаў дзядзька Стах, як заўсёды, цёпленькі.

Потым дзядзька з цёткай глядзелі тэлевізар. Петрык сумленна сядзеў каля тэлефона, чакаў. У перапынках паміж «Лебядзіным возерам» цётка выцірала слёзы. Дзядзька Стах не перастаючы каменціраваў, і ўсё цалаваў Цішу. Яна, прывыклая да спіртнога паху, толькі далікатна адварочвала мордачку.

— Ціша мая, Ціша! — І да Петруся: — Чуў, Броня ў Ізраіль сабралася! І Міша, і Лёня... Ах, я ж вам!..

Гэтая навіна стала апошняй кропляй. А тут яшчэ тэлефон маўчыць... Пятрусь задраў уверх галаву, разглядаючы люстру на столі, каб слёзы не выліліся на шчокі, а ўвайшлі назад у вочы. Але цётка Таня заўважыла.

— Плач, плач, сынок, не саромся... Я таксама плачу. Што ж гэта будзе з намі ўсімі? Без Брэжнева?

Насуперак словам доктара бабуля Домна выхадныя перажыла. Бацька прыляцеў пятнаццатага ў панядзелак. Змучаны дарогаю, вочы шчырыя, стомленыя, чырвоныя.

— А мая ты мамка! Мамка дарагая, мамка залатая... Ох, жоначка, і ты тут... І сынок мой... Вось гора ды бяда... Сёння якога, пятнаццатага? — зірнуў на каляндар. — Трынаццатага Андропаў выступаў — слухалі? Быць яму генсекам!

Пятнацатага... Пятрусь раптам успомніў, што ў яго ж сёння дзень нараджэння. Ну, правільна! Як гэта было год назад? Гітара, яблык... Бабуля Домна з мяшэчкам грошай, такая шчаслівая, што можа падараваць людзям радасць... І такім далёкім, мілым здаўся той час!

— Які ты ўжо вялікі, — заўважыў бацька, нібы прачытаўшы яго думкі.

Пятрусь і праўда адчуваў сябе вялікім. Дзевяць гадоў! Столькі ж было Гальцы, калі яны елі траву, і якой дарослай, вялікай здавалася яна яму тады!

Назаўтра, у аўторак, з раніцы падышлі Стэфан з Поляю. Прыехалі Стах з Таняю. Было вітанне, і поціскі рук, цалаванне, і слёзы, і абдымкі... Жанчыны ўсе як адна выцíралі вочы ад кранальнай сцэны. Збылася Домніна мара, хоць смерць яе так ці інакш сабрала разам непрымірымых.

— Вось і ладненька... Вось і складненька... Так і трэба, — казала ўлагоджаная маці. — Такія разумныя, спрытныя, прыгожыя мужчыны...

— Мужчыны ў самай сіле, — падтрымала цётка Таня.

— Абы спакой на душы, — нясмела ўставіла цётка Поля.

— Галоўнае, умеюць жа! Могуць, калі захочуць! Ну, людзі як людзі, глядзець на вас люба-дорага! Каб вы цяпер самі сябе пабачылі, дык ніколі не сварыліся б!

І быў перыяд няёмкасці, бо мужчыны тапталіся, не ведалі, што цяпер рабіць, куды спачатку ісці — да Домны? Ці — за стол? Жанкі падказалі — да маці ідзіце, да яе трэба найперш! Браты нерашуча, прапускаючы адзін аднаго ў дзвярах, увайшлі ў пакойчык, абступілі ложак. Раскрамсаная, паміраючая Домна, з выпнутымі скуламі, уцягнутымі шчокамі, праваленым ротам, ляжала белая як смерць. Каля ложка на століку стаяла пляшка каньяку. Цётка Таня брала лыжку і перыядычна ўлівала каньяк бабулі ў рот. Тады чырвань на кароткі час вярталася ёй на шчокі. Бабуля расплюшчвала вочы і нават магла нешта гаварыць.

— Дзе... Пятрок? — прашаптала яна. Маці падштурхнула сына, ён нагнуўся, бабуля знайшла сваім ротам яго вусны. Гэта быў доўгі пацалунак, і нейкі прагны, нібы Домна на развітанне хацела пераліцца ва ўнука, увайсці ў яго і хоць часцінкай пажыць у ім яшчэ.

— Ну вось — а цяпер можна і за стол, — мітусілася маці. — Сядайце, піце міравую, ежце... Гэта ж так добра жыць цяпер, абы здароўе, абы розум — а ў вас у кожнага і розум, і здароўе!

— Ужо няма чаго дзяліць, — сказала цётка Таня. — Цяпер не галодныя гады.

— Ад сварак адна нервеннасць, — пацвердзіла цётка Поля.

Расселіся за сталом. Стах папрасіў Петрыка ўключыць тэлевізар. Паказвалі пахаванне Брэжнева. Каля труны стаялі ў жалобе розныя замежныя дэлегацыі. Калі паказалі арабскую, дзядзька Стах ажывіўся, нібы пазнаў знаёмага:

— Ясір Арафат! — на гэты раз не памыліўшыся.

— Зрабі цішэй, сынок...

Звярнулі ўвагу на Петрыка. Нехта ўспомніў, што гэта ж учора ў яго былі імяніны. І тут усе заўважылі, які ён ужо вялікі — дзевяць гадоў, і прыемна здзівіліся.

— Адным расці — другім паміраць, — уздыхнуў дзядзька Стах. — Ах, ха, ха.

— Выцягнуўся, але пусценькі, — сказала цётка Таня.

— На, памацай, — надзьмуў жывот дзядзька Стах. — Каб во такі мамон быў!
— Ідзі, сынок, на вуліцу — салют паслухай...
— Не салют, а травурны гудок! — паправіў бацька.

Пятрусь пайшоў. У верандзе стаяў скасабочаны мех, поўны кукурузы. Маці прасіла ў Капоры два кіяхі, а ён цэлы мех прытарабаніў. Адзін кіяхываліўся на падлогу. Пятрусь падняў, разлупіў ссохлы «пергамент», разняў чорныя «валасы», і з-пад іх раптам вызірнула, як бліснула золатам, жоўтае, цвёрдае, буйнае зерне. Якая прыгажосць! Кавалачак лета!.. Падалося, нават веранда пасвятлела.

Ён выйшаў на двор. Няўжо гэта яно вось такое — жыццё? Дзе ўсё разам, гора і шчасце, сваркі і прымірэнні, слёзы і смех, і ўсё пераменлівае, перамешанае, непастаяннае, усё ў руху, круціцца, як у калейдаскопе; і як у калейдаскопе з розных асколачкаў шкла пры пэўным павароце і неабходным ракурсе ўзнікае малюнак — так і цяпер перад Петрусём узнікла, закруцілася і пабегла, пайшло мільгаць: ад рэчкі да Галькі, ад паху сена да вусікаў Цішы, ад Леаніда Міхайлавіча да віра з сомам, ад укручанага ў «пергамент» золата кукурузы да чорнага шарыка чмялінага мёду... Было адначасова і радасна, і боязна, і крыху сумна. Але больш радасна — якое ж яно, жыццё, аказваецца, аграмаднае! І як добра, што яно нарэшце пачынае адкрывацца яму!

Калі Пятрусь вярнуўся, ён зразумеў, што за сталом нешта змянілася.

Ізноў працаваў тэлевізар. Апускалі на доўгіх ручніках у яму труну, і яна на дне моцна грукнула. Цётка Таня заплакала.

— Не яго — макет хаваюць! — гучна тлумачыў расчырванелы дзядзька Стах. — Гэта ж так прыдурваюцца! Я ж вас пахаваю...

— Нашто вам той Брэжнеў?! — маці вышмаргнула вілку з разеткі. — У вас родная матка памірае праз сцяну!

Але ніхто яе ўжо не слухаў.
— Ах ты мая Ціша...
— Во-ось...
— Ды што ў цябе акрамя той Цішы...
— У мяне? Акрамя Цішы? Гэта ў цябе грошы хоць на білет былі?
— У мяне? Грошы? На білет? Ды я з грошай караблікі раблю і па Лене пускаю!
— Ты? Караблікі? Па Лене? Ды ў цябе як у латыша!..
— Во-ось...
— Эх, вы... браты Карамазавы! — прамовіла маці, адвярнулася і выйшла, ляпнуўшы дзвярамі.

*Аляксей РАГУЛЯ*

# ВЫРВАЦЦА З Д’ЯБЛАВЫХ РУК

## *Пра новую кнігу Таісы Супрановіч*

**«Жанчына, якая перамагла Пракруста» — *так, крыху наіўна і праз меру рацыяналістычна, атэстуецца ў фінале навелы «Парэчкі» раптоўна аўдавелая маладая маці, вясковая настаўніца Марыя Андрэеўна. Міфалагема* Пракрустаў ложак *не з’яўляецца выпадковай у мастацкай антрапалогіі пісьменніцы. Таіса Супрановіч адчувае патрэбу ў звароце да экстэнсійнага, сумарнага ведання і разумення, акумуляванага ў форме філасафем, фразем, сентэнцый, выказванняў і імператываў — не дзеля аздобы, а дзеля сінтэзу і сінхраніі культурных сэнсаў, іх карэкцыі і актуалізацыі* цяпер і тут.**

Глебай, з якой прабіваецца «мысленнае дрэва» Таісы Супрановіч, з’яўляецца вопыт жыццядзеяння беларускага духу — таго людства ў навагрудскім Панямонні, у асяроддзі якога прайшло маленства і юнацтва пісьменніцы. Жыццятворная энергія повязі з людзьмі, з маленства блізкімі і зразумелымі, у творах часам раптоўна вырываецца на паверхню маўленчага стылю пісьменніцы: «*Мала ўжо хто застаўся з аднавяскоўцаў, і я люблю іх за тое, што жывуць. Радуюся, што яшчэ маюць неблагое здароўе*». У такім скупым на словы лірызме выказана не толькі прызнанне, але і творчае крэда аўтаркі.

Народныя фразеалагізмы ў прозе Таісы Супрановіч успрымаюцца як вынік супольнага дзеяння інтэлекту і духу народа — як адзінства, адсутнасць якога ў сучаснай філасофіі навукі стала прычынай яе сацыяльнай кволасці. Функцыя фальклорна-мастацкай канцэпталогіі ў прозе Таісы Супрановіч разгортваецца на шляху пазнавальнага дзеяння, які па-новаму азначаны ў беларускай літаратуры XX стагоддзя: галоўным аб’ектам рэфлексіі абраны суб’ект, які валодае *пластамі народнай жыццяздольнасці*, неабходнымі для таго, каб забяспечыць незалежнасць асобы ад нігілізму і радыкальнага індывідуалізму, надзвычай агрэсіўных ва ўмовах татальнага крызісу ў сучасным бюракратычна-гандлёвым соцыуме.

Нельга, аднак, лічыць, што вёска ў прозе Таісы Супрановіч нібыта з’яўляецца ідыліяй, у якой плывуць толькі чыстыя крыніцы маральнасці і духоўнасці. Духоўны і інтэлектуальны вопыт сялянскай субкультуры — гэта навука пераадолення зла, нежыці, здаўна азначанай персаніфікаваным вобразам *Наўя,* навука сцвярджэння светлай *Явы*. Фальклорныя максімы сярэдняга Панямоння з’яўляюцца арганічным кампанентам наратыву ў апавяданнях і аповесцях Таісы Супрановіч. У іх на малой плошчы сканцэнтраваны вялікі духоўны вопыт пераадолення пагрозы сканання ў нябачных лапах крывяжэрнага Цмока: *хоць будзь ты найлепшы плывук, а не вырабішся з д’яблавых рук; за маё жыта я і пабіта; ажаніўся мой сын на скорую руку, ды на доўгую муку; з лясочку прыйдзе, а вось з пясочку — не; радзіўся без долі — век есці будзеш без солі*. У модусах падобнага кшталту адлюстравана цэласная, структурна завершаная форма пазнавальнага дзеяння — уласцівае фальклору адзінства навукі жыцця і спосабу яго спасціжэння розумам і сэрцам адначасова. Народная мудрасць на кожны дзень — гэта першая навука пісьменніцы ў дашкольны перыяд жыцця.

Што да далейшай творчай вучобы, то тут погляды літаратурных крытыкаў супадаюць не заўсёды. Рабіліся часам закіды, што нібыта некаторым творам аўтаркі «*бракуе*

Рабіліся часам закіды, што нібыта некаторым творам аўтаркі «*бракуе літаратурнага досведу*». Даваліся таксама парады раз'яднаць паралельныя сюжэты ў адной кампазіцыі і зрабіць з іх «*два на дзіва жыццёвыя і праўдзівыя апавяданні*»

*літаратурнага досведу*». Даваліся таксама парады раз'яднаць паралельныя сюжэты ў адной кампазіцыі і зрабіць з іх «*два на дзіва жыццёвыя і праўдзівыя апавяданні*» («Беларуская думка», 2000, № 3, с. 172). Як бачым, пробным каменем стала паэтыка лічбы два. У гэтай сувязі варта звярнуць увагу на выказванне Генрыха Далідовіча: «*Таіса Супрановіч, трэба прызнаць шчыра, умее па-пісьменніцку рэалізаваць славутае чорнаўскае, што чалавек — гэта цэлы свет, найперш здольнасцю спалучыць у паказе жыцця герояў мінулае і сённяшняе, грамадскае і асабістае, дабро і зло, а праз усё гэта ў выніку ў яе выходзіць каларытная, ёмістая проза*» («Гродн. праўда», 2003, 05, 04).

У фальклоры лічба два вызначае сэнс супрацьстаяння ў сітуацыі выбару: альбо-альбо. На гэтым структурным моманце засяроджаны чалавечыя сэнсы і бяссэнсіца ў мастацтве і філасофіі навейшага часу. Дастаткова звярнуцца да прозы І. Мележа ці В. Быкава, каб зразумець ролю спалучэння паралельных сюжэтных ліній і рознанакіраваных маральных выбараў і рашэнняў. Менавіта сцяжэнні і спалучэнні дзеянняў адкрываюць магчымасць выразнага бачання не толькі знешняга, сацыяльнага зла эпохі, але і зло, пасеянае рукой д'ябла ў душы суб'екта — асобы і этнасу ў цэлым. Дынаміка пераадолення зла ў нетрах народнага духу для Таісы Супрановіч з'яўляецца такой жа актуальнай, як і пераадоленне пагрозы з боку агрэсіўнага імперыялізму. Да таго ж паэтыка спалучэння розначасовых сэнсаў быцця выконвае яшчэ адну важную функцыю: рэабілітуе сучаснасць, занядбаную афіцыйнай ідэалогіяй у імя фатальна абавязковай і фатальна «светлай» будучыні. Менавіта такая паэтыка дае магчымасць ацаніць патэнцыял пакалення ў справе аднаўлення ланцуга разарванага часу — працэсу самаканстытуявання супольнасці. А што да «літаратурнага досведу», то яго пісьменніца, прафесійны бібліятэкар, мае ў аб'ёме, дастатковым, каб прадоўжыць эстафету беларускай класічнай прозы ў жанры навелы, мастацкай хронікі, лакальнай аповесці і псіхааналізу ў формах, адэкватных сучаснаму руху ў эпістэмалогіі. Гаворка ідзе пра канцэнтрацыю вялікіх сэнсаў на малой плошчы.

Яе проза адразу заняла сваё месца сярод твораў, якія выконваюць важнейшую місію ў эпоху татальнага катастрафізму. «Знак бяды», «Пайсці і не вярнуцца», «Сцяна» — гэта мастацкая канцэпталогія Васіля Быкава. Яна прыйшла на змену такім фрэймам, як «Раскіданае гняздо», «Дрыгва» і «Людзі на балоце». Не безнадзейнасць, а грамадзянская мужнасць і філасофскі гераізм лепшых сыноў Айчыны адлюстраваны ў азначаных вехах на шляху да ісціны. Проза Таісы Супрановіч — гэта таксама пошукі і знаходкі крыніц таго *цяпла на першацвет*, якое дае сілу першым парасткам новага бачання і разумення саміх сябе ў свеце. Пунктам адліку з'яўляюцца першапачынальнікі з міфалагемы *Яна* і *Ён* — Мілавіца і Цікаўны, Разумная дачка і Задумны. Гэтыя канцэптуальныя персанажы — вечныя ў беларускай культуры сімвалы радасці жыцця, яго сэнсу і ўзнаўлення, выявы архетыпнага комплексу *агонь у сэрцы, а розум у галаве* (Матруна Бохмачыха). У навейшым часе энергія нацыянальнага архетыпу рэалізавана ў дзейнасці асветнікаў — пераважна выхадцаў з вясковага настаўніцтва. З гэтага асяроддзя паўсталі і палітычныя лідары, якія ў часы сталінізму былі «рукой гвалтоўнай кінуты на дол» (А. Куляшоў). Тым не менш менавіта гэтая кагорта, а не заходнія ці ўсходнія вучоныя ажыццявілі энтэлехію (фарматызацыю) беларускага канона ў культуры і вызначылі шлях самаканстытуявання нацыянальнага духу ў эпоху постмадэрнісцкіх дэфармацый, дэканструкцый і свабоды ад культурнага табуіравання.

Таіса Супрановіч мэтанакіравана выкрывае хлусню квазівучоных показкаў пра «апасіянарнасць», млявасць беларускага менталітэту. У яе прозе дамінуюць яркія індывідуальнасці, у якіх праяўляецца стваральная

энергія нацыянальнага духу — усвядомленая патрэба «*адолець гэты нялёгкі шлях праз пустыню*». А для гэтага — «*самі ў сабе павінны знайсці сілу, розум, цярпенне*» («Ванда»). Крыніцай духоўнай сілы этнасу з'яўляюцца яго духоўныя і сацыяльныя ідэалы. У беларускай мастацкай паэталогіі сэнс нацыянальнага духоўнага ідэалу ўвасоблены ў канцэптуальнай сімволіцы *шырокага прастору*. Змест сацыяльнага ідэалу захоўвае сімволіка вобразаў *нівы, дому, суверэннага гаспадарства* — нацыянальна-дэмакратычнай дзяржавы-рэспублікі, заснаванай на прынцыпе *гуртавога* жыццядзеяння суверэнных гаспадароў. Выдатны беларускі філосаф і эстэтык Мікалай Крукоўскі ў даследаванні «Бляск і трагедыя ідэалу» (2004) паказаў агульную карціну заняпаду ў сучасным свеце ідэалаў людскасці, адлюстраваных у «вялікіх нарацыях» у эпоху Рэнесансу і Асветы. Сучасная без берагоў рэдукцыя духоўнасці вядзе да сцвярджэння новай, па сутнасці, постчалавечай цывілізацыі. У прозе Таісы Супрановіч паказана, як нарастае вал здзічэння і выраджэння ў атмасферы казённага афіцыёзу. У савецкім соцыуме адміністрацыйная кар'ера была адзінай магчымасцю выбрацца з сацыяльнай ямы і дапаўзці хоць бы да сярэдніх паверхаў партыйна-каставай іерархіі. Прасоўванне па гэтай вертыкалі суправаджалася не толькі стратай роднай мовы, але і пачуцця роднасці з блізкімі. На вышэйшых паверхах свая душа таксама была лішнім грузам. Рэгулятывам быў халодны кар'ерысцкі разлік.

Таіса Супрановіч у апавяданнях пра расчалавечванне асобы не надае асаблівай увагі сацыяльнай першапрычыне гэтай з'явы — рассяляньванню вёскі і дэтэрытарызацыі інтэлігенцыі. Гэты этап грунтоўна асэнсаваны ў беларускім празаічным эпасе мінулых дзесяцігоддзяў. Пісьменніцу больш цікавіць сучасны стан і дзеяздольнасць грамады. Яна паказала, што вынікі духоўнай рэдукцыі аднолькавыя на сацыяльным дне і на вышэйшых паверхах бюракратычнай надбудовы. Дэвальвацыя духоўных каштоўнасцей не можа быць крыніцай характва і разнастайнасці яго форм. Моцю з апавядання «Зямное шчасце чалавека» і Віцю з аповесці «Ванда» можна назваць двайнікамі: ім невядомы пачуцці роднасці, чуласці, блізкасці ў сямейных адносінах: «*Гляджу: стаіць мой Віця з дружком сваім, абое спітыя. Пытаецца (ледзь я зразумела), як я сябе адчуваю. Мушу адказаць, што роды былі цяжкія, шмат крыві страціла, то цяпер яшчэ слабасць ва ўсім целе. А ён, як заведзены ўскідвае ў прывітанні руку і чаўпе адно: «Молодец. Так держать. За что и люблю*» («Ванда»).

Сучасная «цывілізаваная» мова — трасянка канцылярыту і крымінальнага жаргону — выконвае функцыю вульгарызаванай майі, якой «чалавек масы» прыкрывае ампутацыю душы. Зацыклены на кар'ерным поспеху ў вайсковай псеўданавуцы, былы вясковы хлопец Юра («Халодны дзень і цёплы вечар») ператварыўся ў чалавеканенавісніка, нават ворага сваім блізкім, жонцы і сынам. Пласты яго нянавісці да блізкіх назапашваюцца імклівa, і ён, былы афіцэр, ужо не кантралюе сваіх паводзін. Нават са сваімі бацькамі ён ужо не можа мець зносіны на роднай мове.

Таіса Супрановіч у сучаснай літаратуры бадай што адзіная аўтарка, якой выпала на долю ўвесці ў літаратуру сучасныя мадыфікацыі асацыяльнага тыпажу, раней увасобленыя ў вобразах Машэкі і Бушмара. Выкарыстоўваючы прынцып трансфармацыйнага мастацкага сінтэзу, пісьменніца адкрывае багатыя магчымасці адлюстравання глыбокіх супярэчнасцей, характэрных для сучаснага соцыуму. Эпоха, калі падобнае вязьмо развязвалася метадам *прыезд пана* (*сакратара парткама*), адышла, не пакінуўшы прыкметнага плёну ў антрапалагічным веданні. Таіса Супрановіч, хоць і запаволена, але няўхільна ідзе да адлюстравання крыніц самаруху сучаснага беларускага этнасу, яго стыхійнай кансалідацыі. У яе творах паказана не ўсвядомленая яшчэ сучаснымі *задум-*

**Паэтыка спалучэння рознaчасовых сэнсаў быцця выконвае яшчэ адну важную функцыю: рэабілітуе сучаснасць, занядбаную афіцыйнай ідэалогіяй у імя фатальна абавязковай і фатальна «светлай» будучыні**

**Таіса Супрановіч мэтанакіравана выкрывае хлусню квазівучоных показкаў пра «апасіянарнасць», млявасць беларускага менталітэту. У яе прозе дамінуюць яркія індывідуальнасці, у якіх праяўляецца стваральная энергія нацыянальнага духу**

*нымі, душою чулымі і цікаўнымі* беларусамі прага духоўнага вызвалення.

Нябачныя шчупальцы д'ябла ў соцыуме, які існуе ў свеце без святла і цяпла ўласнага ідэалу, сеюць у глыбінях неакрэплых душ «*пустацвет і зелле, / Што сваім пякучым ядам / Труцяць кроў у целе*» (Янка Купала). Таіса Супрановіч глыбока ўсведамляе небяспеку дэфармацыі беларускага духу ва ўмовах нацыянальнага нігілізму. Усведамленне таго, што ў Беларусі большасць інтэлігенцыі жыве па чужым сцэнарыі і забыла пра свой, народу *нясплачаны доўг векавы* (Якуб Колас), скіроўвае творчую энергію пісьменніцы на трансфармацыю *ёмістых* форм навелы ў разгалінаваныя формы аповесці-балады, а ў перспектыве вырысоўваецца ўжо мікрараман — вышэйшая форма сінтэзу, у якой сацыяльна-побытавыя пласты зместу таксама ўздымаюцца на вышыню баладнага перажывання. Поспех дасягаецца глыбокім асэнсаваннем патэнцыялу манадных структур К. Чорнага, Я. Брыля, І. Мележа, В. Быкава, У. Караткевіча — беларускай арыгінальнай мастацкай манадалогіі. Рэальным дасягненнем на гэтым шляху пісьменніцы сталі аповесці «Халодны дзень і цёплы вечар» і «Матчын зарок». Панарамная карціна супрацьстаяння беларускага духу разбуральнай сіле сумніўных навацый створана ў мікрарамане «Пракрустава ложа».

Мастацкі канцэпт *матчын зарок* — арыгінальнае адкрыццё Таісы Супрановіч. У кожным творы пісьменніцы паказана зло, якое разбурае трансцэндэнтную — здавалася б, непахісную — каштоўнасць мацярынства, што час ад часу пацвярджалася канцэптуальнай сінаніміяй вобразаў *матчын дар, матчына душа, матчына мова, матчына песня*. У прозе Таісы Супрановіч па-мастацку паказана з'ява сучаснай фальсіфікацыі першароднага сэнсу *людскасці*. Гэтая пошасць сёння лютуе ва ўсіх сацыяльных стратах. Не ратуе ад яе і далучэнне да царкоўна-хрысціянскага рытуалізму.

На працягу сваёй цывілізацыйнай гісторыі чалавецтва неаднаразова правальвалася ў яму крызісу. Рэнесансныя рухі ў старажытных цывілізацыях Усходу ў часы еўрапейскай Антычнасці і развітога феадалізму, былі эпохай вяртання супольнасці з ваўчынай ямы ў чалавечы стан. Крыніцы духоўнай сілы людства знаходзіла на шляхах рэабілітацыі каштоўнасцей мацярынства. Гэтым матывам пазначана і культура беларускага нацыянальнага адраджэння. У прозе Таісы Супрановіч матывы *матчынай душы, роднага дому* разгортваюцца на фоне рэалістычнага бачання трагічных вынікаў працяглага падзення ў бездань *ваўчынай ямы* ў цэнтры еўрапейскай цывілізацыі. Творчыя намаганні пісьменніцы скіраваны на адлюстраванне не жахаў чысца ці пекла, а на паказ здольнасці асобы перамагаць зло, якое ўкаранілася ў штодзённым побыце. Поспех прыходзіць не заўсёды («Жывуць у вёсцы людзі»). Жыццё дзеля зямлі і жаданага багацця за польскім часам і адпрэчанае існаванне ў савецкім, калгасным універсуме суадносіцца ў апавяданні «На радаўніцу» з лёсам францужанкі Камілы — жонкі Петрыка Бакштаніна, з лёсам пахаваных у Гаі пад мястэчкам напалеонаўскіх салдат. «*Паклалі, бедныя, галовы ў чужой старане за пусты мех*», — так у творы ацэньваецца беларускімі сялянамі здабытак банапартызму. І не дзіва, бо самі праз стагоддзі ваююць за пусты мех. А пры начальніках (Глаўначпупсах, паводле Маякоўскага) тым часам групуюцца прыстасаванцы з д'яблавай крывёй у жылах, ворагі перш за ўсё сваім блізкім. Таісу Супрановіч не цікавіць мода на абстрагаваныя формулы «бацькі і дзеці» і «эдыпаў комплекс». У беларускай літаратуры падобныя праблемы ўвогуле не ставяцца: яны, калі і існуюць, то ў комплексе куды больш важнай праблемы пераадолення ўлады Цмока, Жалезнага звера, Вупыра, Вялікага злодзея. Ва ўмовах звычайнага жыцця-вайны ахвярамі мутантаў з д'яблавай крывёй у жылах становяцца

перш за ўсё істоты цнатлівыя, якія не маюць сацыяльных гарантый, — жанчыны і дзеці.

Таіса Супрановіч па-новаму раскрывае гераічны патэнцыял беларускай жанчыны-маці на рубяжах змагання за жыццё ў сітуацыі «няма вайны». Чытачу прапануюцца звёны сэнсаў для семіятычнага ланцуга, здабытыя ў вялікіх нарацыях, пачынаючы з глыбіняў старажытнасці. Аповесць «Ванда», напісаная ў жанры вуснай апавядальнай рэфлексіі, патрэбу у якой пісьменніца адчула ў душы сучаснай перагружанай жыццёвымі клопатамі жанчыны. Аповесць нагадвае «Мае авантуры» Саламеі Пільштыновай — твор XVIII стагоддзя, споведзь беларускай лекаркі з Наваградка. Істотнае мастацкае значэнне мае факт «незвычайнага» нараджэння Ванды — толькі ж не ад духа святога, а ад «кацапа» — «васточніка», прысланага дзеля ўдасканалення *западников*. Далі яму пасаду фінінспектара. Набожныя бацькі таксама не чакалі весткі з неба і самастойна блаславілі дачку на незвычайны шлюб: «*Каб адчапіўся, каб зрабіў дзе якую скідку, змусілі маці маю легчы з гэтым кацапам*». На свет з'явілася дзіця непажаданае. Бабця паіла ўнучку тытунёвым адварам. Ванда аднак жа не збіралася паміраць, дык тая ж бабця выкінула яе — не ў яслі ў хляве, а ў пограб. У спешцы не заўважыла, што малое ўпала на ахапак палыну. Адшуканая і вернутая мамусяй з падзямелля зноў на гэты свет, Ванда потым спатрэбілася: спачатку каб даіць на ферме кароў, а потым і для таго, каб даглядаць бабцю перад яе адыходам у іншы свет. На шаснаццатым годзе Ванду чакалі новыя авантуры. Калі маладзенькая даярка аднойчы з'явілася на ферму ў чырвонай сукенцы, гэтага не мог перанесці магутны, як Мінатаўр, племянны бугай. Умелыя дактары належным чынам саставілі яе паламаныя ключыцы і рэбры, прышылі кускі парванага цела, і Ванда зноў вярнулася ў свет ў сваёй першароднай красе. На гэты раз яе хараство трапіла на вочы брыгадзіру. Саракагадовы ўладар вясковых душ, сыты і дужы, як той бугай з фермы, паспрабаваў выкарыстаць сітуацыю па дарозе праз лес. За памаўзлівую спробу ён заплаціў двума выбітымі зубамі і зламаным носам. Не ўлічыў, што рука, якая выдойвала дваццаць кароў замест дванаццаці па норме, можа камнем *вальнуць* не слабей за кавальскі молат.

Аповесць «Ванда», заснаваная на пабытавым матэрыяле, у жанравай форме непрыкметна набліжаецца да міфа ці казкі жыцця. Таіса Супрановіч імкнецца ў канкрэтыцы адлюстраваць працэсы ў іх цэласнай дынаміцы і, галоўнае, паказаць іх сэнс у завершанай форме. У структуры яе твораў чуецца водгулле даўніны, бачыцца трансфармаваная традыцыя, замацаваная ў жанравых формах міфа, казкі, жыція, хаджэння па пакутах — традыцыя вызвалення з кіпцюроў д'ябла. У «Міфе пра Асірыса» багіня Ісіда — гэта перш за ўсё жонка, якая збірае для новага жыцця кускі раскіданага па ўсім свеце цела свайго мужа. Яна — маці, якая дзеля вяртання сыну законнага статуса кіраўніка дзяржавы пакідае свой статус багіні і на высокую нараду з'яўляецца ў вобразе жабрачкі. Змаганне Ванды за чалавечы лёс свайго сына міжволі нагадвае карціну змагання юнай маці за вяртанне сыну належнага месца ў грамадстве ў выдатным творы індыйскага Рэнесансу V стагоддзя — п'есе Калідасы «Адшуканая па пярсцёнку Шакунтала». Прынц, стаўшы царом, забыў пра сваю даўнюю сустрэчу з юнай дачкой брахмана. Шакунтала ж, дбаючы пра сына, знайшла на дне мора згублены пярсцёнак, вярнула цару памяць пра былое і тым самым дамаглася прызнання. У беларускай народнай культуры жанравая форма хаджэнняў па пакутах і жыцій атрымала сваю энтэлехію (мастацкае завяршэнне) ў творчасці Яна Баршчэўскага, Францішка Багушэвіча, Максіма Гарэцкага. Сэнс энтэлехіі скандэнсаваны ў топасе *кепска будзе*. У прозе Таісы Супрановіч ён прабіваецца на паверхню цяперашняга сацыяльнага часу. У выніку ў агульнай карціне нацыянальнай літаратурнай антрапа-

**Сучасная «цывілізаваная» мова — трасянка канцылярыту і крымінальнага жаргону — выконвае функцыю вульгарызаванай маўі, якой «чалавек масы» прыкрывае ампутацыю душы**

> **Рэнесансныя рухі ў старажытных цывілізацыях Усходу ў часы еўрапейскай Антычнасці і развітога феадалізму, былі эпохай вяртання супольнасці з ваўчынай ямы ў чалавечы стан**

логіі ліквідуюцца непрасветленыя палосы ў гісторыі лёсу народа ў час яго знаходжання ў Расійскай імперыі савецкага ўзору.

Мяжа паміж віртуальнай рэчаіснасцю міфа і рэальным жыццём сціраецца тады, калі ў творы дакладна адлюстравана псіхалогія, жыццё душы. У прозе Таісы Супрановіч назіраецца процілеглая дынаміка: духоўнай каштоўнасцю становяцца вобразы жывых людзей, пераважна з Навагрудчыны. У апавяданні «Хутаранка» такое душэўнае цяпло і святло сыходзіць ад бабкі Гэлі. У рэальным свеце людзі прывыклі жыць «крэнтамі-мэнтамі». Гэлька ж — заўсёды і з усімі застаецца гаваркой і шчырай. Шчаслівае яе жыццё з такім жа ціхім і шчырым Сашам, «васточнікам» з Віцебшчыны, было ўсяго толькі імгненнем, але памяць пра гэты міг маладосці саграе Гэльчыну душу праз усе гады. Прагныя і чэрствыя дочкі яшчэ пры жывой маці падрыхтавалі для яе, па цяперашняй завядзёнцы, магілу і помнік з надпісам і фатаграфіяй. І не саромеюцца дзяліць небагаты яе скарб. Але Гэлька, устаўшы аднойчы з-пад свайго крыжа, нібы вярнулася з таго свету. Перапалох наведвальнікаў стаў прычынай вялікага вэрхалу і вясёлага смеху на ўсё наваколле. Містэрыя і карнавал у народнай культуры ўзаемна абумоўлены.

Таіса Супрановіч у прозе адлюстроўвае характэрную тэндэнцыю сучаснасці. У Беларусі сёння фарміруецца свядомасць грамады, якая не хоча будаваць дабрабыт крэнтамі-мэнтамі, не хоча жыць па чужым раскладзе, у атмасферы адчужэння, непрыязні і духоўнай несвабоды. Матчын зарок гуртуе людзей у вялікую радзіну, дае моц і сілу асобе і супольнасці, кансалідуе этнас. Спасцігнуць гэтую ісціну і рэалізаваць яе сацыятворчы патэнцыял — задача даволі складаная. У «Матчыным зароку» гэтым шляхам пазнання ідуць Віктар і Таня:

«— *Гэта маё шчасце, Віця, што ты ёсць у мяне, што ты мяне любіш, што я цябе люблю. Я люблю цябе моцна-моцна, але, бачыш, плачу. Плачу ад нейкіх недарэчных думак, што шчасце наша народжана горам. Як быццам бы бацькі мае жыццямі сваімі заплацілі, каб мы пазнаёміліся, палюбілі адно аднаго, каб я магла толькі за цябе выйсці замуж, толькі з табой быць шчаслівай*».

Глыбіня псіхааналізу тут спалучаецца з далікатнай ашчаднасцю ў адносінах пісьменніцы да чалавечых пачуццяў. Сцэна ў нядаўна яшчэ халоднай хаце загінуўшых бацькоў нагадвае своеасаблівыя заручыны, на якіх прысутнічаюць душы продкаў. І нашчадкі самі сябе вызвалілі з-пад друзу сучаснай цывілізацыі і прымаюць эстафету жыцця «*на новы лад, каб жыць нанова*».

Таіса Супрановіч вяртае ў прозу культ духоўнай чысціні, увасоблены ў сімволіцы чыстага дому — першапачатковага чалавечага локусу ў Сусвеце. Можна меркаваць, што стымулам менавіта такога, *чыстага* мастацтва стала для пісьменніцы паэзія вымытага Сонцам прастору ў літаратуры першай паловы XX стагоддзя. Беларускае чыстае ад бруду імперскай ідэалогіі мастацтва фарміравала грамадзянскі патэнцыял душы даваеннага пакалення, якое было амаль што выбіта падчас вайны. Патэнцыял пакалення наступнага, абпаленага вайной у маленстве, найбольш рэзультатыўна быў рэалізаваны ў вербальнай мастацкай культуры («філалогіі»). Гэтым рэсурсам і забяспечаны сённяшні духоўны імунітэт новых задумных, якія з першага позірку ўбачылі прымітыў новага неандэртальца, што дэманструе кілаграмовы залаты ланцуг на шыі і дасведчанасць у жаргоне як знакі сваёй вышэйшасці.

Карціны сучаснага быцця ў прозе Таісы Супрановіч прасякнуты глыбокім роздумам і чысцінёй эмацыянальнага перажывання, часам гораснага, але заўсёды жыццесцвярджальнага. Ідучы ў рэчышчы традыцый беларускай класічнай прозы, пісьменніца адкрывае ў душы беларускага этнасу новыя пласты жыццяздольнасці. Яе творы вызначаюць вектар людскасці ў складаных умовах сучаснасці.

# СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ І АЛЕСЬ РОЗНА: СЯБРЫ — РАВЕСНІКІ — ПАЭТЫ

*Сёлета ў верасні спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Сяргея Грахоўскага (25.09.1913 — 11.12.2002). З вялікай адказнасцю звяртаюся да часопіса «Маладосць» з прапановай успомніць іх шматгадовага, пастаяннага аўтара. «Маладосць», як цяпер кажуць, «знакавая» веха ў жыцці пісьменніка. Яго лёс быў падзелены на дзве непадобныя часткі, гэта былі біяграфіі нібыта зусім розных людзей. У сакавіку 1956 года часопіс надрукаваў тры вершы 43-гадовага паэта, у далёкім мінулым літаратара і журналіста, а потым вязня, лесаруба, грузчыка, сталяра і настаўніка. З гэтай публікацыі пачалося новае жыццё Сяргея Іванавіча, фактычна, літаратурны ўзлёт на далейшыя 46 гадоў. Працаваў ён плённа, адказна, таленавіта ва ўсіх літаратурных жанрах, пры жыцці было выдадзена каля 60 кніг. Грахоўскі — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і іншых літаратурных прэмій, заслужаны работнік культуры БССР.*

*Я прапаную ўспомніць не толькі пра Сяргея Іванавіча, але і пра яго лепшага сябра Алеся Розну, пра сяброўства рэдкай прыгажосці. Яны равеснікі, і ў Алеся юбілей таксама сёлета. Гэты таленавіты паэт, перакладчык, журналіст, рэдактар не дажыў і да 30 гадоў...*

*Яны сябравалі са школы. Разам вучыліся ў інстытуце, працавалі ў сталічных выданнях і разам трапілі ў мясарубку 1936 года. Разам былі асуджаны (па адной «справе») і трапілі ў адзін лагер. На пачатку вайны іх разлучылі па розных лагпунктах (лагерны пункт). Гэта загубіла Алеся. Адзін, без надзейнага і больш дужага сябра, ён не здолеў выжыць.*

*Яны трапілі ў «Зону маўчання» ў 23 гады. Яшчэ не паспелі выдаць і першай кніжкі. Вайна знішчыла нават акадэмічныя архівы, не гаворачы пра асабісты архіў Алеся.*

*Ён быў карэнным мінчанінам. У гета загінула ўся яго сям'я, згарэла хата.*

*Усё жыццё бацька бедаваў і помніў пра лепшага сябра. Гэтага чалавека ніхто яму не замяніў, хоць пражыў ён яшчэ 60 гадоў пасля Алеся. Думаю, што інфармацыя пра Розну ў даведніку «Беларускія пісьменнікі» (1994) — заслуга бацькі. Нават у зборнік «Расстраляная літаратура» (з «залатой серыі» выдавецтва «Беларускі кнігазбор») Алесь Розна не трапіў. Мабыць, нічога вартага з яго твораў укладальнікі не знайшлі.*

*Я сабрала частку напісанага бацькам пра Алеся: дзённікавыя запісы, урывак з аўтабіяграфічнай трылогіі, частку артыкула «Жывуць у памяці маёй», прысвечанага Розне і Юлію Таўбіну. Дарэчы, з трох сяброў ацалеў толькі мой бацька. Юлій быў расстраляны 30 кастрычніка 1937 года, на другі дзень пасля абвяшчэння прыгавору. Змешчаны тут і лісты да Грахоўскага брата і сяброўкі Алеся, факсіміле бацькавых пошукаў у Нацыянальнай бібліятэцы. Ён зрабіў спіс усіх публікацый Алеся 1927—1932 гадоў і перапісаў ад рукі. Не ўсе дакументы маюць пэўныя даты. Але, сабраныя разам яны складаюць моцнае ўражанне пра вернае, светлае, адданае сяброўства, яго цану. Яно захавалася ў памяці і сэрцы «пакінутага друга» на ўсё жыццё.*

*Верш з дзённікавых запісаў аўтар дапрацаваў у 80-я (праз 40 гадоў!) і ўключыў у свае выданні. Дарэчы, гэта адзін з вершаў, напісаных у няволі па-беларуску. Першая страфа загучала мацней, выразней, больш афарыстычна:*

Звалілася бяда, нібыта камень:
Мяне мой друг пакінуў без сяброў,
І мне здалося — белымі вянкамі
Укрылася спакойнае Дняпро.

*Колькі болю, гора і адчаю ў гэтых радках. Успомнім іх разам: сяброў — равеснікаў — паэтаў.*

## З НАРЫСА СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА «ЖЫВУЦЬ У ПАМЯЦІ МАЁЙ»

Прайшлі дзесяцігоддзі, а ў памяці назаўсёды засталіся юнакамі сябры дзяцінства і маладосці. Помню іх абліччы і галасы, інтанацыі і ўсмешкі, почыркі і паходкі. Калі б яны дажылі да сталасці, каб былі нашымі сучаснікамі, іх кнігі былі б сярод першых у «паэтычнай рубрыцы», іх праца намнога ўзбагаціла б нашу літаратуру. Мы пасябравалі, не ведаючы адно аднаго. У Мсціславе жыў Юлій Таўбін, у Мінску — Алесь Розна, у Глуску — я. Часопіс «Беларускі піянер» часта друкаваў нашы вершы з тытулам «піянер» перад прозвішчам. Рэдагаваў часопіс Алесь Якімовіч і кожнаму паведаміў адрас сваіх найбольш сталых карэспандэнтаў. Адразу паляцелі пісьмы ў Мсціслаў, Мінск і Глуск. Пра што мы толькі не марылі тады, пра што не пісалі адно аднаму. У кожным лісце былі вершы…

Не забыліся і радкі піянера Алеся Розны. Імя яго, за выключэннем маіх равеснікаў і самых дасведчаных літаратуразнаўцаў, нікому не вядома. Ён не спяшаўся з выданнем кніжкі, у апошнія гады пісаў вельмі патрабавальна, шмат перакладаў Міцкевіча і Гейнэ, перакладаў для сябе, для будучых выданняў. Творчасць для яго найперш была патрэбаю душы і самаю вялікаю асалодаю. Ён быў «па-прафесарску» трохі разгублены і дасведчаны, а яго альтруізм і абыякавасць да сябе некаторыя лічылі дзівацтвам.

У тым шчаслівым дзіцячым узросце Алесь Розна ўжо імкнуўся да канкрэтнасці і прастаты, часам не пазбаўленай моднай у той час маладнякоўскай «прыгожасці».

Стаіць у задуменні сквер,
Згубіўшы свой убор дашчэнту,
Сняжынкі ўслалі мой каўнер,
Як залатыя дыяменты.

Мне, хлапчуку з палескага мястэчка, які на той момант не бачыў цягнік, цяжка было ўявіць, што такое сквер, а тым больш залатыя дыяменты. Можа, таму і запомніўся верш, што ўпершыню адкрыў нешта новае, прынёс нячутае слова.

У 1928 годзе я прыехаў у Мінск і спыніўся ў сваякоў на Газетным завулку. Цяпер і завулка гэтага няма. Назаўтра пастукаўся і зайшоў у пакой у «бобрыкавым» паліто невысокі хлапчук з круглымі цёмнымі вачыма. Мы адразу пазналі адно аднаго, але маўчалі, не ведаючы, што гаварыць. Асвойтаўшыся, Алесь павёў мяне ў горад. На тратуарах ляжаў набрынялы брудны снег, з-пад колаў рамізніцкіх брычак ляцелі пырскі і камякі мокрага снегу.

Мы спусціліся ўніз па Чырвонаармейскай вуліцы, зайшлі ў доўгі драўляны дом з мноствам дзвярэй і ганкаў. У двух маленькіх пакойчыках жыла сям'я Розны: тры браты, сястра і маці. Старэйшыя працавалі на заводзе «Камунар» (цяпер імя Кірава), малодшыя вучыліся. На сцяне вісела скрыпка. Стол, канапка і крэслы былі завалены падручнікамі і кніжкамі. Алесева маці частавала мяне нечым «гарадскім». Я бянтэжыўся: падалі то відэлец, то хлеб, як у малога дзіцяці.

Алесь ужо друкаваўся ў «Чырвонай змене» і «Беларускай вёсцы». Сам рэдактар «Савецкай Беларусі» Міхась Чарот адпраўляў яго вершы ў друк, за руку вітаўся Кузьма Чорны, ён ведаў у твар амаль усіх пісьменнікаў. Кожны маладняковец мне тады здаваўся вышэйшай, амаль незямной істотай, а ўбачыць Купалу і Коласа нават не марыў. Няўжо і яны ходзяць па гэтым размяшаным снезе, носяць такія ж галошы, як і большасць гараджан? Нават не верылася, што на гэтых вуліцах можна сустрэць аўтара «Кургана» ці «Новай зямлі». Алесь мне расказваў, дзе каго бачыў, як хто выглядае. А калі сказаў, што ў суседнім доме жыве Андрэй Александровіч, хацелася запомніць кожную прыступку і аканіцу.

У гэтым наіўным дзіцячым пакланенні перад папулярнасцю імён было чыстае, узвышанае стаўленне да літаратуры і літаратараў.

Алесь не хваліўся перад правінцыялам сваёй дасведчанасцю і знаёмствамі, не падкрэсліваў сваёй перавагі, — гаварыў стрымана і сціпла.

Неўзабаве яго вершы з'явіліся ў «Полымі», «Чырвонай Беларусі», замільгалі на старонках газет. А юны паэт кінуў Мінск і паехаў вучыцца ў Лепельскі педтэхнікум. Я дзівіўся, чаму. «Каб самастойна пажыць у прыгожым азёрным краі», — тлумачыў Алесь і прысылаў шчырыя лірычныя вершы. У лістах часта цытаваў па-нямецку вершы

Генрыха Гейнэ, старанна вывучаў польскую і нямецкую мовы, захапляўся Міцкевічам і Славацкім, Гамерам і Гётэ.

У маім далёкім ад вялікіх дарог Глуску нават бібліятэкарка не чула такіх аўтараў. Было сорамна і крыўдна, што не магу далучыцца да вялікай паэзіі і падзяліць захапленні свайго сябра.

…А. Розна застаўся ў памяці нямногіх, вершы яго раскіданы ў выданнях 20—30-х гадоў. Думаю, аматарам паэзіі не лішне ведаць, што быў такі цікавы паэт і перакладчык, які мог многа зрабіць для нашай літаратуры. Ён быў рамантык у жыцці і творчасці, нястомны шукальнік сваёй адметнай дарогі.

Мабыць таму, пасля Лепельскага педтэхнікума ён пайшоў працаваць наборшчыкам у друкарню. Набіраючы свежую газету, ён часта звяртаўся да дзяжурнага па выпуску і правіў не вельмі ўдалыя сказы і фармуліроўкі ў тэксце, знаходзіў найбольш трапныя загалоўкі. Часам уласныя вершы ў часопісах і альманахах «Ударнік» і «Заклік» набіраў сам аўтар.

У 1932 годзе мы з Алесем Рознам пачалі вучыцца на газетна-выдавецкім аддзяленні Мінскага педінстытута. У 19 гадоў яго скроні серабрылі сівізной. Ён ведаў больш за ўсіх нас, але ніколі не падкрэсліваў свае перавагі, кожнаму стараўся памагчы, растлумачыць, параіць. Мы і студэнты старэйшых курсаў часта прасілі Розну прачытаць семінарскія, або курсавыя работы. Ён не толькі рабіў заўвагі, а часам перапісваў цэлыя абзацы і раздзелы, выпраўляў стыль, а бывала, і арфаграфію. Дабрата, ласкавы гумар, чуласць і ўвага да таварышаў прыцягвалі кожнага, хто хоць раз сустракаўся з ім.

Мы разам вучыліся і працавалі ў рэдакцыі «Чырвонай змены». У тыя бурныя гады амаль усе работнікі рэдакцыі раз’язджаліся на хлебанарыхтоўкі ўпаўнаважанымі па калектывізацыі. Былі тыдні, што ў рэдакцыі заставалася 3-4 чалавекі, а газета выходзіла без спазнення. Алесь «цягнуў» цэлы аддзел, а калі дзяжурыў па друкарні, часта сам браўся за працу, набіраў тэрміновыя паведамленні і загалоўкі, пісаў і набіраў вершаваныя подпісы да малюнкаў.

Розна выдатна вучыўся, працаваў у рэдакцыі, перакладаў сваіх любімых Гейнэ і Міцкевіча, друкаваў свае вершы амаль ва ўсіх перыядычных выданнях.

Імя яго забылася разам з тымі выданнямі. Лёс Алеся Розны склаўся недарэчна і трагічна на самым пачатку літаратурнай сталасці. Зімою суровага 1942 года ён памёр ад запалення лёгкіх непадалёк ад станцыі Сухабязводнае Горкаўскай вобласці.

У Мінску фашысты забілі яго родных і спалілі дом па Чырвонаармейскай вуліцы. Я часам хаджу на тое месца, але ўжо нічога не пазнаю, і ўсё ж хаджу ў далёкае юнацтва, здаецца, іду да свайго лепшага сябра.

У даўніх выданнях я знайшоў некалькі вершаў, не лепшых і не характэрных яго творчасці. Апошнія спелыя і дасканалыя творы і пераклады беззваротна загінулі ў віхуры таго неспакойнага часу.

## З ДЗЁННІКАЎ СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА

…Пасля вячэры пацішэе гамана, палагаднеюць людзі, закураць — сіняй смугою зацягнецца праход. То ў адным, то ў другім кутку расказваюць «романы». Неперавзыдзеным апавядальнікам быў Валодзя Мяжэвіч. Яго героямі былі міжнародныя аферысты, бандыты, прайдзісветы. На кніжачках папіроснай паперы агрызкам хітра схаванага алоўка я часам пісаў вершы, наіўныя, але непасрэдныя.

Пачалі адпраўляць групы на этап. Вечарам прыходзіў начальнік калідора або аддзялення, па спісе выклікаў прозвішчы і камандаваў: «З вяшчамі на выхад». Так нечакана зніклі людзі, з якімі зжыўся, пасябраваў, а тут не паспяваў развітацца і ведаў, што ніколі іх больш не сустрэнеш. Так зніклі Баранавых, Мікуліч, Багун, Звонак, Хадыка, Скрыган, Шушкевіч, Астапенка, Знаёмы (Клопаў) і многія іншыя. Куды вязуць, — ніхто не ведаў, але астатнія зайздросцілі ім — кожны марыў хутчэй вырвацца з гэтай страшнай стадолы. Нас аставалася ўсё меней і меней. Тыдні за два да этапу нас зноў перавялі ў асноўны корпус, у невялікую камеру на другім паверсе. Трапіла ўся наша кампанія: Мяжэвіч, Такарчук, Пальчэўскі, Розна, былы работнік Наркамасветы, стары настаўнік Жураўскі і некалькі іншых дзеячаў культуры. У камеры заставалася чалавек сорак. Нар не было, спалі на падлозе ўздоўж сцен:

што на сабе, тое і пад сябе. Каб заняць час (перагаворана і прадэкламавана было амаль усё), Алесь Розна прапанаваў складаць літаратурную энцыклапедыю. Назбіралі кніжачак папіроснай паперы (некалі выпускаліся такія велічынёю з карабок запалак), успаміналі па алфавіце прозвішчы ўсіх вядомых пісьменнікаў, літаратурныя тэрміны, назвы выдатных твораў, прыгадвалі ўсё, што ведалі і запісвалі дробненькімі літарамі ў кніжачкі. Дайшлі, здаецца, да літары «К», як позняй снежаньскай ноччу ў камеру ўвайшоў начальнік калідора з доўгім спісам. На калідоры ўжо чулася гамана. Мы прахапіліся ў чаканні свайго лёсу: выклічуць ці не, хоць бы не адбіцца ад сваіх, не разгубіць верных сяброў. Выклікалі аднаго, другога, трэцяга — усіх. Кожнага калацілі нервовыя дрыжыкі — наперадзе была невядомасць, хвалявала адно — куды? На Калыму, Варкуту, Цемнікі, Сіблаг? І жаданне — толькі б не разлучалі. …

* * *

…Вясною стварылі брыгаду «баланснікаў». Ядловыя паленцы, даўжынёю трохі больш за метр, трэба было чысценька абстругаць і скласці ў штабель. Замест пілы ў руках быў прадзедаўскі стружок, а рукі — у смале і ў мазалях. Але лягчэй, чым на лесапавале. Усё ж на адным месцы — стругай сабе і стругай. Працавалі мы разам з Алесем Рознам. Зусім не прыстасаваны да лагерных умоў, наіўны і шчыры, Алесь жыў у свеце сваіх уяўленняў і мар. Ён па памяці перакладаў вершы Міцкевіча і Гэйнэ. Мы і спалі на адных нарах, харчаваліся з аднаго кацялка. Пачалі прыходзіць пасылкі. Іх выдавалі на вахце: зрывалі вечка, пératрасалі сухары, разрывалі пачкі цукру, разразалі сала, каб не было зброі або яшчэ чаго забароненага. Зімою ўпоцемках на чалавека, які нёс такую чаканую пасылку з пахамі дому і такім жаданым скрылем сала, часта наляталі блатнякі, вырывалі з рук скрынку, білі па храпе, а самі знікалі ў сваім шалмане. А няшчасны «контрык» расціраў па твары горкія слёзы, змяшаныя з крывёю, і нема галасіў па страчанай самай вялікай надзеі. Таму атрымліваць пасылку хадзілі з цэлым экскортам ахоўнікаў. А потым у барак прыносілі кацялок гарачай вады, кроілася сала, цыбуля, раскладаліся сухары і пачынаўся пір, а суседзі, не запрошаныя на пачастунак, глыталі слінкі, аблізваліся, ці адварочваліся, каб не надта пакутаваць. Пакутаваў і той, чыя была пасылка: усіх пачаставаць не мог, і бачыў, як траціць прыязнь астатніх таварышаў па брыгадзе. Атрымлівалі пасылкі і мы з Алесем. Яму прысылала маці, мне — Таня, а часцей клапатлівы і добры дзядзька Іван Бобрык. Прыходзілі мне чорныя сухары, пару кавалкаў сала, цукар і, абавязкова, рукавок квасолі. Усё мы трымалі ў капцёрцы, каб у бараку не скралі. А пасля работы каля капцёркі збіралася чарга — атрымлівалі свае мяшэчкі, скрынкі і чамаданы, бралі з іх нейкую частку на вячэру, астатняе зноў здавалі капцёру, якога трэба было час ад часу частаваць. Бывалі выпадкі, калі тыя ж блатнякі над капцёркаю ўзрывалі пару дошак на столі і паражнілі некалькі дзясяткаў пасылак.

У нас з Алесем пасылкі і пайкі былі агульныя. Мы дзяліліся апошняю крошкай, клапаціліся адно пра аднаго, як не ўсе браты могуць клапаціцца. У мяне часта распухалі ногі так, што не месціліся ні ў які абутак. Урачы вызвалялі мяне ад работы, а Алесь хадзіў стругаць баланс. У зоне я прымеркаваўся ў качагарцы, лазні або кіпяцільні да прыходу сябра згатаваць які-небудзь крупнік або кашу. Так і жылі.

* * *

…Колькі большых і меншых трагедый было там![1] Колькі смярцей, недарэчных, непатрэбных, дарэмных пабачыў я за ўсе тыя 10 гадоў. Самаю горкаю для мяне стратаю была смерць майго даўняга і лепшага сябра Алеся Розны. Мы з ім друкаваліся ў «Беларускім піянеры», яго вершы мне асабліва падабаліся, і мы праз рэдакцыю пачалі перапіску завочна. У 1929 годзе сустрэліся ў Мінску — ён прыйшоў да мяне на кватэру маіх дваюрадных братоў Бобрыкаў у

[1] Падзеі 1942 года, Унжанскі лагер (Горкаўская вобласць, кержацкія лясы).

Газетным завулку, потым мы разам вучыліся ў педінстытуце, працавалі ў «Чырвонай змене», і ў лагеры апынуліся разам, дзяліліся апошняй скарынкай пакуль нас не разлучылі. Ён быў да бездапаможнасці непрактычны, таму і загінуў. Калі б мы былі разам, ён бы жыў і цяпер, пісаў бы добрыя вершы, або рабіў бы выдатныя пераклады. Яго смерць была падобна да самагубства. Своеасаблівым пратэстам супраць несправядлівасці; ён адмовіўся ад «цёплай» работы ў зоне, працаваў дзясятнікам у лесе, захварэў на пнеўманію, але з высокаю тэмператураю зімою хадзіў у ачапленне, хворы лажыўся каля кастра на яловыя лапкі, а калі было зусім кепска, паклалі ў «стацыянар», але было позна.

Пра гэта мне позняй восенню 1942 года расказаў прысланы да нас новы кіраўнік работы (вызвалены, але не адпушчаны) Балясны. Я ўсю ноч праплакаў, як па родным браце, і тады ж напісаў верш:

На сэрцы слёзы цяжкія, як камень,
А ты мяне пакінуў без сяброў,
І мне здаецца — белымі вянкамі
Укрылася спакойнае Дняпро.

У Беларусі — яблыневы снежань,
На Беларусі плачуць салаўі,
І дзеўчына з азёрнага ўзбярэжжа
Спявае песні першыя твае.

На Беларусі — месячныя ночы
Усыплюць срэбрам цёмныя сады.
Не спіцца маці — маці вельмі хоча
Сустрэць цябе з выгнання маладым.

Ёй мроіцца — праз цёплыя туманы,
З чужых дарог праз адзічэлы лес,
Дадому прыдзе рана-рана
Дарогаю замораны Алесь.

І шосты год не спіць і мроіць маці,
І чуе крокі сына ля акна,
І шосты год у апусцелай хаце
Па сыну журыцца яна.

А ёй ніхто не скажа а ні слова,
Што ў тую ноч, калі прысніўся сын,
Без дамавіны, без слязы, без слова
Яго хавалі каля трох асін.

І нічыёй слязою не сагрэты
Халодны жвір засыпаў назаўжды,
І толькі ноччу над магілай гэтай
Сцякалі кроплі дажджавой вады.

Шуміць тайга над братняю магілай,
І слёз няма, і не хапае сіл
Усё злічыць, што Беларусь згубіла,
Забытых і закінутых магіл.

У такую ноч, пакінуты сябрамі,
І я памру, і мой замоўкне верш,
І толькі скажуць каля чорнай ямы,
Што вольным кожны робіцца цяпер.

Там запяюць дзяўчаты на Купалле,
Вянкі ўючы у цішыні начэй.
Ну як стрываць? І слёзы зноў упалі
З маіх даўно праплаканых вачэй.

19/IX/ 42г (24л[агерны]/п[ункт])

Гэта, па праўдзе, і не верш, — выпакутаваны ліст, дэкламацыйны, трохі напышлівы, але шчыры.

## З АПОВЕСЦІ СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА «ЗОНА МАЎЧАННЯ»

«…Ён загінуў таму, што нас разлучылі. Я б яго ўбярог для жыцця і літаратуры. У акупіраваным Мінску фашысты знішчылі ў гета яго маці, сястру і двух братоў. Я і цяпер бядую па Алесю, як па самым дарагім і родным чалавеку».

## ЛІСТ ЯЎГЕНІІ ШАБЕКА[1] ДА СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА

Добрый день, Серёжа!

Получила Ваше письмо, в котором Вы прислали мне фотографию Алеся. Спасибо, что сделали это быстро. Вы, наверное, знаете, что для меня его фотография — самое дорогое воспоминание о прошлом. В течение 30 лет я ничего не знала о нём. И узнала совершенно случайно только в прошлом году. У нас в техникуме учится племянница Жени Каплуновой[2], от которой я узнала Женин адрес. У меня судьба сложилась

[1] Яўгенія Шабека — сяброўка Алеся Розны. Жыла ў Кіеве (заўв. С. Грахоўскага).

[2] Жэня Каплунова — аднакурсніца, аднагрупніца і «падзельніца» С. Грахоўскага.

так, что я после войны не вернулась в Белоруссию и потеряла абсолютно всех своих друзей, родственников и знакомых, с которыми были связаны моё детство и юность. Вы с Женей единственные, кого мне удалось найти.

Правда, я узнала, что все члены семьи Алеся погибли в гетто. Из прошлого его семьи мне известно, что одна мать (отец умер очень рано) воспитала пятерых детей. Его старший брат Лёня учился в политехническом институте, сестра Мира — в институте Народного хозяйства, брат Аркадий работал на заводе, а самый младший — Моня, обладавший незаурядными музыкальными способностями, учился в музыкальной школе.

Семья была честная, порядочная, трудовая. Вот и всё, что мне известно.

Серёжа! Мне очень приятно, что Вы написали мне письмо на белорусском языке, который я совершенно забыла. Я поняла всё, но написать на белорусском языке уже не смогла бы. Нет абсолютно запаса слов, да и грамматику не помню (а в приложении к диплому стоит «5»). Вместо белорусских слов лезут в голову украинские. Всё-таки прожила на Украине 26 лет. Могу написать на украинском, немецком и французском, но не на своём родном. Печально, но ничего не поделаешь! За все эти годы, начиная с 1941, ваше письмо — это первые строки, прочитанные мной на моём родном языке.

Очень много работаю. Амплуа моё несколько изменилось. Последние 14 лет работаю только с иностранцами. Мои студенты из 18 стран мира. Чтобы работать с ними, пришлось окончить в Москве специальный факультет в Университете дружбы им. Патриса Лумумбы. Вот пока и всё о себе. Будьте здоровы и счастливы. Привет вашему семейству.

Женя

P.S. Серёжа! Когда напишете об Алесе, пожалуйста, пришлите мне. Хорошо? А будете писать мне, то обязательно на белорусском языке. С приветом и наилучшими пожеланиями. Женя

*БДАМЛМ, ф. 201, воп. 4, стр. 194, л. 22*

## ЛІСТ ЛЕАНІДА РОЗНЫ ДА СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА

г. Горький. 17.01.88г.

Дорогой Сергей Иванович! Конечно же сердце моё разбередилось при чтении отдельных строк вашего письма. Но ведь и так горькие воспоминания о прошлом, нет-нет, да и обуревают и долго не покидают меня.

Сколько же преданных, одарённейших сынов Великой Руси, самоотверженно боровшихся за счастье и процветание своей родины, беззаветно отдавшие ей все силы, творческие порывы, талант, пылкое сердце, были предательски преданы анафеме и, с пришитой биркой «враг народа», кощунственно репрессированы в эпоху «Сталина—Берии». И к великому, непоправимому нашему горю, лишь маленькой части этих героев посчастливилось пережить это полное невиданных репрессий время. И будучи реабилитированными правдой истории, вернуться к своему мирному труду.

Дорогой Сергей Иванович! Огромное Вам спасибо за послание — за письмо, за фото Алеся, за сборник «День поэзии» и особенно за стихотворение. Я остаюсь вашим вечным должником. Эти самые дорогие для меня реликвии я сохраню до конца моей жизни.

Дорогой Сергей Иванович! Вы так щедро и самоотверженно делите со мной родство Алеся, приняв его наравне со мной за своего брата. Позвольте и мне, в свою очередь, считать и Вас моим дорогим братом.

Безгранично взволновало меня проникнутое душевностью и глубокой скорбью ваше стихотворение «Згаслыя свечкі», посвящённое памяти нашего брата Алеся. Мой низкий поклон Вам за это посвящение. Думаю, что оно составит далеко не последнее украшение поэтического сборника.

Ваше письмо и стихотворение не оставили равнодушными, также, мою жену и сына, которые не раз прослезились и разделили со мной эту непреходящую печаль.

Дорогой Сергей Иванович! Рад буду слышать о вашем добром здравии и творческих успехах на поэтическом поприще.

Уважающий вас Л. Розно.

*БДАМЛМ, ф. 201, воп. 3, стр. 332, л. 1*

***Прадмова, падрыхтоўка да друку і публікацыя Таццяны ГРАХОЎСКАЙ***

# З КАГОРТЫ ЗАСНАВАЛЬНІКАЎ БЕЛАРУСКАГА АКАДЭМІЧНАГА ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

***Іх часта называюць праз коску — Іван Замоцін, Яўген Барычэўскі, Аляксандр Вазнясенскі, — расказваючы, колькі ўсяго новага прыўнеслі ў беларускую навуку гэтыя філолагі. Зразумела, былі ў БДУ 1920-х гадоў і іншыя літаратуразнаўцы — часта не менш слаўныя і вядомыя (напрыклад, Аляксандр Яўлахаў), гучалі імёны Канчалоўскага, Пічэты, Іваноўскага, Грузенберга, Шчакаціхіна — вядомыя ўсім, хто цікавіўся не толькі філалогіяй, але і гуманітарыстыкай наогул. Усім ім было вольна, галадна і весела. На руінах імперскай культуры вырастала новая краіна — БССР, і, як гэта заўсёды здараецца, руіны ўплывалі на цэмент і вапну значна больш і значна мацней, чым гэтага хацелася б апошнім. Урэшце, каркас навукі быў створаны надзейна, і ўся рэвалюцыйна-абнаўленчая і нігілістычна-крыклівая бальшавіцкая моладзь доўга і гучна трэсла яго, аж пакуль не разваліла, ды і сама нечакана не загінула пад заваламі.***

1920-я гады — дзіўны час, калі ўсё толькі фарміравалася, і не было яшчэ нічога пэўнага. Хто мог ведаць будучыню? Здавалася, што яна ствараецца на вачах. У нейкім сэнсе так і было; прынамсі, навука рухалася адначасова ў дзясятках розных напрамкаў, усе імкнуліся пераўзысці ранейшыя бар'еры, сказаць сваё слова. Адпаведна — узнікала іншая інтэнсіўнасць працы. «У той час мы кожны тыдзень адкрывалі новы напрамак у філалогіі», — скажа пазней акадэмік Вінаградаў. Для Беларусі гэтае ўварванне новага было яшчэ больш яркім, бо, па сутнасці, навукі на гэтых землях даўно не было. Землі былі самі па сабе, а навукоўцы толькі падарожнічалі па іх, былі быццам *праездам*. Калі ж яны спыніліся, то пачаўся адлік новай эры, і адлік гэты трэба весці менавіта ад 1920-х гадоў, калі ў Беларусі адчыніліся Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і Інстытут беларускай культуры (апошні ў далейшым перафарміраваўся ў Акадэмію навук).

Вазнясенскі пасля пяці гадоў лагера стаў зусім іншым чалавекам, бледнай копіяй таго тэарэтыка, які так ярка заявіў пра сябе ў 1920-я

Як ні парадаксальна, менавіта гэтыя, больш-менш свабодныя гады для беларускай навукі, супярэчлівыя і цікавыя, даследуюцца і ўсведамляюцца вельмі слаба. Таму ў ліпені, калі спаўняецца 125 гадоў Аляксандру Мікалаевічу Вазнясенскаму, прафесару БДУ ад часу заснавання да 1931 года, думаю, не лішне нагадаць пра яго.

Вазнясенскі быў узгадаваны ў Варшаўскім імператарскім універсітэце — установе знакавай для беларускай філалогіі. Менавіта адсюль у БДУ накіраваліся, акрамя Вазнясенскага, Анатоль Багдановіч, Міхаэль Вейнгер, Іван Замоцін, Аляксандр Яўлахаў. Не будзем забываць і пра былога рэктара Варшаўскага ўніверсітэта Яўхіма Карскага, заслугі якога ў беларускай філалогіі вядомыя ўсім.

Такім чынам атрымалася, што менавіта варшаўская літаратуразнаўчая кафедра стала асновай для новай вышэйшай навучальнай установы — БДУ. Нельга не адзначыць, што галоўнымі рухавіка-

мі літаратуразнаўства былі Іван Замоцін і Аляксандр Яўлахаў, хоць у выпадку апошняга гэта ясна праявілася толькі на двух ягоных вучнях, а менавіта на Аляксандры Вазнясенскім і Аляксандры Скафтымаве. Абодва Аляксандры сталі пазней прафесарамі, Мінскага і Саратаўскага ўніверсітэтаў адпаведна. Праўда, Скафтымаву пашанцавала больш, ён уратаваўся фізічна і духоўна ў часы сталінскіх рэпрэсій, хоць страціў сям'ю, заснаваў цэлую школу літаратуразнаўства, якую часам цяпер называюць скафтымаўскай, а часцей — саратаўскай. Вазнясенскі пасля пяці гадоў лагера стаў зусім іншым чалавекам, бледнай копіяй таго тэарэтыка, які так ярка заявіў пра сябе ў 1920-я. Палымяны неакантыянец, ён урэшце становіцца шараговым выкладчыкам тэорыі і гісторыі літаратуры ў Казанскім універсітэце. Зрэшты, трэба адзначыць, што тады, у 1939 годзе, пасля доўгіх гадоў тэрору ва ўніверсітэтах катастрафічна падаў узровень адукацыі. Таму прыбыццё Вазнясенскага ў некалі слаўны Казанскі дзяржаўны ўніверсітэт, безумоўна, падтрымала імідж гэтай навучальнай установы. Неўзабаве, ужо ў гады вайны, калі ў гуманітарнай сферы назіралася пэўная дэмакратызацыя, Вазнясенскі абараняе ў Казані доктарскую дысертацыю, зместам якой сталі яго працы 1920-х гадоў, крыху дапоўненыя і рэструктураваныя. Паказальна, што, стоячы перад выбарам, гісторыя ці тэорыя, Вазнясенскі выбраў першую: метадалагічныя пытанні ў гады вайны, тым больш заснаваныя на ідэях нямецкай філасофіі, абмяркоўваць было небяспечна. Таму ў трохтомную дысертацыю ўвайшлі работы Вазнясенскага па аналізе творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. Янка Купала, дарэчы, быў у Вазнясенскага незадоўга да апошняга падарожжа ў Маскву, а да таго жыў

**Я сердечно благодарю за внимание ко мне.
Я надеюсь, что и в будущем я не буду лишен этого Вашего любезного внимания.
Пожалуйста, приветствуйте Владиславу Францевну и Константина Михайловича**

**Беларусь не была для яго роднай, ды і выпхнулі яго з БДУ дастаткова груба, але на ўсё жыццё вучоны захаваў сімпатыю да беларускай літаратуры і Беларусі наогул**

непадалёк ад Казані ў пасёлку Пячышчы, дзе бываў і Вазнясенскі. Вельмі верагодна, што смерць Купалы падштурхнула вучонага да напісання выніковай работы. На абароне дысертацыі, мяркуючы па запрашэнні, прысутнічала ўдава Песняра, Уладзіслава Францаўна.

Тады ж, у гады вайны, Аляксандра Вазнясенскага прызначаюць дэканам нядаўна адроджанага гісторыка-філалагічнага факультэта Казанскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Акрамя таго, ён абіраецца загадчыкам кафедры. Гэты быў час найбольш інтэнсіўнай працы Вазнясенскага-арганізатара. Аднак нельга не адзначыць таго, што тую краіну, з якой яго злучыў лёс, ён не забываў. Беларусь не была для яго роднай, ды і выпхнулі яго з БДУ дастаткова груба (гэта тэма для асобнага артыкула). Але на ўсё жыццё вучоны захаваў сімпатыю да беларускай літаратуры і Беларусі наогул. Менавіта па яго ініцыятыве ў КДУ пачаліся беларусазнаўчыя штудыі. Сам Вазнясенскі ахвотна браўся кіраваць дысертацыямі па беларускай літаратуры і апаніраваць пры абароне (дагэтуль іх лік невядомы; хоць ёсць звесткі, што па творчасці Коласа, Багушэвіча, Багдановіча пісаліся дысертацыі татарскімі даследчыкамі, аднак імёны іх і аўтарэфераты пакуль не выяўлены).

У час II сусветнай вайны Вазнясенскі ўзнаўляе ліставанне з беларускімі вучонымі і літаратарамі. Увогуле, лістоў ягоных захавалася не так і шмат. Вядомыя яго карэспандэнты — У. Луцэвіч, Ю. Пшыркоў, Л. Фіглоўская, І. Гутараў, А. Есакоў. Пералік, безумоўна, не поўны, але спадзяёмся, што ён будзе пашырацца. Для гэтай публікацыі мы прапануем два невядомыя дагэтуль лісты Аляксандра Вазнясенскага да Міхася Лынькова.

## ЛІСТЫ АЛЯКСАНДРА ВАЗНЯСЕНСКАГА ДА МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА

21/XI 43 г. г. Казань, ул. Дзержинского, д. 11, кв. 54. А. Н. Вознесенскому

Многоуважаемый тов. Лыньков!

К сожалению, я не знаю Вашего имени и отчества.

Я познакомился с Вами в 1930 году в Минске в Белорусском Государ.[ственном] Издательстве. Много времени прошло с этих пор и многое изменилось в нашей жизни. Но не изменились мои симпатии к Белоруссии и к белорусскому народу. Мои высокие чувства к белорусской земле дают мне моральное право обратиться к Вам с одной просьбой литературного свойства.

Свои занятия белорусской литературой я не оставляю и за пределами Белоруссии. Мною уже написано пять монографий о белорусской литературе и белорусс.[кой] культуре (1. Романтические поэмы Янки Купалы, 2. Новеллы Коласа, 3. Первый белорусский роман («Полесские романы Я. Колоса»). 4. Творчество М. Богдановича, 5. Начальные годы белорусс.[ского] советского театра; первые три работы мною были предъявлены и защищены в качестве докторской диссертации[1]). Теперь меня крайне интересует текущая белорусская литература, связанная с Отечественной войной. Я имею довольно длинный список изданий по белорусской литературе за военные годы, но здесь в Казани (в Науч.[ной] Библиотеке при Казан.[ском] Университете) я мог найти в натуре лишь два-три небольшие издания. Имею, в частности, и Ваш рассказ «Песня мести» (из «Известий»), но и только. Ваш очерк я использую в своих лекциях (публичных), и он производит большое впечатление. Я оперирую довольно часто фактами белорусс.[кой] литературы и на лекциях по русской литературе в Казанск.[ом] Университете, особенно часто привожу белорусские иллюстрации на лекциях по теории литературы. Но я крайне ограничен в белорусск.[ом] материале, особенно связанном с текущей войной. Я должен еще выполнить один небольшой заказ — дать очерк соврем.[енной] белорусск.[ой] литературы, сделанный мне одним толстым журналом. Я очень прошу Вас оказать мне содействие в получении белорусс.[кой] литературы, выходящей в годы войны (Отечественной). Я готов на любые условия для получения ее[2]. Если нужно, можно выслать ее и впредь

---

[1] Дысертацыя «Даследаванні па гісторыі новай беларускай літаратуры» складалася з трох раздзелаў, кожны з якіх уяўляў сабой асобны том: «Рамантычныя паэмы Янкі Купалы» (442 старонкі машынапісу), «Навелы Якуба Коласа» (231 старонка машынапісу), «Першы беларускі раман» (236 старонак машынапісу).

[2] Трэба адзначыць, што, акрамя спецыяльнай зацікаўленасці тэмай, Вазнясенскі быў вядомым у Казані бібліяфілам. Вось як згадвае пра бібліятэку вучонага аспірантка Вазнясенскага Л. Ачкасава: «Асаблівую значнасць у жыцці і працы А. М. Вазнясенскага мела яго асабістая бібліятэка, якая была ўнікальным зборам кніг не толькі паводле іх колькасці, але і паводле прынцыпу іх камплектавання. Кнігі былі ўсёпаглынальнай страсцю прафесара. Збіраў ён іх усё жыццё, і менавіта як прафесіянал. У ягонай бібліятэцы была мастацкая і навукова-тэарэтычная літаратура, энцыклапедычныя і іншыя рознага кшталту слоўнікі, бібліяграфічныя даведнікі, падручнікі, літаратурныя і навуковыя часопісы, "Вучоныя запіскі" вузаў і г.д. У тым ліку былі надзвычай рэдкія выданні, сапраўдныя рарытэты. Шмат было кніг, якія мелі даравальныя надпісы. Імкнучыся прыдбаць першыя (прыжыццёвыя) выданні твораў таго ці іншага пісьменніка, Аляксандр Мікалаевіч у шэрагу выпадкаў набываў і наступныя іх выданні, што давала магчымасць прасачыць творчую дынаміку і дыялектыку тэкста твораў і было неабходна для тэксталагічных даследаванняў. Вазнясенскі ўважліва сачыў за навінкамі мастацкай і навуковай літаратуры, выпісваў іх адусюль, дзе аб'яўляліся выданні, што яго зацікавілі. Ён быў адным з самых актыўных пакупнікоў у кнігарнях і ледзь не кожны дзень наведваў букіністаў. Яго пастаянна можна было ўбачыць загружанага стосам толькі што купленых кніг, заўжды гатовага падзяліцца радасцю гэтага набытку. На жаль, залежна ад шэрагу прычын, бібліятэка А. М. Вазнясенскага пасля яго смерці не была набытая ўніверсітэтам. Кнігі распрадаваліся яго ўдавою "у розніцу". Частка іх была перададзена ёю на кафедру рускай і замежнай літаратуры. Шмат кніг было страчана пры пераездзе факультэта ў новы будынак; тыя, што ацалелі, з часам былі перададзены ў навуковую бібліятэку КДУ». Цыт. паводле: Ачкасова Л. С. Александр Николаевич Вознесенский. 1888—1966 / Л. С. Ачкасова, Г. А. Балакин ; науч. ред. И. И. Андреева, Л. Я. Воронова. — Казань : КГУ, 2009. — С.14—15.

высылать наложенным платежом или же с уплатой мною денег вперед или же в крайнем случае — во временное пользование. Меня интересует худож.[ественная] бел.[орусская] литература — драматическая, повествовательная и лирическая, то, что уже вышло и выходит в дни Отеч.[ественной] войны.

Очень прошу Вас о помощи и содействии. Прошу извинить меня за доставляемое беспокойство. Среди белор.[усских] писателей, выдвинувшихся в первые ряды, есть и мои ученики: Петро Глебка, Крапива и др.[1]

Примите мой привет и наилучшие пожелания

Искренно уважающий

Вознесенский

*Аўтограф.*
*БДАМЛМ, ф.191, воп.1, спр.564, л.2-2адв.*

16/III 44 г. г. Казань, ул. Дзержинского, д. 11, кв. 54. А. Н. Вознесенскому

Многоуважаемый тов. Лыньков!

К сожалению, я не знаю Вашего отчества.

Я душевно признателен Вам за присланные книжки произведений белорусских писателей. Я получил в трех бандеролях 6 книжек. Вы оказали мне [не]простую услугу, ибо достать выходящие теперь книжки крайне трудно, почти невозможно. Я сердечно благодарю за внимание ко мне. Я надеюсь, что и в будущем я не буду лишен этого Вашего любезного внимания. Пожалуйста, приветствуйте Владиславу Францевну[2] и Константина Михайловича[3]. У нас на факультете сейчас идет большая напряженная работа. Мы открываем два новых отделения в добавление уже имеющимся — историческому и филологическому; это отделение классической филологии и отделение истории языка и литературы народов Поволжья. Мне, как декану, приходится много работать. Примите от меня мой искренний привет и наилуч.[шие] пожелания

Искренне уважающий Вознесенский

*Аўтограф.*
*БДАМЛМ, ф.191, воп.1, спр.564, л.3*

[1] Акрамя Пятра Глебкі і Кандрата Крапівы, вучнямі Аляксандра Вазнясенскага былі многія пісьменнікі 1920-х гадоў: Адам Бабарэка, Кузьма, Чорны, Максім Лужанін, Антон Адамовіч, Язэп Пушча, Тодар Кляшторны, Алесь Дудар, але ўсе яны былі пазней рэпрэсаваны. Здагадваючыся пра гэта, Вазнясенскі называе толькі прозвішчы актыўных пісьменнікаў, якія друкаваліся ў перыёдыцы часоў вайны.

[2] Маецца на ўвазе Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, удава Янкі Купалы.

[3] Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч).

***Прадмова, публікацыя і каментарыі Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА***

Ганна АЛЕКСЯЕВІЧ

# ЯКІЯ МОВЫ РАЗВІТЫЯ, А ЯКІЯ — НЕ?

***Некаторых з нас бянтэжыць, што беларускую мову прылічваюць да неразвітых моў. У якасці прыкладу развітай мовы звычайна называецца руская ці англійская. Пакуль пакінем па-за ўвагай канкрэтыку — ні слова пра беларускую, рускую, англійскую. Абмяркуем напачатку, што ёсць развітая і неразвітая мова.***

Калі мы нешта класіфікуем, то робім гэта згодна пэўнаму крытэрыю. Віно дзелім на белае і чырвонае, мастацтва — на класіку і авангард, людзей — на мужчын і жанчын, элементарныя часціцы — на часціцы і антычасціцы. Кожны падзел заснаваны на крытэрыі: сорце вінаграда, асэнсаванні традыцыі, гендэры, знаку электрычнага зараду. Мэтазгодна, што пры класіфікацыі мовы на развітую і неразвітую таксама павінен існаваць нейкі крытэрый. Лінгвістычна неабазнаны чалавек, ці папросту той, хто мову атаясамлівае з ўменнем на ёй правільна пісаць, чытаць і гаварыць, а гэта ці не 99,9 % ад ўсяго зямнога насельніцтва, крытэрый выводзіць адназначны: чым больш у мове слоў, тым больш развітай яна з'яўляецца. Нягледзячы на тое, што дадзены крытэрый сфармуляваны вельмі проста, ад гэтага ён не робіцца менш фантастычным. Як можна падлічыць *усе* словы? Невялікая іх частка фіксуецца ў слоўніку, праўда, гэта сучасная ўнармаваная мова. Большасць слоў знаходзіцца па-за межамі слоўніка: дыялектызмы, прафесіяналізмы, жарганізмы, архаізмы, гістарызмы, неалагізмы, тэрміны, канцылярызмы... Да таго ж мова не з'яўляецца нечым створаным аднойчы і назаўсёды, яна працягнута ў часе. Гістарычныя дакументы мінулага, хоць бы і XIX—XX стагоддзяў, выяўляюць шматлікія лексічныя несупадзенні. Каб прачытаць і асэнсаваць тэксты на беларускай мове з XIV—XV стагоддзяў, неабходна спецыяльная лінгвістычная падрыхтоўка. Між тым, мова XXI стагоддзя і мова XIII стагоддзя — гэта ўсё адна і тая ж мова. Як паміж беларускай мовай Гродзеншчыны і Віцебшчыны палягаюць прасторы, так паміж беларускай мовай ВКЛ і РБ палягае час. У першым выпадку маем дыялектызмы, у другім — архаізмы. Калі мы будзем думаць пра мову як пра з'яву, якая мае свой часавы, прасторавы і сацыяльны прасцяг, то падлік слоў у ёй мы будзем ўспрымаць не інакш як фантастыку.

Як можна падлічыць *усе* словы? Невялікая іх частка фіксуецца ў слоўніку, праўда, гэта сучасная ўнармаваная мова. Большасць слоў знаходзіцца па-за межамі слоўніка: дыялектызмы, прафесіяналізмы, жарганізмы, архаізмы, гістарызмы, неалагізмы, тэрміны, канцылярызмы...

Тым не менш, ёсць сэнс гаварыць пра моўнае багацце без прамога падліку паасобных слоў. Пра гэта добра ведаюць мовазнаўцы. Сцвярджэнне кшталту «чым больш, тым лепш» ілюструецца не колькасцю слоў у мове, а наяўнасцю сінаніміі і слоў з абагульняючым значэннем. Сінонімы — гэта своеасаблівая лексічная раскоша. Для абазначэння аднаго паняцця можа існаваць цэлы сінанімічны рад, які часам займае паўстаронкі. Аднак роля сінаніміі ўсё ж не ў тым, каб спрыяць нашаму красамоўству. Яна фарміруе стылістычныя нюансы.

**Роля сінанімії не ў тым, каб спрыяць нашаму красамоўству. Яна фарміруе стылістычныя нюансы. З сябрамі мы *рагочам*, ворагі нам *вышкаляюцца*, каханая *ўсміхаецца***

З сябрамі мы *рагочам*, ворагі нам *вышкаляюцца*, каханая *ўсміхаецца*; на канферэнцыі мы сутыкаемся з *апанентам*, на рынгу — з *сапернікам*, на ратным полі — з *непрыяцелем,* на міжнародным рынку — з *канкурэнтам*. Па сутнасці, сінонім павінен ведаць сваё месца, ён залежны ад кантэксту. Што датычыць слоў з абагульняючым значэннем, то яны рэдка ўспрымаюцца намі як лексічнае багацце. Зразумела, іх узнікненне сведчыць пра пэўны разумовы ўзровень народа. У нейкі момант нам пачало не ставаць рукі і нагі, тады мы назвалі іх *канечнасцямі,* яблык і грушу — *садавінай*, дождж і снег — *ападкамі,* дзядзьку і пляменніцу — *сваякамі*. Як вынік адзін рэальны аб’ект тыпу *котка* яшчэ і жывёла, млекакормячае, самка і драпежніца. Думаецца, біялогія павінна быць удзячна мове.

Ёсць таксама другое сцвярджэнне. Яно не відавочнае, таму часта ігнаруецца намі. Аднак у мове бывае, што чым менш, тым лепш. Чым менш слоў патрабуецца, тым большая сэнсавая насычанасць вызначае мову. Класічны прыклад — мнагазначнасць (*зорка*: 1. нябеснае цела; 2. папулярны чалавек). Насуперак сінаніміі мнагазначнасць паклікана ашчаджаць. Яна адкрывае глыбіню ў слове. Моўная эканомія заснавана на прынцыпе: навошта два, калі можна абысціся адным? У гэтым сэнсе не менш паказальнымі з’яўляюцца прыклады кшталту пярсцёнак з золата — *залаты* пярсцёнак; край, які квітнее — *квітнеючы* край; малая елка — *елачка;* калі вяртаўся, то ўспомніў — *вяртаючыся,* успомніў. Вылучаныя курсівам словы не з’яўляюцца прынцыпова новымі словамі. Гэта новыя формы. Форма лёгка можа быць расшыфравана ў даўжэйшую фразу, значэнне пры гэтым не змяняецца. Лексічная беражлівасць мае свой плён, мова багацее, але без залішняга крэатыву.

Сінанімія і мнагазначнасць — з’явы, аднолькава неабходныя. Слова можа не толькі множыцца, але таксама расці ўглыб, абрастаючы новымі значэннямі. Нармальнае развіццё мовы палягае ў суіснаванні гэтых двух працэсаў. Па шчырасці, нават трох: стварэнні новых слоў, эксплуатацыі старых слоў і адміранні часткі з іх. Словы таксама паміраюць, згадаем архаізмы і гістарызмы. Мова шмат у чым падобная да адладжанага механізма. Таму будзе яна ўтрымліваць 10 000 слоў ці 10 001 слова, значэння асаблівага не мае. Колькі дадатковых слоў мову больш развітай не зробяць. Насцярожыцца трэба, калі прасочваюцца анамаліі ў базавых працэсах. Напрыклад, беспадстаўнае ўзнікненне новых слоў — часта запазычванняў — і замена імі спрадвечных («модны *лук*» замест «моднага *вобразу*»).

Лінгвіст у пошуках крытэрыяў развітасці і неразвітасці мовы ўсё ж пачне не з лексікі, а з граматыкі. Вось цяпер надышоў час пагаварыць пра канкрэтныя мовы. Возьмем беларускую і рускую, іх узаемапараўнанне нас найбольш цікавіць. Возьмем таксама іншыя славянскія мовы: украінскую, польскую, чэшскую, славацкую, балгарскую, сербскую, славенскую і г.д. Асабіста мы прытрымліваемся думкі, што ўсе мовы славянскай групы паміж сабой вельмі блізкія. Таму прыязнае стаўленне да адной з іх a priori адрасуецца ўсім астатнім. Інакш кажучы, калі вы называеце любую славянскую мову «вялікай і магутнай» ці «мілагучнай», то адначасна робіце кампліментусім яе славянскім сёстрам. Тады адкуль бяруцца сцвярджэнні наконт развітасці адной славянскай мовы і неразвітасці іншай? На гэтым спынімся падрабязней.

**У нейкі момант нам пачало не ставаць рукі і нагі, тады мы назвалі іх *канечнасцямі*, яблык і грушу — *садавінай*, дождж і снег — *ападкамі*, дзядзьку і пляменніцу — *сваякамі*. Як вынік адзін рэальны аб’ект тыпу *котка* яшчэ і жывёла, млекакормячае, самка і драпежніца**

У рускай мове пашыраны дзеепрыметнікі тыпу *любящий*, *интересующийся, поющий.* Па-беларуску гэтак не скажаш. Мы ўжываем словазлучэнні *які любіць, які цікавіцца, які спявае*. З гэтага многія робяць вывад, што беларуская мова не развіла дадзеную форму, таму вымушана карыстацца нязграбнымі доўгімі адпаведнікамі. Магчыма, яно было б і так, каб не з дзясятак іншых славянскіх моў. Ва ўкраінскай, чэшскай, славацкай, польскай, балгарскай мовах складваецца аналагічная сітуацыя, як і ў беларускай. Дзеепрыметнікі такога тыпу калі і выкарыстоўваюцца, то вельмі рэдка і выключна на пісьме. Яны лічацца архаічнай формай, якую вы ніколі не пачуеце ў жывым маўленні. Яшчэ адзін прыкметны факт. Балгарская, сербская, харватская, македонская мовы маюць шэсць часоў дзеяслова. Напрыклад, беларуская, руская і колькі астатніх славянскіх моў абыходзяцца трыма часамі — цяперашнім, прошлым і будучым. Там, дзе захавалася іх шэсць, побач з цяперашнім і будучым ва ўжытку таксама аорыст (*спа*), імперфект (*спаше*), перфект (*спал е*) і плюсквамперфект (*спал беше*), — усе яны з'яўляюцца разнавіднасцямі прошлага часу і з балгарскай мовы перакладаюцца як *ён спаў*. Звернем увагу таксама на тое, што ў чэшскай, польскай, украінскай, сербскай мовах акрамя добра нам знаёмых шасці склонаў (назоўнага, роднага, давальнага, вінавальнага, творнага і меснага) ёсць сёмы склон — клічны, які рэгулярна ўжываецца пры звароце. Да прыкладу, *чалавек — чалавеча, сынок — сынку, бог — божа*. У беларускай мове ён уласцівы абмежаванай колькасці слоў. Адначасова ў рускай, славацкай, славенскай — шэсць склонаў, такім чынам клічны склон адсутнічае, а ў балгарскай і македонскай — не тое што клічнага, амаль ніякіх склонаў няма. Яшчэ згадаем адну асаблівасць. Беларуская, украінская, руская мовы маюць толькі поўныя формы займеннікаў. Ва ўсіх астатніх славянскіх мовах ужываюцца як поўныя, так і кароткія формы. Напрыклад, па-чэшску *mně* і *mi*, *tebe* і *tě*, *jemu* і *mu*, па-беларуску толькі *мне, табе, яму*. Славенская і лужыцкія мовы ўсё яшчэ карыстаюцца парным лікам (мы ведаем толькі адзіночны і множны), іншыя славянскія мовы яго даўно страцілі. Каб канчаткова пазбавіць нас нейкай пэўнасці, адзначым, што праславянская мова — папярэдніца ўсіх сучасных славянскіх — была граматычна больш складаная. Яна ведала і дзеепрыметнік, і сем склонаў, і аорыст, перфект, імперфект, плюсквамперфект, і поўныя/кароткія формы прыметнікаў і займеннікаў, і парны лік. Акрамя таго, была большая колькасць скланенняў, побач з інфінітывам існаваў супін, будучы час меў тры разнавіднасці. Складваецца ўражанне, што праславянская мова ў параўнанні з любой сённяшняй славянскай мовай была куды лепш развітай. Ёсць падставы сцвярджаць, што шлях да асобных славянскіх моў ляжаў праз спрашчэнні. Таму, калі якая-небудзь славянская мова не ўтрымлівае пэўнай граматычнай з'явы, то, хутчэй за ўсё, яна яе першапачаткова мела, але з цягам часу страціла.

**Калі вы называеце любую славянскую мову «вялікай і магутнай» ці «мілагучнай», то адначасна робіце камплімент усім яе славянскім сёстрам. Тады адкуль бяруцца сцвярджэнні наконт развітасці адной славянскай мовы і неразвітасці іншай?**

**Колькі дадатковых слоў мову больш развітай не зробяць. Насцярожыцца трэба, калі прасочваюцца анамаліі ў базавых працэсах**

Беручы ва ўлік нашы папярэднія развагі, сумнеўна працягваць пошукі крытэрыяў развітасці і неразвітасці мовы. Колькасць слоў — не паказчык, сінанімія і мнагазначнасць — працэсы, характэрныя для мовы ўвогуле, наяўнасць тых ці іншых граматычных катэгорый — рэч зменлівая. Мова развітая ў тым выпадку, калі яна жыве (жыла) і запатрабавана чалавекам. Сярод моў няма лепшых, яны ўсе добрыя. Дарэчы, лінгвістыка ўжо даўно трымаецца такога меркавання. Гэтага і вам жадаем.

Іван СТАДОЛЬНІК

# РАСПОВЕД ПРА ЛЕПШАГА СЯБРА

Мой сябра Мікола Гіргель — член беларускіх саюзаў мастакоў і журналістаў, удзельнік і прызёр міжнародных, рэспубліканскіх выставак карыкатуры, плаката і шаржа. Яго творы друкаваліся ў сатырычных выданнях былога Савецкага Саюза, краін СНД і Еўропы. Мікола Сяргеевіч — лаўрэат прэміі імя Кандрата Крапівы ў галіне сатыры і гумару за карыкатуры, надрукаваныя ў 2005—2006 гадах у часопісе «Вожык».

Пра свайго сябра мог бы распавядаць бясконца і з захапленнем. Але каб не трапіць пад уздзеянне сяброўскай узнёсласці, вырашыў свой аповед пра яго творчасць пачаць з выказванняў ва ўжо далекаватым 1989 годзе Міколавага колішняга настаўніка — тады кандыдата, пазней доктара мастацтвазнаўства, прафесара Віктара Шматава. Прадстаўляючы кнігу Міколы Гіргеля «Замалёўкі без лакіроўкі», што выйшла ў серыі «Бібліятэка «Вожыка», Віктар Фёдаравіч піша: «Міколу Гіргеля не ведаюць хіба толькі тыя, хто не чытае “Вожыка”, раённых газет і цалкам пазбаўлены пачуцця гумару».

Кажуць, што і нарадзіўся Мікола не з плачам, як усе немаўляты, а з усмешкай. Далей



З жонкай Раісай.



Стадольнік і Гіргель. Аўтар і герой.

Віктар Шматаў сцвярджае, што Мікола Гіргель — «прыродны сатырык, які прыкметна вылучаецца сярод калег прафесіяналізмам: майстэрствам малюнка, выдатным адчуваннем кампазіцыі і сатырычнага тыпажу, адмысловай жыццёвай назіральнасцю і зайздроснай фантазіяй». Гэтыя якасці разам з рэдкай працаздольнасцю і вялікай патрабавальнасцю да сябе яшчэ ў пачатку 1980-х паставілі яго ў шэраг найбольш прыкметных беларускіх мастакоў-карыкатурыстаў.

Першы малюнак Міколы з'явіўся ў «Вожыку» ў 1973 годзе. З 1976-га ён малюе для БелТА. Спецыялізіруецца ў карыкатуры, шаржы, плакаце. Яго сатырычныя творы выходзяць у 1978 годзе асобнай кнігай «Сярдзіты аловак». Калі колькасць малюнкаў перавалiла за тысячу, лепшыя з іх былі ўключаны ў новую кнігу — «Замалёўкі без лакіроўкі», яны ж друкаваліся і ў беларускіх газетах, і ў айчынных часопісах, а таксама ва ўсесаюзным «Крокодиле» і ўкраінскім «Перцы».

У 1977 годзе мастак адзначаецца медалём за ўдзел у міжнароднай выстаўцы «Сатыра ў барацьбе за мір». А праз дзесяць гадоў становіцца адным з першых вожыкаўскіх лаў-

рэатаў прэміі імя Ведзьмака Лысагорскага. Малюнак таленавітага карыкатурыста адлюстроўвае час і праблемы, магчыма, у большай ступені, чым любы іншы твор.

У лёсе Міколы — як мастака, так і чалавека, — як і ў кожнага з нас, вялікую ролю адыгралі бацькі і школа. Але тут гісторыя асобная.

— Стаць мастаком вырашыў яшчэ ў маленстве, — гаворыць Мікола Гіргель. — Мой бацька быў настаўнікам. Усё жыццё захапляўся гісторыяй і шахматамі. У хатняй бібліятэцы знаходзілася шмат розных кніг — ад энцыклапедый да казак. А на гарышчы захоўваліся падшыўкі старых газет. Сярод іх я адшукваў цікавыя малюнкі пра вяскоўцаў і хутаран. Гэта былі карыкатуры і шаржы майго дзядзькі Феадосія, які, на жаль, загінуў у першыя дні вайны, калі яму было толькі 22 гады. З дзясятак тых малюнкаў я захоўваю і сёння.

У школе ў мяне было два захапленні — маляванне і шахматы. Акрамя бацькі, у шахматы гулялі старэйшы брат Сяргей (цяпер ён доктар навук, фізік) і сястра Нэля. Дарэчы, калі працаваў мастаком у БелТА, то кожны абедзенны перапынак «рэзаўся» з калегамі, вядомымі фотамайстрамі, у шахматы. Вялікім аматарам гэтай гульні быў тагачасны галоўны рэдактар Мікалай Васілеўскі. І школьнікамі мы заўсёды выступалі на абласных спаборніцтвах па шахматах. Ну і, вядома, заўсёды з'яўляўся мастаком школьных насценгазет, маляваў шмат карыкатур і гумарыстычных малюнкаў.

Мікола стаў студэнтам мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута і працягваў займацца карыкатурай. Зноў супрацоўнічаў з насценгазетай, якая мела поспех у студэнтаў і выкладчыкаў. На абароне дыпломнай работы (гэта была серыя гумарыстычных малюнкаў на тэму студэнцкага жыцця) пазнаёміўся з Віктарам Шматавым. Гэты цудоўны чалавек і параіў супрацоўнічаць з «Вожыкам». Студэнт вельмі сур'ёзна і з удзячнасцю ўспрыняў гэту параду, і ў 1973 годзе ў часопісе быў надрукаваны яго першы малюнак. У той час у рэдакцыі «Вожыка» працавалі мастакі старэйшага пакалення, якія ўдзельнічалі яшчэ ў стварэнні выдання, — Анатоль Волкаў, Валянцін Ціхановіч, Сяргей Раманаў, Мікалай Гурло, Зянон Паўлоўскі… У іх вучыліся больш маладыя Аскольд Чуркін, Уладзімір Бараноўскі, Сяргей Волкаў, Віктар Шматаў, Яўген Бусел і іншыя. Міколу на ўсё жыццё запомнілася, якія слушныя заўвагі рабіў Анатоль Волкаў па малюнках, што прынасіліся хлапцом у мастацкі аддзел. Некаторыя тэмы «раскрыць» адразу не атрымлівалася, і карыкатуры даводзілася перарабляць па некалькі разоў. Часта трэба было працаваць усю ноч, а раніцай везці малюнкі ў рэдакцыю. Сапраўды, карыкатурыст павінен быць настойлівым і працавітым.

Аднойчы ў развагах пра адметнасці мастакоў-карыкатурыстаў Мікола заўважыў:

— Мастацтву карыкатуры навучыцца немагчыма. Карыкатурыстамі нараджаюцца і, незалежна ад атрыманай адукацыі,











прыходзяць да гэтага жанру. Можна толькі адточваць свой талент, вучыцца ў іншых і так дабівацца майстэрства.

І таму таленавіты працавіты юнак старанна вывучаў творчасць вядомых мастакоў — Кукрыніксаў, Канстанціна Ротава, Германа Агароднікава, Херлуфа Бідструпа, Жана Эфеля — і браў з іх прыклад. Усе гэтыя аўтары такія розныя па манеры выканання малюнка, што іх адразу можна пазнаць па творах. А ўвогуле, работу карыкатурыста можна параўнаць з тэатрам, дзе абавязкі акцёраў, рэжысёра, драматурга і дэкаратара выконвае адзін чалавек — мастак. Карыкатура — гэта тэатр адной мізансцэны.

З 1991 года Мікола Гіргель працуе ў газеце «Рэспубліка». Быў рэдактарам аддзела дызайну, цяпер — вядучы мастацкі рэдактар. Газетчыкам, як лічыць Мікола, важна штодзённае жыццё, дзе трэба даць чытачу падказку, як рэагаваць на тую ці іншую з'яву сучаснасці.

У 1998 годзе за серыю малюнкаў, надрукаваных у «Рэспубліцы», мастак стаў лаўрэатам прэміі айчыннага Саюза журналістаў. А ў 2011-м узнагароджаны нагрудным знакам «Выдатнік друку Беларусі». Карыкатура, як і журналістыка, не стаіць на месцы. Кожны час прад'яўляе да яе ўласныя патрабаванні. Таму карыкатура — гэта своеасаблівае люстэрка жыцця. Яна люструе рэчаіснасць: паводзіны чалавека, яго настрой, адносіны да розных новых з'яў і іншае. Увогуле, апошнім часам карыкатура стала больш філасофскай, стылізаванай, інтэлектуальнай, разлічанай на адукаванага і інфармаванага чалавека.

Прафесія мастака-карыкатурыста вельмі рэдкая. У гэтым жанры ў Беларусі працуюць Сяргей Волкаў, Алег Карповіч, Алег Гуцол, Алег Папоў, Пётр Козіч, Аляксандр Каршакевіч, Анатоль Гармаза і яшчэ шэраг творцаў, але ў параўнанні з колькасцю перыядычных выданняў гэты шэраг — кропля ў моры. Карыкатурыст — з'ява выключная.

Карыкатура павінна быць цікавай для чытача, прымушаць чалавека думаць і рабіць слушны выбар. Каб не паўтарацца, карыкатурысту трэба глядзець на рэчы з самых розных пунктаў гледжання.

У жыцці ўсё мяняецца. Кіно, тэатр, эстрада… Мяняецца і карыкатура. З'яўляюцца свежыя модныя тэмы, новыя графічныя прыёмы. Напрыклад, малюнак без слоў зразумелы не толькі нашаму чытачу, але і замежнаму. Такая карыкатура становіцца па-сапраўднаму інтэрнацыянальнай. Экалагічныя тэмы — спусташэнне зямных рэсурсаў, змена клімату, знікненне відаў жывёл і раслін — хвалююць чытачоў усіх краін, таму ўсім такія малюнкі зразумелыя.

— Мае героі, — кажа Мікола, — гэта тыя ж тыпы — Крылова, Гогаля, Крапівы, Корбана, Валасевіча — толькі ў сучасным абліччы. Знікаюць адны тыпы — такія, як спекулянт, хапуга, бракароб, затое з'яўляюцца новыя — алігархі, хабарнікі, «новыя» беларусы, карупцыянеры і наркаманы.

Карыкатура жыве столькі, колькі на яе звяртаюць увагу. Пасля — застаецца ў гісторыі. «На злобу дня» яна можа быць самастойным жанрам на старонках газеты ці часопіса, а можа дапаўняць нейкі матэрыял. Усё залежыць ад прафесійнасці выканання.

## Кажуць, што і нарадзіўся Мікола не з плачам, як усе немаўляты, а з усмешкай

Калі я нядаўна пацікавіўся ў сябра, як цяпер яго справы з шаржамі, ён сказаў:

— Раней маляваў іх часцей. Імі аздоблены многія кнігі з серыі «Бібліятэка «Вожыка». У сярэдзіне 1990-х намаляваў шаржы на ўсю палітычную і культурную эліту краіны. І ніхто з намаляваных ні разу на мяне не пакрыўдзіўся. Сёння шаржаў амаль не малюю. Няма сацыяльнага заказу. Часам практыкуюся на калегах-журналістах. Цяпер, калі ствараю шарж, часта разважаю: дзе тая мяжа, калі сяброўскі шарж пераходзіць у карыкатуру?.. Можна намаляваць шарж сапраўды сяброўскі, які выклікае станоўчыя эмоцыі. Такія шаржы бяруць на памяць. А вось з’едлівая карыкатура пад выглядам шаржа… Іншая справа. Можна атрымаць усялякае…

Дарэчы, з шаржам у мастака звязаны не адзін смешны выпадак. Калі служыў у арміі, намаляваў шарж на свайго армейскага камандзіра. Той убачыў, раззлаваўся, пры ўсіх гразіўся адправіць на гаўптвахту. А потым адазваў хлопца ўбок і спытаў: «Слухай, а ты не мог бы намаляваць карыкатуру на майго камадзіра?..»

Наша першае знаёмства з Міколам Гіргелем, здаецца, адбылося ці на пятым, ці шостым з’ездзе пісьменнікаў Беларусі, дзе ён маляваў сяброўскія шаржы. Разам з мастаком Сяргеем Волкавым яны зрабілі выстаўку, і ў час вялікага перапынку ўдзельнікі з’езда знаёміліся з выявамі калег. Пазней некаторыя шаржы былі надрукаваны ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

* * *

Мікола Гіргель нарадзіўся ў 1946 годзе на Міёршчыне. У 1962-м закончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута. Працаваў настаўнікам малявання ў Наваполацку. Потым служыў у арміі на Далёкім Усходзе. Працаваў інжынерам па эстэтыцы на Полацкім хімкамбінаце, а затым перабраўся ў Мінск, дзе адразу ж пачаў супрацоўнічаць з «Вожыкам». Тут і ажаніўся, і, амаль як усе, прайшоў шлях неўладкаванага чалавека: шукаў прапіску, кватэру, пастаянную працу. У той час у яго нарадзіўся сын Сяргей. Малюнкі ў «Вожык» прыходзілася маляваць на кухні. Ноччу, калі ўсе клаліся спаць. Але хутка Мікола стаў самым актыўным супрацоўнікам-мастаком у часопісе. Я з 1980 года пачаў працаваць у «Вожыку» рэдактарам аддзела літаратуры, а затым адказным сакратаром. Тады мы яшчэ больш зблізіліся і мацней пасябравалі. Вялі цікавыя гутаркі пра жыццё і мастацтва. Мікола вельмі добразычліва выказваўся пра маё апавяданне «Бортка», якое было надрукавана ў часопісе «Беларусь». Ён яго прачытаў яшчэ да нашага асабістага знаёмства. Апавяданне, як казаў, зрабіла на яго ўражанне. Не менш уразіла адна акалічнасць. Вялікую ролю ў ягоным лёсе адыграла настаўніца рускай літаратуры Вера Жарнасек, якая вучыла яго ў Туркоўскай сельскай школе з шостага па








восьмы клас. Родам яна з Полацка. Потым вярнулася ў родны горад. Яна першай убачыла ў хлопчыка задаткі мастака і падтрымлівала яго ў гэтым кірунку. Якое было здзіўленне Міколы, калі я сказаў, што добра ведаю Веру Васільеўну і сябрую з яе братам, выдатным фотамастаком, супрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізма» Кастусём Жарнасекам.

* * *

Творчае жыццё ў «Вожыку» ў 1990-я было надзвычай цікавым. Два разы на тыдзень, а то і болей праводзіліся нарады па прыдумванні і прыняцці тэм для малюнкаў. Прыходзілі пісьменнікі, мастакі, журналісты, усе, хто меў пачуццё гумару і быў нераўнадушны да яго. Усе прысутныя прапаноўвалі свае тэмы, абмяркоўвалі чарговы нумар, жартавалі, прыдумвалі «на хаду» новыя сюжэты. Ужо ў той час адчувалася, што мы на парозе нейкіх жыццёвых перамен і новых з’яў.

Рэдактарам мастацкага аддзела ў часопісе тады быў самародак Рыгор Грамыка. Дарэчы, тагачасны міністр замежных спраў СССР Андрэй Грамыка даводзіўся мастаку стрыечным дзядзькам.

У сярэдзіне лета 1991 года мы адсвяткавалі 50-годдзе «Вожыка», а ў жніўні грымнуў путч. «Вожык» паступова змяніўся, стаў іншым, іншымі сталі і мы, пісьменнікі, мастакі, журналісты. Мы былі сведкамі гістарычных падзей. Распад СССР, парад суверэнітэтаў саюзных рэспублік... Многія ў той час паказалі сябе сапраўднымі, стала відаць, хто ёсць хто.

Мікола Гіргель у той час надрукаваў вядомыя цяпер малюнкі: «Горбачев у разбитого корыта», «Беловежский процесс. Ельцин, Шушкевич, Кравчук в Вискулях. Политический шарж». Гэтыя малюнкі вельмі трапна ілюструюць тыя падзеі.

Напэўна, тады Мікола вырашыў намаляваць серыю, прысвечаную гісторыі Беларусі. Першая частка малюнкаў («Полацкае княства») была надрукавана ў газеце «Рэспубліка» і «Краязнаўчай газеце». Часта ён раіўся са мной, як зрабіць подпіс больш кароткім і трапным. Над гэтай серыяй малюнкаў праца ў сябра працягваецца і цяпер.

* * *

У Міколы цудоўныя дзеці. Сын Сяргей — рэжысёр тэатра і кіно, драматург, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Некалі ён закончыў гістарычны факультэт БДУ, працаваў у школе настаўнікам гісторыі, потым на тэлебачанні — вядучым ранішняй праграмы, рэдактарам, карэспандэнтам.

У 2005 годзе Гіргель-малодшы закончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «рэжысёр драматычнага тэатра». Па п’есах Сяргея пастаўлены спектаклі ў Мінску і Маскве — «Сталіца Эраўнд», «13-я пуговица Наполеона»... Апошнім часам Сяргей працуе ў сферы кінавытворчасці, выступае ў якасці рэжысёра тэлевізійных мастацкіх фільмаў. «Пряники из картошки» і «Отель для Золушки» — яго рук справа.

А ўвогуле, амаль усе родныя Міколы Гіргеля — настаўнікі. Бацька, Сяргей Канстанцінавіч, узначальваў пачатковую школу. Брат, Сяргей Сяргеевіч, як і Мікола, закончыў Віцебскі педагагічны, выкладчык у Гомельскім дзяржаўным універсітэце, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар. Дачка Дар’я закончыла аддзяленне філасофіі БДУ, аспірантуру кафедры філасофіі культуры і магістратуру па кіно ў Вялікабрытаніі. Стажыравалася ва ўніверсітэтах Польшчы, Швецыі і Расіі. Свабодна валодае некалькімі мовамі. Цяпер вучыць будучых журналістаў у БДУ, яна — аўтар больш чым дзясятка навуковых публікацый. Жонка Міколы, Раіса Антонаўна, працуючы майстрам, тэхнікам-тэхнологам на вытворчым аб’яднанні «Інтэграл», выхавала шмат майстроў сваёй справы. Цяпер на пенсіі. Дапамагае сыну і нявестцы Юліі выхоўваць іх траіх дзяцей, сваіх унукаў — Арыну, Мар’яну і Сцяпана. А Мікола і дагэтуль дапамагае людзям пазбаўляцца хібаў і недахопаў. Бо як некалі сказаў нехта з мудрых, смеху баіцца і той, хто ўжо нічога не баіцца. А яшчэ, як сцвярджаюць шматлікія вучоныя, смех умацоўвае здароўе і доўжыць жыццё. Таму закончу свой расповед пра лепшага сябра так: давайце ж будзем смяяцца над чужымі і сваімі недахопамі ды заганамі і гэтым самым станавіцца мацнейшымі і здаравейшымі душой і целам.

*Рубрыка кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ*

# КЛЮЧЫ З ПРАВАМ ПЕРАДАЧЫ

***Сёння, калі са школьных раскладаў знік такі важны для выхавання асобы прадмет як «Айчынная і сусветная мастацкая культура», мы са студэнтамі Інстытута журналістыкі, якія сур'ёзна вывучаюць гісторыю мастацтва, вырашылі дапамагчы чытачам «Маладосці» знайсці свой ключ да разумення сучаснага жывапісу. Для гэтага мы наведваем выстаўкі, сустракаемся з мастакамі, сталымі і зусім юнымі, ды спрабуем перадаць вобразы візуальныя праз вобразы слоўныя.***

***Першая наша вандроўка — у свет выдатнага жывапісца, загадчыка кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзіміра Зінкевіча, аднаго з самых дзёрзкіх і смелых вынаходнікаў новай рэальнасці.***

## ПАЛЯВАННЕ НА ВОБРАЗ

Пэўна ж не выпадкова з'явілася гэтая асацыяцыя з паляваннем. Уладзімір Зінкевіч, які нарадзіўся ў Стралічаве на Гомельшчыне і скончыў Мінскае мастацкае вучылішча ды Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, доўгі час займаўся стральбою з лука. І сярод вобразаў, якія раптам выплывалі з ягоных загадкавых твораў на персанальнай выстаўцы ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, мне кінуліся ў вочы абрысы нейкай старажытнай жывёліны. Гэта было ўсяго імгненне. Але, пэўна, менавіта дзеля такіх вось раптоўных імгненняў, калі ў творы ловіш нешта сугучнае твайму настрою, і набываюць карціны Уладзіміра Зінкевіча музеі і прыватныя асобы. Сёння ягоныя творы знаходзяцца ў многіх краінах свету — Расіі, Германіі, Бельгіі, Паўднёвай Карэі, Італіі, Польшчы... Ён аўтар роспісаў «Зямля пад белымі крыламі» ў Палацы культуры будтрэста № 5 і «Музыка» ў санаторыі «Беларусь» у Друскінінкаі, сграфіта «Алімпійскі рух» для спарткомплексу «Стайкі» і многіх іншых твораў. Але для мяне асабіста ён яшчэ і выключны па талерантнасці, адкрытасці і прафесіяналізму выкладчык. Рэцэнзуючы работы ягоных выпускнікоў, дзіву даешся, як кожны з іх смела, дзёрзка і прафесійна, пераканаўча выказвае свой погляд на свет. Іх дыпломныя работы аздабляюць інтэр'еры Міністэрства замежных спраў РБ, Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і трансфарматарныя будкі. Сёння свае погляды на творчасць Уладзіміра Зінкевіча выказваюць студэнты Інстытута журналістыкі.

***Дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі, пісьменніца Галіна БАГДАНАВА***

### Наталля ЛУБНЕЎСКАЯ

## ЦІ МОЖА КАРЦІНА МЕЦЬ ВОДАР?

Адказ здаецца відавочным: палатно не ўпітвае пахі. Але, стоячы перад карцінай Уладзіміра Зінкевіча «Яблычны спас», адчуваеш салодкі водар спелага яблыка. Гэты водар захаваўся ў насычаным жоўтым колеры, пакінутых плямах і лініях.

Містычны рэалізм. Так можна было б вызначыць стыль Уладзіміра Зінкевіча. Многія карціны нагадваюць гульню падсвядомасці, якая ўмее з хаосу думак і плыні пачуццяў вылавіць вобразы і фігуры.

— Мне хочацца ў пляму — выпадковае, не выпадковае — уводзіць нейкую дэталь. Так я больш дакладна выказваю свае думкі, — кажа мастак.

На выстаўцы было прадстаўлена мноства палескіх краявідаў: «Першы снег», «Апошні снег», «Пара туманоў». Як прызнаецца сам Уладзімір Зінкевіч, над пейзажамі ён працуе доўга, часам перапісвае па сотні разоў.

Больш за ўсё мастаку падабаецца працаваць з жаночымі вобразамі.

— Яны вечная загадка, — кажа Уладзімір Зінкевіч. — Пляму можна разгадаць, жанчыну — немагчыма. Гэта такі лабірынт у жыцці мужчыны, у якім можна блудзіць вечна. Жанчыны — незразумелыя істоты. Яны ў іншым планетарным вымярэнні, іншыя планеты. Калі яны да нас набліжаюцца, ці мы згараем, ці яны. Сутыкненне небяспечнае.

Жаночыя вобразы ў работах Зінкевіча вельмі вытанчаныя і таемныя. Гэта не выдуманыя персанажы, а канкрэтныя жанчыны, якія пакінулі ўражанне ў жыцці мастака.

У Зінкевіча пазнавальны стыль. Ягоныя дынамічныя карціны «Вецер у грывах», «Паляванне» немагчыма прыпісаць ніводнаму жывапісцу.

— Аўтарскі стыль — гэта здольнасць адстойваць свае перакананні, не здраджваць ім, — кажа Уладзімір Зінкевіч. — Трэба даказваць, што тваё чагосьці вартае. Хаця б нават у матэрыяльным плане, не кажучы ўжо пра значнасць у сусветным мастацтве. Заставацца самім сабою вельмі важна. Гэта не многім дадзена. Сёння ўсе хочуць хутка атрымаць славу, грошы. Таму і слава гэткая смешная прыходзіць.

Уладзімір Зінкевіч прызнаецца, што піша для ўсіх. Але, найперш, для самога сябе. Ён шчыра выказвае свае пачуцці. Дзіўна, але мастак спакойна ставіцца да таго, што чалавек можа не зразумець ягоную творчасць. Прафесійна глядзець карціны таксама трэба ўмець.

— Каб вывучаць нешта, трэба нешта ведаць. Вось я, напрыклад, прыйду на сімпозіум ядзернай фізікі. Гэта ж трагедыя! — смяецца Уладзімір Зінкевіч. — Як ні дзіўна, мастацтва, як і футбол, усе спрабуюць да сябе наблізіць.

**Пляму можна разгадаць, жанчыну — немагчыма. Гэта такі лабірынт у жыцці мужчыны, у якім можна блудзіць вечна**



*Уладзімір Зінкевіч.*

Галоўным словам у дачыненні да творчасці, як прызнаецца Уладзімір Зінкевіч, з'яўляецца слова ягонай жонкі, вядомай мастачкі, графіка Валянціны Сідаравай.

Сам Уладзімір Зінкевіч упэўнены, што менавіта мастак павінен фарміраваць асяроддзе:

— Мастак заўжды быў асветнікам. Энергетычнай каштоўнасцю. Ягоная энергія магла ўплываць на навакольны свет. Праўда, існуюць і такія сучасныя мастакі, якія спрабуюць прадставіць сябе эпатажна. Вельмі моцны малады рух у свеце, рух эгацэнтрычных, неадукаваных, тых, хто імкнецца хутка захапіць прастору кітчам, агрэсіўнымі выпадамі. Сёння бегаць па выстаўцы голым ужо нецікава. Раней эпатаж у мастацтве рабіўся вельмі вытанчана, далікатна. І голыя бегалі, але гэта была эстэтка, якая ўражвала. Хаця гэта, напэўна, трэба, каб быў працэс параўнання. Як казаў Хемінгуэй, ёсць столькі нягоднікаў, колькі трэба. Так і тут: ёсць столькі грэшнікаў, колькі трэба, каб існавала сапраўднае мастацтва.

Творчы працэс — заўжды эксперымент. Вось толькі так нараджаецца новае. Хіба можна, напрыклад, перадаць рух колеру? У яго, Уладзіміра Зінкевіча, гэта выдатна

атрымліваецца. Галоўнае — не прапусціць патрэбны момант.

— Калі пішаш карціны, з'яўляецца страх парушыць таямніцу. Павінен быць вопыт тармажэння. Гэта як вопытны і нявопытны вадзіцель: адзін збівае, а другі адчувае, калі трэба пачаць тармазіць, — тлумачыць мастак.

Для Зінкевіча ўнутраная цэласнасць свету вельмі важная. Майстар прызнаецца, што не перастае вучыцца штодня:

— Гэта жахлівая справа — супакоіцца. Мы ведаем гэтых надзьмутых шарыкаў — яны вельмі хутка лопаюцца.

У карцін Уладзіміра Зінкевіча ёсць і ледзь улоўны водар палескай прыроды. І пяшчотны гук флейты. А галоўнае, у работах адчуваецца любоў, нават не, закаханасць, каханне. І гэта, вядома, прыцягвае і заварожвае.

*Мікіта КІСЯЛЁЎ*

**І КАБ РАЗМОВА НЕ КАНЧАЛАСЯ**

Рашуча заяўляю: маляваць я не ўмею. Як і танцаваць. Спяваць — тым больш. Каму гэта дадзена, таму я зайздрошчу. Не тое, каб моцна. Так, злёгку.



**Гэта жахлівая справа — супакоіцца. Мы ведаем гэтых надзьмутых шарыкаў — яны вельмі хутка лопаюцца**

Спробы навучыцца былі. У школе як мог выцягваў «Прекрасное далеко». У сем гадоў бацькі запхнулі на танцы. Пахадзіў два тыдні. Атрымаў падарунак на Новы год — і памінай як звалі. Не спецыяльна. Так выйшла.

Маляваць... Тут без варыянтаў.

Па іроніі лёсу бацька доўгі час выкладаў айчынную і сусветную мастацкую культуру. Малодшая сястра пастаянна ўдзельнічае ў мастацкіх конкурсах. Выйграе.

Адзінае, што магу супрацьпаставіць, — наведванне выставак. Бо ў Мінску для гэтага і магчымасцей, і музеяў — вышэй дахаў. Хадзі сабе, культурна адукоўвайся. Ды хваліся потым у інтэрнэце. Няхай бачаць у табе інтэлігента.

— Татка, я заўтра ў музей іду. Выстаўка э-э-э.. Зен... Зінкевіча! Ведаеш такога?

— Вядома, ведаю. А што за музей?

— Гэты, як яго там... Ён такі з калонамі, на «тысячы» надрукаваны. Нацыянальны мастацкі. Ладна, рукі страшэнна мерзнуць. Мароз. Заўтра сазвонімся, усё раскажу.

Люблю рабіць разумны твар, разглядаючы абстракцыю. Маўляў, глядзіце, які я падкаваны і развіты. Колькі асацыяцый! У сваю абарону скажу: фантазія ў мяне на самай справе цудоўная. Памятаю, спраектаваў самалёт, машыну і падлодку. З дошак. Да гэтай пары шкадую, што яны так і не паляцелі, не паехалі і не паплылі...

Даруйце.

Дзякуй Зінкевічу. Уладзімір Леанідавіч даў шанец адчуць сябе мастацтвазнаўцам. Асабліва пасля таго, як я прачытаў біяграфію мастака на стэндзе. Дазнаўся назвы лепшых карцін («Старое віно», «Гарбата ля мора») і накіраваўся да нашай экскурсіі. Выпраменьваць веды.

Усе прадстаўленыя палотны я б падзяліў на пейзажы, нацюрморты, партрэтныя абстракцыі. Пэўна, яшчэ нешта было. Будзь я мастацтвазнаўцам, падзяліўся б добрай класіфікацыяй. А так — прабачце.

Пра абстракцыі ўжо гаварыў, памятаеце? Цудоўныя яны. Вельмі спадабаліся пейзажы. Дакладна прамаляваныя. Упэўнены, яны пісаліся з любоўю. Так заўжды трэба, з душою.

А потым прыйшоў ён — Уладзімір Зінкевіч. Гэткі элегантны, шчыры, па-руску кажучы «к себе располагающий». Абамлець. Вясёлы. Хаця па творах склалася ўражанне меланхалічнасці, адасобленасці ад усяго свету. Мы здорава пагаварылі. Жывапісец з задавальненнем адказваў на нашыя пытанні.

Калі ў цябе такі субяседнік, хочацца задаваць і задаваць пытанні.

І каб размова не канчалася.

Так мы робімся лепшымі. Проста паверце. Зразумееце потым.

*Яраслаў ЛЫСКАВЕЦ*

## СПАЛУЧЭННЕ САМОТЫ І ПРЫГАЖОСЦІ

Справа ў тым, што асабіста мне сучаснае беларускае мастацтва (а я ім да 19 гадоў так і не паспеў зацікавіцца) заўжды падавалася гэткім інвалідам. Сацрэалізм, які панаваў у жывапісе часоў СССР, мне ніколі не падабаўся, мяне не цікавіла тэма вайны ў жывапісе, пейзажы з новабудоўлямі. Мне здавалася, што пасля развалу Савецкай краіны ў жывапісе Беларусі нямногае змянілася. Зрэшты, творчасць мастакоў, пра якіх я чуў амаль кожны дзень па радыё і тэлебачанні, мяне не ўражвала і не захапляла.

Кажучы сціпла, выстаўка Зінкевіча змяніла многае ў маіх поглядах. Я адкрыў для сябе шмат новага ў абстрактным жывапісе, дарэчы, вельмі добра, што ў нас быў шанец спытацца пра штосьці ў самога аўтара. Уразіла такое ўдалае спалучэнне абстракцыі і рэалізму ў некаторых карцінах Зінкевіча, раней гэтыя рэчы здаваліся мне неспалучальнымі.

Ну і, канешне, нельга не сказаць пра самотныя пейзажы мастака, бо, мне здаецца, што яны люстэркава выяўляюць душу беларуса з поўдня. Ды і любога іншага. Спалучэнне самоты і прыгажосці ў вобразе прыроды — гэта тое, што па-сапраўднаму ўражвае асабіста мяне. Тым больш, што амаль усё сваё дзяцінства я гэткія пейзажы бачыў на ўласныя вочы.

Падводзячы рысу, скажу, што гэта адна з першых мастацкіх выставак, якая не выклікала ў мяне суму па страчаным часе. Аднак я для сябе вырашыў, што ніколі не буду пісаць на тэму мастацтва. Яно створана, каб прыходзіць, бачыць і ўспрымаць, а не дзеля разбірання на дэтанькі і крупінкі.

***СУСВЕТ АЎТАРА***

***Аўтарскі стыль — гэта ўменне адстойваюць свае перакананні. Не здраджваць сабе. Я супрацоўнічаю са шматлікімі галерэямі, а там вельмі шмат спакус! Я бачыў вельмі моцнага расійскага мастака, які дагэтуль піша гнілыя яблыкі — вельмі якасна, з чарвячкамі. Ён прыехаў у Маскву, пачаў пісаць нешта іншае, але адразу ж быў забыты.***

***Мяне заўсёды вабіла ўнутраная цэласнасць майго свету. Натхненне нараджаецца з дэталяў — напрыклад, з гукаў флейты! Я заўжды баяўся іншых людзей, якія маглі б знішчыць гэты стан. Таму ўсё маё жыццё, як у самурая, умацоўвалася стрыжневым унутраным ладам.***

***Я з цікаўнасцю кожны дзень вучуся. Гэта вечны шлях, хоць і гадоў ужо нямала. Жудасная рэч — супакоіцца і сказаць: «Так, я чагосьці дасягнуў». І пішу, перш за ўсё, для сябе. Не хаваю сваіх пачуццяў і стаўлюся спакойна, калі людзі кажуць: «Ды нічога я ў гэтым не разумею».***

***І ў мяне ёсць асабісты галоўны цэнзар. Гэта вельмі сур'ёзны графік — мая жонка.***

***Вось так мне пашанцавала!***

***P.S. Калі мы вас заінтрыгавалі, зазірніце ў музей, на выстаўку, у цудоўны альбом, які нядаўна ўбачыў свет, у інтэрнэт, дзе таксама прадстаўлены творы Уладзіміра Зінкевіча. І не бойцеся выказаць сваё меркаванне, пашукаць свой ключык да разумення жывапісу.***

***Падборку падрыхтавала Галіна БАГДАНАВА, фота Сяргея ЯГЕЛА і Анастасіі ХРАЛОВІЧ***

# ШЧАСЛІВЫЯ ІМГНЕННІ



***Яна не робіць таямніцы са свайго ўзросту: заслужанай артыстцы Беларусі — 60! За плячыма — цікавая і змястоўная частка жыцця. Адкуль з'явіліся «Верасы» і колькі зараблялі эстрадныя артысты ў СССР, за што Надзею Мікуліч і Ядвігу Паплаўскую ўшчувала філарманічнае начальства, як у статусе пенсіянеркі спявачцы ўдалося атрымаць ганаровае званне? Ды пра іншае Надзея МІКУЛІЧ распавяла ў шчырым інтэрв'ю Аксане Яноўскай.***

**— Ці праўда, што ваша артыстычная кар'ера пачыналася з выступленняў на вяселлях?**

— Можа, хто-небудзь з вядомых артыстаў пабаіцца прызнацца, што пачынаў кар'еру, выступаючы ў рэстаранным ансамблі або граючы на вяселлях, але я ўпэўнена: няма чаго саромецца. На вяселлі як? Замовяць табе ўлюбёную песню, а ты мусіш яе ведаць і праспяваць. Тое ж і ў рэстаране, толькі там выконваць пажаданні яшчэ складаней — публіка ў музычным плане больш адукаваная. І такі момант. Стыпендыя ў мяне падчас навучання ў Гродзенскім музычна-педагагічным вучылішчы была 20 рублёў, ды, прызнаюся, не заўсёды атрымлівала яе, бо часам у маім табелі паспяховасці былі «тройкі». А на вяселлі мы зарабілі па 80 рублёў. На старэйшых курсах нядрэнна зараблялі, калі наша агітбрыгада ездзіла па будатрадах ...

Спартсменка, актывісткакамсамолка — гэта пра мяне, калі вучылася ў музычна-педагагічным. Гуляла ў баскетбол, спявала ў жаночым вакальнаінструментальным ансамблі «Чараўніцы» — на той час гэта быў самадзейны гродзенскі калектыў. У маім жыцці было шмат шчаслівых выпадкаў. На 4-м курсе запрасілі на праслухоўванне ў сталічны ансамбль «Верасы» і сказалі пасля, што возьмуць на працу. Ну ці не шчасце для маладой дзяўчыны ўжо на апошнім курсе ведаць, што будзеш артысткай! Але калі ішло размеркаванне, камісія не хацела чуць ні пра якія «Верасы» і накіравала мяне ў Баранавічы. Колькі я слёз праліла, колькі па кабінетах папахадзіла. А мне ж было толькі 19 гадоў... З Мінска шлюць тэлеграму: выходзьце на працу, з Баранавічаў — не адпускаюць. Я пайшла на прыём да намесніка міністра адукацыі. Ён і даў мне адмацаванне: проста зразумеў па-чалавечы. Давялося вярнуць вучэльні 30 рублёў пад'ёмных — у 1972 годзе не абы-якія грошы.

**— А што ўяўлялі сабой «Верасы» ўзору 1972 года?**

— Тады мне здавалася, што гэта ўжо вельмі вядомы калек-

тыў. Наогул, «Верасы» пачыналі як дзявочы гурт на бэк-вакале ў саліста філармоніі Эдуарда Міцуля. Ён выконваў песню «Верасы», таму дзяўчаты і ўзялі такую назву. Акрамя падпевак у іх быў свой рэпертуар, да таго ж усе яны гралі на розных музычных інструментах. Ідэя стварэння гурта належыць Таісе Тлехуч. Ядзя Паплаўская была душой і музычным лідарам калектыву.

**«Верасы» пачыналі як дзявочы гурт на бэк-вакале ў саліста філармоніі Эдуарда Міцуля. Ён выконваў песню «Верасы», таму дзяўчаты і ўзялі такую назву**

**— Хто ўваходзіў у першы склад?**

— Ядзя Паплаўская, Люцына Шамяткова, Таіса Тлехуч, Таццяна Тарасава — склад 1971 года. У 1972-м прыйшлі Люда Ісупава і я. Ядзя трымала нас у тонусе. Канцэртаў шмат, бо Эдуард Міцуль на той час быў вельмі папулярным артыстам. Натуральна, што ў дзявочым калектыве ўзнікалі нейкія дробныя канфлікты і непаразуменні. Тут зноў трэба адзначыць ролю Паплаўскай. Яна не дазваляла канфлікту разрасціся — збірала калектыў, мы абгаворвалі сітуацыю, ніякіх крыўд у сабе не трымалі, і таму мікраклімат быў выдатны.

**— А якім чынам да вас далучыліся хлопцы?**

— Мы пайшлі ад Эдуарда Міцуля ў 1974 годзе. Тады вырашылі аб’яднаць вакалістак «Верасоў» з музыкамі «Беларускага сувеніра». Назва засталася «Верасы», а кіраўніком ВІА стаў Юрый Рымашэўскі — ненадоўга, бо з-за пэўных абставін ён мусіў пакінуць калектыў. Але прынцыпова тое, што першая перамога «Верасоў» на ўсесаюзным эстрадным конкурсе была яшчэ пры Рымашэўскім.

**— Калі не памыляюся, у «Верасах» склалася некалькі сямейных пар.**

— Саша Ціхановіч закахаўся ў Ядзю і заўсёды прыходзіў да нас на рэпетыцыі, а потым і яго ўзялі ў «Верасы». А калі сышоў Рымашэўскі, дык па прапанове Сашы і Ядзі на пасаду мастацкага кіраўніка запрасілі Васіля Раінчыка. Самая вядомая сямейная пара «Верасоў» — Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч. Мой муж Барыс Белы працаваў адміністратарам калектыву. Люда Ісупава выйшла замуж за нашага гукарэжысёра. Пабраліся шлюбам піяністка Люда Вазнюк і барабаншчык Барыс Антаненка, салістка Люцына Шамяткова і адміністратар Вячаслаў Абмётка.

**Спартсменка, актывістка-камсамолка — гэта пра мяне, калі вучылася ў музычна-педагагічным**

У савецкіх гасцініцах нельга было сяліцца ў адным нумары мужчыну і жанчыне, калі ў іх пашпартах адсутнічаў штамп. Падчас гастроляў рэгістраваліся мы ў гатэлі як належыць, але жылі па парах. Потым, калі прыязджалі ў Мінск, чамусьці толькі мяне і Ядзю выклікалі ў кабінеты прафсаюзных кіраўнікоў і чыталі натацыі. Нашы хлопцы чакалі нас пад дзвярыма. Калі ў 1974 годзе мы з Барысам распісваліся, ён папрасіў у Ціхановіча шыкоўны па тых часах крымпленавы касцюм, які той прывёз з замежных гастроляў: маўляў, пазыч — ажаніцца. Праз год Саша ў гэтым жа касцюме распісаўся з Ядзяй.

**— Нейкі чарадзейны касцюм: абедзве пары шмат гадоў шчасліва жывуць! Але пасля дэкрэтнага адпачынку вы не вярнуліся ў «Верасы». Чаму?**

— Па-першае, пасля родаў у мяне прапаў голас. Па рэкамендацыі бліскучага, а цяпер незаслужана забытага канферансье Віктара Сінайскага я звярнулася да ўрача-фаніятра. А канчаткова аднавіць голас дапамагла мне светлай памяці Ірына Палянская — выбітная спявачка і педагог ад Бога. Па-другое, у мяне такі характар... Гастролі, сядзім у аўтобусе, чакаем ад’езду і выказваем незадаволенасць нечым. Заходзіць Вася Раінчык — усе змоўклі, адна Мікуліч «выступае». Можа, цяпер, з вышыні пражытых гадоў, усе тыя канфліктныя сітуацыі і не выглядаюць, як некалі, глабальнымі,

але ж будзем паблажлівымі да маладосці. Некалькі разоў я хацела сысці з «Верасоў», але Раінчык неяк так усё арганізоўваў, што даводзілася адмаўляцца ад намеру. Падчас дэкрэта, размаўляючы з калегамі па тэлефоне, я зразумела, што для мяне месца ў ансамблі ўжо няма. Было крыўдна, хаця прадказальна: яшчэ да майго дэкрэтнага адпачынку на гастролі з «Верасамі» ездзіла Надзя Дайнека — яна мяне і замяніла. Патрэцяе, пасля дэкрэта я набрала вагу. На той час гэта было непажадана для сцэны.

**— Колькі цяпер на сцэне дзяўчат і хлопцаў з вытанчанымі фігурамі, з тварамі, упрыгожанымі прафесійнымі візажыстамі, але нешта песень выбітных не чуваць...**

— Сёння на сцэну трапляюць пасля кастынгу, а не пасля праслухоўвання. Я не разумею, як можна ісці ў прафесію, не маючы адпаведнай адукацыі. Хаця б сярэдняй спецыяльнай. Ці шмат у нас сёння на эстрадзе такіх, як Раінчык і Паплаўская — маюць па два дыпломы вышэйшай музычнай адукацыі? Цяпер на сцэне шмат непрафесіяналізму і безгустоўшчыны. Затое ў гэтых людзей ёсць «прабіўныя» здольнасці і яны паўсюль: у канцэртах, тэлеперадачах, журы розных конкурсаў. Голас, уменне спяваць ужо не патрэбны: усё зробіць камп'ютар. Затое «ў цане» знешнія дадзеныя. Ведаеце, я неяк набралася нахабства і пачала тэлефанаваць на тэлеканалы: а чаму мяне не запрашаеце? Такім чынам, як кажуць, засвяцілася ў некалькіх перадачах. Дарэчы, я думаю, што вось гэты стандарт — ты павінен быць малады і худы — шмат стварае перашкод і жанчынам іншых прафесій. Чаму за мяжой жанчыны не саромеюцца свайго ўзросту, а носяць яркія строі, ходзяць адпачыць у кавярні, на вечарыны? Скажуць: у нашых пенсія не такая вялікая. А я думаю, што гэта нейкі псіхалагічны ціск на жанчын з боку грамадства: з'явіліся зморшчынкі — усё: сыдзі з вачэй. А я не хачу сыходзіць!

У мяне такі характар... Гастролі, сядзім у аўтобусе, чакаем ад'езду і выказваем незадаволенасць нечым. Заходзіць Вася Раінчык — усе змоўклі, адна Мікуліч «выступае»

**— Дык пагаворым пра вашу сольную кар'еру. Пасля «Верасоў» выконвалі некалькі песень у праграме «Чараўніц», якія тады пераехалі ў Мінск і сталі прафесійным ансамблем. А потым — зусім сышлі з Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Не страшна было?**

— У тагачасных «Чараўніцах» мой муж працаваў дырэктарам, таму і дапамог, пакуль я набірала рэпертуар для сольных канцэртаў. Сыходзіла з філармоніі, калі ўжо выслуга гадоў дазваляла аформіць пенсію. Зусім не шкадую. У творчым плане я задаволена. Ужо стаўшы пенсіянеркай, атрымала ганаровае званне заслужанай артысткі Беларусі. Выпусціла тры кампакт-дыскі, было шмат канцэртаў, цікавых праектаў, ажыццёўленых разам з калегамі: Рыгорам Палішчуком, «залатым» складам «Верасоў», Жаннай Піваваравай. Але хацелася больш канцэртаў, прынамсі, на вялікіх пляцоўках. Часам гляджу трансляцыю канцэрта і бачу: у зале мая публіка, а на сцэне — зусім іншыя артысты... Вельмі рада, што ў канцы мінулага года мяне запрасілі выступіць у сумесным праекце Міністэрства культуры і тэлеканала СТБ «Залатая калекцыя беларускай песні».

**— Шмат спрачаюцца наконт таго, ці ёсць у Беларусі шоу-бізнес. Напрыклад, Аляксей Хлястоў мяркуе, што ёсць, бо нашы артысты жывуць у добрых кватэрах і маюць прэстыжныя аўтамабілі. Эдуард Ханок кажа так: *«Беларускія артысты дасягнулі свайго максімуму: Мальдывы, джып. На фоне жыцця сярэдняга чалавека ў нашага артыста больш годнае фінансавае становішча. Але ў параўнанні з расійскім шоу-бізнесам... гэта як расійскі шоу-бізнес у параўнанні з сусветным».***

— Я дакладна не ў бізнесе. Няма ў мяне райдара і цвёрдага ганарару. Утрымліваць нават аднаго дырэктара мае прыбыткі ад канцэртаў не дазваляюць. На самым дарагім — набыцці песень, а іх кошт можа даходзіць да 2 000 долараў, — эканомлю: пішу сама. Аплачваю працу аранжыроўшчыка,

арэнду студыі, трачуся на сцэнічныя строі і абутак. І згодная, бадай, з меркаваннем Эдуарда Ханка.

У «Верасоў» была норма 12 канцэртаў на месяц. Выканаўшы яе, мы гарантавана атрымлівалі 75 рублёў за месяц, а потым — 85. Калі норма не была выканана, нават з-за абставін, не залежных ад артыстаў, дык з нас вылічвалі 75 працэнтаў акладу. Вядома, мы імкнуліся перавыканаць норму канцэртаў, бо за перапрацоўку нам плацілі. Аднак нават «голага» акладу хапала, каб плаціць за інтэрнат, купляць ежу, вопратку і наведваць бацькоў у Гродне. Пачкі грошай на той час мы таксама зараблялі! Але калі я ўспамінаю па тры, чатыры, а то і пяць канцэртаў на дзень... Мы ж спявалі жыўцом — гэта каласальная нагрузка. Перад маім зыходам у дэкрэт гастралявалі ў Кустанаі. Я грала на гітары, дачка ў жываце штурхалася — нервавалася.

**— А замежныя гастролі?**

— На замежных гастролях зарабляла дзяржава. Артысты атрымлівалі кроплі і вельмі сціплыя сутачныя. Усе бачаць парадны бок жыцця артыста: кветкі, апладысменты, папулярнасць, якая адкрывае дзверы… Але якім коштам гэта даецца! Памятаю, былі мы на гастролях у Туркменістане. Спякота 45 градусаў, а дзяўчаты з «Верасоў» у крымпленавых сукенках і боціках з цыраты — такі вось сцэнічны касцюм. Здавалася, мы проста плавіліся, але ж адпрацоўвалі 2-3 канцэрты на дзень. Вядома, гастролі нават па колішнім Савецкім Саюзе — гэта магчымасць пабачыць свет, нешта набыць такое, чаго не было ў Беларусі. А Прыбалтыка тады здавалася нам амаль што замежжам са спажывецкім раем.

**— Ці сочыце вы за творчасцю колішніх салістак «Верасоў»?**

— Вядома, цікаўлюся. Юля Скараход вельмі імпанавала мне. Цяпер яна ў Польшчы, усё ў яе жыцці выдатна склалася. Іра Дарафеева — самая прафесійная салістка. Мне яна вельмі сімпатычная. Падабаецца яе дыск з песнямі Кіма Брэйтбурга. Вікторыя Алешка таксама здольная спявачка. Анжаліка Агурбаш (у «Верасах» Ліка Ялінская. — **Рэд.**)... Вось з яе, напэўна, і пачаўся прыход на беларускую эстраду прыгожых дзяўчат, але не спявачак...

**У савецкіх гасцініцах нельга было сяліцца ў адным нумары мужчыну і жанчыне, калі ў іх пашпартах адсутнічаў штамп. Падчас гастроляў рэгістраваліся мы ў гатэлі як належыць, але жылі па парах**

А стасункі экс-«Верасоў» складваюцца добра. На маім юбілейным канцэрце былі ўсе з «залатога» складу гурта: Ядвіга Паплаўская, Леанід Кошалеў, Аляксандр Ціхановіч, Люцына Шамяткова.

**— Гэта вы ўспомнілі імпрэзу з нагоды вашага 55-годдзя. Можа, не надта прыемнае пытанне, але чаму не адбыўся ваш сёлетні юбілейны канцэрт, які анансаваўся?**

— Адзін бізнесовец, былы музыка, прапанаваў мне ладзіць канцэрт у Палацы Рэспублікі. Але ні ён, ні тым болей я не ўяўлялі, якіх грошай гэта каштуе. Толькі арэнда залы — 180 мільёнаў рублёў; нам прапанавалі зніжку ў памеры 30 мільёнаў. Рэклама — 70 мільёнаў. І гэтак далей. Я ведаю сваю публіку і не магу рабіць білеты дарагімі. Увогуле ж лічу, што для беларускіх выканаўцаў павінны быць пэўныя прэферэнцыі.

Вырашылі перанесці імпрэзу на іншую пляцоўку, дык вольны дзень у канцэртнай зале «Мінск» знайшоўся толькі ў лістападзе.

**— Як вы бавіце свой час, вольны ад творчасці? Ведаю, што вас можна ўбачыць з вудай.**

— На дачы ў нас ёсць агарод, і я люблю ім займацца, гэта для мяне задавальненне. Варэнні-саленні — мая стыхія. Рыбалка — адпачынак, а колькасць злоўленай рыбы менш за ўсё цікавіць. Прызнаюся, што і легкадумныя дэтэктывы чытаю. Штогод ездзім адпачыць на мора. Не-не, не на Мальдывы — у Крым.

***Фота з асабістага архіва Надзеі МІКУЛІЧ***

*Леанід Лаўрэш*

# КАЛАНТАІ І ЗЕЛЬЗІН

***Артыкул часткова грунтуецца на матэрыяле з асабістага архіва ваўкавыскага гісторыка і краязнаўца Мікалая Быхаўцава.***

***Мае бацькі паходзяць з былога Ваўкавыскага павета. Маці з-пад самага Ваўкавыска, з вёскі Калантаі, бацька з вёскі Брантоўцы, што недалёка ад Лыскава. Пра вёскі, дзе яны нарадзіліся, і цэрквы, у якіх хрысцілі, вянчалі і адпявалі маіх продкаў, гаворыцца ў гэтым нарысе.***

***Вёска Калантаі*** *ў Ваўкавыскім павеце першапачаткова была каралеўскай маёмасцю. Назву сваю яна атрымала ад уладальніка маёнтка — Калантая, але ў старых дакументах таксама ўзгадваецца пад назвай Ваўкоўшчына ці Рось-Ваўкоўшчына. Упершыню ў дакументах вёска фігуруе ў 1567 годзе. «Слоўнік геаграфічны...» піша, што ў XVII стагоддзі вёска належала Мацею Румеру, старасце сумілішскаму[1], потым перайшла да ягонага старэйшага сына Стэфана, пасля — да сярэдняга, Мацея, ад яго — да малодшага, Аляксандра. У 1643 годзе вёска Рось-Ваўкоўшчына належыць ужо Францішку Казіміру Ельскаму, які прадае яе Яну Жаўранку.*

У 1642-м у Калантаях будуецца драўляная царква Св. Тройцы, фундатарамі якой выступаюць абшарнікі Сямён Калантай і Ян Савін[2]. Верагодна, гэта была ўжо другая царква ў вёсцы. Фундуш для пабудовы царквы быў унесены ў акты 16 студзеня 1641 года. Сямён Калантай ахвяраваў землі і селяніна на зямлі, Ян Савін — зямлю, якая называлася Луканаўшчызна, і ўчастак зямлі ў 4 морга на пабудову хаты для святара. Пакуль застаецца нявырашаным пытанне, ці адразу царква будавалася як уніяцкая, ці нейкі час была праваслаўнай.

У 1775 годзе частка вёскі з 38 двароў знаходзіцца ў фальварку Калантаі і маёнтку Цеалін, які належыць Зыгмунту Грабоўскаму, быламу харунжаму.

Захаваўся дакумент канца XVIII стагоддзя, які датычыць калантаеўскай уніяцкай царквы, з яго вынікае шмат цікавай інфармацыі:

*«Року 1797, месяца мая 15 дня, у Гродна.*

*Дакумент падрыхтаваны да інсталяцыі[3] вялебнага святара Андрэя Запольскага на празбітара Калантаеўскага, дзе зараз вольнае месца.*

*1797 г. Царква парафіяльная Св. Тройцы ў Ваўкавыскім павеце і дэканаце, была парафіяльнай ад даўніх часоў, ад ранейшых парахаў[4] да апошняга вялебнага святара Андрэя Ляшчынскага, фінансавалася наданнем зямлі фундатарамі Сямёнам Калантаем і Янам Савіным, палкоўнікамі ваўкавыскімі. Фундушы былі зацверджаны на земскім ваўкавыскім судзе 10 лютага 1641 г. Пра тое ж ваўкавыскія земскія акты ад 8 жніўня 1739 г. сведчаць. Царква мела ўрочышчы Лукьянаўшчызна і Лапуноўшчызна ў 94 морга. Зараз, пасля адабрання праз двор часткі царкоўных грунтоў пад карчму (фундушовага пляца, запісанага за плябаніяй, разам з садам і сенажаццю), у іншым*

---

[1] Słownik Geograficzny Krylewstwa Polskiego... Warszawa. 1883. T. 4. S. 272.

[2] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж. 1899. Т. 1. С. 380.

[3] Інсталяцыя — епіскапскае зацвярджэнне святара на пасадзе пасля таго як святар ужо атрымаў прэзенту (дазвол) ад калятара. Калятар — асоба, якая ўнесла сродкі на пабудову царквы, касцёла і мае адпаведнае права адносна яе, у дадзеным выпадку — Зыгмунт Грабоўскі.

[4] Парах — святар, які мае паўнаважанні стала кіраваць парфіяй (прыходам).

*месцы, каля царквы (дзе зараз пабудавана плябанія з садам і сенажаццю), узамен дадзены пляц і грунт»*. Пра *«вялебнага»* святара Андрэя Запольскага адзначана, *«што ён цнатліва выконваў абавязкі каплана ў Новадворскай царкве, а пасля атрымання прэзенты на Калантаеўскі бенефіцыюм, пад час сваёй адміністрацыі*[1]*, выдатна выконваў свае абавязкі і не меў аніякіх скаргаў ... таму, праверыўшы ўсё акалічнасці справы вялебнага айца Андрэя Запольскага, прадстаўленнага да інсталяцыі ... Зыгмунтам з Канапніц Грабоўскім, крайчым ВКЛ, старастам Крэменецкім, надворным падкаморым Яго Каралеўскай Мосці, палкоўнікам войск літоўскіх, кавалерам ордэну Св. Анны, [Андрэй Запольскі] ніякай кананічнай перашкоды не мае і можа атрымаць інсталяцыю, пры умове таго, што ён верне царкоўную маёмасць, запісаную ў фундушы, і адновіць дакументы, якія пацвярджаюць замену пляцаў і грунтаў з сенажаццю, даных… Калантаеўскай бенефіцыяй...»*[2].

Калантаі ўваходзілі ў маёнтак Цеалін Юзэфы Грабоўскай, прычым, у 1800 годзе вёска мела 129 мужчын, а ў 1811 годзе — толькі 43 мужчыны, сказаўся вынік уваходжання ў склад Расійскай імперыі — рэзкае зніжэнне падатнага насельніцтва.



*Сучасная царква Узвіжання Крыжа Господняга у Калантаях.*

У 1808 годзе ўніяцкая царква ў Калантаях (Калантаеўка) над Росью — уласнасць і каляцыя Грабоўскага[3]. У дакументах 1820 года вёска — частка маёнтка Цеалін Марыны Грабоўскай (32 двары, 145 мужчын і 137 жанчын). А ў 1831 годзе — сярод трох фальваркаў пад назвай Цеалін таксама Грабоўскіх (140 мужчын і 137 жанчын).

Ужо ў 1835-м, не дачакаўшыся ліквідацыі уніі, царскія ўлады перапісалі ўніятаў на праваслаўных.

У 1845 годзе вёска налічвае 109 мужчын і 113 жанчын. З 1861 года Калантаі ў Біскупіцкай воласці Ваўкавыскага ўезда. Згодна з «Слоўнікам геаграфічным...» вёска мае 571 дзесяціну сялянскай і 51 дзесяціну царкоўнай зямлі, у праваслаўнай парафіі Калантаеўскай царквы 1861 вернік.

Са справы пра забеспячэнне праваслаўных цэркваў Ваўкавыскага ўезда ад 1864 года вынікае, што царква мела патрэбу ў: абразах і плашчаніцы (на 120 руб.), богаслужэбным посудзе (на 20 руб.), богаслужэбных кнігах (на 65 руб.)[4]. Вось як апісваецца старая, драўляная царква ў архіўнай справе 1867 года: *«Калантаеўская прыходская царква драўляная, на каменным падмурку, вельмі старая і ў дрэнным стане, таму замест яе ў вёсцы Калантаі будуецца новая каменная царква на сродкі ўрада, будаўніцтва яшчэ не скончана. Дабірацца вернікам у царкву ў любую пару года зручна, дарогі не выклікаюць ніякіх цяжкасцяў. Акт агляду* (папярэдні. — **Л. Л.**) *скла-*

[1] Да атрымання інсталяцыі, святар называўся адміністратарам.

[2] Археографический сборник документов, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1902. Т. 13. С. 135—136.

[3] Wolyniak. Z przeszlosci powitu wolkoyskiego. Krakow, 1905. S. 116.

[4] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 97, воп. 1, спр. 54.

**Сёння пад Ваўкавыскам дажывае свой век адна з нешматлікіх захаваных беларускіх старажытных драўляных культавых пабудоў — царква сярэдзіны XVII стагоддзя. Улічваючы адсутнасць даху і агульны стан, стаяць ёй засталося нядоўга**

*дзены 19 лістапада 1840 г., тады ж вырашана пабудаваць новую царкву. Прыхаджан 632 мужчыны і 622 жанчыны»*[1].

У 1871 годзе недалёка ад старой драўлянай царквы была пабудавана новая, мураваная, са званіцай і мураванай агароджай. Старая царква першапачаткова заставалася на сваім месцы і лічылася прыпісной (філіяльнай) царквой. Мела напрастольнае Св. Евангелле, выдадзенае ў 1858 годзе, ахвяраванае імператрыцай Марыяй Аляксандраўнай ў 1864-м, у 1871-м кніга была перанесена ў новую царкву. Нейкі час старая, драўляная царква, пабудаваная ў 1642-м, і новая, мураваная, стаялі побач. На польскай вайсковай карце 1920-х гадоў на вясковых могілках бачна яшчэ адна царква, цяпер закінутая і зарослая хмызняком. Мой родны дзядзька Мікалай распавёў, што ягоны бацька, мой дзед, расказваў, як драўляную царкву перанеслі на могілкі і выкарыстоўвалі там у якасці капліцы. Калі гэта адбылося, невядома, верагодна, дзесьці ўпачатку XX стагоддзя, але вядома галоўнае: сёння пад Ваўкавыскам дажывае свой век адна з нешматлікіх захаваных беларускіх старажытных драўляных культавых пабудоў — царква сярэдзіны XVII стагоддзя. Улічваючы адсутнасць даху і агульны стан, стаяць ёй засталося нядоўга.

На канец XIX стагоддзя калантаеўскі прыход налічваў 1162 вернікі мужчынскага полу і 1147 жаночага, усяго 2309 чалавек у 17 вёсках: Калантаях, Дыхнаўцах, Загор'і, Зарачанах, Косіне, Кутніках, Лічыцах, Мачульне, Навасёлках, Пекарах, Пагаранах, Падросі, Пятаках, Рэксцях, Свіняшках, Скуратах, Шоўках. Самай аддаленай ад царквы была вёска Кутнікі (9 вёрст). Пры царкве мелася царкоўна-прыходское папячыцельства, працавала народная вучэльня ў Калантаях (вучылася 49 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак) і 5 царкоўных школ: у Дыхнаўцах, Загор'і, Мачульне, Навасёлках і Шоўках — вучылася 67 хлопчыкаў і 20 дзяўчынак. Царкоўны прычт складаўся з двух чалавек — святара і псаломшчыка з заробкам 496 рублёў у год і гадавых адсоткаў ад 1750 рублёў, адпісаных для заўсёднага памінання двума протаіерэямі — мясцовым Антоніем Стуковічам і маскоўскім Іаанам Зярновым. Прычт карыстаўся царкоўнай зямлёй: сядзібнай — 1494 сажня, ворнай — 38 дзесяцін 907 сажняў, сенакоснай — 3 дзесяціны 109 сажняў, лясной — 14 дзесяцін 485 сажняў, «кое-какой» — 2 дзесяціны 1187 сажняў, усяго 58 дзесяцін 1780 сажняў зямлі[2]. З 23 лютага 1892 года святаром калантаеўскай царквы служыў айцец Уладзімір Занкевіч[3]. Каля царквы да нашага часу захавалася магіла дачушкі святара, Любачкі Занкевіч (10.01.1896—19.02.1899). Таксама каля царквы пахаваны былы псаломшчык Жаромскі Ігнат Антонавіч (памёр 10.02.1893, жыў 57 гадоў).

14 верасня 1897 года, у дзень свята Узвіжання Крыжа, адбылося асвячэнне калантаеўскай жаночай царкоўна-прыходской школы. У асвячэнні ўдзельнічаў епархіяльны наглядчык за царкоўна-прыходскімі школамі протаіерэй У. Кургановіч. Літоўскія Епархіяльныя Ведамасці пісалі пра гэта: *«Народ пачаў збірацца у царкву, якая не магла змясціць усіх ахвотных: людзі стаялі вакол царквы і нават за агароджай. Пад час службы боскую літургію пеў хор з навучэнцаў народнай вучэльні. Святар У. Бялевіч сказаў урачыстую прамову, пад час якой расказаў пра сэнс і значнасць жаночай школы ў лёсе сялянскай сям'і, заклікаў усіх да малітвы і падзякі за ахвяраванні для адкрыцця школы з боку дабрачынца С.В. Рэзцова і мясцовага святара, які паклаў шмат асабістай працы і клопатаў для адкрыцця школы.*

---

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 97, воп. 2, спр. 26. С. 2аб–3.

[2] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж. 1899. Т. 1. С. 380—381.

[3] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж. 1899. Т. 1. С. 453.



*Царква Св. Тройцы (1642 года пабудовы) у Калантаях.*

*Потым епархіяльны наглядчык пры ўдзеле старшыні павятовага аддзялення вучэльнай рады, павятовага назіральніка царкоўных школ, святароў У. Бялевіча і І. Янкоўскага выйшлі на царкоўную салею для асвячэння абраза Казанскай Богамаці. Гэты абраз, у арэхавым з разьбойківоце — падарунак вядомага дабрачынца Калантаеўскай царквы С.В. Рэзцова. Пасля асвячэння абраза, з хросным ходам пры шматлікай колькасці народа, абраз быў перанесена з царквы ў новую школу»*. Школа была асвечана, пасля чаго выступіў протаіерэй У. Кургановіч, які акрамя іншага сказаў: *«Царкоўная школа — родная дачка царквы. Дай Бог, каб вашыя дзеці ведалі толькі дзве дарогі: у царкву і школу, каб сцежка да школы не зарасла перад імі»*. У адказ на прывітанне епархіяльнага наглядчыка выступіў прыходскі святар: *«Сардэчна вам удзячны, а. протаіерэй, за вашае цёплае слова, поўнае любові да маіх вернікаў, за ваш удзел і ўвагу. Радасна вітаю асвячэнне гэтай школы, якая праз жанчын нашага прыходу стане рассаднікам асветы. ...роўна тры гады песціў я думку пра гэту школу і зараз я бачу выдатны школьны будынак і кожнай дзяўчынцы адкрыты дзверы да асветы...»*. Прысутныя паклонам выказалі падзяку свайму духоўнаму пастыру[1].

Напрыканцы XIX стагоддзя тут нарадзіліся мае бабуля і дзядуля па маці: Грыб (у дзявоцтве Мішковіч) Антаніна Фёдараўна (1894—1976) і Грыб Аляксандр Яфімавіч (1887—1970).

У 1914 годзе вёска мае 70 двароў, у якіх жывуць 196 мужчын і 208 жанчын, пры дарозе з вёскі Яцвязь у Калантаі маецца хутар з 2 двароў, тут жывуць 4 мужчыны і 6 жанчын. У царкоўным прычце 1 двор: 11 мужчын і 7 жанчын.

25 верасня 1920 года тут адбыўся бой паміж польскімі жаўнерамі і Чырвонай Арміяй, у выніку якога раніцай чырвонаармейцы былі выбіты з вёскі, узяты палонныя і захоплены абоз.

[1] Литовские Епархиальные Ведомости. 1897. — № 40. — С. 383—384.

У 1921—1939 гадах вёска знаходзіцца ў гміне Біскупцы. Разам з Лазамі, Пораслю і Зыгмунтавым складае грамаду Калантаі.

У 1928 годзе вадзяны млын з'яўляецца ўласнасцю яўрэйскай суполкі: В. Каплана, Я. Айона, В. Эпштэйна.

У 1935-м у вёсцы існавала школа, у якой настаўнічала Соф'я Валадкова.

З верасня 1939 года настаўніцай у Калантаеўскай школе працавала Вера Карчэўская, дзеячка заходне-беларускага руху, палітык, паэт[1]. Яна на роднай мове вучыла маю маці.

***Зельзін.*** *Раней гэта вёска знаходзілася ў Ваўкавыскім павеце, цяпер — у Зеляневіцкім сельскім савеце Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, за 60 км на паўночны ўсход ад Пружан, за 32 км на паўднёвы ўсход ад Ваўкавыска. Назва, магчыма, паходзіць ад слова «зелле», што азначае корм для жывёлы, лекавыя травы або пустазелле.*

У канцы XIX стагоддзя са слоў зельзінскага святара і двух настаўнікаў запісана легенда пра тутэйшую царкву, упершыню апублікавана Пакроўскім Ф. В. у 1895 годзе ў кнізе «Археологическая карта Гроднескай губернии». Па гэтай легендзе першая зельзінская царква была пабудавана ў 1420—1430 гады нейкай князёўнай, якая ўгразла на гэтым месцы і была выратавана паляўнічымі. Паводле таго ж падання першым святаром быў айцец Чаплееўскі[2]. М. Малішэўскі ў артыкуле «З побыту белага ўніяцкага духавенства» піша пра фундатара царквы Сямёна Прохаравіча Чаплееўскага — і падае прозвішча на рускі манер: Чаплієў[3]. Па іншай версіі легенды царква пабудавана ў 1442 годзе, фундавала яе княжна, што ехала з Масквы ў ВКЛ і заблукала ў гэтых мясцінах. Паляўнічыя, якія знайшлі яе, палявалі на аленя. Яшчэ пры канцы XIX стагоддзя ў царкве захоўваўся рог тых паляўнічых, якія быццам бы выратавалі княжну. Ад першай, драўлянай царквы XV стагоддзя застаўся асабліва шанаваны абраз Найсвяцейшай Багародзіцы ў пазалочанай меднай рызе і тых жа часоў масіўны дубовы крыж у пазалочанай срэбнай аправе, які ў XV стагоддзі ўжываў пры богаслужэнні першы святар царквы айцец Чаплееўскі. Крыж быў умайстраваны ў абраз з выявамі Марыі Магдалены і Логіна Сотніка вакол Багародзіцы[4]. Пра абраз Багародзіцы, старажытны крыж і аленевы рог, якія захоўваюцца ў царкве, пісаў і дырэктар Віленскага музея старажытнасцей археолаг Пакроўскі[5]. У пачатку XX стагоддзя ў царкве яшчэ знаходзілася кніга запісаў за 1568 год, а каля плябаніі ў Першую сусветную вайну яшчэ расла гіганцкая 500-гадовая ліпа з вялікім дуплом, у якім хаваліся дзеці. У 1743 годзе Чаплееўскія фундавалі новую царкву, якая з 1775 года ўваходзіла ў Лыскаўскую парафію (верагодна, была філіяльнай)[6]. Вядома, што ў 1780 годзе зельзінская царква страціла сенажаць[7].

В. Ф. Пакроўскі паведамляе, што непадалёк ад Зельзіна, ва урочышчы Малінаўка абшарніка Брайчэўскага, ёсць курган вышынёй у дзве сажні, дыяметрам унізе — 14 сажняў, уверсе — 1 сажань, такі ж курган ёсць і ва урочышчы Галабурдаўшчына на зямлі маёнтка Манцякі. На паабсыпаных краях малінаўскага кургана людзі знаходзілі косткі, падковы, дэталі конскай збруі. Таксама недалёка ад Зельзіна, каля дарогі ў бок вёскі Цераховічы, стаяла каменная пліта вышынёй каля 1,5 аршына і шырынёй 18 вяршкоў. На адным баку пліты быў высечаны крыж, над ім літары Н.М. а злева манаграма MARIA[8].

У XVIII стагоддзі адна частка вёскі з 4 двароў знаходзілася ў маёнтку Зельзін аб-

---

[1] Туронок Юрий. Непокорная Вера // Деды. — 2011. — № 8. — С. 148—156.

[2] Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895. С. 32—33.

[3] Малишевский Н. Из быта белого униатского духовенства // Литовские Епархиальные Ведомости. 1873. — № 6. — С. 67.

[4] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж, 1899. Т. 1. С. 262.

[5] Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895. С. 32—33.

[6] З архіва Быхаўцава.

[7] Литовские Епархиальные Ведомости. 1873. — № 8. — С. 84.

[8] Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895. С. 32.

шарнікаў Сухадольскіх, другая частка з 17 двароў — у фальварку Крупа Грабоўскага.

У 1800 годзе ў фальварку Падкрупы Міхала Грабоўскога працуе 41 мужчына, сярод якіх 5 вольных сялян.

У 1811-м частка вёскі знаходзіцца ў маёнтку Магілёўцы Разаліі Быхаўцавай: 41 мужчына, у 1820-м да маёнтка Магілёўцы запісана 35 мужчын і 27 жанчын, другая частка вёскі з 33 мужчынамі і 38 жанчынамі знаходзіцца ў маёнтку Падкрупы, які належыць Андрэю Брандту.

1845 год. Адна частка вёскі з 16 двароў знаходзіцца ў маёнтку Зельзін Адама Быхаўца, другая, з 8 двароў, — у фальварку Зельзін Фамы Андрэевіча Брандта і ягонай жонкі Мацільды, фальварак дастаўся ім у спадчыну ад бацькі. Брандтам належыць 8 двароў: 35 мужчын і 22 жанчыны. Прозвішчы сялян: Аўдзейчык, Панасік, Гусак, Мотыль, Канавалік, Дуброўка, Шымановіч, Двімок (5 сямей), Хаян, Цыпурка, Таўмач. Станіслаў Брандт, сын уладальніка маёнтка Зельзін, быў удзельнікам паўстання 1863 года. Пасля паўстання сасланы ў Сібір і вызвалены ў 1871 годзе з забаронай жыць у вялікіх гарадах.

1858 год. Адна частка вёскі з 40 мужчын і 45 жанчын — у фальварку Зельзін або Падкрупе Андрэя Іванавіча Брандта, другая частка з 66 мужчын і 60 жанчын — у фальварку Зельзін Адама Восіпавіча Быхаўца.

З 1861 года вёска ў наваствораной Зельзінскай воласці.

У 1865 годзе складаецца з 16 двароў: 33 мужчыны і 31 жанчына. Прозвішчы сялян: Панасік, Аўдзейчык, Агарэлік, Козел, Гусак, Жук, Мотыль, Канавалік, Дуброўка[1].

Са справы пра забеспячэнне праваслаўных цэркваў Ваўкавыскага павета ад 1864 года вынікае, што зельзінскай царкве неабходны былі: абразы (на 200 руб.), богаслужэбны посуд (на 180 руб.), рызы і царкоўныя ўборы (на 150 руб.), богаслужэбныя кнігі (на 12 руб.)[2]. Пра царкву ў архіўнай справе 1867 года напісана: *«У Зельзінскім прыходзе ... царква пабудавана з бутавага каменю, на бачным месцы, абгароджана драўлянай агароджай, побач уладкавана званіца. Вонкавы выгляд адпавядае праваслаўнаму храму, царква пабудавана ў 1839 г. і капітальна выпраўлена на сродкі прыхаджан у 1867 г. Акт агляду* (папярэдні. — **Л. Л.**) *складзены 7 лістапада 1840 г. Прыхаджан — 1354 мужчыны і 1359 жанчын»*[3].

З 1884 года ў наёмным доме пры філіяльнай царкве ў Шэйпяках Зельзінскага прыхода працавала царкоўна-прыходская школа, у якой вучылася 24 хлопчыкі і 3 дзяўчынкі, настаўнік — селянін з народных настаўнікаў[4].

Літоўскія епархіяльныя ведамасці[5] за 1887 год надрукавалі справаздачу настаўніка Зельзінскай народнай вучэльні К. Супруна пра ўрачыстасці, якія адбыліся 21 снежня 1886 года ў Зельзінскім прыходзе. У царкве меўся старадаўні абраз Найсвяцейшай Багародзіцы, які раней знаходзіўся ў Горным месцы старога іканастаса. Пасля таго, як быў збудаваны новы іканастас, стары абраз апынуўся ў рызніцы і быў забыты. У 1886 годзе да свята Узвышэння Святога Крыжа святар айцец Радкевіч і царкоўны староста М. Пучко вырашылі аднавіць абраз. Святар і стараста сабралі 50 рублёў 88 капеек у прыватных асоб, прыхаджане дадаткова ахвяравалі на гэтую справу 60 рублёў, яшчэ 45 рублёў было дададзена з царкоўных грошай. Пры садзейнічанні памешчыцы Івановай А. П., якая па сваіх справах часта бывала ў Маскве, абраз быў адвезены туды для аднаўлення. У Маскве абраз быў устаўлены ў медную пазалочаную рызу з кіётам пад арэхавае дрэва, 21 снежня абраз вярнуўся з Масквы. Па дарозе ад чыгуначнай станцыі стаіць вёска Шэйпякі з царквой — абраз першапачаткова застаўся тут. На 21 снежня былі запрошаны суседскія святары: з Лыскава айцец Іаан Дашкоўскі і з Сядзельнікаў айцец Рыгор Ціхаміраў. *«21 снежня было цудоўнае надвор'е, сабралася вельмі шмат народу і Шэйпякоўская царква не ўмясціла ўсіх жадаючых. Пасля*

[1] З архіва Быхаўцава.

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 97, воп. 1, спр. 54.

[3] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 97, воп. 2, спр. 26. С. 18 аб–19.

[4] Литовские Епархиальные Ведомости. 1886. — № 44. — С. 418.

[5] Литовские Епархиальные Ведомости. 1887. — № 12. — С. 98—99.



*Царква Узвіжання Святога Крыжа на пачатку XX стагоддзя, здымак Яна Балзункевіча.*

*ўсяночнага чування было здзейснена малое асвячэнне вады і потым асвечаны абраз. Выступіла некалькі чалавек, з выступаў стала вядома, што маскоўскі ахвярадаўца доктар Яфімаў А. Ф. выявіў жаданне ўладкаваць у Зельзінскай царкве новы іканастас, а стары перанесці ў Шэйпякоўскую царкву».*

Пасля заканчэння службы абраз Божай Маці з хросным ходам і спевамі малебнаў перанесены прыхаджанамі на руках у Зельзінскую царкву (6 вёрст). Па дарозе па просьбе памешчыцы Івановай, у яе маёнтку быў адслужаны саборны малебен. Гэтак жа па дарозе малебен быў адслужаны ў Зельзінскай валасной управе. Па прыбыцці, пасля трохразовага абыходу царквы абраз быў усталяваны на месцы. Потым у саборы былі адслужаны акафіст і малітва да Найсвяцейшай Багародзіцы… *«Калі ўсе выйшлі з царквы — ужо змяркалася».*

Можна быць упэўненым, што ў гэтых мерапрыемствах удзельнічалі мае прадзеды.

Кніга «Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. 1899» піша пра 1839 год як пра год будаўніцтва новай мураванай Крыжаўзвіжанскай царквы ў Зельзіне. Чамусьці сучасныя даведнікі пішуць пра будаўніцтва царквы ў 1878 годзе. «Описания церквей и приходов...» паведамляе, што разам з царквой былі пабудаваны мураваная званіца і плот, фундавалі будаўніцтва абшарнікі Ігнат Сегень і Ян Быхавец. Адначасова каля таго месца, дзе стаяла старая царква, пабудаваны дом святара. У 1899 годзе царква мела 1770 прыхаджан мужчынскага полу і 1808 жаночага (разам — 3578) якія жылі ў 13 вёсках: Зельзіне, Баярах, Бушняках, Галоўчыцах, Зеленевічах, Крупе, Кузевічах, Мазалях, Апелянавічах, Шэйпяках, Шпаках і Ярашэвічах, з якіх самыя далёкія — Баяры, Галоўчыцы і Шэйпякі знаходзіліся ў 6 вёрстах ад прыходскай царквы[1] і таму ў Шэйпяках мелася прыпісная к прыходскай, мураваная царква Яна Багаслова ў драўлянай агароджы, пабудаваная ў 1794 годзе як каталіцкая капліца і перароблената на праваслаўную царкву ў 1864 годзе на грошы прыхаджан і мясцовага абшарніка Антонія Радкевіча[2].

[1] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж, 1899. Т. 1. С. 262—263.

[2] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж. 1899. Т. 1. С. 39.

Напрыканцы XIX стагоддзя пры Зельзінскім прыходзе мелася царкоўнае брацтва і царкоўна-прыходское папячыцельства, працавалі тры царкоўныя школы: у Галоўчыцах, Крупе і Шэйпяках, у якіх вучыліся 102 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі, і народная вучэльня. Царкоўны прычт складаўся з трох чалавек: святара і двух псаломшчыкаў. Агульны гадавы фонд, з якога выплачваўся заробак, — 592 рублі, і 3 рублі за маёнтак, які адышоў у казну. Зямлі прычт меў: сядзібнай — 2 дзесяціны 329 сажняў, ворнай — 39 дзесяцін 798 сажняў, сенакоснай — 6 дзесяцін 143 сажня, пашавай — 5 дзесяцін і 879 сажня, усяго — 52 дзесяціны і 2149 сажняў, прычым, уся зямля была пры царкве, не падзелена на шматлікія «шнуры»[1].

Пры царкве дажываў свой век «заштатны» святар — былы святар зельзінскага прыхода айцец Аляксей Радкевіч, які пачаў тут служыць яшчэ ў 1851 годзе[2]. Дзейсным святаром у царкве быў айцец Пётр Радкевіч, які займаў гэту пасаду з 29 верасня 1891 года[3]. З 10 лютага 1862 года служыў тут дыякан Апалінары Цендзевіцкі[4].

У 1900 годзе на сродкі святара Радкевіча ля царквы была пастаўлена мураваная капліца, асвечаная ў гонар святых віленскіх пакутнікаў Антонія, Яна і Яўстаха.

Тут, у Зельзіне, нарадзіліся мае бабуля і дзядуля па бацьку: Лаўрыш (у дзявоцтве — Чайкоўская) Наталля Антонаўна (1895—1980) і Лаўрыш Васіль Гаўрыілавіч (1882—1969).

У вёсцы Шэйпякі (цяпер Шэйпічы) ў 1900 годзе нарадзіўся Міхась Забэйда-Суміцкі.

У 1905 годзе тая частка вёскі, якая належала Брандту, афіцыйна пачала называцца Брантоўцы, у Брантоўцах тады было 138 жыхароў. Мой дзед Васіль пайшоў у войска з Зельзіна і, адваяваўшы як кадравы жаўнер Руска-японскую вайну, быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам і вярнуўся ужо ў Брантоўцы. 1914 год. У Зельзіне і Брантоўцах разам 45 двароў: 129 мужчын і 115 жанчын. Працуе вадзяны млын на рэчцы Чымбе, 1 двор: 2 мужчыны і 5 жанчын.

У тым жа 1914 годзе дзеда зноў прызвалі ў войска, ён ваяваў на Паўднёва-Заходнім фронце і трапіў у палон. Толькі пасля заканчэння Першай сусветнай пешшу прыйшоў з Аўстрыі, дзе, як палонны, працаваў у гаспадара, у родную вёску.

У 1922 годзе Зельзінская гміна была скасавана і падзелена паміж Лыскаўскай і Падароскай гмінамі. Таму ў 1921—1939 гадах Зельзін і Брантоўцы знаходзяцца ў гміне Лыскава і ствараюць грамаду Зельзін.

Пробашч каталіцкай парафіі ў мястэчку Лыскаве Кардэля 10 чэрвеня 1929 года заняў прыпісную царкву ў Шэйпяках (якая да 1864 года была каталіцкай капліцай). Гэта адбылося па дамоўленасці з мясцовым царкоўным апекуном С. Пушком, якому ксёндз паабяцаў адрамантаваць храм. Аднак настаяцель Зельзінскай царквы айцец Аляксей Казакевіч увечары 13 чэрвеня з дапамогай вернікаў сарваў павешаны ксяндзом замок на дзвярах і заняў храм. На наступны дзень справа дайшла да сутычкі паміж каталікамі і праваслаўнымі, якую спыніў павятовы камендант паліцыі[5].

З 1940 годзе вёска ў Ружанскім, а з 1962 года ў Пружанскім раёне. У 1959-м налічвала 258 жыхароў, у 2003-м — 53 двары, 106 жыхароў.

У 1962 годзе зельзінская царква адабрана пад вясковы клуб. Царкоўнае начынне і абразы перавезлі ў лыскаўскую царкву, частку царкоўных кніг — у ружанскі касцёл. Перабудаваць царкву пад клуб не было магчымасці і, па успамінах сялян, памяшканне царквы выкарыстоўвалася як стралковы цір для вучняў.

У 1963 годзе царква пашкоджана пажарам. У 1995-м адрамантавана і асвечана мітрапалітам Філарэтам.

---

[1] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж. 1899. Т. 1. С. 263.

[2] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж. 1899. Т. 1. С. 438.

[3] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж. 1899. Т. 1. С. 452.

[4] Описания церквей и приходов. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж. 1899. Т. 1. С. 441.

[5] Загідулін, А. М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.). Гродна, 2010. С. 98.

Святлана ДЗЯНІСАВА

# ВЁСКА



***Прыадчыню «рэдакцыйную кухню»: не такую назву павінен быў несці панад сваімі радкамі гэты артыкул. А такую — ні на літарку інакш:***

***«Андрэй Федарэнка. Вёска».***

***Люблю, ведаеце, гульню ў словы і іх двухсэнсоўныя спалучэнні. Але ж угаварыць спадара Федарэнку — папершае, чалавека спрэс занятага, не новай аповесцю, дык яе рэкламаваннем, а, па-другое, асобу наколькі арыгінальную, настолькі ж і непрадказальную, — мне, аўтарцы матэрыяла, які павінен быў быць у акрэсленай тэме «цэнтральным», выбачаюся, не ўдалося.***

— Мы проста пагаворым пра вёску, абмяркуем яе папярэдні і сучасны «фарматы», параўнаем іх, паразважаем пра розніцу паміж ёю і горадам… — не без надзеі прапанавала я.

— Ат, няма паміж імі ніякай розніцы, — здаецца, так канстатаваў мой любімы пісьменнік сваё стаўленне да звязкі «горад-вёска».

«Няўжо няма?» — задалася я пытаннем. І па сёння ім задаюся.

Выкладзеныя тут назіранні, а таксама разважанні над імі — гэта, калі ў вузкім сэнсе, то маленькая спроба прыцягнуць увагу чытача да тэмы, а калі ў шырэйшым, то вялікае спадзяванне на «новафарматныя» абмеркаванні спрэчных і балючых пытанняў на старонках новай «Маладосці».

*Што дае горад такое, чаго ніколі не дасць вёска — самаадчуванню, самаўсведамленню чалавека, яго жыццёваму вопыту? Што можа даць яму толькі вёска?*

Параўноўваць сябе, вясковую дзяўчынку, з гарадскімі ў мяне ніякіх асаблівых магчымасцей не было. Калі не лічыць, што





*Не заўважыць гэта немагчыма: пры кожнай хаце свой аўтамабіль, а то і трактар. Ці так вымірае вёска?*

ведала сяго-таго з юных жыхароў раённых цэнтраў, а аднаго разу, адпачываючы ў піянерскім лагеры, трапіла жыць у пакой з — о мара! — мінчанкамі. Якраз тады мяне вельмі ўразіла і неяк непрыемна, з крыўдай за іх, гарадскіх, здзівіла тая акалічнасць, што калі мы, вясковыя, у сваёй пачатковай школцы з беларускай мовай навучання пачыналі штудзіраваць рускую мову ўжо ў другім класе, то гарадскія ў сваіх рускамоўных школах упершыню па праграме знаёміліся з беларускім словам толькі ў трэцім. «Іх што, лічаць дурнейшымі?» — падумалася мне тады. Успомніла пра гэта амаль праз дзесятак гадоў, на першым курсе медыцынскага вучылішча, бо зноў была ўражана: добрая палова групы, едучы ў верасні «на бульбу», трапіла ў вёску ўпершыню і, натуральна ж, не ведала, як тая бульба расце, бо шлях гэтай культуры да стала для многіх пачынаўся ў аддзеле «Садавіна-гародніна».

…І пры гэтым зайздрасць да гарадскіх не сказаць каб не агортвала. Канікулы мы з сястрой часцей праводзілі не ў сваёй вёсцы, а ў бабулінай. Туды ж да суседскіх бабуль прыязджалі дзяўчаткі ў кашульках з бліскучымі наклейкамі (мара мець такую кашульку ў мяне так і не здзейснілася). На возеры яны мянялі купальнікі на трусікі-нядзелькі. Гэта таксама была мара. І з імі невыносна было гуляць у халіхало, бо яны ведалі і прамаўлялі такія словы і паняцці, якіх табе, выдатніцы вясковай школы, здавалася, не спасцігнуць ніколі. Ну, а паколькі ў скакалку і мячык яны гулялі гэтаксама добра, як і ты, абруч круцілі не менш спрытна, то шанцаў на хоць якую рэабілітацыю не было. Адно выйсце: нават на летніх канікулах хадзіць у бібліятэку.

— У каго хто кім працуе на «Гарызонце»? — пыталася ці то выхавальніца, ці то піянерважатая — ужо не памятаю — на першым сходзе атрада ў холе аднаго са спальных карпусоў піянерскага лагера «Гарызонт» пад Радашковічамі.

— Завод «Гарызонт» шэфствуе над саўгасам, у якім працуюць мае бацькі, — прамовіла я, калі прыйшла мая чарга адказваць.

Тады было б лепш памаўчаць, але як гэта магчыма, калі дарослы чалавек задае табе такое сур’ёзнае пытанне? А маўчаць было б лепш таму, што пасля гэтага адказу адразу ўсім стала вядома: *в отряде есть деревенская*. Гэта была выдатная падстава для штодзённых кпінаў. Асабліва здзекаваліся два хлопцы, чые імёны і прозвішчы памятаю і сёння. Саша Грэцкі і Дзіма Свірыд, дзе вы цяпер? Хто вы?

*Найбольш гарманічнае развіццё чалавек атрымлівае, жывучы ў вёсцы, — гэта ўжо даўно даказана прыватнымі прыкладамі і навукоўцамі. Здаецца няправільным, што ўведзена асобная сістэма ацэнкі ведаў сельскіх абітурыентаў.*

*Раней, яшчэ нейкіх дваццаць гадоў таму ў вясковай краме немагчыма было купіць малако, кефір, тварог, мяса і яйкі. Навошта гэта ўсё вяскоўцам, калі сваё ёсць? Цяпер вясковая крама адрозніваецца ад гарадской хіба толькі памерам і фасадам, але ніяк не асартыментам.*







*Камп'ютар ведае пра кожную кароўку ўсё: нават тое, з якім настроем яна вярнулася з пашы і колькі малака з тае нагоды намерваецца даць.*



*Колькі б праблем ні вырашалася на вёсцы, якога б кшталту яны ні былі, а гэты жартоўны парадокс будзе існаваць вечна: чорная карова дае белае малако.*

Люблю, падарожнічаючы па Беларусі, спыняцца ў вёсках каля храмаў і крамаў. Зайшоўшы ў краму з мэтай купіць мінералкі ці марожанага, можна разжыцца тым, што выклікае асаблівую прыхільнасць душы. Дзе ў горадзе сустрэнеш такую цыратку для стала, як некалі бабуля засцілала? А тут — ёсць, ляжыць, свежанькім яркім рулончыкам скручаная, пахне гумова-тэкстыльна-фарбава, быццам і не было трыццаці гадоў пасля таго, як я яе ўласнымі рукамі сапсавала, накройваючы хлеб на лусты (каб намазаць яго пасля маслам і пасыпаць зверху буйнай соллю — хто ў вёсцы не жыў, таму гэтага не зразумець!).

…А кажуць, што той патрыярхальнай замілаванасці вёскай, якая была даўней, ужо не знайсці. Так, згодна, бо ўжо нават фіранкі, вышываныя саматужна, з прарэзанымі пялёсткамі кветачак, як у маім дзяцінстве, на новых сельскіх вокнах не вісяць. І буфецікі ніхто не аздабляе вышыванымі гладдзю занавескамі. І ў падпечны не водзяцца коткі, бо няма ў новай вясковай хаце ні падпечча, ні печы, а ёсць мікрахвалёўка, тостэр, хлебапечка... І малако, калі працэджваецца, то ў трохлітровыя слоікі, а не ў гліняныя неглазураваныя глячыкі без ручак. І за суніцамі ідуць з пластмасавымі вядзерцамі. І масла, калі збіваюць, то таксама ў банках або міксерам на малой хуткасці, а не ў драўлянай маслабойцы, як раней. І клінок сыру адціскаецца цяпер не ў сырніцы, а пад якім-небудзь выпадковым гнётам. Але ж трапляюцца на вока замалёвачкі, якія грэюць душу і выклікаюць трымценне ў сэрцы.

*Дарэчы, у вёсках цяпер нават «крамыначнікі» ёсць. І сельскія людзі адмаўляюцца трымаць кароў: малако можна купіць і ў краме. Дарэчы, хто ведае, якім коштам яно, свежае, тлусценькае, цэльнае, не разведзенае і не «восстановленное», прымаецца ад насельніцтва? Па дзве пяцьсот за літар. А колькі вы аддаяце за 900-грамовы пакецік 2 %-нага ў супермаркеце?*

*Чорт ведае чаму, але гэты ролік у новым летнім сезоне зноў круціцца па тэлевізары. А тым часам камбайнераў, якія сілкуюцца лапшой хуткага прыгатавання — на працы, не дома, — у Беларусі не існуе. І механізатар, які выходзіць у поле на досвітку — хлеб*

*жаць, а не жаўрукоў слухаць, — не іначай іншапланецянін і лепш бы яму рэкламаваць плаўленыя сыркі.*

Будні дзень сучаснага камбайнера — гэта звычайны працоўны дзень звычайнага працаўніка. І нават калі б табе, чытач, карцела прыпісаць тут «сяла», а я б, паддаўшыся заштампаванасці мыслення, такую прыпіску зрабіла, то атрыманае словазлучэнне — «працаўніка сяла» — па-першае, не перастала б стаяць пасля слова «звычайнага», а па-другое, не азначала б нічога большага, чым адрас месца жыхарства і працы. Бітва за ўраджай?! Гэты выраз так даўно і настолькі трывала засеў у лексіконе чыноўнікаў ад сельскай гаспадаркі і іншых асоб, далёкіх ад вясковай практыкі, што выдзіраць яго давядзецца, не інакш, абцугамі. А чаму, уласна кажучы, бітва? Хто з кім б'ецца? Так, некалі хлебаробы біліся літаральна і даволі жорстка — працавалі дзень і ноч, каб адолець вялікія прасторы за кароткі час, бо трэба было паспець прыбраць тое, што бура можа паваліць, спякота — высыпаць на зямлю, а лівень — затапіць. Гэта была сапраўды бітва, адчайная і цяжкая, таму што: а) тэхнікі не хапала; б) працаваць у ёй, прасвідраванай чорным пылам і пякельным жарам, — можаце сабе ўявіць, як гэта. Але так было некалі. Сёння камбайнер выходзіць раніцай на працу ў светлай сарочцы на гузіках і ідзе ў майстэрню ці на машынна-трактарны двор. Там яго таксама чакае праца: праверыць і змазаць маслам кожны вузел кожнага механізма. У поле пазней, як сонца ўжо будзе высока, як раса канчаткова спадзе з каласоў (вытворцу рэкламы не магло быць вядома, што раніцай у полі бывае раса, бо ён наскрозь гарадскі, як мае колішнія аднакурсніцы). Дзень, хоць і доўгі, і не асмелюся канстатаваць, што лёгкі, але правядзе механізатар, быццам касманаўт за пультам кіравання палётам: кожны камбайн цяпер аснашчаны камп'ютарам (пры дамамозе якога, між іншым, можна адразу падлічыць ураджайнасць, вымераць плошчу прыбранага, ацаніць якасці зерня), кандыцыянерам і тэрмасам. А ў сярэдзіне дня да яго ў поле прыедзе кухня, прывязе абед з трох блюд. Трошкі пазней, на полудзень, — кампот, мінералка, гарбата… І калі гэта «бітва» скончыцца, то ён, механізатар, паедзе на «Дажынкі», каб атрымаць там у падарунак за сваю працу халадзільнік, тэлевізар або аўтамабіль. Традыцыя, якую таксама час выкараняць. Не, я не пра тое, што камбайнер — лайдак, якому ні за што плацяць грашыма, пашанай і падарункамі. Я ведаю, што праца яго і сёння складаная. Але ж ён — звычайны чалавек, такі самы звычайны, як бухгалтар, што сядзіць дзень навылёт у душнай канторы, фельчарыца з фапа, прадаўшчыца з крамы, кухарка, што варыць яму абед (вось каму на самай справе горача), даярка з фермы… Не, даярку адсюль трэба выкрасліць.

Яе працоўны дзень пачынаецца а чацвёртай раніцы. Яе рукі пахнуць каровай. Гэта такі спецыфічны пах, у якім змяшаны і водар парнога малака, і арамат падсушанай травы, і амбрэ потнай поўсці адначасова, і ён не выпетрываецца ніякімі дэзадарантамі ні калі даярка ідзе на спатканне, ні калі трапляе на ранішнік ў садок або на бацькоўскі сход у школу, ні калі выязджае ў свой выходны дзень у горад па новую сукенку.

*Я люблю даярак. Яны для мяне сімвал сапраўднай, а не прывіднай жаноцкасці. Прыгожыя, вясёлыя і самыя ўпэўненыя ў сабе людзі. Так шмат, як яны, не працуе ніхто. А халадзільнікі, тэлевізары або аўтамабілі ім за іх працу не дораць.*

*Далей па часопісу ідуць шкадаванні пра тое, што вёска вымірае. Я ж тут сваімі разважаннямі быццам канстатую адваротнае. Ды яшчэ нешта імкнуся даказаць прадстаўленымі фотаздымкамі. Дык вымірае яна ці не, сучасная вёска?*

Чаму адна працвітае, другая памірае, чаму ў адной будуецца новае звышкамфортнае жыллё, а старое цэлымі чародамі засяляецца дачнікамі, ствараюцца фермы, працуюць школьныя музеі і тэатры, а другой ужо даўно няма на глобусе? Ад каго што залежыць? Ад чаго хто залежыць? Адказы на гэтыя пытанні я шукала. Не знайшла.

***Яшчэ некалькі разважанняў пра вёску — на новым сайце «Маладосці» ў рубрыцы «Поўная версія»***

Іван ЖДАНОВІЧ

# СТАН ДУШЫ



***«Усе мы з хат» — пісаў калісьці Янка Сіпакоў. Але ж тыя хаты недаўгавечныя, як і нашы малыя вёскі.***

***Пра вёску Саматэвічы, што ў Касцюковіцкім раёне, свет даведаўся ў многім дзякуючы яе таленавітаму ўраджэнцу Аркадзю Куляшову. Памніцца, абыходзячы Беларусь уздоўж дзяржаўнай мяжы вясной і летам 1996-га, мы з Валянцінай, маёй спадарожніцай, завіталі туды. Спецыяльна спланавалі маршрут, каб пабачыць бацькоўскую хату народнага паэта. І цераз плот, бо вароткі моцна завязаны былі дротам (пэўна, ад рабаўнікоў...), я нават зрабіў здымкі, чорна-белыя, таго пакінутага людзьмі падворка. Якога няма на зямлі, як і самой радыяцыйнай вёскі Саматэвічы, дзе нарадзіліся радкі знакамітай лучанкоўска-песняроўскай «Алесі». І ўжо зусім іншы сэнс набываюць шчымлівыя словы яе прыпеву: «Пайшла, ніколі ўжо не вернешся...»***

Менш чым праз год будзем святкаваць сотыя ўгодкі класіка. Ёсць купалаўская Вязынка, коласаўскія Акінчыцы (хай сабе і як частка Стоўбцаў), танкаўская Пількаўшчына, мележаўскія Глінішчы, а на месцы куляшоўскіх Саматэвічаў — голае поле. Ці, можа, хоць яблыневыя сады там ацалелі, як жывы помнік памерлай вёскі? Можа, паблізу іх і камень-валун з шыльдай паставіць — як згадку пра вёску і Куляшова... Хто б узяўся?

Помнікам вёскі, што сыходзіць, могуць быць і старыя дрэвы. Каля дзесяці гадоў таму ля роднай маёй Яцкаўшчыны, што ў Ляхавіцкім раёне, падчас акультурвання калгасных земляў спілавалі векавыя дубы —

я ўспрыняў тое як асабістую трагедыю. З мясцовых жыхароў толькі некаторыя паставіліся да дзеі «па-філасофску». Баліць… Рэшткі вялізнай колішняй дубравы, Дубнік, так упрыгожвалі наваколле! У памяць пра страту пасадзіў я ў канцы бацькоўскага надзелу два дубкі і сасну. Але ж ім яшчэ расці ды расці. Ці паспеюць да таго часу, пакуль вёска сыдзе ў нябыт? А яна туды ідзе: пераважаюць у вёсцы пенсіянеры, старэюць хаты…

А пісьменнік Уладзімір Ліпскі «свой» дуб уратаваў! На пачатку года я рыхтаваў інтэрв'ю з ім у часопіс «Беларусь. Belarus» і пачуў ад вяскоўца: ён знайшоў сем цудаў у родных Шоўкавічах, што ў Рэчыцкім раёне. Напісаў пра іх у «Вясёлцы» — каб дзеці з маленства вучыліся нераўнадушна ўзірацца ў роднае наваколле. «Я, можа, яшчэ і больш зраблю, калі на тое будзе воля Усявышняга», — сказаў Уладзімір Сцяпанавіч. Ён ужо ўнёс прапанову раённым уладам: трэба ўшаноўваць памяць пра тыя вёскі, якія выміраюць. Цалкам згодзен я і з яго меркаваннем, што варта з часам распрацаваць ды прыняць спецыяльную Дзяржаўную праграму, каб памяць пра вёскі жыла.

Тым жа заклапочаны і пісьменнік Анатоль Статкевіч-Чабаганаў, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва. Па сутнасці, уся яго велізарная праца над кнігамі «Я — сын Ваш» з серыі «Летапіс беларускай шляхты» — гэта стварэнне адметных гістарычна-літаратурных помнікаў як людзям, так і паселішчам, з якімі спалучаны іх лёсы. А нядаўна Анатоль Васільевіч падараваў мне выданне «Маляваныя сны Паўла Марціновіча», пра аднаго з вядомых майстроў інсітнага мастацтва Беларусі. У артыкуле «Мастак з роду Марціновічаў» пісьменнік успамінае: «У дзяцінстве, жывучы ў бабулі Марыі Статкевіч у Засмужжы, што на Любаншчыне, я бачыў у многіх вясковых хатах дзівоснай прыгажосці маляваныя дываны. Былі такія дываны і ў нас. Захаваўся фотаздымак, дзе я ў піянерскім гальштуку каля маляванага дывана. З малых гадоў я ведаў, што аўтар гэтых палотнаў наш адавясковец Павел Марціновіч, бачыў, як у вёсцы ганарацца так званымі маляванкамі».

**Ёсць купалаўская Вязынка, коласаўскія Акінчыцы, танкаўская Пількаўшчына, мележаўскія Глінішчы, а на месцы куляшоўскіх Саматэвічаў — голае поле**

**Маючы памяць, мы мацней стаім на гэтай палітай потам і крывёю бацькоў і дзядоў зямлі. Несумненна, людзі творчыя шмат могуць зрабіць, каб на месцы малых, але блізкіх і дарагіх нам вёсак не было дзікага поля**

Паказальна, што каштоўны, багата ілюстраваны, альбом, у якім нямала здымкаў ды амаль паўсотні рэпрадукцый ярка-квяцістых дываноў, макатак, карцін таленавітага вясковага мастака — плён працы энтузіястаў. «Помнік майстру», як і вёсцы Засмужжа, рабіўся дружнай талакой. Ён выдадзены за кошт сродкаў Мінскага аблвыканкама і Любанскага райвыканкама, з удзелам Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, з артыкуламі начальніка аддзела культуры Любанскага райвыканкама Васіля Каткаўца, навукоўца з Нацыянальнай акадэміі навук Ірыны Смірновай і загадчыка арганізацыйна-творчага аддзела Любанскага раённага цэнтра культуры Сяргея Выскваркі.

…Неяк я замаўляў, а потым і рыхтаваў да друку ў ранейшы, «шабалінскі», часопіс «Беларусь» тэкст Анатоля Бутэвіча «У кожнага свае Баяры». Помніцца, на Нясвіжчыне, на месцы роднай вёскі, пісьменнік знайшоў у полі сукаваты кавалак бервяна ці шула: мусіць, прасмоленага жывіцай і таму ацалелага. «Усё травою парасло»… Што ж, нішто ў свеце не вечнае. Але, маючы памяць, мы мацней стаім на гэтай палітай потам і крывёю бацькоў і дзядоў зямлі. Несумненна, людзі творчыя, у першую чаргу пісьменнікі і журналісты, шмат могуць зрабіць, каб на месцы малых, але блізкіх і дарагіх нам вёсак не было дзікага поля. А як ушануем памяць пра вёскі-матулі, што сыходзяць у Вечнасць? Кожны — па-свойму: як можам, як умеем...

Уладзімір ЛІПСКІ

# НІКОЛІ НЕ ЗМОЎКНУЦЬ САЛАЎІ...



З нашага балота выцякае ручаёк, які пазначаны на карце Беларусі як рэчачка Стоўпінка. Яна ўпадае ў Сведзь, а тая — у Бярэзіну. Далей — Днепр і Чорнае мора. Дык вунь з якім светам звязаны мае Шоўкавічы!

Божа мой, а якія людзі жылі ў нашай вёсцы. Пра кожнага можна пісаць аповесці. Іх чысціня, мудрасць, святасць, адданасць зямлі і дзецям — узор высокай народнай педагогікі.

А дуб-волат на нашым агародзе! Дык з яго, аказваецца, пачынаецца Шоўкаўская дубрава, якая з'яўляецца помнікам прыроды. Я ж думаў, што дубрава адметная толькі крамянымі баравікамі, зялёнымі сыраежкамі, высокім папаратнікам ды арэхамі-лузанчыкамі.

У лепшыя часы ў вёсцы жыло больш за дзвесце чалавек. Цяпер толькі тры. Шоўкаўцы перасяліліся на пагост, а хаты пераехалі ў іншыя мясціны і сталі дачамі, лазнямі, гаражамі. Сумна. Горка. Балюча. І крыўдна, што ў хуткім часе на месцы хат зашумяць дубкі ды бярозы, сенажаць зарасце лазняком. Нават буслы перастануць масціць тут свае маёнткі. А каму дадуць канцэрты салаўі? Хто пацешыцца крумканнем жаб? Хто вылавіць у сажалцы вёрткіх уюноў?

Паўстае галоўнае пытанне: як пасяліць у знікаючай вёсцы Памяць?

Аднойчы я папрасіў вучняў вёскі Камсамольск, каб яны высадзілі ад дуба да вуліцы ліпавую алею. Я назваў яе Алеяй Памяці. На старых граблях вывесіў шыльду з прозвішчамі ўсіх Шоўкаўцаў, якія тут жылі: Ліпскія, Старжынскія, Палінскія, Мілюты, Бабічы, Кулачэнкі, Маркавы, Козыры…

Энтузіясты лясгаса паставілі новы плот з брамкай і лавай. А каля дуба — альтанку.

Вось такі просценькі мемарыял Памяці ўзнік у маіх Шоўкавічах. Яшчэ хачу ў пустуючай братавай хаце вывесіць у самаробных рамках фотаздымкі ўсіх шоўкаўцаў. Прыедзе нехта наведаць магілку бацькоў, радні і зойдзе ў хатку, якая захоўвае памяць і вобразы былых вяскоўцаў. А калі побач адновіцца калодзеж, то і зачарпне крынічнай вады. І ўсплывуць жывыя ўспаміны пра мілы сэрцу кут, над якім самыя высокія зоры.

Вёска была і ёсць захавальніцай духоўных народных скарбаў. Яна вылюляла шмат талентаў Беларусі ва ўсіх сферах чалавечай творчасці. Дык ці маем мы права пакінуць забытай гэту жыццёвую крынічку?

Чытаю ў «Маладосці» аповеды юных Валерыі Саротнік, Паліны Лук'яновіч пра вёску і мудрых бабуль. І ў сэрца маё ўліваецца спадзеўная энергая веры. Усцешваюся: жыла, жыве і будзе жыць яе вялікасць Вёска. Не забывайма адвечную пупавіну ўсея старажытнай матухны Беларусі!

***Праця́г «Тэмы» знойдзеце на новым сайце «Маладосці». Чытайце ў рубрыцы «Поўная версія» артыкул Надзеі Тачыцкай «Перад апошнім паваротам»***

# Бярозка

№ 7/2013(1022)











**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



# «Дарогі становяцца вузейшымі, калі мы вырастаем…»



Я прыйшла ў гімназію № 10, дзе вучыцца «зорачка» **Ліза БАЖКО.** І высветлілася, што гэтая «зорачка» — усмешлівая, адкрытая, шчырая дзяўчына. Сама яна характарызуе сваю творчасць даволі сціпла: «Я пішу простыя і зразумелыя песні пра тое, што ведаю і бачыла». Але ў гэтым і ёсць талент, каб простымі словамі перадаць глыбокую думку і схаваныя пачуцці. З цікавасцю ўслухоўваюся ў кожны радок і дзіўлюся, як тонка і дакладна дзяўчына адчувае навакольную рэчаіснасць. Вось, напрыклад, урывак з аднаго спеву Лізаветы: «Гэта няцяжка: прызнацца, даць слова. Цяжка потым адказваць за словы. Слова, ты з дзеяннем рэдка знаёма, дзеянне нібы зусім не ведае цябе».

Дзяўчына сур'ёзна разважае пра такія каштоўнасці, як жыццё, сям'я, сяброўства: «Я хачу, каб у будучыні ў мяне была вялікая сям'я, у якой панавала б паразуменне паміж бацькамі і дзецьмі. А яшчэ не магу ўявіць сваё жыццё без сяброў. Часта яны бываюць бліжэйшымі за сваякоў».

Калі Лізавету наведвае натхненне, то нараджаюцца не толькі вершы і музыка, але і новыя словы. Напрыклад, ёсць у яе рэпертуары песня «Маражыццё».

Акрамя сваіх уласных твораў Ліза выдатна спявае каверы вядомых музыкантаў. На канцэрце, дзе і я мела радасць папрысутнічаць, па просьбе гледачоў яна выканала некалькі песень з рэпертуару Земфіры. Аднакласнікі, сябры, настаўнікі не толькі слухалі музычныя нумары, але і з задавальненнем распавядалі пра паненку з гітарай. Пяць гадоў таму Ліза разам з сяброўкамі прыйшла ў школьны клуб аўтарскай песні.

— У той час быў вельмі папулярны серыял «Ранеткі», — распавядае яе педагог Наталля Паўлюшчык. — І мая новая вучаніца вельмі хацела навучыцца граць на гітары, як дзяўчынкі з гэтай групы. Яна нават развучыла іх песню «Зіма» і выконвала яе. Можна лічыць, што гэта быў яе першы досвед.

І вось... Ліза ўсё вучылася, вучылася і стварала, стварала! Дзяўчынцы не раз ўсміхаўся поспех: яна стала пераможцай рэспубліканскага фестывалю патрыятычнай песні, раённага конкурсу аўтарскай песні «Спяваем разам з сябрамі».

«Дарогі становяцца вузейшымі, калі мы вырастаем…», — яе вершы блізкія і зразумелыя мне.

*Вераніка СОНІЧ, 18 гадоў,*
*школа журналістыкі «Маладзік», Маладзечна,*
*фота Таццяны МУРЫЧЫНАЙ*

# Самы добры ў свеце тата

Сабачы брэх і віскатанне рэзка абудзілі мяне ў гэтую раніцу. Галава балела так, што хацелася выць разам з гэтымі сабакамі. У роце перасохла, перад вачыма ўсё плыло. Я ўзняўся з ложка і агледзеўся. Вакол былі драўляныя сцены, на падлозе ляжаў пыльны дыван, а насупраць мяне свяцілася маленькае акенца. І вось тут да мяне пачала вяртацца памяць. Я знаходжуся на лецішчы, а ўчора быў зусім дрэнны дзень. Я праваліў работу, над якой працаваў употай ад сям'і амаль што месяц, мяне звольнілі з працы, я моцна напіўся і пасварыўся з жонкай. Яна выгнала мяне з дому і давялося начаваць на лецішчы. Што рабіць далей? Думкі ў хворую галаву не ішлі… Толькі апаноўвала злосць, злосць на сябе і на ўвесь свет. Нават на Ганначку — маю маленькую пяцігадовую дачку. Чаму яна не заступілася за мяне?! Чаму глядзела, як на звера?!

Брэх на вуліцы то мацнеў, то сціхаў. Гэта мяне вельмі раз'юшвала. Што там робіцца? Заўсёды было ціха, а тут — як нечаканы ўраган. Трымаючыся за галаву, я павольна падышоў да акенца і глянуў у двор праз запыленае шкло. Праз дарогу стаяў вялізны дом. Раней ён быў закінуты і там ніхто не жыў, але цяпер каля яго стаялі машыны і хадзілі людзі. Яны ставілі агароджу, прыводзілі будынак у парадак, нешта насілі ў вялізных сумках і цягнулі за павадкі ў дом сабак. Сабак?!

Стук малаткоў, якімі забівалі слупкі ў зямлю, балюча аддаваўся ў маёй галаве. Я не вытрымаў і вырашыў пайсці разабрацца, што гэта там такое адбываецца. Глынуў вады, апрануўся і выскачыў з хаты.

Калі я зайшоў у дом, поўны брэху і злоснага кацінага шыпення, першым, хто трапіў мне на вочы, быў маленькі абдзёрты сабачка, які сумнымі вачыма глядзеў на мяне — у самую глыбіню душы. Я застыў на месцы на нейкую долю секунды. Трэба было знайсці чалавека, які ўсё гэта заварыў. У канцы калідора былі дзверы з шыльдачкай «Дырэктар». Туды я і зайшоў.



— Я вас слухаю, — сказала жанчына сталага веку ў светлым адзенні. Яна сядзела за сталом і запаўняла нейкія бланкі.

— Выбачайце за нахабства, але што гэта вы тут выражляеце такое?

Жанчына з цікавасцю на мяне паглядзела, адклала паперкі ўбок і запыталася:

— Як вас завуць, мужчына? І адкуль вы?

— Сяргей Міхайлавіч. Я ваш сусед, жыву насупраць... пакуль што. І я не разумею, што тут адбываецца.

— Тут адкрылі прытулак для жывёл, Сяргей Міхайлавіч. Тыдзень таму мы атрымалі дазвол на дзяржаўным узроўні. Гэта першы прытулак такога характару, — спакойна, але з гонарам адказала жанчына.

— Навошта ён патрэбен, гэты ваш прытулак? Жылі без яго добра і далей будзем жыць! — са злосцю сказаў я і падумаў, што такога суседства толькі мне і не хапала.

Жанчына ніколькі не абурылася, толькі неяк дзіўна на мяне паглядзела і адказала:

— Вы ведаеце, колькі жывёл не маюць дома ў нашам горадзе? Людзі не клапоцяцца пра іх. Адстрэльваюць. Забіваюць! А гэта ж ЖЫВОЕ! Яны часам бываюць разумнейшымі за людзей і нашмат больш добрымі. Тут, у прытулку, мы будзем трымаць іх некаторы час, карміць, даглядаць і шукаць ім новых гаспадароў. Калі жадаеце, можаце ўладкавацца да нас на працу. Будзем удзячныя. Часу ў жывёл няшмат, і трэба спяшацца рабіць для іх дабро.

— Буду я яшчэ рабіць ім добра, калі ў самога праблем хапае, — сказаў я, развярнуўся і пайшоў дадому.

Прысеўшы на канапу, вырашыў, што трэба зноў выпіць, бо галаўны боль не даваў спакою. Але раптоўна ў мяне перад вачыма паўстала такая выява: маленькі абдзёрты сабачка з жаласлівым поглядам. Ён быццам маліў: «Дапамажыце мне!» Я ўспомніў сваю дачку, як яна плакала і прасіла: «Татачка, ну давай возьмем жывёлінку ў дом». Я ледзь не заплакаў сам. Слёзы гатовы былі пакаціцца па шчаках, але ад іх наўрад ці стала б лягчэй. Што робіцца ў гэтым свеце? Дзеля чаго мы ўвогуле жывём? Мы павінны рабіць дабро, а замест гэтага сварымся, злуемся, хлусім, забіваем... Так жа нельга! Сапраўды, «нашто ж на зямлі сваркі ды звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?!»

Як звар'яцелы, я ўсхапіўся з канапы і бегма кінуўся ў прытулак. Я зразумеў: гэта само жыццё дае мне магчымасць нешта ў сабе выправіць, нешта наладзіць.

* * *

Праз тыдзень працы на новым месцы я вяртаюся дадому. Ды не адзін. У мяне на руках сядзіць рудое кацянятка — падарунак для маёй Ганначкі.

Дзверы ў кватэру адчыніла Зося, мая жонка. Яна моўчкі на мяне паглядзела, а я сказаў:

— Прабач мне, любая. Больш ніколі такога не будзе. Абяцаю табе.

— Я так сумавала, — яна распачала абдымацца.

З дзвярэй выбегла Ганначка і закрычала:

— Татачка, ты вярнуўся! Мне было так сумна без цябе!

— Дарагая мая, я так цябе люблю, ты — маё сонейка маленькае. Глядзі, каго я табе прывёз!

Дзяўчынка на момант здзівілася, потым запляскала ў ладкі, пацалавала мяне і ўзяла на ручкі маленькае кацянятка:

— Татачка...Ты самы добры тата ў цэлым свеце!

Як лёгка, аказваецца, зрабіць добрае, лёгка і важна!

*Ганна ШЫБУТ*

# Яе чарговы дзень народзінаў



Прачнулася сонейка. За акном стаў праглядацца далікатны світанак. У пакоі ўсё яшчэ ўтульная цішыня. Цудоўны маленькі свет. У ім усё самае лепшае здараецца нечакана. Раптоўна шчасце накрывае хваляй і паглынае дарэшты.

— Добры дзень! — сказала Ліза сама сабе. Усміхнулася ў люстэрка і, скачучы, пайшла мыцца.

Вясновае паветра, якое трапляла ў кватэру з прыадчыненага акна, даравала празрыстую лёгкасць. Для поўнай карціны радасці не хапае надзіманага шарыка, ледзянца і дзвюх ахайна заплеценых кос.

Не здраджваючы сваёй звычцы хадзіць пешшу, Ліза выпраўляецца ўпрыгожваць свет усмешкай. Вуліцы паступова ажываюць. Чым бліжэй да месца працы, тым больш мінакоў. А вось і прыпынак «Праспект Незалежнасці». З аўтобуса выходзяць людзі. Мітусня, нервовыя воклічы: горад прачнуўся. Думкі перапыніў рэзкі штуршок у плячо, і ўсё, што было ў торбе, паляцела на асфальт. «Напэўна, чалавек вельмі спяшаецца, што нават прабачэння не папрасіў...»

У офісе Лізу сустрэў ахоўнік з шарыкам. Мала сказаць сустрэў — ён урачыста павіншаваў яе з днём народзінаў і пажадаў выдатна правесці дзень.

— Гэта ж трэба! Я і забылася, што ў мяне сёння свята! Велізарны дзякуй, Мікалай Мікалаевіч.

Лесвіца. Пяты паверх. Калідор. Падазроная цішыня. У сваім кабінеце яна пабачыла калег, якія акружылі ўвагай: віншаванні, падарункі... Нечакана падкраўся чарговы дзень народзінаў. Гэта нагода падумаць пра тое, што адбылося за апошні час, узважыць усё і... Смс прыйшла! «З днём народзінаў, дачушка! Рабі тое, што іншыя не хочуць рабіць, таму што праз дзень ты будзеш




рабіць тое, што іншыя не могуць!»

Праз хвіліну на экране мабільнага высвечваецца: «Выклікае Адзіны». Віншаванне ад каханага не прымусіла сябе чакаць. Усмешка не сыходзіла з твару Лізы да таго часу, пакуль не прагучала фраза: «Хутчэй за ўсё мы не ўбачымся». Ліза больш не чула нічога: ні тлумачэнняў, ні апраўданняў — усё гэта пралятала міма яе...

Частыя камандзіроўкі Канстанціна вучылі кахаць на адлегласці. Ліза жыла чаканнем іх сустрэч. Ён абяцаў, што ў яе дзень народзінаў будзе побач. Гэта быў бы лепшы падарунак... Крыўда. Расчараванне... Застыла ля акна. Тэлефон выпаў з рук. Шэра і пахмурна. Але гэта не параўнаць з тым ураганам, што быў унутры Лізы. Адцягнуцца ад сумных думак і супакоіцца дапамагла праца. Яе накрыла хваля крэатыву — дзяўчына цалкам аддалася творчасці. Увечары, развітаўшыся з калегамі, спускаецца ў фае. З галавы не выходзіць Косця: «Як ён мог так паступіць? Сапсаваць дзень. Ненавіджу цябе, Косця, і тваю працу!» І раптам... Цюльпаны! Ярка-жоўтыя і чырвоныя. Такога сюрпрызу яна ніяк не чакала. Косціна ўсмешка скрозь букет — так міла і кранальна. Якое задавальненне бачыць, што чалавек з такой жа радасцю, як і ты сам, ляціць у абдымкі. Самкнуліся рукі. Адчуванне водару яго парфумы і любімых цюльпанаў, цеплыня яго цела і пяшчота. Самкнуліся вусны...

...Лізу разбудзіў шарык, які лопнуў. Ён быў сведкам нядаўняга свята, а цяпер — усяго толькі шматок чырвонага колеру. Чаму ж ён лопнуў? Гэта засталося загадкай.

***Кацярына ЛЯСУН, 18 гадоў, Магілёў***



# Тутэйшая ідэнтычнасць

***Вядомы беларускі мастак, музыка і этнакультуролаг Тодар Кашкурэвіч распавёў пра свой шлях ад візуальнага мастацтва да музыкі, захапленне дудой, сучаснае беларускае мастацтва і пра дзядзьку з банцікам. Размова атрымалася надзвычай цікавай і насычанай разважаннямі.***



**— Вы нарадзіліся ў сям'і мастака, і, безумоўна, гэта на вас паўплывала. Але чаму вы абралі менавіта мастацтва, як прафесію? Ці быў гэта асэнсаваны выбар?**

— Па-першае, я сапраўды пайшоў адразу па шляху маёй сям'і, майго бацькі. Разам з братам мы скончылі ўсе мастацкія школы, якія толькі можна: і вучылішча, і мастацкую акадэмію. У 80-х гадах нават рабілі гучныя акцыі авангарднага мастацтва. Але потым лёс склаўся іначай. Ад пэўнага часу я перастаў займацца мастацтвам у традыцыйным сэнсе (карціна, жывапіс, манументальнае, роспіс), але працягнуў займацца мастацтвам у іншых галінах. Гэта можна абазначыць, як культуралагічная дзейнасць. Мы з сябрам Сяргеем Сянько, філосафам і культурологам, стварылі цэнтр этнакасмалогіі «KRYŬJA». Гэта цэнтр, які займаецца даследаваннем дахрысціянскай культуры Беларусі, яе этнічнай гісторыі, міфалогіі, а таксама ініцыятывамі ў плане музыкі, візуальнага мастацтва, дызайну і стылю. І гэты творчы кірунак стаў мне больш цікавы, чым жывапіс.

**— Як і чаму вашу ўвагу прыцягнула менавіта дуда?**

— Усё пачыналася ад самага простага. Калі яшчэ я быў маладым рамантыкам мастацтва візуальнага, тады я ўжо на нейкіх дудачках граў, і для мяне

гэты гук быў вельмі істотным. Былі выкладчыкі, якія мяне натхнілі рамантычна да народнай культуры, да хрысціянскай культуры Беларусі. Вось гадоў 10, 15, 20 я на гэтай дудачцы граў. Мне гэты гук патрэбны быў не менш, чым фарба і пэндзаль. І так сталася, што досыць даўно я пазнаёміўся з мастаком Алесем Ласём. Ён мастак-графік, але ад самага пачатку займаўся таксама і тэатральнай культурай. Ён быў першым, хто стаў рабіць батлейку і адраджаць народныя музычныя інструменты. Мы былі, з аднаго боку, мастакамі, а з другога — сімпатантамі народнай этнічнай культуры. А тут яшчэ мой знаёмы аднаўляў дуды і ліры. Для мяне гэта была вялікая інспірацыя. Я кажу: «Алесь, дапамажы. Хоць пару гукаў мне надудзі, каб я сыграў». Вось ён мне і дапамог. Даў мне першую школу ў вырабе інструментаў. Ну а потым сур'ёзна заняўся гэтай тэмай: вывучэннем дуды і дударскай традыцыі ў Беларусі, авалодаў гэтым інструментам. І для мяне жыць з гукам стала больш істотным і каштоўным, чым маляваць карціны.

**— Кажуць, таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Як вы лічыце, ці існуюць рэальныя межы паміж рознымі кірункамі мастацтва для сапраўднага мастака. Ці можа музыка не цікавіцца паэзіяй, а скульптар тэатрам?**

Я ўдакладню, што справа не ў таленавітасці людзей, а ў выхаванні пэўнага тыпу мыслення, у адукаванасці. Парадокс, асабліва беларускай сітуацыі, у тым, што музыканты нічога не разумеюць у мастацтве візуальным, гісторыі мастацтва. Мастакі не ходзяць на канцэрты, хаця ў нас выдатныя класічныя музыкі з кансерваторыі, з філармоніі, адмысловыя музыканты, літаратары таксама не цікавяцца візуальным мастацтвам. Для мяне, напрыклад, гэта факт вельмі моцнай дэградацыі беларускай культуры. Справа ў тым, што мастацтва ствараецца для ўсіх людзей, а не толькі для саміх сябе. Нават паміж нашымі мастацкімі цэхамі і тое ўзаемадзеяння няма. Тое ж самае пытанне, чаму фізікі не слухаюць музыкі, не ходзяць на выстаўкі, чаму чыноўнікі нашыя хутчэй пойдуць у казіно, ці ў які-небудзь клуб, а не на сапраўдны канцэрт? Гэта праблема нашай, скажам так, беларускай ментальнасці, ці таго культурнага зрэзу, які ў нас, на жаль, усталяваўся. Таму пытанне не ў таленавітасці людзей, якія вымушаны займацца мастацтвам у розных напрамках, а ў незадаволенасці тым, што гэта павінны былі зрабіць іншыя. Вось каб нехта зрабіў дуды і граў, я б не рабіў бы дуды, я б слухаў, каб нехта адрадзіў музыку аўтэнтычную, або зрабілі джаз-фолькавыя ці рок-фолькавыя праекты, я б хадзіў і слухаў, каб зрабілі даследы ў плане этнічнай культуры і міфалогіі, я б чытаў гэта. Але ўсяго гэтага няма, і я быў вымушаны заняцца ўсімі кірункамі. Канешне з калегамі, я ж не кажу, што сам. І вось не талент, а незадаволенасць ад таго, у якім свеце ты жывеш, вымушаюць займацца ўсім адразу.

**— Як вы лічыце, чаго яшчэ не хапае беларускім мастакам і наогул мастацтву ў нашай краіне для таго, каб далей развівацца?**

— Гэта не зусім правільнае пытанне, таму што беларускае мастацтва на вельмі добрым узроўні і мае высокі рэйтынг ва ўсходняй і цэнтральнай, заход-

няй Еўропе. Ёсць розныя кірункі: традыцыйнае і класічнае мастацтва, акадэмічнае, рэалістычнае і авангарднае. Усе яны развіваюцца. Тут да беларускага мастацтва пытанняў няма. Ёсць пытанне да таго, што гэтае мастацтва вельмі слаба рэзануе ў грамадстве. Праўда? Навошта трэба ствараць пэўныя мастацкія творы? Каб гэта ўплывала на фарміраванне, удасканаленне свядомасці людзей, грамадзян краіны. Калі звязкі гэтай няма, яно вельмі шмат робіць ухаластую.

**— Які час вы лічыце самым удалым для беларускага мастацтва і чаму?**

— Я скажу, што самыя моцныя рэчы ў мастацтве былі зроблены ў Беларусі ў 70—80-х гадах мінулага стагоддзя. Так, гэта быў савецкі час, савецкая дыктатура, як кажуць «застойныя часы». Тым не менш, можа, з-за неазадаволенасці ідэалогіяй, стылем, нацыянальнай палітыкай, але ўзнікалі розныя групы і персанальныя мастакі, якія стварылі вельмі дастойны вобраз краіны. Гэта ў кніжнай графіцы асабліва было відавочна. Яны стварылі беларускі стыль для ўнутранага ўжытку. За той час нам не сорамна. Цяпер усё змянілася. У нас вельмі шмат таленавітых сучасных мастакоў у розных галінах, скажам, у вядучых тэндэнцыях, але яны не працуюць на беларускі стыль. І калі ранейшыя мастакі стваралі пазнавальнасць нашай краіны, то маладыя сучасныя мастакі проста ўпісваюцца ў трэнды сусветнай культуры, не адлюстроўваючы, не рэалізоўваючы нічога свайго. У Італіі, Германіі ці Амерыцы гэтыя мастакі будуць непазнавальнымі. Мне асабіста гэта не цікава. Мая пазіцыя — стварэнне тутэйшай ідэнтычнасці: стылістычнай, архітэктурнай, дызайнерскай, вобразнай, музычнай. Стыль інтэрнацыянальны я лічу варожым для нашай краіны. І гэта ілюзіі, што мы будзем у Еўропе. Мы будзем там безаблічнымі. Я наадварот буду адстойваць заўсёды ідэнтычнасць і стылістычную своеасаблівасць гэтай краіны ў любых формах: ці гэта будзе візуальная культура, ці музычная. Але не думайце, што я нейкі рэтраград, які цягне ў лапці, ці ў XVIII стагоддзе. Не, гэта заўсёды будзе сучасна.

**— А што з сучасных кірункаў музыкі вас цікавіць?**

— Насамрэч, у музыцы адбываюцца вельмі цікавыя працэсы. Апрача ўсім вядомых трэндаў рокавай, папулярнай рускай, еўрапейскай і амерыканскай культуры, на самай справе ў свеце адбываюцца музычныя працэсы вельмі цікавыя і адметныя. Напрыклад, ужо распаўсюджаны стыль пост-фольковых па ўсёй Еўропе, рок-фолькавых, джаз-фолькавых, авангардных фолькавых праектаў. Электроніка ўжо дае таксама вельмі цікавыя прыклады. Іншая справа, што гэтая музыка існуе, яна вельмі моцная, але, на жаль, не створаны інстытуты, каб гэтую музыку папулярызаваць у нашай краіне. Гэтым ніхто не займаецца: ні дзяржаўныя СМІ, ні недзяржаўныя. Усе, умоўна кажучы, косяць бабло. Таму што круціць, скажам, рускую музыку ці рокавую, папсу ці еўрапейскую, за гэта будуць плаціць грошы. За сапраўдную, сур'ёзную музыку ніхто грошы не будзе плаціць. Таму нават і канцэрты не робяцца, таму ніхто і не прыязджае да нас.

**— А як вы ставіцеся да электроннай музыкі?**

— Я помню першыя электронныя праекты 80-х: быў такі нямецкі гурт Kraftwerk, які пачаў гэтую музыку рабіць. Потым вельмі прыстойны быў гурт, які і сёння існуе, Depeche mode. Пры ўсёй нежывой прыродзе гуку, але яны здолелі жывую эмоцыю тады ўжо даць. І на той час я маладзейшы быў намнога, мне падабалася. Канешне, з аднаго боку, уся гэтая «лічбавая культура» (электроніка, камп'ютары і г.д.), па вялікім рахунку, для мяне не можа ніколі стаць нечым святым і сакральным. З іншага боку, у сферы электроннай музыкі адбываюцца вельмі цікавыя эксперыменты, і яна, хочаш не хочаш, становіцца рэаліяй нашага жыцця. Нават мы з жонкай, жывучы ў хаце ў мястэчку, шэраг праектаў слухаем. Што цікава? Што электроніка электроніцы розніца. Самыя сучасныя электронныя кірункі займаюцца не электроннымі тэмбрамі, не электроннай фактурай і палітрай, а запісваюць розныя рэальныя фактуры, а потым кампануюць іх ўжо ў музычны твор. Гэта можа быць журчанне ручая, карканне вароны, шаргатанне саломы, сена, розныя галасавыя гукі, этнічныя. Вось і тут электроншчык ужо кампазітар, які мае ў сваім наборы гэтыя прыродныя рэчы, якія ён потым арганізоўвае ў пэўныя свае кампазіцыі. У гэтым плане я лічу, што мы назад не вернемся і гэта вельмі прадуктыўны кірунак.

**— Зразумела, што ў кожнай творчай асобы некалі ўзнікаюць творчыя цяжкасці. Няма ідэй ці натхнення. Што ў такія часы надае вам моцы?**

— Вялікая памылка лічыць, што мастак стварае, толькі калі ў яго ўзнікае натхненне (гэта такі дзядзька з банцікам вялікім), ці калі на яго анёлак нейкі прысядзе, у яго з'яўляецца натхненне на творчасць. Мой тата, Арлен Кашкурэвіч, заўсёды казаў, што мастацтва ў любой форме — гэта вельмі цяжкая праца. І гэтыя словы мяне закадзіравалі на ўсё жыццё, чым бы я ні займаўся. Няма чаго чакаць натхнення. Мастацтва, культура — гэта адказная, сур'ёзная і цяжкая праца. Ёй трэба проста займацца, як агарод капаць, пілаваць дровы, печку паліць. Ну, а калі зусім натхнення няма, тады сапраўды іду агародам займацца.

*Ганна КАЛІНОЎСКАЯ*



# Спявалі ля вогнішча піянерскія песні...



***А вы памятаеце, што калісьці ў свеце былі піянеры? Магутная, паважаная плынь. Не, вядома, не памятаеце, але ж чыталі, бачылі ў кіно, чулі. Усесаюзная піянерская арганізацыя імя У. І. Леніна была створана 91 год таму — 19 мая 1922 года. І ў выніку гэтага ў Савецкім Саюзе з'явілася новая прафесія — піянерважаты. Пра тое, як быць піянерважатай, мне распавяла Валянціна Філонава.***

**— Раскажыце, як вы прыйшлі да сваёй прафесіі.**

— Я нарадзілася ў Талачыне, у 1950-м годзе пайшла ў першы клас. У вучобе нічым не адрознівалася ад сваіх аднакласнікаў, больш за ўсё любіла ўрокі фізкультуры. Калі стала больш дарослай, пачала займацца спортам сур'ёзней: удзельнічала ў спаборніцтвах. Памятаю, што нават на выпускны мне трэба было ехаць на рэспубліканскія спаборніцтвы па кіданні кап'я! Але ж, паразважаўшы, вырашыла, што выпускны — раз у жыцці, а спаборніцтвы яшчэ будуць. Увогуле, мне ўсе віды спорту даваліся лёгка. Настаўнікі пасля заканчэння школы раілі стаць спартсменкай, ды і ў самой душа да гэтага ляжала. Але ж калі перада мной сур'ёзна паўстаў выбар будучай прафесіі, то ад свайго захаплення — спорту — я адмовілася. Падумала, што спартыўная кар'ера ўсё ж занадта цяжкая для дзяўчыны. Потым даведалася, што ў школу патрабуюцца піянерважатыя. Параіўшыся з роднымі, прыйшла да высновы: мне гэтая прафесія падыходзіць.

**— Якія мерапрыемствы вы арганізоўвалі, чым займаліся разам з піянерамі?**

— Мы праводзілі спаборніцтвы сярод школ па зборы макулатуры і металалому, наша школа № 2 заўсёды была ў ліку пераможцаў. Былі канцэрты самадзейнасці, канцэрты: «А ну-ка, хлопчыкі!», «А ну-ка, дзяўчынкі!». Усе разам мы дапамагалі пенсіянерам і ветэранам вайны па гаспадарцы. Больш за ўсё падлеткі любілі паходы разам са мной: мы пешшу ішлі да вёскі Маляўка, там ставілі намёты, спявалі ля вогнішча піянерскія песні, ночылі там, а раніцою вярталіся дадому. Часта гулялі ў футбол. Я не ставіла сябе вышэй за вучняў, была з імі на роўных. І цяпер усміхаюся, калі ўзгадваю, як стаяла на варотах і крычала: «Бі!» Дзеці не адчувалі перавагі перад імі, я для іх заставаліся сябрам.

**— Ваш піянерскі стаж — 37 гадоў. Ці не ўзнікала думкі за ўвесь гэты час змяніць працу? Ці не надакучвала адно і тое ж?**

— Не, ні разу я не засумнявалася, што піянерыя — гэта не маё. Калі мне трэба было ісці на пенсію, то ўсе настаўнікі здзіўляліся: «Куды ты, такая маладая?» Вось я і засталася працаваць яшчэ на пяць гадоў. Непаразуменні паміж мной і дзецьмі не ўзнікала ніколі. Нават цяпер, праз шмат гадоў, сустракаючы мяне, вітаюцца, узгадваюць, як іх у піянеры прымалі. Завуць мяне «наша важатая».

**— А як развіталіся з дзецьмі, калі сыходзілі на пенсію?**

— Спачатку цяжка было. Але потым я замяніла працу іншымі заняткамі, і добра стала.

**— Што зараз робіце, знаходзячыся дома?**

— Працягваю займацца спортам. Яшчэ калі працавала, прымала ўдзел ва ўсіх спаборніцтвах, была капітанам каманды настаўнікаў па валейболе. Часта сам старшыня журы пасля спаборніцтваў падыходзіў да мяне і казаў: «Еўдакімаўна, а ты ўсё такая ж маладая!» Аднак гады два ўжо не гуляю. Недалёка ад горада ў мяне ёсць лецішча, езджу туды на ровары. Мне прыемна, што пра мяне не забываюць — запрашаюць у школу. Але я не прыходжу.

**— Чаму? Вам там сапраўды былі б вельмі рады!**

— Чаму не прыходжу, нават не ведаю. То ў мяне не атрымліваецца, то проста не хочацца. Але жыццём школы цікаўлюся, заўжды чытаю раённую газету, бачу, што школа наша ідзе ў перадавых.

**— На вашую думку, піянеры, з якімі працавалі вы, і піянеры, якія ёсць цяпер, моцна адрозніваюцца?**

— Так, моцна! Я часта пытаюся ва ўнучкі, якія мерапрыемствы ў іх праходзяць, ці дапамагаюць яны старым. Нешта распавядае, але ўсё не так, як у нас было, не так сур'ёзна. Раней піянеры выконвалі кожнае даручэнне, для іх была важная дысцыпліна, яны сачылі за вучобай. Званне піянер раней было ганаровым, а цяпер страціла свой прэстыж.

**— Калі б цяпер вам прапанавалі зноў стаць важатай, пагадзіліся б?**

— Не, ужо няма той энергіі, якая была ў маладосці, і дзеці цяпер любяць тых, хто маладзейшы.

**— Што б вы пажадалі чытачам?**

— Мне 63 гады, але я не старэю душой, адчуваю сябе маладой. Пакуль я нешта ўмею, пакуль у мяне ёсць сілы, ёсць сэнс працягваць жыць! Хацелася б, каб людзі прымалі актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, каб дарослыя падавалі сваімі паводзінамі прыклад дзецям і падлеткам. А дзеці і падлеткі, хацелася б, каб займаліся спортам!

***Святлана СМЫК, 17 гадоў, Талачын,***
***фота з архіваў Валянціны ФІЛОНАВАЙ***

# Цудадзейнасць гістарычнай мастацкай мапы

***Калі гаворым ці чуем слова «мапа», дык перш за ўсё ўяўляем нейкую графічную крыніцу, звяртаючыся да якой, маем мажлівасць атрымаць уяўленне пра месца знаходжання пэўнага аб'екта. Зрэдку можна пачуць такое цікавае спалучэнне слоў, як «мастацкая мапа». І тут ужо размова вядзецца пра мапу, на якой адметнасці пэўнай тэрыторыі падаюцца гледачу з дапамогай сродкаў выяўленчага мастацтва. На мастацкай мапе не проста кропка з пазначэннем назвы населенага пункта, а намаляваны лясы, горы, прадстаўнікі жывёльнага свету, гістарычныя постаці, помнікі архітэктуры, якія з'яўляюцца ўвасабленнем таго ці іншага месца. Па рацэ тут можа плыць човен, а на абшарах палёў працаваць земляроб. Такія мапы перш за ўсё маюць пачуццёва-эмацыйны характар.***

Гістарычныя мастацкія мапы складаюць вельмі малую, але адмысловую частку. Гэта такія мапы, якія адлюстроўваць пэўную тэрыторыю ў канкрэтна вызначаны гістарычны перыяд. Ужо на працягу некалькіх гадоў я малюю менавіта такога кшталту мапы і, на мой погляд, працу гэтую можна лічыць вынаходніцка-даследчыцкай. Яна пачынаецца з вывучэння гістарычнага перыяду, аналізу меркаванняў даследчыкаў, у тым ліку і супрацьлеглых поглядаў, адсеву непатрэбнага матэрыялу і вызначэння неабходнага. А ў тых момантах, дзе гісторыя пакідае спрэчныя, нявызначаныя пытанні, альбо там, дзе з'яўляюцца так званыя «белыя плямы», на дапамогу прыходзіць уласная інтуіцыя. Напрыклад, гістарычныя крыніцы (малюнкі, гравюры) і сучасныя макетавыя выявы не захавалі вонкавага выгляду пэўнага месца («месцам» я буду называць горад) альбо мястэчка. Можа, ёсць выявы XVIII стагоддзя, але ж мне патрэбны






выгляд XIV ці пачатку XV стагоддзя. У гэткім выпадку сам малюю выяву замка ці месца, якім яно магло б быць, безумоўна, улічваючы архітэктурны стыль і тэхналогію будовы дадзенага гістарычнага перыяду. Няма сумневу ў тым, што прыдзірлівы гісторык можа «прычапіцца» да такой выявы, зыходзячы з асабістых поглядаў на тыя часы. Але што зробіш? Кожны мае права на ўласнае меркаванне, і чаму б не выслухаць яго слушную параду ці заўвагу?

Увогуле, стваральніку мастацка-гістарычнай мапы трэба быць вельмі асцярожным. Знешні выгляд месца XVI стагоддзя не павінен мець намаляваных пабудоў, дабудоў і перабудоў, якія адбыліся ў далейшыя часы, нават калі сёння яны засталіся адзінымі гістарычнымі адметнасцямі і гонарам жыхароў таго населенага пункта. А сярэднявечны рыцар не можа быць намаляваны ў вопратцы, якая з’явілася толькі праз трыста гадоў.

Такім чынам, праз эмацыйнае ўздзеянне, заварожваючы, мастацка-гістарычная мапа абуджае цікавасць да мінулага. Яна быццам бы дае мажлівасць узняцца над зямлёю ў паветра і з вышыні акінуць вокам гістарычнае мінулае: дазнацца, якія былі дзяржавы, пазнаёміцца з вонкавым выглядам месцаў, замкаў, палацаў, стылем вопраткі...

Вельмі люблю мастацкія мапы!

*Ян МЯЛЬНІЦКІ, малюнкі аўтара*



● **Дынамік**

# «Зрабі гучней!»



***Калі вы спытаеце, хто разумее мяне лепш за ўсіх, то ў адказ пачуеце — музыка. У кожнага яна свая. Гэта залежыць ад самога чалавека, ад яго ўнутранага свету. Музыка — гэта для мяне шлях, які мы выбіраем самі. Сваю перавагу я аддала рок-музыцы...***

Цікавасць да гэтага стылю прыйшла сама па сабе. Напэўна, аднекуль з глыбіні душы ўзнялася. Справа ў тым, што ў дзяцінстве я была вельмі ціхай і сціплай дзяўчынкай, якую лёгка пакрыўдзіць. Але аднойчы я ўпершыню пачула гукі ў стылі «рок» і ўсвядоміла, што гэта тое, што зменіць мяне і маё жыццё. Усё так і здарылася. З часам з'явіліся новыя сябры-аднадумцы. Мы абмяркоўваем кожны новы спеў любімых рок-выканаўцаў і жывём, атрымліваючы асалоду ад кожнага дня. Гэтая музыка змяніла мяне цалкам, зрабіўшы больш моцнай і ўпэўненай, навучыўшы быць сабой і не баяцца выказваць уласнае меркаванне. У мяне з'явіліся мэты, да якіх настойліва іду. Дзякуючы рок-музыцы, я ўмею годна прайграваць і ўставаць з каленяў пасля няўдач. І больш за ўсіх у гэтым мне дапамагае музыка майго улюбёнага гурта Louna.

Калектыў складаецца з пяці музыкантаў: вакалістка Лу (Лусінэ Геваркян), басіст Віт (Віталь Дземідзенка), гітарысты Рубэн Казар'ян і Сяргей Панкрацьеў, а таксама бубнар Пілот (Леанід Кінзбурскі). Гэтыя таленавітыя людзі сабраліся разам, «каб не толькі зараджаць слухача сваёй музыкай, але і прымушаць думаць». Яны адкрыта выказваюць свае развважанні ў песнях і закранаюць тэмы, якія хвалююць увесь свет: воля, роўнасць, братэрства, каханне... Да прыкладу, спеў «Супраць усіх». У ім пратэст перадаецца праз вобраз сучаснага маладога чалавека, у якога былі свае мары, але, убачыўшы бруд і жорсткасць навакольнага свету, ён ідзе вайной супраць усіх і змагаецца за сваё меркаванне.

Творчасць гурта складана аднесці да нейкіх пэўных жанравых азначэнняў і штампаў. Па меркаванні ўдзельнікаў калектыву, «гэта самабытная і незвычайная сумесь з альтэрнатыўнага рока, пост-гранжа і панка, запраўленая ўсходняй этнікай і даведзеная да кіпення адкрыта вострымі тэкстамі ў пранізлівым




выкананні Лу. Па-сапраўднаму новае музычнае адлюстраванне навакольнай рэчаіснасці».

Яшчэ больш захапляцца гэтым калектывам я стала пасля наведвання іх канцэрта. Louna прадстаўляла свой новы альбом «Час Х», у які ўвайшлі лепшыя кампазіцыі: «Жэсты», «Людзі глядзяць уверх», «Мама», «Ноч, дарога і рок», «Штурмуючы нябёсы». Дзіўна, але клуб быў перапоўнены прыхільнікамі рознага ўзросту. Як толькі гурт выйшаў на сцэну, публіка проста запалала захапленнем. Колькі эмоцый і адрэналіну выканаўцы перадалі праз сваё выступленне мне і астатнім гледачам! Музыканты не толькі зараджалі велізарнай энергетыкай. У той вечар усе мы былі адной вялікай сям'ёй. Прыхільнікі перадавалі сваю любоў праз захапляльныя слэмы, а рок-калектыў цешыў нас жывым голасам, усмешкамі, музыкай, якая прымушае сэрца біцца мацней.

Выступленне, якое адбылося 23 мая 2009 года ў маскоўскім клубе «Кропка», лічыцца датай афіцыйнага дня нараджэння групы Louna. Пасля гэтай падзеі ў іх з'явілася мноства адданых прыхільнікаў. У хуткім часе на тэлеканале A-one адбылася прэм'ера дэбютнага відэакліпа на песню «Армагедон», а сам калектыў быў уключаны ў спісы намінантаў прэміі RAMP (Rock Alternative Music Prize) у намінацыі «Адкрыццё года», у якой і стаў пераможцам.

Дэбютны альбом «Зрабі гучней!» (2010) выклікаў велізарную цікавасць публікі нестандартным музычным матэрыялам і яркай выяўленай сацыяльнай пазіцыяй музыкантаў. Вялікую ўвагу калектыў надае магутнаму гучанню і моцнаму зместу тэкстаў.

У далейшым Louna набыла вялікую папулярнасць у музычным асяроддзі і выступала ў якасці хэдлайнера на розных рок-фэстах, такіх як «ExtremeGirlzzFest» (2009), «MetalSummerFest» (2010), «Суседні свет» (2010), «Нашэсце» (2011—2012), «Kubana» (2011—2012) і іншых. У пачатку сакавіка гэтага года падзеяй стаў выхад live-відэакліпа на песню «Прачніся і спявай!».

Варта адзначыць, што калектыў малады і спачатку быў зусім малавядомы. Але дзякуючы сваёй настойлівасці і жаданню працаваць, музыкі заваявалі шматлікія вяршыні і не збіраюцца спыняцца. Мы, прыхільнікі іх творчасці, будзем з нецярпеннем чакаць новых неспадзевак ад каманды і падтрымліваць у хіт-парадах. Варта пажадаць ім поспехаў, цярпення і больш рока ў душы!

*Юлія СТРЫГА,*
*школа журналістыкі «Маладзік», Маладзечна*

# Шукаючы — знойдзеш!*

***Аповесць***



На зваротным шляху Косцік ціха спытаў:

— А ці можна мне схадзіць да лесу, раптам дуб зноў з'явіўся?

— Вядома ж! Калі хочаш, давай я з табой прайдуся.

— А можна, я адзін?

Ксёндз кіўнуў. Ён разумеў, што дзіця сумуе па бацьках, і ніякае, нават самае добрае стаўленне, не зможа замяніць яму родных людзей. Каля дарогі, якая вядзе да касцёла, іх шляхі разышліся, каб потым зноў злучыцца. Дуба на ўскрайку не аказалася, нават пруціка. Нічога. Косцік моўчкі пастаяў каля таго месца. Было ціха і сыра. У паветры пахла дажджом, гнілым лісцем і адзінотай. Усё вакол поўнілася засмучэннем паміраючай прыроды. Косцік прысеў на пень, які ў яго свеце стаяў насупраць дуба. Разважаючы, паддаўся пануючым вакол роспачы і адзіноце, пачаў шкадаваць сябе.

Але засняжыла. Павольна Косцік пайшоў да касцёла. Ксёндз у гэтым свеце быў адзіным блізкім яму чалавекам. Тым больш, што яны збіраліся схадзіць у Куль зноў, за пакупкамі для школы. Але калі падышоў да касцёла, Косцік вырашыў у яго не заходзіць, а абысці вакол.

Буйнымі камянямі была выкладзена дарожка, па баках якой летам, мабыць, раслі кветкі. За касцёлам, прама насупраць алтара, знаходзіліся дзве акуратныя магілы з масіўнымі помнікамі. Косцік згадаў, што ў дзевяностых там нічога не засталося, таму падышоў бліжэй, каб прачытаць. На адным, чорным, яркімі пазалочаным літарамі было напісана: «Андрэй Разоўскі». Памёр Разоўскі зусім нядаўна і пражыў шмат гадоў. На другім (ён і выглядаў старэйшым) імя сцерлася практычна цалкам, можна было толькі разабраць некаторыя асобныя літары і дату смерці — канец XIX стагоддзя. Косцік здзівіўся, убачыўшы ўсяго дзве магілы. Ён чамусьці думаў, што ксяндзы павінны жыць тут да самай старасці і паміраць у гэтым месцы. «Як памрэ тут ксёндз Павел?» — раптам закруцілася ў галаве няпрошаная думка.

Забыўшы пра помнікі і тугу, Косцік пабег у касцёл, у захрыстую. Ды так хутка, як быццам ад гэтага залежала чыёсьці жыццё.

Ксёндз Павел нізка схіліўся над сталом і нешта пісаў. Калі Косцік увайшоў, ён адарваўся ад свайго занятку, загарнуў сшытак, прыбраў пяро і чарніліцу

* Працяг. Пачатак у № 2, 3, 4, 5, 6 за 2013 г.



(рабіў ён гэта ў поўнай цішыні і задуменнасці), а потым звярнуўся да хлопчыка:

— Ты гатовы пайсці са мною зноў?

Косцік паслухмяна кіўнуў. У яго раптам зноў узняўся настрой, сумныя думкі зніклі, засталася толькі радасць ад таго, што ён бачыць ксяндза.

І зноў яны ішлі па мокрай дарозе, зноў вярнуліся ў Куль, прайшлі міма школы і накіраваліся ў краму, дзе ксёндз купіў хлопчыку ўсё неабходнае, пра што казаў дырэктар.

Увечары Машы ў касцёле не было, і як бы Косця сябе не адгаворваў, ён усё роўна засумаваў з-за гэтага. Сумаваў і яго дзед Сяргей. Пазней хлопцы пачулі ад ксяндза Паўла, што Маша сур'ёзна захварэла, і яе доўга не будзе.

На наступную раніцу Косцю абудзілі на досвітку. Ён спешна апрануўся і выйшаў на вуліцу памыцца. На двары было цёмна, а скрозь шмат снегу. Да таго ж холадна, вельмі холадна. Вярнуўшыся ў дом, ён узяўся за сняданак разам з ксяндзом Паўлам. Затым склаў у палатняны мяшэчак незнаёмыя прыналежнасці, цёпла апрануўся ў чыесьці рэчы (выбіраць не даводзілася, усё прынесла Косціна прабабуля, і на тым дзякуй, са сваіх рэчаў быў толькі цёплы швэдар) і па змёрзлай вясковай дарозе ўслед за астатнімі дзецьмі накіраваўся ў школу. Па шляху яго ніхто не чапаў. Хлопчыкі, нават знаёмыя яму, ішлі групкамі і размаўлялі між сабой, так што да школы ён дабраўся ў звыклай адзіноце.

На парозе, як і дзень таму, стаяў дырэктар, усміхаўся і званіў у званок. Калі Косця прайшоў у дзверы і павітаўся, усмешка з твару дырэктара знікла. Ён адказаў кіўком, а затым доўга глядзеў хлопчыку ўслед, забыўшыся пра званочак. Праз паўхвіліны, калі амаль усе былі ў класах і распраналіся, дырэктар апамятаўся, апошні раз пазваніў і зачыніў дзверы. У калідоры Піцірым Уладзіслававіч узяў Косціка пад локаць і моўчкі павёў. Вось яны мінулі першы, другі, трэці класны пакой. Косцік падумаў, што дырэктар вядзе яго да сябе, але каля чацвёртых дзвярэй яны спыніліся і, прапусціўшы наперад дзяцей, якія спазняліся, прайшлі следам. Усё сваё свядомае жыццё Косцік правучыўся ў нармальнай каменнай школе з вялікімі вокнамі, прасторнымі класамі і звычайнымі, зразумелымі кожнаму школьніку канца XX стагоддзя, умовамі. Тут жа было ўсё надварот. Вельмі нізкія сталі, некалі фарбаваныя ў белы колер, а цяпер месцамі цёмныя. На сталі мацаваліся дзве вялікія газавыя лямпы, якія і асвятлялі клас. На сценах ніякіх шпалераў — голыя бярвенні. На той сцяне, што насупраць вокнаў, — доўгая вешалка,

на ёй вісяць паліто і шапкі вучняў класа. На двух нізенькіх вузкіх акенцах — фіранкі, хоць і чыстыя, але, здаецца, вельмі старыя, таму што не беласнежнага, а шэра-блакітнага колеру. Парты — грубыя нізкія сталы праз увесь клас, а за імі — лаўкі. Усяго тры такіх сталы, якія стаяць адзін за адным. За кожным сталом — чатыры чалавекі. За самай апошняй партай — два хлопчыкі. Перад кожным вучнем — чарніліца. Справа, у першага невялічкага акенца, за якім прачынаўся лістападаўскі світанак, — грубы стол і стул. Каля стала — настаўніца ў доўгай цёмнай спадніцы, белай кашулі, цёплай грубай кофце і ў вялікіх нязграбных ботах, падобных да мужчынскіх. Валасы прыбраны ў жмут і абвязаны рознакаляровай хусткай — адзінай яркай плямай ва ўсім абліччы настаўніцы. Нават твар яе адпавядаў надвор'ю і Косцінаму настрою. Ды і настрою ўсіх вакол. Дзеці глядзелі на дырэктара і новага хлопчыка хмура і недаверліва.

Аднак Піцірыма Уладзіслававіча твары дзяцей, здавалася, зусім не хвалявалі. Дырэктар адпусціў Косцін локаць і ветліва прамовіў:

— Добрай раніцы, дзеці.

— Добрай раніцы, таварыш дырэктар, — адгукнуліся невясёлыя галасы.

— Можаце садзіцца. А цяпер дазвольце прадставіць вам новага вучня вашага шостага класа. Яго завуць Косця Скавроўскі. Прыехаў ён здалёк, нашых нораваў не ведае, так што не крыўдзіце яго. Спадзяюся, усё ў вас будзе добра.

Косцік агледзеў дзяцей. Двух з іх ён ужо ведаў — гэта яго будучы дзед Сяргей Скавроўскі, побач з ім сядзеў бялявы і худы Антоній Костка. Астатніх Косцік бачыў упершыню. Усе пачалі па чарзе прадстаўляцца.

— Юзэф Мельжыч, вёска Кавальчукі.

І Косцік згадаў, што бачыў твар гэтага хлопчыка ў акне, калі заходзіў у дом да сваёй прабабулі. Хлопчык неяк хітра паглядзеў на новенькага, таксама, відаць, прыгадаў, што бачыў яго аднойчы. Выглядаў ён добра. Чыста апрануты, худы, але ў той жа час з ружовым румянцам на шчоках. Вочы блакітныя, прыгожыя, нос прамы, губы пухленькія, чырвоныя. І голас звонкі. Вымавіў усяго некалькі слоў, а ўсе дзяўчынкі, якія былі ў класе, як па камандзе паглядзелі на яго. Такога больш не паўтаралася ні з кім. Увогуле, вельмі прыгожы хлопчык. І хітры. Косцік адразу гэта адчуў. А брат, Уладзік, зусім да яго не падобны: маленькі, пухленькі, праўда, таксама сімпатычны, але добры, з прыемнай усмешкай на вуснах.

— Сяргей Скавроўскі, вёска Кавальчукі.

«Дзед усё ж такі», — падумаў Косцік і ў душы пацяплела.

— Антоній Костка, вёска Кавальчукі.

Хлопчык усміхнуўся. За два дні знаёмства гэты худы хваравіты Антоній прывязаўся да Косціка і не хацеў для яго нічога дрэннага. Косця ў адказ не ўсміхнуўся, але ледзь прыкметна кіўнуў. Падобна на тое, што Антоній тут быў самым малодшым. Што самым маленькім, дык гэта дакладна.

— Рыгор Цыбулька, вёска Ліпкі, — назваўся даўгалыгі хлопец, які не вымаўляў «р».

У яго былі чорныя валасы, шэра-блакітныя вочы, грубы нос бульбінай, буйныя губы, шырокія плечы, вялізныя далоні. Ён не ведаў, куды падзець вялікія кулакі, і вадзіў імі па сваёй частцы парты. Не хацелася б выпрабоўваць на сабе моц гэтых кулакоў.



— Ганна Верасковіч, — амаль праспявала танюсенькім голасам высокая моцная дзяўчынка з доўгай русай касой.

Сімпатычная, але для поўнай карцінкі прыкладнай спагадлівай дзяўчынкі не хапала ўсмешкі. Вусны так і засталіся нерухомымі. Толькі выпусцілі словы і зноў сплюшчыліся. Косцік ужо ўзмок, стоячы ў пазычаным паліто і шаліку. Але знаёмствы працягваліся. Яны ішлі адзін за адным, але хлопчыку здалося, што мінула не менш пятнаццаці хвілін.

— Алена Правадава, вёска Кавальчукі.

Вельмі падобная з братам знешне. Нават валасы кароткія. Мабыць, такая ж разумная, спагадлівая і дысцыплінаваная. І вочы прыгожыя... Але думкі давялося перапыніць. Прадстаўляўся наступны вучань.

— Макараў Гена, вёска Куль.

Не паспеў ён дагаварыць, як Юзэф Мельжыч павярнуўся і сказаў:

— Ніякі ты не Гена, а Гвідон.

Хлопчык, якога абазвалі Гвідонам, нічога не адказаў, толькі пачырванеў і ўтаропіўся ў парту. Настаўніца нахмурылася:

— Давайце далей, а то трэба пачынаць урок.

— Пётр Якаў. Вёска Куль.

Тоўсты хлопчык, з вялікімі блакітнымі вачыма і пушыстымі вейкамі. Падобна на тое, што не зласлівы.

— Яна Гнацько, вёска Ліпкі.

Маленькая дзяўчынка з доўгай касой. І так міла ўсміхнулася, што Косцік не вытрымаў і ўсміхнуўся ў адказ.

Нарэшце, чарга дайшла да апошняй парты, дзе сядзелі двое хлапчукоў. Там, відавочна, давядзецца сядзець і Косціку.

— Уладзік Яроўскі, вёска Куль.

Высокі моцны хлопец з квадратнай сківіцай і такімі ж магутнымі, як у Рыгора, кулакамі. А побач з ім худы малец у акулярах і кучаравымі валасамі, кручкаватым носам ды ззяючай усмешкай:

— Уладзімір Хіхштэйн.

— Яшчэ ёсць адна вучаніца, Марыя Паўлоўская, але яна пакуль хварэе, —

прамовіла настаўніца пасля таго, як назваўся Валодзя. «Ці не тая самая Марыя?»

— А цяпер, Косця, распранайся і сядай за апошнюю парту. Падручнікі я прынясу табе на перапынку, — сказаў дырэктар, ды такім салодкім голасам, што Косцік успомніў, як аднойчы ён з’еў дванаццаць эклераў.

І слодыч гэтая стаіць у горле, і не прыглушыць яе нічым.

Давялося паслухацца дырэктара. Косцік распрануўся, сеў за стол, з палатнянага мяшэчка дастаў усе прылады і падрыхтаваўся слухаць. А настаўніца пачала ўрок. Аказваецца, першай была матэматыка. Усё выкладалася так проста і элементарна, што неўзабаве Косцік засумаваў. Падобныя задачы яны рашалі яшчэ ў трэцім класе. На карычневай дошцы крэйдай Інэса Валер’еўна напісала ўмовы трох задач. Аднакласнікі з напружанымі тварамі думалі над рашэннямі. Заўважыўшы, што новы вучань нічога не робіць, Інэса Валер’еўна падышла паглядзець, у чым справа. Якое ж было яе здзіўленне, калі яна ўбачыла, што Косцік усё рашыў.

— Ты проста разумнік! Хлопцы, давайце жывей, Кастусь Сквароўскі ўжо ўсё рашыў.

Ніхто з дзяцей не ўзяўся за рашэнне з новай сілай, наадварот, усе адарваліся ад занятку і паглядзелі на новенькага. Асабліва непрыемна было лавіць на сабе погляды двух здаравякаў: Рыгора Цыбулькі ды Уладзіка Яроўскага. Калі цішыня зацягнулася, раптам раздаўся танюсенькі галасок Валодзі Хіхштэйна:

— Дык і што? І я даўно рашыў!

«Ага, ёсць усё-такі яшчэ адзін разумнік», — падумаў Косцік і ў душы ўзрадаваўся.

У наступны раз будзе знарок рашаць больш павольна, каб яўрэйчык рашыў хутчэй.

Але настаўніца зноў усё сапсавала. Яна падышла да Валодзі, паглядзела рашэнні і прамовіла:

— Рашыць, канешне, рашыў, ды няправільна. А вось Косця — правільна!

Цяпер і мясцовы разумнік глядзеў на яго з нянавісцю. І толькі двое не азіраліся на Косціка: Сяргей Сквароўскі (шчырае дзякуй дзеду) і Антоній Костка. Інэса Валер’еўна паглядзела на насценны гадзіннік, якія вісеў справа ад дошкі, і з трыумфам паведаміла:

— У вас засталося сем хвілін. На перапынку рашаць не дазволю. Схіліцеся над сшыткамі.

Потым яна падышла да Косціка і забрала ў яго сшытак. Тым часам за акном пасвятлела. Хмары, праўда, усё роўна хадзілі па небе і не спрыялі добраму настрою, але на душы на некаторы час зрабілася весялей, бо на вуліцы зусім прачнуўся дзень.

— Падыдзі сюды!

Косця ўстаў з-за стала і накіраваўся да настаўніцы. Паглядзеў у адкрыты сшытак і ўбачыў там вялікую пяцёрку.

— На першы раз, — зашаптала яна, — за твой розум я дарую ўсе гэтыя кляксы. Але калі будзеш рабіць хатняе заданне, будзь, калі ласка, больш акуратны.

*Ганна СТАРЫКОВІЧ*
*Працяг у наступным нумары*